# “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *online* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці**

## №25

## Красавік 2020

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*З 2018 года выходзіць два разы на год*

*Атава, Канада*

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і нацыянальнага будаўніцтва.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі і нацыянальнага будаўніцтва.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на рускай, англійскай, і французскай мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Атава, Канада*

## Зьмест часопіса

*Краязнаўства*



*Інфармацыя аб падзеях з культурнага жыцьця беларускіх суполак*



*Літаратура*



*Наступны 26-ты нумар часопіса выйдзе ў лістападзе 2020 года*

**Пётра Мурзёнак:** Прадмова рэдактара да 25-га нумара часопіса

***(вэб-часопіс "Культура. Нацыя", № 25, красавік 2020, с.4-10, www.sakavik.net )***

Па ўсёй Зямлі, і па ўсёй Беларусі крочыць пандэмія, інфекцыя, выкліканая вірусам COVID-19. Шмат інфармацыі пра гэту вірусную інфекцыю ёсць у сеціве і ў іншых сродках масавай інфармацыі. Многа яшчэ невядома пра гэту інфекцыйную хваробу, аднак, відавочна, што ў асноўным гінуць безабаронныя людзі старэйшага пакаленьня, часам аслабленыя іншымі хранічнымі захворваньнямі. Пік інфекцыі здаецца мінуў у тых краінах адкуль яна пачалася - Кітай, Паўднёвая Карэя, Сінгапур, В'етнам. У Еўропе, Амерыках, Афрыцы - усё яшчэ рэгіструюць новыя і новыя захворваньні. Лік беззваротных стратаў ва ўсім свеце за 4 месяцы ад пачатку эпідэміі перасягнуў на 29 красавіка 2020 года адзнаку ў 219 тысяч загінуўшых, у асноўным ад пнеўманій, і звыш 3,2 мільёна інфіцыраваных людзей.

Няма яшчэ вакцын, няма спецыфічных лекаў, каб перамагчы гэты вірус. Вельмі хацелася б каб у свеце і ў Беларусі было як мага менш ахвяр гэтай віруснай хваробы. Таму хочацца выказаць падзяку ўсім медыцынскім работнікам - лекарам, сёстрам, эпідэміёлагам, якія знаходзяцца на пярэднім фронце і змагаюцца за выратаваньне хворых людзей. Асабліва хачу выказаць сваю салідарнасць аднакурснікам і выпускнікам Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута - не хварэйце, будзьце здаровы, беражыце сваіх любімых і блізкіх.

На фоне інфекцыі і клопатаў аб здароўі як бы адышлі на задні план розныя лакальныя войны ў свеце, уключна з тымі эканамічнымі сутычкамі, якія назіраліся паміж Беларусьсю і Расіяй у мінулым годзе і напачатку гэтага года. Яны як бы паціху знайшлі свой выхад у іншым напрамку. Калі мець на ўвазе напругу з прыняцьцем 33 дарожных карт, стварэннем наднацыянальных органаў Саюза Беларусі і Расіі - то гэта нейкім чынам трансфармавалася ў змяненьне Канстытуцыі РФ (праўда, гэта працэдура яшчэ не скончана) і ў напалову неясныя дамоўленасці аб пастаўках нафты і газа з Расіі у Беларусь. Аднак, як нацыянальна-свядомай, так і кіруючай беларускім элітам відавочна, што гэта перадышка толькі часовая. Апетыты крамлёўскіх баяр заўжды прагныя і спрагназаваць з вялікай верагоднасцю іх далейшыя паводзіны даволі нескладана - "не мытьём, так катаньем" будзе працягнуты курс "мяккай эканамічнай каланізацыі" Беларусі. Ну не пачынаць жа ім другую вайну з усходнімі славянамі?!

Наўрад ці прадвечнага агрэсара могуць спыніць заявы сп. Пампео, дзяржаўнага сакратара ЗША аб тым, што амерыканцы гатовы ў нечым падтрымліваць беларускі ўрад - ну, хаця б сказаўшы, што беларусы могуць купіць у ЗША нафты колькі

хочаш (па сусьветных цэнах). Але ж яе яшчэ трэба давезьці. Спробы ўрада Лукашэнкі наладзіць надзейныя шляхі пастаўкі нафты з другіх крыніц цяпер і раней (Венесуэла, Азербайджан, Нарвегія), пакуль што не скончыліся стварэньнем Балта-Чарнаморскага калектара, ці хаця б пракладкай трубы з прыбалтыйскіх партоў на беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы. Хаця, тут трэба сказаць і пазітыўныя рэчы - па крайней меры, за апошнія гады шматлікіх спрэчак з Расіяй адпрацаваны алгарытмы альтэрнатыўных паставак нафты (закупкі, трубаправод Адэса-Броды, танкеры, і г.д.).

Аднак жа, справа не толькі ў нафце. Беларусь даўно трапіла ў сферу геапалітычных інтарэсаў Расіі ды ў дадатак яшчэ сама падпісала ў 1999 годзе сваю згоду аб стварэньні Саюза двух краін. Дарэчы, ніхто не пытаўся згоды ў беларускага народа. Відавочна, што Саюз Расіі і Беларусі - гэта палітычны Саюз, а на рэферэндуме 1995 года, які ініцыяваў Першы Прэзідэнт РБ сп. Лукашэнка, беларускі народ падтрымаў яго курс толькі на эканамічную інтэграцыю з Расіяй. І што цяпер рабіць? Як вырвацца з пасткі? Украіна паспрабавала - здаецца ў яе атрымліваецца, так, праз ахвяры, але атрымліваецца! Хоць узамен мае хранічную вайну на Данбасе і згубіла Крым, з якога Расія ўтворыць непатапляемы авіяносец. Адказу на гэтыя пытаньні для Беларусі пакуль няма, так сёньня падаецца па простай прычыне - “хто мацнейшы - у таго і больш правоў”.

На жаль, так падаецца і па-другому - ідзе новы перадзел свету. Праз 30 год пасля развала СССР Расія зноў спрабуе заняць дамінуючую роль у свеце. Украіна, Беларусь, іншыя суседзі становяцца толькі ахвярамі гэтага рэваншысцкага памкненьня. Тая роль, якая адводзілася ААН, як органу калектыўнай бяспекі пасля 2-й сусьветнай вайны, нівеліравалася. Стварэнне падобных органаў (Вестфальскі дагавор, Ліга Нацый) звычайна адбывалася пасля кровапралітных войнаў, калі драпежнікі дзялілі тое, што, як яны думалі, цяпер ім доўна будзе належыць. Але гісторыя паўтаралася. Што ж, няўжо сучасны свет не спыніць новую бойню? Ці хопіць у сусветных лідэраў мазгоў і волі прыдумаць іншыя шляхі патраціць неразумную энэргію, напрыклад, перамагчы COVID-19, спыніць зьмены клімата, накарміць галодных?

Хацелася б дачакацца. А пакуль беларуская кіруючая эліта няўцямна займаецца небяспечнымі гульнямі з Расіяй. Кошт гэтай гульні - будучыня беларускай нацыі.

*Прыемнага чытаньня чарговага нумара.*

*Пётра Мурзёнак, галоўны рэдактар часопіса*

*30 красавіка 2020 года, Атава*

**Piotra Murzionak:** *Editorial to “Culture. Nation”, issue#25, April 2020*

*(web-journal "Culture. Nation", No. 25, April 2020, pp.4-10, www.sakavik.net)*

The pandemic caused by the COVID-19 virus is spreading throughout the world and throughout Belarus. A lot of information about this viral infection is available online and in other media. Much is still unknown about this infectious disease, but it is clear that basically defenseless elderly people die, sometimes weakened by other chronic diseases. It seems the peak of the infection have passed in the countries where it started, in China, South Korea, Singapore, Vietnam. In Europe, America, Africa - the cases are still registered more and more. The number of irreversible victims worldwide as of April 29, 2020, four months after the epidemic began, exceeded 219,000 deaths, mainly from pneumonia, and more than 3.2 million infected people.

There are no vaccines, no specific drugs to fight this virus. I would very much like to see as few victims of this viral disease as possible in the world and in Belarus. Therefore, I want to thank all the medical workers - doctors, nurses, epidemiologists who are at the forefront are fighting to save sick people. I especially want to express my solidarity with fellow students and graduates of the Minsk State Medical Institute - do not get sick, be healthy, and take care of your loved ones.

Behind the background of infections and health problems, various local wars in the world, including the economic skirmishes that were observed between Belarus and Russia last year and early this year, receded into the background (as it seems). They seemed to find a way out in a different direction. Given the tensions caused by the adoption of 33 roadmaps and the creation of supranational bodies of the Union of Belarus and Russia, this somehow transformed into a change in the Constitution of the Russian Federation (although this procedure has not yet been completed) and half-clear agreements on oil and gas supplies from Russia to Belarus. However, both the nationally conscious and the ruling elites of Belarus are aware that this respite is temporary. The appetites of the Kremlin boyars are always greedy and with a high probability their further behavior can be fairly easily predicted - the course of “soft economic colonization” of Belarus will continue. It is hard to believe they start a second war with the Eastern Slavs?!

It is unlikely that the eternal aggressor will be able to stop by the statements of Mr. Pompeo, the US Secretary of State that the Americans are ready to support the Belarusian

government in some way - well, at least saing that Belarusians can buy as much oil in the USA as they want (at world prices). But that oil still needs to be brought. Attempts by the Lukashenko government to find reliable ways to deliver oil from other sources now and earlier (Venezuela, Azerbaijan, Norway) have never ended yet with the creation of the Baltic-Black Sea collector or, at least, the laying of a pipe from the Baltic ports to Belarusian oil refineries. Nevertheless, there is something to be said here as positive - at least in recent years, as a result of many disputes with Russia, algorithms for alternative oil supplies have been developed (procurement, Odessa-Brody pipeline, tankers, etc.).

However, this is not only about oil. Belarus has long landed in the sphere of geopolitical interests of Russia and, moreover, in 1999 signed an agreement on the creation of the Union of the two countries. By the way, no one asked the consent of the Belarusian people. Obviously, the Union of Russia and Belarus is a political union, and in the referendum of 1995, initiated by the First President of Belarus, Mr. Lukashenko, the Belarusian people supported his course only on economic integration with Russia. And now what can Belarus do? How to get out of the trap? Ukraine already tried, it seems to be working out. Yes, through sacrifices, but it turns out! Although in return she received a chronic war in the Donbass and lost the Crimea, from which Russia forms an unsinkable aircraft carrier. For Belarus, there are no answers to these questions today, primarily due to the fact that "who is stronger is right."

Unfortunately, there is another reason for this - a new redivision of the world is taking place. 30 years after the collapse of the USSR, Russia is again trying to restore its former dominant role in the world. Ukraine, Belarus, other neighbors are only victims of this revenge. The role played by the UN as a collective security body after World War II is now leveled. The creation of such bodies (the Westphalian Peace Treaty, the League of Nations) usually occurred after bloody wars, when the predatory powers shared what, in their opinion, should now belong to them for a long time. But the story repeats itself. Can the modern world stop a new slaughter? Do world leaders have the mind and desire to come up with other ways to spend unreasonable energy, for example, defeating COVID-19, stop climate change, feed the hungry? I would really like to wait for such a time.

Meanwhile, the Belarusian ruling elite is unknowingly participating in dangerous games with Russia. The cost of this game is the future of the Belarusian nation.

*Enjoy reading the new issue of the magazine.*

*Piotra Murzionak, editor-in-chief of the magazine*

*April 30, 2020, Ottawa*

**Пётра Мурзёнак:** <u>*Слово редактора*</u>
***(вэб-журнал «Культура. Нацыя», №25, апрель 2020, с. 4-10, www.sakavik.net)***

Пандемия, вызванная вирусом COVID-19, распространяется по всему миру и по всей Беларуси. Много информации об этой вирусной инфекции доступно онлайн и в других средствах массовой информации. Многое еще неизвестно об этом инфекционном заболевании, однако ясно, что в основном погибают беззащитные пожилые люди, иногда ослабленные другими хроническими заболеваниями. Пик инфекции, похоже, прошел в странах, где она началась - в Китае, Южной Корее, Сингапуре, Вьетнаме. В Европе, Америке, Африке - она всё ещё регистрируется больше и больше. Число необратимых жертв во всем мире на 29 апреля 2020 года, за четыре месяца с начала эпидемии, превысило 219 000 случаев смерти, главным образом от пневмонии, и более 3,2 миллиона инфицированных людей.

Пока нет вакцин, нет конкретных лекарств для борьбы с этим вирусом. Я бы очень хотел видеть как можно меньше жертв этой вирусной болезни в мире и в Беларуси. Поэтому я хочу поблагодарить всех медицинских работников - врачей, сестёр, эпидемиологов, которые находятся на передовой и борются за спасение больных людей. Особенно хочу выразить свою солидарность с сокурсниками и выпускниками Минского государственного медицинского института - не болейте, будьте здоровыми, заботьтесь о своих близких и любимых.

На фоне инфекций и проблем со здоровьем на задний план отошли (так кажется) различные локальные войны в мире, в том числе экономические стычки, которые наблюдались между Беларусью и Россией в прошлом году и вначале этого года. Казалось, они нашли выход в другом направлении. С учетом напряженности, вызванной принятием 33 дорожных карт, созданием наднациональных органов Союза Беларуси и России, это как-то трансформировалось в изменение Конституции Российской Федерации и наполовину неясные договоренности о поставках нефти и газа из России в Беларусь. Однако как национально-сознательная, так и правящая элита Беларуси осознают, что эта передышка носит временный характер. Аппетиты кремлевских бояр всегда жадные и с большой вероятностью их дальнейшее поведение довольно легко можно предсказать - курс «мягкой экономической колонизации» Беларуси будет продолжен «не мытьём, так катаньем». Ну, не начаинать же вторую войну с восточными славянами ?!

Вряд ли вечного агрессора смогут остановить заявления г-на Помпео, госсекретаря США о том, что американцы готовы чем-то поддержать белорусское правительство - ну, по крайней мере, сказать, что белорусы могут покупать в США столько нефти, сколько захотят (по мировым ценам). Но её все еще нужно привезти. Попытки правительства Лукашенко найти надежные способы доставки нефти из других

источников сейчас и раньше (Венесуэла, Азербайджан, Норвегия) так и не закончились созданием Балтийско-Черноморского коллектора или, по крайней мере, прокладкой трубы от портов Балтики до белорусских НПЗ. Тем не менее, здесь есть что сказать и положительное - по крайней мере, в последние годы в результате многих споров с Россией были разработаны алгоритмы альтернативных поставок нефти (закупки, трубопровод Одесса-Броды, танкеры и т. д.).

Однако речь идет не только о нефти. Беларусь давно угодила в сферу геополитических интересов России и, более того, в 1999 году подписала соглашение о создании Союза двух стран. Кстати, никто не спрашивал согласия белорусского народа. Очевидно, что Союз России и Беларуси является политическим союзом, а на референдуме 1995 года, инициированном Первым Президентом Беларуси, г-ном Лукашенко, белорусский народ поддержал его курс только на экономическую интеграцию с Россией. И что теперь делать? Как выбраться из ловушки? Украина попробовала, кажется у неё получается. Да, через жертвы, но получается! Хотя взамен она получила хроническую войну на Донбассе и потеряла Крым, из которого Россия образует непотопляемый авианосец. Для Беларуси пока нет ответов на эти вопросы сегодня, прежде всего з-за того, что «кто сильнее, тот и прав».

К сожалению, для этого есть и другая причина - происходит новый передел мира. Спустя 30 лет после распада СССР Россия вновь пытается восстановить свою прежнюю доминирующую роль в мире. Украина, Беларусь, другие соседи - только жертвы этой мести. Роль, которую отыгрывала ООН как орган коллективной безопасности после Второй мировой войны, теперь нивелирована. Создание подобных органов (Вестфальский мирный договор, Лига Наций) обычно происходило после кровопролитных войн, когда державы-хищники делили то, что, по их мнению, теперь надолго должно принадлежать им. Но история повторяется. Может ли современный мир остановить новую бойню? Есть ли у мировых лидеров ум и желание придумать другие способы потратить неразумную энергию, например, победить COVID-19, остановить изменение климата, накормить голодных? Я хотел бы очень дождаться такого времени.

А тем временем беларусская правящая элита неосознанно участвует в опасных играх с Россией. Стоимость этой игры - будущее беларусской нации.

*Приятного чтения нового номера.*

*Пётра Мурзёнак, главный редактор журнала*

*30 апреля 2020 года, Оттава*

 *ISSN 2562-9506*

*Артыкулы*

**Сяргей Панізьнік: Мацярык Мацярок - Бацькаўшчына Бацькоў**

*(юбілярам 2020 года прысьвячаецца)*

*25-га нумар часопіса мы пачынаем з віншаваньняў юбілярам. У гэтым годзе беларуская грамадскасць будзе адзначаць круглыя даты нараджэньняў цэламу шэрагу знакамітых людзей, якія зрабілі, кожны ў свой час, значны ўклад у развіццё беларускай нацыі. Добры напамін пра гэтых людзей даслаў сябра нашай рэдакцыі, паэт, пісьменьнік і нястомны летапісец, сп. Сяргей Панізьнік.*

*Ніжэй падаюцца даты жыцьця вядомых беларусаў, вершаваныя прысвячэньні Францішку Скарыне і Ўладзіміру Караткевічу, і пара вершаў аб вечнасьці. Рэдакцыя шчыра дзякуе сп.С.Панізьніку за працу і добрую памяць.*

***Вечная слава юбілярам !!!*** *Спіс юбіляраў складзены па старшынству часу:*

Рагнеда- Гарыслава (...960 — ...1000);

Міндоўг (...1195 -12.09.1263);

Францішак Скарына (1470-1531);

Сымон Будны (...1530–13.01.1593);

Міхал Агінскі (7.10.1765–15.10.1833);

Фаўстын Цяцерскі (1770 -1832);

Генрык Дмахоўскі (26.10.1810 - 26.05.1863);

Альгерд Абуховіч (25.07.1840 - 22.08.1898).

Ян Чэрскі (15.05.1845 - 25.06.1892);

Вайніслаў Казімір Суліма-Савіч-Заблоцкі (15.03.1850–3.02.1893);

Мікалай-Ніколас Русэль Судзілоўскі (15.12.1850 - 30.04.1930);

Яніс Райніс (11.09.1865 - 12.09.1929);

Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1870-1982);

Язэп Дыла (1880-1973);

Сяргей Сахараў (29.09.1880 - 22.04.1954);

Сымон Рак-Міхайлоўскі ( 2.04.1885- 27.11.1938);

Палута Бадунова (7.09.1885 - 29.11.1938);

Пётра Просты-Ільдэфонс Бобіч (21.01.1890 - 28.04.1944);

Вінцук Адважны (4.03.1890–26.12.1978);

Сяргей Палуян (19.10.1890 - 20.04.1910);

Тамаш Грыб (19.03.1895–25.01.1938);

Ігнат Дварчанін (8.06.1895 - 8.12.1937);

Уладзімір Жылка (1900–1933);

Міхал Забэйда-Суміцкі (14.06.1900-21.12.1981;

Пётра Сергіевіч (10.07.1900 - 1.11.1984);

Кузьма Чорны (1900 - 1944);

Пятро Глебка (1905 - 1969);

Уладзімір Хадыка (1905 - 05.1940);

Барыс Кіта (6.04.1910 -...2018);

Юрка Гаўрук (6.05.1905 - 18.02.1979);

Сяргей Хмара-Сіняк (25.05.1905 - 4.09.1992);

Пятро Масальскі-Сакол (14.07.1905–6.07.1985);

Ян Скрыган (16.11.1905 - 18.09.1992);

Ларыса Геніюш (9.08.1910 - 7.04.1983);

Алесь Жаўрук-Сінічкін (1910 - 1942);

Змітрок Астапенка (1910 - 1944);

Алесь Пруднікаў (1910–1941);

Вітаўт Тумаш (20.12.1910 – 27.04.1998);

Анатоль Бярозка–Мацей Смаршчок (19.02.1915–20.06.2008);

Мікола Аўрамчык (14.01.1920 - 8.05.2017);

Аляксей Пысін (22.03.1920 - 27.08.1981);

Аляксей Карпюк (14.04.1920 - 17.07.1992);

Аляксей Коршак–Ясючэня (...1920–12.03.1945);

Уладзімір Сакалоўскі (4.07.1930 - 20.06.2013);

Уладзімір Караткевіч (26.11.1930 - 25.07.1984);

Рыгор Барадулін (24.02.1935-2.03.2014);

Рыгор Семашкевіч (12.09.1945–11.06.1982).

*Ф. Скарыну*

Айчына – Айца іскрына,
яго пасада - адрына…
    Продкамі вылучаная,
    нашчадкамі вымашчаная, -
вымучаная, зашчабятаная, -
а б е т а в а н а я !
    Не растайная – наканаваная,
    вылюдкамі не здратаваная.
Для Будучыні падрыхтаваная,-
    каб і мама на ўскрык
    пры нараджэнні новым
дзяціне аддала пялюшкі – Словы:
 люду галовы пайдуць на ловы Мовы.
    О, Край! А-край-чыкам не карай:
    Радзіма – роем створаны Рай.
Хай лашчыцца небакрай
да гасьцінцаў-дарог,
    шчакоча галінкамі гай…
    Кожны айчыннік – Ведаў ратай:
зь ім зёлкі уськідвае Травень-Май
            на мары:
Мары прымай, -
    каб рошчынай вопыту - з-пад аблачыны
    напаўнялася аж да лагчыны -
Спадчына! Яна і ляйчына,
каб родны шанаваць парог,
    бацькі нарог, бабулі пірог…
    І над матулінымі рушнікамі
з узнятымі для прычасьця рукамі
заўсьміхаецца Бог!
------------------------------------------------------------------------------
*Мары – павозка продкаў.*

**Караткевічаў Лыцар**

“У старога жарабка скура і на плоце гагоча!”
*(З лявонпальскіх вымудрыкаў)*

*Лыцар:*
- Чую я: у жарабка
грыва не сакоча.
Мала сілы ў седака,
ці лашак не хоча?
У Дуброўне гагатаў,
на Суле, Крапіўне …
*Маляр:*
- Годзе!Конь адлапатаў.
Едзь ты на грабільні.
*Лыцар:*
- Як жа Лыцару натхніць
мысляроў паходаў?
Хто ў літаўры будзе біць
між усіх народаў?
*Маляр:*
Не на Герб – казе пад хвост
раяць прыглядзецца.
Хто патопае на мост, -
плаваць давядзецца …
*Лыцар:*
- А я цокаты люблю
і вякоў харугвы.
З імі страх перакулю
стаць на бруствер трухлы, -
каб асмеліцца забраць
жарабка з аброці.
І за мною пойдзе раць.
Будзь і ты ў ахвоце!
*Маляр:*
- Могуць зноў вас пакараць.
Лепей бульбу выбіраць
мне на агародзе…

*Лыцар:*
- Караткевіч! Восень блізка.
Ля Дняпра зноў будзе віскат.
Рогат выдай так умела, -
каб Няміга закіпела!
І каб кожны маляваў
не абмоткі ад халяў…
Сэрцам Сьцяг наш уздымаў
Бел-Чырвона-Белы!
*Маляр:*
- О! Я ў думках – каралевіч!
Калі так, то й я – МАСТАК, -
як і Караткевіч!

*19.07.2011, 12.08.2019*

**Бясконцае ў вечнасці жыццё**

*“Такія нябёсы стагоддзяў,*
*як вочы ў Караткевіча Валодзі.”*
*Данута Бічэль-Загнетава.*
*Зб. “Гускі вяртаюцца”. 2020*

Мы разбегліся па Мацерыку,
дзе гняздоўямі Гаўя, Каложа …
… Вось гляджу ў сваю Волту-раку.
Як пазнаць мне: чыё гэта ложа?
Пад нябёсамі белых буслоў
утрымала Данута на горцы
з хваляў Нёмана жменю слоў:
“Ўсё залежыць ад Створцы”.
Вось вам праўда ўся… Аналой
слёзы грэе для Маці Божай.
А грахі свае чапялой
недаверак падгрэбсці зможа?
Блаславіла скрыжаллі дарог
беражыстае Беларусі.
Кроў блакітную – Гаўі мурог
акрыляць – ёй пакінулі гусі.

x x x

- А зладзеі не саскрабуць
нашу Памяць. Жураўка - высока!
Не за лежнасць мяне хай паб"юць:
НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ кармлю сваім сокам.
Station
    Станіслаў і Генадзік са мной,
    тата Яська, Марылечка-мама.
    Зноў блакітнай крывёю вясной
    для Жыцця мне адкрыецца Брама.
Вечнасць – гэта Прадвесніка знак
на магутнае крылле паэта…
Для Бясконцасці (хто з нас лайдак?)
паслужу: Беларусь мне – планета!
    Так, Нябёсы Стагоддзяў пры мне,
    і малітва душы ў кожным вершы.
    Як вяртаюцца гускі вясне, -
    мне вяртаецца Ойча з-пад Вежы.
Валадарства яго не міне
ранкам, днём, у намоленым сне -
з Роднай Нацыяй
    быць у суцешшы.

P.S. Гора дні не ў Горадні
і не ў падваротні…
Я ў шчаслівай святасцю
светлае Гародні,
дзе даўно быў з ветласцю радасна кранутым
лёзнымі падкрылкамі шчырае Дануты.
І не путамі прымкнуты быў, - гожа
да падножжа асцярожнае Божае Каложы.

*Сяргей Панізьнік. /На Хрышчэнне Гасподняе/ 2020*

**Sergey Paniznik: Mainland of mothers - homeland of fathers**
***(web-magazine "Culture. Nation", issue 25, April 2020, pp.11-18, www.sakavik.net)***

This year, the Belarusian public will celebrate the round birth dates of a number of famous people who have made a significant contribution to the development of the Belarusian nation. Original materials were sent by our editorial board member, poet, writer and indefatigable chronicler, Mr. Sergey Paniznik. He sent both the dates of the life of famous Belarusians and poems dedicated to some of them. The editorial board sincerely thanks Mr. S. Paniznik for his work and kind memory.

**Сергей Панизник: Материк матерей - отчизна отцов**

***(интернет-журнал «Культура. Нация», выпуск 25, апрель 2020, с.11-18, www.sakavik.net)***

В этом году белорусская общественность будет отмечать круглые даты рождения ряда известных людей, которые внесли значительный вклад в развитие белорусской нации. Оригинальные материалы прислал член нашей редакции, поэт, писатель и неутомимый летописец г-н Сергей Панизьник. Он прислал как даты жизни известных белорусов, так и стихи, посвященные некоторым из них. Редакция искренне благодарит господина С.Панизника за его работу и добрую память.

**Пётра Мурзёнак: Людзі Атаўскага аддзелу Згуртаваньня беларусаў Канады (1997-2019)**

Размову пра беларускую суполку ў Атаве, якая склалася за апошнія два дзесяцігодзьдзі, пачнем з кароткай перадгісторыі. Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК) было заснавана ў 1948 г. з цэнтрам у Таронта. Падчас сьвяткаваньня 70-годзьдзя арганізацыі 27 кастрычніка 2018 г. быў паказаны дакумэнтальны відэафільм, створаны Валянцінай Шаўчэнкай і прысьвечаны гісторыі ЗБК. Тут прагучала, што сябрамі Згуртаваньня ў 1948 г. было каля паўтары сотні беларусаў з розных гарадоў Канады[1]. У згаданым сьпісе значацца, прыкладам, тры беларусы з Атавы: Мікалай Хошчык, Пел(агія?) Норык і Пятрусь Галецкі, аднак мы дакладна ня ведаем, які далейшы лёс напаткаў гэтых людзей.

Афіцыйна лічыцца, што атаўскі аддзел ЗБК быў заснаваны ў 1975 г. (старшыня Янка Сурвілла, сакратар-скарбнік Алена Скурат)[2]. У 1975—1997 гг. яго актыўнасьць уключала рэпрэзэнтацыю беларускіх інтарэсаў у шматкультурных канадыйскіх арганізацыях розных узроўняў. Так, Івонка Сурвілла была старшынёй працоўнай групы Канфэрэнцыі жанчын Атавы па пытаньнях шматкультуралізму (1975—1976) і сябрам управы Канадыйскай этнакультуральнай рады (*CEC — Canadian Ethnocultural Council*), Янка Сурвілла — сябрам атаўскага аддзелу Паняволеных народаў, а Марыя-Паўла Сурвілла — старшынёй моладзевага аддзелу *CEC*. Шмат высілкаў уклала сямейства Сурвіллаў у заснаваньне Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі (1989) і далейшую шматгадовую працу па аздараўленьні і ўладкаваньні беларускіх дзяцей у канадыйскіх сем’ях[3]. Можна пералічыць некаторыя з актыўнасьцяў, якія адбываліся ў Атаве пры ўдзеле сябраў аддзелу таго часу: шматгадовы ўдзел у арганізацыі й правядзеньні маніфэстацыяў у Дзень Паняволеных народаў, удзел у фэстывалях “Homelands” (з 1979 да 1989 г.), правядзеньне канфэрэнцыі па беларускіх пытаньнях і выставы беларускага народнага мастацтва ў Атаўскім унівэрсытэце (19—27 красавіка 1975 г.), арганізацыя выставаў: беларускага народнага мастацтва (Публічная бібліятэка Атавы, 1977 г.), “Self-portrait” у Канадыйскім музэі чалавека (сьнежань 1987 г. —

[1] Архіў Міколы Ганько.

[2] Камунікат Галоўнай Управы Згуртаваньня беларусаў Канады. Таронта. Верасень 1976.

[3] Сурвілла, Івонка; Гімпелевіч, Зіна. Канадыйскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі // Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”. https://zbsb.org/info/?modal=23182. 30.05.2018.

студзень 1988 г.) і іншыя. Відавочна, што дзейнасьць аддзелу ў 1975—1997 гг. патрабуе спэцыяльнага асьвятленьня.

Пасьля сьмерці Янкі Сурвіллы восеньню 1997 г. з ініцыятывы Івонкі Сурвіллы адбылося паседжаньне з удзелам некалькіх беларусаў з новай хвалі эміграцыі ў Канаду. На ім былі вылучаныя тры чалавекі для далейшай арганізацыйнай працы аддзелу: Уладзімер Міхайлаў (старшыня), Юрась Шамецька (сакратар), Зміцер Довбель (скарбнік). Далей двойчы адбываліся сустрэчы-знаёмствы беларусаў Атавы: на сядзібе Івонкі Сурвіллы (чэрвень 1998 г.) і ў доме Ўладзімера Міхайлава (ліпень 1999 г.). Менавіта на апошняй сустрэчы я ўпершыню сустрэўся з больш-менш арганізаванай групаў беларусаў — праз год пасьля прыезду зь сям'ёй у Канаду. Таму й больш дэталёвы аповед у гэтым артыкуле будзеісьці ад таго часу.
Да ведама: паводле афіцыйных апытаньняў, праведзеных Міністэрствам статыстыкі (*Statistics Canada*), у Канадзе ў 1981 г. жыло 1125 беларусаў, у 1986 г. — 2030, у 1991 г. — 2830, у 2001 г. — 5110, у 2006 г. — 10 505, у 2011 г. — 15 565, у 2016 г. — 20 710[4]. У Атаве ў 2011—2016 гг. налічвалася каля тысячы беларусаў.

Увосень 1999 г. на прапанову Івонкі Сурвіллы беларусы Атавы сабраліся адзначыць Дзень Слуцкага паўстаньня. На паседжаньні ў доме спадарства Шамецькаў прысутнічалі каля 20 чалавек і было прынята рашэньне правесьці сьвяткаваньне Новага году й беларускіх Калядаў, што й адбылося 8 студзеня 2000 г. у доме архітэктара Пётры Шварцмана. На сьвята прыйшлі звыш 50 асобаў. Трэба адзначыць, што ўвесь 2000 год быў годам новых ініцыятыў, якія спрыялі кансалідацыі беларускай суполкі ў Атаве. Гэта былі: сустрэча зь Сямёнам Шарэцкім (30 студзеня 2000 г.), пікет каля беларускай амбасады "І мы пераможам" разам зь беларусамі з Манрэалю й Таронта (16 сакавіка 2000 г.), першы сумесны адпачынак на возеры *Lake Phillipe* (6 жніўня 2000 г.), калядоўныя сьпевы ў сем'ях беларускіх атаўчанаў (25 сьнежня 2000 г.; Натальля й Пётра Мурзёнкі, Герда Матусевічус), арганізацыя з ініцыятывы Івонкі Сурвіллы выставы-продажу малюнкаў дзяцей з Чавускага раёну Беларусі (лістапад 2000 г., выручаныя грошы, звыш 1000 даляраў, перададзеныя ў Канадыйскі чарнобыльскі фонд) і ўбраньня беларускай навагодняй ялінкі ў *National Art Centre* (сьнежань 2000 г., тое самае адбывалася ў 1999 і 2001 гг.). Да таго ж прадстаўнікі Атавы ўдзельнічалі ў паломніцтве да Беларускага Крыжа (Мідлэнд, 17 чэрвеня 2000 г.) і ў 24-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі (Кліўлэнд, Агаё, ЗША, 1—4 верасьня 2000 г.)[5].

[4] Мурзёнак, Пётра. Міграцыя беларусаў у Канаду ў параўнанні з краінамі суседзямі // Сакавік. № 6. Чэрвень 2014. С. 30—39; Той жа. Новыя зьвесткі аб міграцыі беларусаў у Канаду паводле перапісу насельніцтва ў 2016 годзе // Культура, Нацыя. № 20. Сьнежань 2017. С. 67—74.
[5] Мурзёнак, Пётра. Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам. Атава. 2012. С. 219—230.

26 лістапада 2000 г. на паседжаньні, прысьвечаным Слуцкаму збройнаму чыну, дзе прысутнічалі звыш 20 асобаў, былі праведзеныя выбары новага складу кіраўніцтва аддзелу (адной з прычынаў было тое, што старшыня Ўладзімер Міхайлаў выехаў за межы Канады). У склад Управы былі абраныя Пётра Мурзёнак (старшыня), Юрась Шамецька (сакратар) і Пётра Шварцман (скарбнік).

Падчас гэтай вечарыны выявілася цікавая акалічнасьць адносна прыналежнасьці, дакладней сказаць, палітычнай інфармаванасьці новай эміграцыі. На прапанову Івонкі Сурвіллы засьпяваць падчас вечарыны гімн БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" ня ўсе прысутныя (нават маючы тэксты) маглі зрабіць гэта шчыра й адпаведным чынам. Пішучы пра падзеі таго вечара, магу толькі адзначыць, што большасьць людзей на ім упершыню сустрэліся як з тэкстам, гэтак і з ідэямі, якія гучаць у гімне, напісанным у час станаўленьня БНР. Гімн быў забаронены ў СССР, таму, пэўна, толькі дасьціпныя й палітычна скіраваныя людзі яго ведалі. Ужо ў Канадзе я даведаўся ад сваіх бацькоў, што падчас вайны ў 1942/43 навучальным годзе яны ў школах спявалі гэты гімн, хоць, трэба адзначыць, жылі мае бацькі даволі далёка адно ад аднаго ў Пастаўскім раёне (в. Чарэмушнікі Падзісенныя і м. Дунілавічы, Віцебская вобл.). Такое адбывалася ў многіх школах Беларусі падчас нямецкай акупацыі.

Відавочна, што ў людзей, не заангажаваных у палітыку і ў гісторыю краіны, сьпяваньне гімну БНР і далучэньне да бел-чырвона-белага сьцягу магло выклікаць адмоўную рэакцыю. Што далей даволі часта назіралася ў беларускай суполцы ў Атаве: як толькі там гучалі палітычныя, антырасейскія, антылукашэнкаўскія, пра-бел-чырвона-белага-сцягу лёзунгі, частка людзей ад нас адлучаліся. Калі мець на ўвазе невялікую колькасьць беларусаў у сталіцы Атавы, ці маглі мы бачыць на нашых імпрэзах шмат людзей?

З другога боку, нягледзячы на розныя погляды на беларускае жыцьцё на радзіме, праглядалася істотнае жаданьне беларусаў новай іміграцыі яднацца[6]. Яднацца ня ў сэнсе стварыць партыю й вырашаць нейкія палітычныя пытаньні, а ў сэнсе прыналежнасьці да агульных каштоўнасьцяў, мэнтальнасьці й культуры. Відавочна, што ў катэгорыю такіх ахвотнікаў не магло трапіць шмат выхадцаў зь Беларусі. Тым ня менш доля беларусаў, якія актыўна ўдзельнічаюць у нашых зборках і імпрэзах ці наведваюць іх (каля 5 % ад агульнай колькасьці прыбылых у

[6] Мурзёнак, Пётра. Куды ідзеш беларус? // Беларускае слова. № 2. Травень 2002; Шамецька, Юрась. Эміграцыя ці рух, які спрыяе жыццю // Культура, Нацыя. № 22. Лістапад 2018. С. 38—50.

Атаву) на сёньня перавышае аналягічны паказьнік ў суполках нашых суседзяў (напрыклад, каля 2,5 % у палякаў[7]).

Можна пагадзіцца з прадстаўніком старэйшай беларускай эміграцыі Вячкам Станкевічам, які падзяліў беларусаў новай эміграцыі на тры асноўныя катэгорыі: эканамічныя эмігранты (складаюць асноўную масу й застаюцца па-за межамі арганізаванай дыяспары), "далучэнцы" ды іншыя[8]. Падобны падзел можна назіраць і ў іншых дыяспарах, у прыватнасьці ў польскай[9]. Характарызуючы "далучэнцаў", Вячка Станкевіч піша, што *"з пункту гледжаньня "вэтэранаў", якія схільныя забыць пра свае ўласныя даўнейшыя ўнутраныя канфлікты, навічкі менш здольныя да супольнай і зладжанай працы ў калектыве і насілу ідуць на кампрамісы дзеля супольнай карысьці"*. Акрамя таго, *"трапляюцца сярод новых імігрантаў і людзі з больш цёмнымі намерамі. Яны ахвотна ўступаюць у існыя арганізацыі і прыкладаюць усе намаганьні, каб стаць іх паважанымі сябрамі. Іх вонкавая адданасьць справе беларускай дэмакратыі дазваляе ім заваяваць давер старэючых лідэраў. У выніку яны апынаюцца на кіруючых пасадах, пасьля чаго маскі зрываюцца і робіцца зразумелай іхная прыхільнасьць да дыктатуры, а таксама спробы пераняць кіраўніцтва ў арганізацыі. Адна такая спроба, якая ледзь не завяршылася посьпехам, мела месца ў нью-ёркскай супольнасьці"*[10].

У артыкуле Вячкі Станкевіча гучыць, з аднаго боку, заклапочанасьць лёсам беларускай дыяспары, але зь іншага боку, там жа бачны недавер і падазронасьць да новай хвалі эміграцыі з боку старой. Як вынік, у згаданым артыкуле не прапанавана шляхоў кансалідацыі беларусаў папярэдняй і новай эміграцыі. Ці атрымалася іх, даволі розных паводле выхаваньня і ўмоваў жыцьця людзей, зьяднаць у нейкай агульнай "беларускасьці"? І ці магла гэтая еднасьць вынікаць з нутранай патрэбы адных і другіх? Ці адбылася ў нейкім сэнсе пераемнасьць ад старэйшых да новых?

---

[7] Паводле дакладу на сымпозіюме "Ўклад канадыйцаў польскага паходжання ў Канаду" (2017): Jablonski, A.M. Reflections on Polish-Canadians on Canada's 150th Anniversary // The 2nd Oskar Halecki Symposium "Polish Canadians Contribution to Canada". Warszawa — Ottawa, 2017. P. 52.

[8] Станкевіч, Вячка. Новая хваля эміграцыі: розныя мэты і каштоўнасці // Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". http://zbsb.org/node/1111. 20.01.2009

[9] Jablonski, A. M. Reflections on Polish-Canadians on Canada's 150th Anniversary. P. 52

[10] Станкевіч, Вячка. Новая хваля эміграцыі: розныя мэты і каштоўнасці.

Новыя людзі на пачатку сваёй эміграцыі гэтага ведаць не маглі. Паводле многіх прыкметаў гэта й сталася, і ня сталася. Калі казаць пра некаторыя беларускія асяродкі, напрыклад, у Нью-Ёрку ці ў Таронта, то там адбыўся плаўны й спрыяльны пераход арганізацыяў ад старых эмігрантаў да новых. Прынамсі, магчыма казаць пра тое, што беларусы новай хвалі (тыя, што хацелі й адпавядалі) далучыліся да старэйшай эміграцыі, якая трымаецца ідэяў незалежнасьці БНР, абвешчаных 25 сакавіка 1918 г.

Аднак супярэчнасці паміж пакаленьнямі ўсё ж узьніклі й не на глебе адносінаў да незалежнасьці Беларусі. Абумоўлены яны, так падаецца, розьніцай у сьветапоглядзе паваеннай і новай міграцыі. Паваеннае пакаленьне нават у “далучэнцах” бачыла й цяпер яшчэ бачыць савецкіх людзей, замбаваных, недастатковa нацыянальна сьведамых, і нават, магчыма, шпіёнаў-засланцаў, прызваных разграміць беларускую дыяспару. І гэта адчуваецца ў словах Вячкі Станкевіча. Такія засьцярогі, відаць, заўжды былі ў прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі, якія не маглі ўявіць, што савецкія людзі ў Беларусі ў сваёй большасьці адчувалі сябе беларусамі, а пра свабоду думалі крыху інакш, як яны. Старэйшая эміграцыя марыла вярнуцца ў свабодную Беларусь, якую яна абагаўляла, абапіраючыся на беларускі досьвед змаганьня за незалежнасьць краіны ў першай палове ХХ ст. Здаецца, іх дыялёг з “далучэнцамі”, якія ўсё ж пераважна ёсьць “эканамічнымі эмігрантамі”, хіба што толькі часткова з палітычнай афарбоўкай, ня мог не выліваацца ў непаразуменьні й нават прыводзіць да ўзьнікненьня канфліктных сытуацый. Прыкладамі таму зьявіліся раскол Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА ў 2010 г.[11] і пакуль няўдалая спроба раскалоць ЗБК, а менавіта таронтаўскі й атаўскі аддзелы на зьездзе арганізацыі ў 2017 г. Такія выпадкі трэба аналізаваць і адкрыта абмяркоўваць.

Вяртаючыся да сьпяваньня гімну БНР — ці магла сучасная эміграцыя ўспрыняць каштоўнасьці старэйшай? Відавочна, што магла, але не адразу. Так думаецца, што на гэта не было ў новапрыбылых людзей адпаведнай базы й разуменьня. У дадатак, жывучы за жалезнай заслонай і выхаваныя зусім у іншых умовах, яны шмат чаго ня ведалі пра жыцьцё старэйшага пакаленьня эмігрантаў.

Новыя людзі, прыехаўшы ў новую краіну, у той ці іншай ступені хацелі (ня ўсе) сустракацца з падобнымі да сябе. Гэта натуральнае жаданьне. Трэба адзначыць, што станаўленьне сучаснай беларускай грамады ў Атаве пачыналася на мяжы ХХ і

[11] Зайка, Віталь. Да гісторыі БАЗА: передумовы й разьвіцьцё закалоту 2007—2011 гг. // Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 554—560.

XXI стагодзьдзяў. Яно ішло даволі павольна, можна нават сказаць, арганічна. Сябрамі атаўскага аддзелу ЗБК станавіліся людзі, якія атрымоўвалі інфармацыю пра існаваўшыя ці існуючыя беларускія асяродкі ў Канадзе, знаёміліся з палажэньнямі Статуту згуртаваньня, мелі магчымасьць і жаданьне плаціць складкі. Зь іншага боку, дзьверы на ўсе нашыя імпрэзы былі адчыненыя для ўсіх: хтосьці заставаўся з намі, хтосьці надоўга пакідаў, а потым зноў прыходзіў. Аб'яднаўчыя функцыі выконвалі як культурныя імпрэзы й сумесныя зборкі, напрыклад традыцыйнае цяпер сьвяткаваньне угодкаў абвяшчэньня БНР, гэтак і нефармальныя сяброўскія сустрэчы, якія адыгрываюць бадай што галоўную ролю ў стварэньні спрыяльнай атмасфэры ў нашай беларускай суполцы ў Атаве.

Варта згадаць самыя першыя сустрэчы беларусаў Атавы. Першы раз Новы год сустракалі 8 студзеня 2000 г. у доме мастака Пётры Шварцмана, а першая арганізаваная навагодняя імпрэза ў тым жа доме прайшла 7 студзеня 2001 г. На сьвята й канцэрт сабраліся больш за 60 асобаў. Канцэрт адкрыла вакальная група (Паліна, Яна й Алена Клімавы, Наталія й Пётра Мурзёнкі), якая ў суправаджэньні скрыпкі (Улада Шамецька) і клавішных (Насьця Чаканская) выканала калядныя беларускія песьні. Далей канцэрт працягваўся з удзелам і дарослых, і дзяцей. Дзеткі чыталі вершы (Каця Лысенка, Тоня Кумейка), ігралі на клавішных (Насьця Бойка), з гітарай сьпявалі песьні Алёна Баркар і Юрась Логвін, музыкальныя п'есы для скрыпкі выконвала Улада Шамецька. Вельмі пацешыў дарослых і дзетак Дзед Мароз. Усё было па-сяброўску — утульна й проста.

25 сакавіка 2001 г. беларусы Атавы першы раз адзначылі Дзень абвяшчэньня БНР у *Hintonburg Family Center* (тамсама ў 2012, 2014, 2015, 2017 гг.). Стала ўжо традыцыйным мець у сьвяточнай праграме тэматычныя даклады, канцэрт, беларускую дыктоўку, якую праводзілі сем разоў. Амаль на кожным нашым сьвяце прысутнічае й выступае з прамовай ганаровы госьць старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, якая жыве ў нашым горадзе. Даволі часта да нас на беларускае сьвята ў Атаву прыяжджае цудоўны фальклёрны ансамбаль "Яваровы людзі" з Таронта (2006, 2007, 2015, 2016 гг.), у стварэньне й разьвіцьцё якога многа сілаў і ведаў уклала нязьменны ягоны кіраўнік Віялета Кавалёва. Трэба адзначыць, што ў Атаве, у адрозненьне ад некаторых іншых беларускіх цэнтраў у Паўночнай Амэрыцы (Кліўлэнд, Нью-Ёрк, Таронта), няма свайго грамадзкага будынку. Таму нашыя імпрэзы й зборкі праходзяць у прыватных дамах ці ў нанятых памяшканьнях. Апроч згаданага вышэй, беларусы Атавы некалькі разоў праводзілі Сакавіцкія сьвяткаваньні ў будынку гарадзкога савету Атавы (2002—2008, 2013, 2019 гг.), чаму спрыяла дапамога дарадцаў гораду: *Wendy Stewart, Maria McRae, Gord Hunter, Keith Egli,* якім мы вельмі ўдзячныя, а таксама ў *Ottawa Public Library* (2009 г.),

*Nepean Creative Arts Centre* (2016 г.) і нават у будынку канадыйскага парлямэнту (2018 г.).

У значнай ступені кансалідацыі беларусаў Атавы спрыяла стварэньне беларускай суботняй школы, што працавала на працягу 5 навучальных сэзонаў (2004—2009 гг.)[12]. Яна была створаная пры падтрымцы гарадзкой адукацыйнай праграмы, у межах якой адкрытыя суботнія клясы для шмат якіх іншых нацыянальных групаў. Настаўнікамі ў беларускай школе былі мае бацькі — Даната Генрыхаўна Мурзёнак, што працавала зь дзеткамі малодшых клясаў, і Пётр Сільвэстравіч Мурзёнак, які займаўся са старэйшымі дзецьмі матэматыкай і беларускай літаратурай. Першыя заняткі адбыліся 14 лютага 2004 г. У школе на працягу пяці навучальных гадоў займаліся 15 дзяцей, і, ведама ж, побач зь імі знаходзіліся бацькі. Дзеці займаліся ня толькі школьнымі прадметамі (чытаньнем, пісаньнем, рашэньнем задачаў), малодшыя таксама вучыліся сьпяваць па-беларуску й танчыць, у чым была вялікая заслуга Данаты Генрыхаўны.

28 лістапада 2004 г. дзеці беларускай клясы бралі ўдзел у славянскім дзіцячым фэстывалі (*Gatineau, Quebec*), двойчы ладзілі канцэрт на Каляды. Так, напрыклад, 14 студзеня 2006 г. канцэрт пачаўся песьняй “Учора зьвячора”, хорам дзеці засьпявалі “Ходзікі”, выканалі песьню-танец “Сьняжынкі”, таньчылі “Беларускую польку”, юныя музыкі ігралі на піяніна, дэклямавалі вершы, навагоднія й пра зіму. На заканчэньне з падарункамі прыйшоў Дзед Мароз, у ролі якога выступіў вучань 9-й клясы Раман Шамецька. 13 студзеня 2007 г. вучні дэклямавалі вершы, прагучала мэлёдыя песьні “Ціхая ноч” у выкананьні Ўлады Шамецькі (скрыпка) і яе дачкі Паўлінкі (фартэпіяна). Казку “Воўк-гультай” паказалі Алёша Цыпенка, Агата й Ніна Логвіны. Ліля Пелюшонак і Паўліна Шамецька выканалі танец “Лялька”. Беларускую полечку таньчылі Алёша й Агата. У выкананьні юных музыкаў на фартэпіяна прагучалі фрагмэнты клясычнай музыкі. Скончылі канцэрт песьняй “Саўка ды Грышка”. Цалкам натуральна, што як сама школа, гэтак і пазавучэбная актыўнасьць дзяцей сталіся магчымымі дзякуючы падтрымцы бацькоў.

---

[12] Мурзёнак, Пётра С. Беларуская кляса ў Аттаве // Беларус. 2012. С. 188—193; Той жа: Беларускі клас у Атаве // Адвечныя плыні. Мінск: Кнігазбор, 2015. С. 189—195; Той жа. Тры гады як працуе беларуская суботняя школа ў Атаве // Беларус. № 518. Сакавік 2006; Той жа. Навагодняе свята беларусаў у Атаве // Беларус. № 519. Красавік 2006. Пра беларускую клясу паведамлялася таксама ў газэце “Беларускае слова” (Таронта), у атаўскай газэце *“Ottawa Citizen”* і на Радыё “Свабода” (8 чэрвеня 2006 г.).

Беларускае жыцьцё ў Атаве канцэнтруецца вакол некалькіх сем’яў. У першую чаргу хацелася б адзначыць сем’і Ўлады й Юрася Шамецькаў, Іны й Аляксандра Каралькевічаў, Аксаны й Сяргея Мазгавых і іх сяброў. Улада Шамецька ад самага стварэньня сучаснай беларускай грамады ўзяла на сябе ролю лідара нашых канцэртных праграмаў, як дарослых, гэтак і дзіцячых у беларускай школе. Разам зь Юрасём яны рыхтавалі й распаўсюджвалі абвесткі аб нашых падзеях сярод беларусаў Атавы. Гэта рабілася й праз мэйлы, і праз створаны ў 2001 г. вэб-сайт “Беларусы Атавы”, адміністратарам і стваральнікам якога быў Юрась Шамецька. З 2009 г. гэты сайт стаў сайтам усяго ЗБК — www.belaruscanada.org. На сёньня актыўнымі сябрамі аддзелу зьяўляюцца 25—30 чалавек. Таксама найбольш актыўнымі ёсьць: Наталія Баркар, Ірына і Ўладзімер Клімковічы, Алена й Слава Клімавы, Аляксандра й Юрась Логвіны, Ірына і Ўладзімер Панчанкі, Галіна Рэзаіпур, Анжэла Прыма, Іна і Ўладзімер Семенчукі, Яўгенія й Андрэй Табаленкі, Галіна Туміловіч, Пётра Шварцман, Таццяна й Аляксей Федарэнкі ды іншыя.

Так атрымалася, што аўтару гэтага артыкулу давялося прыняць на сябе кіраўніцтва ЗБК у 2001—2005 гг. У гэты пэрыяд праводзіліся сумесныя акцыі беларусаў Атавы са сваімі землякамі з Таронта й Манрэалю, у тым ліку й ініцыятывы, скіраваныя на разьвіцьцё згуртаваньня. Тут можна адзначыць сумеснае правядзеньне сьвяткаваньня абвяшчэньня незалежнасьці БНР у Атаве, Таронта, Манрэалі, маніфэстацый у Атаве, стварэньне сайту “Беларусы Атавы”, дзе адлюстроўвалася жыцьцё канадыйскіх беларусаў, пачатак выданьня газэты “Беларускае слова” ў Таронта (рэдактар і лідар Віялета Кавалёва, 2002—2008 гг.). У гэтых ініцыятывах было жаданьне паказаць нашае сумеснае жыцьцё й прысутнасьць у Канадзе як беларусаў.

На працягу апошніх двух дзесяцігодзьдзяў было праведзена шмат імпрэзаў, якія спрыялі яднаньню беларусаў Атавы. Можна з упэўненасьцю сказаць, што тое, што запісана ў Статуце ЗБК[13], цалкам адпавядае тым ініцыятывам, якія сыходзілі ад саміх сябраў беларускай суполкі ў Атаве. Хацелася б пералічыць найважнейшыя зь іх. 29—30 ліпеня 2006 г. беларусы Атавы ўпершыню сьвяткавалі Купальле на беразе маляўнічага возера Ньюкомб, на тэрыторыі, уласьнікам якой была Ўкраінская грэка-каталіцкая царква і дзе мы мелі магчымасьць паставіць намёты, адпачыць і правесьці сьвята. Затым двойчы, у 2008 і 2009 гг., на беразе ракі Атавы цёплым, прыгожым вечарам на маляўнічай паўвысьпе незадоўга перад заходам

[13] Як запісана ў Статуце, мэтамі й заданьнямі ЗБК зьяўляюцца: а) захаваньне й культываваньне беларускай нацыянальнай і культурнай спадчыны; б) гуртаваньне беларусаў на тэрыторыі Канады; в) маральная й матэрыяльная падтрымка сваіх сяброў; г) культурна-асьветная праца сярод беларускага грамадзтва ў Канадзе; д) абарона інтарэсаў беларусаў у Канадзе, згодна з законамі.

сонца плялі вянкі, дзяліліся сваімі ўражаньнямі ад прыроды, разважалі аб значнасьці гэтага сьвята, рабілі фотаздымкі. Разам праводзілі за раку й за далягляд сонца, запальвалі сьвечкі, сьпявалі беларускія песьні, напрыканцы пускалі вянкі ў рэчку. У апошнія гады "Купальле" адзначаецца падчас летніх сустрэчаў на возеры *Philippe*, дзяўчаты й жанчыны плятуць вянкі, якія сымбалічна пад беларускія песьні ўвечары выпускаюцца на ваду. Нашы летнія сустрэчы на возеры адбываюцца практычна кожны сэзон пачынаючы з 2001 г. і звычайна зьбіраюць каля паўсотні удзельнікаў.

У жыцьці сучаснай беларускай суполкі ў Атаве ёсьць яшчэ адна цікавая зьява — прэзэнтацыі кніг беларускіх аўтараў — сябраў суполкі. У 2001 г. была прэзэнтаваная мая кніга вершаў "Быліна мая, Беларусь", у 2008 г. — кнігі Івонкі Сурвіллы "Дарога", Пятра Сільвэстравіча Мурзёнка "Над Дзісенкай ракой" і Юркі Пелюшонка "Acquisition through division (practical demagogy)", у 2011 г. — зборнік Юрася Шамецькі "Шлях да вяртаньня", у 2012 г. — кнігі Пётры Мурзёнка "Крыніца" й "Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам", у 2015 г. — зборнік Юрася Шамецькі "Атава", у 2016 г. — кнігі Пятра С. Мурзёнка "Адвечныя плыні" й Пётры Мурзёнка "Шляхі да беларускай нацыі", у 2017 г. — праца Пётры Мурзёнка "Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу", у 2018 г. — зборнік вершаў Пётры Мурзёнка "Колеры", у 2019 г. - зборнік вершаў Юрася Шамецькі "Непрадказальнае". Натуральна, што кожная з такіх прэзэнтацыяў дадае эмоцыяў для ўдзельнікаў і сама па сабе сьведчыць аб жыцьцяздольнасьці беларускай культуры тут, далёка за акіянам.

У сталіцу Канады нярэдка прыяжджаюць грамадзкія дзеячы й артысты зь Беларусі. Звычайна іх прыезд ёсьць добрай нагодай прыняць гасьцей і атрымаць сьвежую інфармацыю пра жыцьцё на радзіме. Мы прымалі Сямёна Шарэцкага (2000), Валянціну Палевікову й Аляксандра Дабравольскага (2006г.), Уладзімера Някляева, Яраслава Раманчука, Андрэя Дзьмітрыева й Анатоля Лябедзьку (2010), Алеся Міхалевіча (2011), Андрэя Саньнікава (2016), Віктара Шалкевіча, Алену Макоўскую й Ніну Шыдлоўскую (2016), Глеба Лабадзенку й Алесю Літвіноўскую, а таксама Зьмітра Вайцюшкевіча (2017).

Трэба адзначыць, што шэраг ініцыятываў нашай суполкі ў Атаве рэалізоўваюцца ва ўзаемадзеяньні зь іншымі беларускімі арганізацыямі ў Канадзе, у прыватнасьці зь Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ў Канадзе. Так, атаўскія сябры ўзялі актыўны ўдзел у дзьвюх навуковых канфэрэнцыях Канадыйскай асацыяцыі славістаў: у канцэрце й працы беларускай сэкцыі ў Атаве (2009 г.), у працы дзьвюх беларускіх сэкцыяў і круглым стале беларускай паэзіі ў Таронта (2017 г.). У

Таронта непасрэдна атаўчанамі былі зробленыя 4 з 6 дакладаў на гэтых сэкцыях, а Юрась Шамецька й Пётра Мурзёнак разам з Вольгай Іпатавай і Сяргеем Панізьнікам стварылі творчую атмасфэру на паэтычнай вечарыне.

У жыцьці нашай суполкі вялікае месца займае культурніцкая дзейнасьць, і мы лічым, што менавіта яна можа быць аб’яднаўчай ідэяй для беларусаў замежжа. Палітычныя лёзунгі й мэты таксама важныя, і частка сяброў нашага аддзелу (тыя, хто адважыўся на гэта) за мінулыя гады правялі шэраг акцыяў у падтрымку дэмакратычнага разьвіцьця Беларусі. Варта толькі пералічыць некаторыя зь іх: 17 кастрычніка 1999 г. і 25 сакавіка 2000 г. больш як 20 прадстаўнікоў з Атавы, Манрэалю й Таронта ўдзельнічалі ў пікетах “Марш Свабоды” ля амбасады Беларусі ў сталіцы Канады; 6 красавіка 2003 г. у канадыйскай сталіцы ля расейскай амбасады адбылася дэманстрацыя супраць плянаванага аднаўленьня саюзу Расеі й Беларусі; 16 сакавіка 2006 г. перад амбасадай Рэспублікі Беларусь у сталіцы Канады была зладжаная дэманстрацыя на знак падзякі барацьбітам за новую, вольную, дэмакратычную Беларусь; 1 красавіка 2006 г. ля амбасады Расейскай Фэдэрацыі адбылася дэманстрацыя супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі; 18 сакавіка 2012 г. перад амбасадай Рэспублікі Беларусь зладжаная дэманстрацыя ў знак салідарнасьці з палітычнымі зьняволенымі (кандыдатамі ў прэзыдэнты Беларусі Андрэем Саньнікавым і Мікалаем Статкевічам, а таксама Ігарам Аліневічам і іншымі) і з патрабаваньнямі іх вызваленьня; 20 сакавіка 2014 г. у Атаве адбыўся мітынг у падтрымку ўкраінскага народу супраць расейскай агрэсіі.

У дадатак беларусы ладзілі актыўныя сумесныя акцыі з прадстаўнікамі іншых нацыянальных суполак у Атаве: вугорскай, латыскай, літоўскай, польскай, украінскай, чэскай, эстонскай, асабліва ў межах дзейнасьці Канадыйскага камітэту краінаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, які аднавіў сваю працу ў апошнія гады. Сярод арганізаваных камітэтам мерапрыемстваў нагадаем паседжаньні, прысьвечаныя катастрафічным наступствам акту Молатава — Рыбэнтропа для краінаў Усходняй Эўропы, у арганізацыі й правядзенні якіх бралі ўдзел беларусы Атавы — з нацыянальным сьцягам, у беларускіх строях, з нацыянальнымі прамовамі (23 чэрвеня 2014 г., 23 жніўня 2015 г., 28 жніўня 2016 г., 28 жніўня 2017 г., 5 верасьня 2018 г., 22 жніўня 2019 г.). Безумоўна, на такія падзеі з Атавы прыходзіла няшмат беларусаў, але яны там былі й там лунаў бел-чырвона-белы сьцяг як сымбаль беларускай надзеі на лепшае, дэмакратычнае й заможнае жыцьцё суродзічаў на радзіме.

Беларусы Атавы імкнуцца да паразуменьня ня толькі між сабой, але й з прадстаўнікамі дыяспараў краінаў-суседзяў, якія толькі нядаўна далучыліся да

эўрапейскай супольнасьці — магчымасьць, якую прамінулі й да якой яшчэ будуць імкнуцца беларусы. Шмат робіцца ў галіне ўзаемадзеяньня з нацыянальнымі арганізацыямі суседзяў. Гэта вельмі важна, бо, як са зьдзіўленьнем заўважыў у сваім артыкуле ўдзельнік польскай грамады Стэн Забароўскі[14], які быў нашым госьцем на Дні волі — 2015, ён ня мог уявіць, што ў Атаве існуе такая арганізаваная група беларусаў. Гэты факт сьведчыць аб тым, што сёньня беларусы за мяжой, прынамсі ў Канадзе, дастаткова самаізаляваныя й самаабмежаваныя, нягледзячы на распаўсюджаную ў краіне шматкультурнасьць.

Намі зробленыя пэўныя захады, каб пра беларусаў больш ведалі канадыйцы з розных дыяспараў. Прадстаўнікі беларускай суполкі ў Атаве былі запрошаныя як госьці на тры першыя ўкраінскія фэстывалі ў Атаве (23 ліпеня 2016 г., 21 ліпеня 2017 г., 21 ліпеня 2018 г., 19 ліпеня 2019 г.), прысутнічалі на сьвяткаваньні 1050-годзьдзя хрысьціянства на польскіх землях (17 чэрвеня 2016 г.), на 100-годзьдзі аднаўленьня незалежнасьці Літоўскай Рэспублікі (2018 г.), на лекцыях Польскага інстытуту Оскара Халецкага (2016, 2017 гг.), чыталі лекцыі для польскай дыяспары (Івонка Сурвілла, Пётра Мурзёнак; 29 кастрычніка 2016 г.) і шмат чаго іншага. Такое ўзаемадзеяньне зь іншымі дыяспарамі важнае з розных гледзішчаў. Да прыкладу, польскія калегі на нашую просьбу пісалі пісьмо прэзыдэнту Польшчы ў справе палітычнай і фінансавай падтрымкі “Белсату” (студзень 2017 г.).

У Канадзе сёньня актыўна дзейнічаюць два беларускія асяродкі: у Атаве й Таронта. Сябры атаўскага аддзелу ЗБК на зьездзе арганізацыі ў 2017 г. складалі 36 % яго дэлегатаў. Гэта значная доля ў агульнай структуры згуртаваньня. Кожны мог упэўніцца ў сіле нашага аддзелу дзякуючы пасьпяховай арганізацыі й правядзеньню 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі (Атава, 3—5 верасьня 2016 г., гатэль “Лорд-Элгін”) і 100-годзьдзя БНР у будынку парлямэнту Канады (11 сакавіка 2018 г.). Абодва мерапрыемствы, паводле словаў іх удзельнікаў, прайшлі на высокім арганізацыйным і зьмястоўным узроўні, сабралі агулам каля 90 і 160 удзельнікаў адпаведна. На іх прысутнічалі дэпутаты канадыйскага парлямэнту й гарадзкога савету Атавы, прадстаўнікі латыскай, літоўскай, польскай і ўкраінскай дыяспараў[15]. За арганізацыю й правядзеньне сьвяткаваньня 100-годзьдзя БНР

---

[14] Zaborowski, Stan. Bialorusini w Ottawie // Polska Ednosc Narodowa. http://www.polskajednoscnarodowa.com/spotkanie-z-bialorusinami.php. June 10, 2015.

[15] Матэрыялы 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі // Культура, Нацыя. № 15. Верасень 2016. С. 16—91; Матэрыялы ўрачыстага сьвяткаваньня 100-годзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці БНР беларусамі Атавы — 11 сакавіка 2018 г., Цэнтральны будынак Канадыйскага Парламента. Commons Reading Room, Parliament Hill // Культура, Нацыя. № 21. Сакавік 2018. С. 16—46.

шэраг беларусаў з Атавы былі ўзнагароджаныя дыплёмамі Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (Канада) за разьвіцьцё беларускай культуры[16].

Хацелася б верыць, што беларуская прысутнасьць у Канадзе будзе заўважная як на радзіме, гэтак і ва ўсім сьвеце. Беларусы Атавы былі прадстаўленыя на Сустрэчах беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якія традыцыйна праходзяць раз на два гады (Кліўлэнд — 2000 г.; Нью-Брансьвік — 2002 г.; Таронта — 2004 г.; Кліўлэнд — 2008 г.; Таронта — 2012 г.; Атава — 2016 г.). У склад Вялікай рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ад Атавы (Канада) уваходзяць Івонка Сурвілла й Пётра Мурзёнак. Па меры магчымасьцяў беларусы Атавы аказваюць і матэрыяльную падтрымку актывістам і арганізацыям у Беларусі: напрыклад, на патрэбы абаронцаў Курапатаў (2006 г.), на правядзеньне VII Зьезду беларусаў сьвету (2017 г.), на выданьне кніг.

Мы добра разумеем, што вырашыць праблемы ў Беларусі могуць толькі самі беларусы, якія там жывуць, аднак, на нашую думку, тая, нават невялікая падтрымка, якую мы дэманструем, таксама працуе на адбудову новай Беларусі. Не хацелася б перабольшваць наш унёсак у нацыянальнае будаўніцтва на радзіме, але не адзначыць тое, што робіцца ў Канадзе, было б несправядліва ў дачыненьні да нашых людзей. Як далей будзе працягвацца жыцьцё беларускага асяродку ў Атаве, пакажа час. Аднак думаецца, што яно будзе беларускае па духу, такім, як гэта адчуваюць людзі, што пакінулі радзіму, любоў да якой яны носяць у сваіх сэрцах.

*Гэты артыкул быў надрукаваны ў серыйным выданьні "ЗАПІСЫ", гал.рэд. Н.Гардзіенка. Нью-Йорк-Мінск. 2019. Том 41, сс.170-181.*

[16] Сьвяткаваньне 101-й гадавіны абвяшчэньня БНР у Атаве // Культура, Нацыя. № 23. Красавік 2019. С. 80—86.

**Piotra Murzionak: People of the Ottawa Chapter of the Belarusian Canadian Alliance (1997-2019)**
***(web-magazine "Culture. Nation", issue 25, April 2020, pp.19-31, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

The article tells about the life of the Belarusian community in Ottawa over the last two decades. It describes in details the variety of activities including National Day celebrations (25 March), concerts, formal and informal meetings, the work of Belarusian Saturday school, and provides the names of community activists.

**Пётра Мурзёнак: Люди Оттавского отделения Беларусско-Канадского Альянса (1997-2019)**
***(интернет-журнал «Культура. Нация», выпуск 25, апрель 2020, с.19-31, www.sakavik.net)***
В статье рассказывается о жизни беларусской общины в Оттаве за последние два десятилетия. В ней подробно описываются различные мероприятия, в том числе, празднование Национального дня (25 марта), концерты, официальные и неформальные встречи, работа беларусской субботней школы, а также имена наиболее активных людей.

**Пётра Мурзёнак, Зіна Гімпелевіч: Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Канада ў 1967-2019 гг.**

*I. Гісторыя стварэння Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ, Канада) і яго дзейнасць напачатку*

Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ, Канада) быў заснаваны 17 верасня 1967 года ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры ў Таронта, спачатку як аддзел БІНІМ (ЗША). БІНІМ (ЗША) існаваў з 1951 года і яго дзейнасць пашыралася не толькі на ЗША, але і на Канаду і Еўропу.

[1] Арганізатары канадыйскага аддзела на той час з'яўляліся таксама сябрамі БІНІМу (ЗША). Сувязі з амерыканскім БІНІМам ніколі не парываліся, але ўмовы жыцця ў ЗША і ў Канадзе былі рознымі і з прычынаў фармальных і практычных патрэбна было заняць самастойную пазіцыю. Вось што пісала доктар Раіса Жук-Грышкевіч:

"На другім Кангрэсе Канадыйскіх Славянаў, што адбыўся 9-11 чэрвеня 1967 г., д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, сябра БІНіМ(у) ЗША чытаў даклад на тэму "Беларусы і канадыйская статыстыка." Выступаў ён ад грамадскае арганізацыі Згуртаваньня Беларусаў Канады, а вымагалася, каб лектар рэпрэзэнтаваў нейкую навуковую арганізацыю – learned society - Канады, а не грамадскую. Выпадак гэты быў беспасрэднай і адной з галоўных прычынаў заснаваньня БІНіМ(у) у Канадзе". [2]

Пасля абмеркавання кіраўнікоў канадыйскага аддзела з тагачасным старшынём БІНІМ (ЗША), д-рам Вітаўтам Тумашам, 7 лістапада 1968 г. было прынята рашэнне аб наданні канадыйскаму аддзелу статуса самастойнага, незалежнага інстытута пад назвай БІНІМ, Канада. Гэта адкрыла магчымасць для беларусаў Канады прымаць удзел у навуковых канадыйскіх і міжнародных акадэмічных імпрэзах: канферэнцыях, сімпозіюмах і кангрэсах. Другім напрамкам дзейнасці ністытута, апрача працы ў акадэмічнай сферы, была і ёсць праца ў сферы культуры. Роля БІНІМ, Канада ў першым Статуце была адлюстравана наступным чынам:

[1] Р. Жук-Грышкевіч "*Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча",* (Таронта, Канада, 1993; сс. 398-400).

[2] Там жа, с. 288.

"Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Канадзе (БІНіМ) ёсць арганізацыя навукі й культуры, якая намагаецца згуртаваць усе навуковыя й культурныя творчыя сілы, што ставяць сабе за мэту як навуковае пазнаньне й вывучэньне Беларусі, беларускага народу ды ягонай культуры ў мінулым і сучасным, так і падтрымліваньне навуковай працы ў галіне беларусаведы, а таксама й творчай працы ў галіне беларускай культуры". Паводле першага Статута кіроўныя органы інстытута выбіраліся толькі на тры гады.[3] Сучасная версія Статута БІНІМ (Канада) была прынята 2 верасня 2017 года.[4]

Першым старшынём БІНІМ, Канада быў абраны ініцыятар яго стварэння, д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1968-69), сакратаром - магістр Алесь Грыцук. Другім старшынём быў д-р Ян Садоўскі (пачынаючы з 26.10.1969, пратакол №2 агульнага схода БІНІМ, Канада), трэцім - д-р Барыс Рагуля (са студзеня 1972, пратакол №4), чацвёртым – магістр Івонка Сурвіла (з 22 чэрвеня 1974, пратакол №5),[5] пятым - д-р Зіна Гімпелевіч (2002-2017).[6] Пачынаючы з верасня 2017 года старшынём БІНІМ, Канада з'яўляецца д-р Пётра Мурзёнак.

З самага пачатку Інстытут налічваў ад 3 да 8 чалавек. На ранніх этапах станаўлення БІНІМу, яго актыўнымі сябрамі былі: сп. Кастусь Акула, пісьменнік, грамадзкі дзеяч; др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, грамадзкі дзеяч, навуковец, Старшыня Рады БНР; магістр Алесь Грыцук, сакратар і скарбнік Інстытуту (да 1976 г.), бібліятэкар Універсітэту Куінс у Кінгстане (Queen's University, Kingston); др. Янка Садоўскі, прафесар Універсітэту Куінс у Кінгстане, аўтар двух доктарскіх дысертацый, прысвечаных Ф. Скарыне;[7] др. Яўхім Скурат, які здабыў дактарат у Сарбонскім унівэрсітэце, грамадзкі дзеяч, скарбнік інстытута да 1986 года; мовазнаўца з

[3] Статут быў прыняты 31 студзеня 1970 года; а) пратакол №3 агульнага схода. Архівы БІНІМ Канады за 1969-1975 гг., матэрыялы ў якіх афамляліся падрабязным і належным чынам сп. А. Грыцуком, які зберагаецца ў сп. І. Сурвіла. б) John Sadouski fonds (Library and Archives Canada), MG31, D124, vol.4, files 35 and 53.

[4] Статут БІНІМ, Канада ад 2 верасня 2017 г. Вэб-сайт інстытута: http://binim.org/index.php/charter/

[5] Архівы БІНІМ Канады за 1969-1975 гг.

[6] Архівы БІНІМ, Канада.

[7] "Францішак Скарына" (ступень доктара літаратуры ў славяназнаўстве ў 1964 г., абарона ў Італіі), і "Лінгвістычны аналіз чатырох кніг царстваў, надрукаваных Скарынам у 1518 г." (ступень доктара філасофіі у 1967 г., абарона ў Англіі). Н. Гардзіенка "Да біяграфіі скарызнаўцы Янкі Садоўскага". У кнізе: Віленскія выданні Францыска Скарыны ў кантэксце эпохі Адраджэння: да 490-годдзя

Сарбоны і мастачка Івонка Сурвіла, эканаміст Янка Сурвіла, скончыў Унівэрсітэт "Комплютэнсэ" (Мадрыд), грамадзкі дзеяч; др. Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар і скарбнік інстытуту (да 2002 г.), дантыст, пісьменьніца, грамадзкі дзеяч; др. Барыс Рагуля, вядомы канадыйскі лекар, грамадзкі дзеяч, у 1996-1997 гг. выконваў абавязкі Старшыні Рады БНР.[8]

Можна лічыць, што беларускія даследчыкі, А. Грыцук і Яфім Скурат, сваім удзелам у працы 3-й канферэнцыі канадыйскіх славістаў ўпершыню прадстаўлялі на ёй БІНІМ, Канада, як сябры інстытута, прадоўжыўшы справу, распачатую сп. Жук-Грышкевічам.[9]

Да пачатковага перыяду дзейнасці інстытута можна аднесці мастацкія працы Кастуся Акулы - трылогія "Гараватка";[10] і фундаментальныя падручнікі Валянціны Пашкевіч - "Беларуская мова" ў двух тамах. Пад рэд. Антона Адамовіча. Таронта, 1974; фундаментальную працу Яна Садоўскага - John Sadouski "A History of the Byelorussians in Canada". Belleville, Ontario. 1981. 148 p.), і іншыя яго працы.[11,12]

Значны ўклад ў развіццё інстытута зрабіў праф. Я. Садоўскі. Апроч шэрагу публікацый па беларускай тэматыцы ім праведзена ў 1969-1972 гг. значная праца

---

кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім: матэрыялы IV Скарынаўскіх чытанняў (Мінск, 27 красавіка 2012 г.) / пад рэд. І. Э. Багдановіч. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — С. 97-105.

[8] Boris (Barys) Ragula. Against the Current. Montreal & Kingston & London [GB]: MQUP, 2005 (English), 185pp. (p. 169).

[9] Raisa Zuk-Hryshkevich fonds (Library and Archives Canada), R4894, vol.23, files 23-30. Third National Conference on Canadian Slavs. York University, June 14-17, 1969. J. Skurat: Belarussian Cultural Activity in Canada; A. Hrycuk: Byelarussian Imprints in Canada.

[10] Кастусь Акула. Кніга першая: "Дзярлівая птушка". Выдавецтва "Пагоня", Таронта, 1965; кніга другая: "Закрываўленае сонца". Выдавецтва "Пагоня", Таронта, 1974; кніга трэцяя: "Беларусы, вас чакае зямля". Выдавецтва "Пагоня", Таронта, 1981.

[11] Sadouski, J. Skaryna`s Stay in Denmark // The Journal of Byelorussian Studies. — Vol. II. — № 1. — London, 1969. — P. 25–28; Book review by J. Sadouski "Belorussia under Soviet Rule, 1917-1957 by Ivan S. Lubachko", Canadian Slavonic Papers. Vol. 16, No. 3 (Autumn, 1974), pp. 474-475; Review by John Sadouski "A History of Byelorussian Literature. From its Origins to the Present Day by Arnold B. McMillin". Canadian Slavonic Papers. Vol. 20, No. 2 (June 1978), pp. 275-276.

[12] J. Sadouski: a) Soviet Belarusian Publications in the 1970's. Natonalities papers, Fall,1981,IX, No2, 22-29; b) Bryl Janka in The modern Encyclopedia of Russian and Soviet Literatures, Ed.: H. Weber, G.Breeze, Academic International Press, v .III, 1979; c) Charot Michas, and Chorny Kuzma, там жа, vol. IV, pp.20-21, and 99-103. John Sadouski fonds (Library and Archives Canada), MG31, D124, vol.1, file 3.

па арганізацыі калекцыі беларускіх мастацкіх вырабаў у нацыянальным Музеі чалавека Канады.[13] Тут і перапіска з афіцыйнымі асобамі Музея, і з беларусамі,

якія валодалі рэчамі, прывезенымі з радзімы, ці зробленымі іх рукамі. Усяго з яго дапамогай было сабрана 62 экспанаты (цяпер яны ў Музеі гісторыі Канады). Я. Садоўскім і А. Грыцуком была зроблена значная падрыхтоўчая праца, уключаючы шматлікую перапіску, па арганізацыі выдання часопіса “Canadian Byelorussian Review”,[14] якая, аднак, не скончылася станоўчым вынікам. Вялікай і першай акадэмічнай імпрэзай стала канфэрэнцыя “Беларусаведныя дні ў Квінс Унівэрсытэце ў Кінгстане” ў 1971 годзе, якую арганізаваў прафэсар Я. Садоўскі.[15] Цікава, што ў ёй прынялі ўдзел не толькі беларускія даследчыкі, але і англамоўныя прафесары універсітэта. Усяго было зроблена 8 дакладаў. Падчас канферэнцыі была прадстаўлена выстава беларускіх майстроў і мастакоў.
У 1975 годзе вельмі паважны навукова-асветніцкі і культурны форум канферэнцыя “Беларусаведныя дні ў Атаўскім Унівэрсітэце” і выстава беларускага народнага мастацтва (у супрацоўніцтве з *Музеем чалавека*) была арганізавана спадарствам Сурвілаў. На форуме было прачытана 12 дакладаў, аб’яднаных тэмай “Беларуская прысутнасць у Паўночнай Амерыцы.” Матэрыялы дакладаў ў Атаве (1975), як і ў Кінгстане (1971) не былі апублікаваныя. Адной з прэстыжных падзеяў канферэнцыі ў Атаве быў Вечар Паэзіі прысьвечаны Натальлі Арсеньневай, на якім прысутнічалі госьці з іншых этнічных групаў і прамаўлялі знакамітыя прафэсары славісты Атаўскага Універсітэту. Вечар вёў прафесар Антон Адамовіч.[16]

Сп-ва Сурвіллаў спрычынілася да арганізацыі выставы беларускага народнага мастацтва ў Публічнай бібліятэцы Атавы (1977), арганізоўвала фестывалі “Homelands” (з 1979 па 1989 гг.). Сп. І. Сурвіла прадстаўляла свае працы на болей за трыццаць мастацкіх выставаў,[17] і была арганізатарам міжэтнічнай выставы “Self-portrait” у Канадыйскім музеі чалавека (снежань 1987-студзень 1988).

---

[13] John Sadouski fonds (Library and Archives Canada), MG31, D124, vol.1, file 60.

[14] Рашэнне аб выданні часопіса было прынята 31.01. 1970 (пратакол №3 Управы БІНІМ, Канада). Архівы БІНІМ, Канада за 1969-1975 гг.

[15] Byelorusian Study weekend at Quenn’s University. April 17-18, 1971. Queen’s Gazette, April 7, 1971. V.III, #13. John Sadouski fonds (Library and Archives Canada), MG31, D124, vol.4, file 29.

[16] Газета “Беларус”, №218, чэрвень 1975 (публікацыя пра выставу); №219, ліпень 1975 (публікацыя пра даклады), №221, верасень 1975 (публікацыя пра вечар паэзіі з Н. Арсеньевай).

[17] “Запісы”, № 19, 1989, с.176.

*II. Дзейнасць БІНІМ, Канада ў 1989-2016 гг.*

Пачынаючы з 1989 году можна адзначыць значны прагрэс ва ўдзеле БІНІМу ў канадыйскіх і міжнародных навуковых кангрэсах, што адбылося дзякуючы намаганням і акадэмічным інтарэсам праф. Зіны Гімпелевіч, праф. Марыі-Паўліны Сурвіла і сп. Івонкі Сурвіла. Да 2016 года уключна сябрамі БІНІМу зроблена каля 150 дакладаў, у большасці упамянутымі аўтарамі. Толькі ў 1993 і 1995 гг. сябры БІНІМу, Канада зрабілі 16 дакладаў.[18] Гэтая актыўнасць стала больш заўважнай на канферэнцыях асацыяцыі славістаў у Канадзе (КАС, CAS – Canadian Association of Slavists), а з 1990 г. на сусветных канферэнцыях славістаў, якія праходзяць кожны год у ЗША (The Association for Slavic, East European, and Eurasian Studies і іншых навуковых форумах). Прафесары З. Гімпелевіч і М.-П. Сурвіла сумесна з праф. Куртам Вулхайзерам, праф. Дэвідам Марплзам і д-мі Янкам Запруднікам і Вітаўтам Кіпелем заснавалі North American Association of Belarusists (NAAB) у 1999-ым годзе, і шмат гадоў прымалі ўдзел у кіраўніцтве асацыяцыяй.

КАС - гэта асацыяцыя, якая існуе з 1950-ых і аб’ядноўвае навукоўцаў, што займаюцца вывучэннем славянскай гісторыі, мовы, палітыкі, культуры і літаратуры (балканскія краіны, Беларусь, Польшча, Расія, Украіна і інш.). Шэраг даследчыкаў з БІНІМу ўваходзяць у гэту навуковую арганізацыю, заснаваную ў 1954 годзе. КАС, разам з іншымі 72-мя акадэмічнымі асацыяцыямі краіны зрабілася часткай і сябрам Канадыйскай Федэрацыі Гуманітарных і Сацыяльных навук (КФГСН). Кожны год КФГСН праводзіць навуковыя кангрэсы, у якіх прымае ўдзел і КАС. Трэба адзначыць, што на кангрэсах КФГСН друкуюцца толькі праграмы, а не самі матэрыялы дакладаў, якія можна апублікаваць у часопісе КАС – *Canadian Slavonic papers*. Да прыкладу, у гэтым часопісе апублікаваны артыкулы праф. З. Гімпелевіч.[19]

За перыяд з 1989 па 2016 гг. сябрамі інстытута былі надрукаваны 28 кніг, назвы якіх прыводзяцца ў бібліяграфіі ў канцы артыкула.

---

[18] “Запісы”, № 23, 1999. Сс.175, 177-79.

[19] Gimpelevich, Z. IN MEMORIAM. ROBERT KARPIAK (1942-2017), *Canadian Slavonic Papers,* 2018, (forthcoming); Gimpelevich, Z. “Dimensional Spaces in Alexander Solzhenitsyn’s *Dvesti let vmeste”* (Two hundred years together), *Canadian Slavonic Papers.* 3-4 (2006): 233-60. (English); Gimpelevich, Z. “Vasil Bykaŭ’s Biełarusian Pilgrimage,” *Canadian Slavonic Papers*. 3 (2000): 343-362 (English). Gimpelevich, Z. “The Intelligentsia: What It Used to Be and What It Is in Aksenov’s *Skazhi izium*,” *Canadian Slavonic Papers*. 37 (1995): 201-217.

Сябра інстытуту, праф.З.Гімпелевіч, амаль кожны год арганізоўвывала на канферэнцыях КАС ня менш чым адну беларускую сэсію, а, часам, дзве ці тры (колькасць дакладаў на КАС была ад 3-х да 9-ці). Такія сэсіі, дзе было зроблена шмат дакладаў на беларускую тэматыку, адбыліся, сярод іншых, у наступных унівэрсітэтах Канады: Лаваль, Квебэк; Вікторыя, Брыціш Калумбія; Куінс, Кінгстан; Шарлоттаўн; Прынц Эдвард Айленд; Карлтан і Атаўскі універсітэты, Атава, Антарыё; Манрэль; Квебэк; Сейнт Джонс, Ньюфаўленд; Шэрбрук, Квебэк; Лаваль, Квебэк; Таронта і Йорк, Антарыё, і іншых універсітэтах. Часта ў гэтых канферэнцыях прымалі ўдзел сябры БІНІМ(у) ЗША - дактары Томас Бэрд, Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, сп. Зора Кіпель, Надзея Запруднік і Галіна Русак. На Сусьветны кангрэс славістаў ў Таронта (2005), на якім было прачытана 12 дакладаў па беларусістыцы, прыехалі з Лондана Арнольд Макміллін і айцец Надсан, а з Беларусі - праф. Вінцук Вячорка і праф. Ганна Мязенка (прыезд гасцей з Беларусі быў спансіраваны на сродкі гранта, атрыманага праф. З. Гімпелевіч; яны чыталі даклады на кангрэсе, а таксама прачыталі лекцыі на уннвесітэце Ватерлоо). Сябры БІНІМ, Канада прымалі ўдзел і не аднойчы былі запрошаны на канферэнцыі і сімпозіўмы ў Гарвард, у Сарбону (двойчы), у Оксфард, у Кэймбрідж, у Ноцінхам, Лондан, Эдзінбург і іншыя універсітэты сьвету. Так, напрыклад, праф. Марыя Паўля Сурвілла чытала даклад “Гукавая Дыпламатыя: Музыка і Мэдыяцыя ад Пасольства да Падподьдя ў Постсавецкай Беларусі” у Гарвардскім універсітэце, на сімпозіуме “Музыка і Дыпламатыя”. Праф. М. Сурвілла мае шмат артыкулаў на беларускую тэматыку, уключна напісаных па запрашэнню вядучых энцыклапедый свету.

9 чэрвеня 2002 года у Ватэрлоо, Антарыё прайшоў агульны сход БІНІМу, на якім былі заслуханы справаздачы старшыні інстытута сп. І. Сурвіла і сакратара-скарбніка Р. Жук-Грышкевіч, прынятыя новыя сябры БІНіМу і адноўлена кіраўніцтва Інстытута.[20] На змену сп. І. Сурвілла, якая узначальвала Інстытут 28 год, на пасаду старшыні была выбрана праф. З. Гімпелевіч. У склад БІНІМу былі прыняты Архіепіскап Мікалай, Мітрапаліт БАПЦ, д-р Наталія Баркар, сп. Ірына Варабей, сп. Антон Варабей, д-р Аляксандр Даніловіч, сп. Надзея Дробіна, д-р Сяргей Дрозд, сп. Віялета Кавалёва, д-р Сяргей Крычэўскі, д-р Ірына Лысенка, д-р Пётра Мурзёнак, д-р Юрась Пелюшонак, сп. Уладзімір Рагуля, сп. Юрась Рапецкі, сп. Уладзя Шамецька, сп. Юрась Шамецька, сп. Валянціна Шаўчэнка, сп. Пётра Шварцман, сп. Вольга Яноўская. У справаздачы скарбніка, сп. Р. Жук-Грышкевіч, паказаны даходы і выдаткі інстытута ў 1986-2002 гг. (сярод асноўных выдаткаў -

[20] Архівы БІНІМ, Канада.

дапамога ў выданні кнігі З. Пазьняка "Курапаты", 450 даляраў; рэгістрацыйныя складкі для ККБК – Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады).[21]

На канферэнцыі КАС, якая праходзіла ў рамках кангрэса Канадыйскай Федэрацыі Гуманітарных і Сацыяльных навук у Атаве ў 2009, дзе было агулам 9000 дэлегатаў, БІНІМ, Канада добра прагучаў не толькі з навуковай сцэны і прадстаўленьнем сваіх кніжак, але і цудоўным беларускім канцэртам с удзелам ансамблю "Яваровыя людзі," дуэта класічнай музыкі (Ўлада Шамецька і Міхась Рыкаў); іншых нашых таленавітых спевакоў і музыкантаў. БІНіМ арганізаваў падчас Кангрэсу выставу мастакоў, на якой былі прадстаўлены працы Ірыны Варабей, Алёны Ляпко, Івонкі Сурвілы, Марыі-Паўліны Сурвілы, Пётры Шварцмана, і Яўгеніі Шаўчэнкі.

Шмат гадоў ад імя БІНІМ, Канада і Універсітэта Ватерлоо рабілі даклады і прымалі удзел у канферэнцыях КАС студэнты-магістры, якія пісалі тэзу ці курсавую працу на беларускія тэмы: "Беларускія казкі," "Літаратурная гісторыя Беларусі", "Літаратурны сшытак Валянціна Крывіча-Аненскага," "Літаратура Чарнобылю" і інш. (кіраўнік праектаў праф. З. Гімпелевіч). Дзякуючы праф. З. Гімпелевіч, сп-не праф. Сурвілле і сп-не Сурвтлле, прабудзілася цікавасьць да Беларусі ў такіх знаных навукоўцаў як дактары Дэвід Марплз і Цімосі Снайдэр. Так, напрыклад, на сусьветным кангрэсе беларусістаў у Мінску ў 2010 г., на сэсіі, якую арганізавала праф. З. Гімпелевіч, даклады чыталі: дактары Томас Бэрд (БІНіМ, ЗША), З. Гімпелевіч (БІНіМ, Канада) і Т. Снайдэр (Yale U.).[22] У сваю чаргу, сябры БІНіМ(у) дапамаглі БІНіМ(у) у ЗША умацаваць англамоўную беларусістыку ў ЗША, прымаючы актыўны ўдзел у арганізацыі і адміністрацыйнай працы Паўночна-Амерыканская асацыяцыя беларусістаў(З. Гімпелевіч, М. П. і І. Сурвілла) і Фундацыі беларускіх дасьледаваньняў і адвакацыі" (праф. М.-П. Сурвіла; былы Цэнтр беларускіх даследаванняў, Centre for Belarusian Studies, Kansas, USA). Прафэсар М.-П. Сурвілла, адна з трох арганізатараў (разам з амбасадарам Дэвідам Суорцам і віцэ-прэзідэнтам каледжу праф. Эндзі Шэфардам) унікальнай інстытуцыі ў Паўночнай Амэрыцы (2007), якая спрыяе разьвіццю моцнай грамадзянскай супольнасьці праз ініцыятывы ў вышэйшай адукацыі. Праф. М.-П.Сурвілла з'яўляецца сябрам рэдкалегіі беларускага акадэмічнага англамоўнага часопісу: "The Point."

[21] Raisa Zuk-Hryshkevich funds (Library and Archives Canada), R4894, vol.23, file 16.

[22] Зінаіда Гімпелевіч "Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтве ў Канадзе (БІНіМ, Канада). 1967-2016**".** "Культура, Нацыя", №15, верасень 2016, с. 70-75 (даклад на 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі).

Сярод іншых значных падзей у гэты перыяд трэба адзначыць тыя, у якіх прынялі непасрэдны ўдзел сябры БІНіМу з асабістай ініцыятывы ці ў рамках сумеснай актыўнасці з іншымі грамадскімі арганізацыямі. Як заўважыла праф. З. Гімпелевіч у сваім дакладзе на 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі (Атава, 2016) - "кожны сябра БІНіМ(у) – сам па сабе інстытут".

Сп-ня І. Сурвілла была ініцыятарам і разам з праф. З. Гімпелевіч і Паўлінай Пашкевіч-Смітс заснавалі ў 1989 годзе Канадыйскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі (CRFVCB, Canadian Relief Fund for Victims of Chernobyl in Bełaruś). Сп-ня І. Сурвіла за лета 1991-году дала журналістам 52 інтэрвію ў сувязі з працай фонда, якія былі надрукаваныя і трансляваліся па радыё ці тэлебачанні. Значны ўклад у працу фонда зрабіў доктар Б. Рагуля; яны сумесна з сябрам, праф. Чарльзам Руудам, прывозілі, вучылі і лячылі беларускіх дзетак, пасылалі пачкі з лекамі і мэдычную апэратуру ў Беларусь, арганізавалі абмен лекарамі. Нягледзячы на тое, што канадыйскі фонд зачыніўся ў 2005 годзе, справы фонда працягваюцца яго аддзеламі да гэтага часу.[23] Напрыклад, зусім нядаўна, праф. Ч. Рууд, адвёз у траўні 2017 г. ў мінскі шпіталь абсталяваньне для лекараў-кардыёлагаў.

Сп-ня Віялета Кавалёва заснавала ў 2001 годзе спеўны гурт "*Яваровы людзі"*. Яе непаўторны талент і справы патрабуюць напісання асобнай кнігі як аб кіраўніку гурта, сп. Кавалёвай, іак і пра ўвесь гурт. За час існавання ў дзейнасці гурта прынялі ўдзел каля паўтары сотні аматараў беларускай музыкі і фальклора.

У 2001-2005 гг. сябрамі Згуртавання беларусаў Канады (старшыня ЗБК П. Мурзёнак) былі ініцыяваны: стварэнне ў 2001 годзе сайту беларусаў Атавы - адміністратар Юрась Шамецька (пазней атаўскі сайт пераўтварыўся ў сайт ЗБК, які дзейнічае да гэтага часу, www.belaruscanada.org); у 2002 годзе сп-ня В. Кавалёва як галоўны рэдактар пачала выпускаць газету "*Беларускае слова",* у выданьні якой прымалі ўдзел сябры БІНіМу Ірына Варабей, Яўгенія Шаўчэнка і іншыя. На працягу 2002-2008 гг. выйшлі ў свет 11 нумароў газеты. У 2005-2009 гг. у Атаве на працягу 5 вучэбных сезонаў працаваў беларускі клас.[24]

---

[23] Івонка Сурвіла, Зіна Гімпелевіч Канадыйскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. 30.05.2018. Сайт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". https://zbsb.org/info/?modal=23182

[24] Пётра С. Мурзёнак Беларуская кляса ў Аттаве. Альманах "Беларус", ISSN 1945-8665, 2012, с.188-193; таксама: Пётра С. Мурзёнак Беларускі клас у Атаве. У кнізе "Адвечныя плыні", Мінск "Кнігазбор", 2015, с. 189-195.

П.С. Мурзёнак Тры гады як працуе беларуская суботняя школа ў Атаве. Газета "Беларус", №518, сакавік 2006.

Сп-ня Ірына Варабей, сябра Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, заснавала ў 2005 г. і працягвае рабіць выдатную працу ў творчай майстэрні па вышываванню беларускіх нацыянальных узораў (майстэрня і сайт "Беларускі дух", Spirit of Biełaruś). Фатограф Ірына Варабей з'яўляеццца двухразовым прызёрам конкурсаў часопісу "Canadian Geographic".

У снежні 2012 года, быў заснаваны вэб-часопіс "Культура. Нацыя" (рэдактар П. Мурзёнак), які размяшчаецца на новастворaным сайце www.sakavik.net. На сёння выйшлі 23 нумары часопіса "Культура. Нацыя". На старонках часопіса друкуюцца арыгінальныя матэрыялы, прысвечаныя пытанням нацыянальнага будаўніцтва і культуры. Усяго за гэты час апублікавана 167 арыгінальных артыкулаў ад 33 аўтараў. Агульны аб'ём часопіса склаў каля 1725 старонак, г.зн. у сярэднім кожны нумар выходзіў на 75 старонках. Сайт і часопіс з сакавіка 2013г. да мая 2019г. наведалі больш чым 18.700 чытачоў (з больш чым 30.700 праглядамі); большасьць чытачоў паходзяць з Беларусі (57.3%).

Некалькі гадоў запар ў Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры ў Таронта праводзяцца курсы "Мова нанова" (кіраўнік Ірына Тоўсцік), якія выклікалі значны інтарэс як ў дзяцей, так і ў дарослых.

Такім чынам, перыяд развіцця БІНІМу, Канада ў 1989-2016 гг. быў адзначаны шэрагам адметных дасягненняў, многія з якіх былі вынікамі дзейнасці як самаго інстытута, які выконвае свае спецыфічныя функцыі ў Канадзе, так і яго сяброў, зробленых з асабістай іх ініцыятывы ці ў рамках актыўнасці іншых грамадскіх беларускіх арганізацый у Канадзе.

*III. Сучасная дзейнасць БІНіМ, Канада (2017- )*

2017-ты год для Інстытута быў насычаны значнымі падзеямі, якія можна ахарактарызаваць як новую хвалю актыўнасці. Гэта сталася заўважным пасля правядзення 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Атаве (3-5 верасня 2016 года), на якой быў зроблены даклад аб дзейнасці БІНІМ, Канада амаль за 50 год існавання.[25] Дзякуючы стараням старшыні БІНІМ, праф. З. Гімпелевіч і сакратара БІНІМ сп. Н. Колас, адразу пасля 32-й Сустрэчы прайшла кампанія па пашырэнню кола сяброў БІНІМу.

[25] З. Гімпелевіч *Гл. спасылку 20.*

Вельмі добрай падзеяй стаў чарговы ўдзел сяброў Інстытута ў працы КФГСН, які праходзіў з 27 па 29 мая 2017 года у Райерсон універсітэце (Таронта). Адметным было тое, што сябры Інстытута, дзякуючы намаганьням і арганізатарскім здольнасьцям праф. З. Гімпелевіч, працавалі ў двух беларускіх секцыях і дадаткова правялі паэтычную сесію за круглым сталом. Упершыню інфармацыя аб канферэнцыі КАС і матэрыялы зробленых дакладаў апублікаваны ў часопісе “Культура. Нацыя”.[26] Заключную працу ў гэты дзень даследчыкі з БІНІМу праводзілі не ў акадэмічнай, а ў эмацыйнай атмасфэры. Сеўшы кругам, яны слухалі вершы і расказы аб творчасці беларускіх паэтаў – Вольгі Іпатавай, Сяргея Панізьніка, П. Мурзёнка, Ю. Шамецькі.

Падчас юбілейнай сесіі, прысвечанай 50-годдзю БІНІМа, у Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры 2 верасня 2017 года ў Таронта, старшыня БІНІМа, праф. З. Гімпелевіч зрабіла вельмі падрабязны аналіз перыядаў развіцця і дзейнасці БІНІМа за 50 год (1967-2017). У рамках сесіі быў праведзены агульны сход БІНІМу, на якім прайшлі выбары Управы БІНІМа на наступны 3-гадовы перыяд і быў дапрацаваны Статут Інстытута. На агульным сходзе старшынёй БІНІМу была перабрана праф. З. Гімпелевіч. У хуткім часе яна падала заяву аб адстаўцы і ў адпаведнасці з аднoўленым Статутам функцыі старшыні Інстытута перайшлі да намесніка старшыні, д-ра Пятра Мурзёнка, які з 9 верасня 2017 года пачаў дзейнічаць у якасці старшыні БІНІМу. Ва Управу БІНІМа, Канада ўваходзяць таксама: Зіна Гімпелевіч (намесьнік), Наталья Колас (сакратар), Валянціна Шаўчэнка (скарбнік), Івонка Сурвіла, Юрась Шамецька, Руслан Качаткоў. Ганаровым прэзідэнтам БІНІМа, Канада на трохгадовы перыяд абраны David Marples, BA, MA, PhD (University of Alberta, Canada).

У інстытуце ўтвораны функцыянальныя групы - акадэмічная, пісьменнікаў і паэтаў, класічнай музыкі і фальклёрнага мастацтва, выяўленчага мастацтва і рамесніцкага майстэрства (падзел сяброў па групах умоўны, некаторыя сябры могуць быць у некалькіх групах). Прадстаўленыя матэрыялы аб сесіі і дзейнасьці БІНІМа, уключна з новым Статутам, былі змешчаны на абноўленым сайце Інстытута www.binim.org, які, дзякуючы стараннням і прафесіяналізму

[26] На ранішнім і вячэрнім паседжаннях свае даклады прадставілі: сп. Юрась Рапецкі “Пратэстантызм на беларускай зямлі”, канд. навук Галіна Туміловіч “ Беларусь ад Вялікага Княства Літоўскага да глабалізацыі: якую спадчыну мы возьмем з сабой?”, праф. Зіна Гімпелевіч “Рыгор Барадулін (1935-2014): Толькі б яўрэі былі! Кніга павагі і сяброўства (2011)”, сп. Івонка Сурвілла (за праф. Марыі Сурвіллы, якая не змагла прыехаць на кангрэс) «Сталасць памяці і фарміраванне ідэнтычнасці: міграцыя і Айчына ў беларускім досведзе”, Наталля Баркар “Актыўнасьць часопісу “Культура, Нацыя” ў 2013-2017 гадах, доктар Пётра Мурзёнак “Усходнеславянская беларуска-украінская цывілізацыя”, канд. навук “Культура. Нацыя”, №18, чэрвень 2017, сс. 35-91.

адміністратара сайта Аляксандра Каралькевіча, значна змяніў свой выгляд і напоўніўся новым зместам.

За кароткі перыяд (2017-2018) сябрамі інстытута апублікаваны 4 кнігі і больш за 30 навуковых артыкулаў, у большасці прысвечаных беларускай тэматыцы. У 2019 г., БІНІМ, Канада фінансава падтрымаў выданне кнігі ў Беларусі "(Не)расстраляная паэзія".

Сярод важных задач для сяброў БІНІМа, апроч вызначаных у Статуце, ёсць папулярызацыя дзейнасьці нашага Інстытута. Адным з добрых падыходаў ёсць выкарыстаньне "лого" і імя БІНІМа на мерапрымствах, якія праводзяць сябры Інстытута – канцэрты, прэзентацыі, лекцыі, і г.д. З непасрэдным удзелам сяброў БІНІМа і фінансавай падтрымкай Інстытута разам з ЗБК ў Атаве арганізавана і з вялікім посьпехам прайшло святкаванне важнай гістарычнай даты ў жыцці беларускага народа – 100-годдзе БНР. Свята прайшло ў будынку Канадыйскага парламента на якім прысутнічала звыш 160 гасьцей. [27]

У рамках святкавання 100-годдзя БНР у Атаве сябрамі БІНІМ была арганізавана выстава кніг, напісаных беларусамі-канадыйцамі. Спіс 38 кніг, якія былі на выставе, апублікаваны ў часопісе "Культура. Нацыя".[28] Пад эгідай БІНІМа прайшла прэзентацыя кнігі вершаў П. Мурзёнка "Колеры" у Атаве (2018).[29] У гэтым годзе архітэктар і мастак сп. П. Шварцман распачаў у Атаве пад эгідай БІНІМ, Канада цыкл лекцый пра сусветную архітэктуру.

У 2017 годзе ў Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры (Таронта) быў створаны тэатр "Сэнс" (рэжысёр і пастаноўшчык В. Шаўчэнка). БІНІМ, Канада разам з іншымі спонсарамі (доктар Р. Качаткоў, Згуртаванне Беларусаў Канады) падтрымаў пастаноўку спектакля "Вуліца Геніюш", прэм'ера якога адбылася 14 красавіка 2018 года ў Таронта.[30] Тэатр на гастролях паказаў спектакль у Атаве (6 красавіка 2019 г.). Спектакль быў своеасаблівым працягам святкавання 100-годдзя

---

[27] Пётра Мурзёнак Святкаванне 100-годдзя БНР у Атаве. "КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ", сакавік 2018, №21, с.7-46.

[28] Спіс кніг, прадстаўленых на выставе ў гонар 100-годдзя БНР. 11 сакавіка 2018 года. Commons Reading Room, Parliament Hill, Ottawa, Canada. "КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ", сакавік 2018, №21, с. 79-91. Кнігі з калекцыі І. Сурвіла і П. Мурзёнка. У арганізацыі выставы і прэзентацыі кніг прымалі ўдзел Ксенія і Аляксандр Каралькевічы, Пётра Мурзёнак.

[29] Пётра Мурзёнак: Паэтычна-музыкальня вечарына ў Атаве 23 верасьня 2018 года http://binim.org/index.php/2018/11/19/murzenak-kolery-20180923/

[30] Спектакль "Вуліца Геніюш". http://binim.org/index.php/2018/04/23/v-geniush/

БНР. В. Шаўчэнка вядома таксама як спявачка, якая дастойна прадстаўляе беларускую культуру на розных міжэтнічных канцэртах і форумах.

Ёсць шэраг момантаў, якія з'яўляюцца базавымі для далейшай дзейнасці Інстытута, гэта - дабрачыннасьць, ахвярнасьць і энтузіазм.[31] І ўсё ж, у любой грамадскай арганізацыі заўжды паўстае праблема з грашовымі сродкамі, якія неабходны для рэалізацыі тых ці іншых праектаў. Добра вядома, што сяброўскіх складак можа быць недастакова, калі праект будзе сур'ёзным. Важным крокам, які, на нашу думку, можа дапамагчы у пошуках спонсараў, мецэнатаў, сродкаў у правінцыйных і федэральных фондах з'яўляецца афіцыйная рэгістрацыя Інстытута, якая адбылася 20 студзеня 2019 года.

Нягледзячы на акадэмічнасьць, якая ўтрымліваецца ў назве Інстытута, і на фармат яго арганізацыі (управа, функцыянальныя групы), БІНІМ ёсьць арганізацыяй валанцёрскай, грамадскай, сутнасць якой заключаецца ў праяўленні той актыўнасці, беларускасці і пачуццяў, якія маюць многія беларусы, у адносінах да беларускай культуры і роднай Беларусі. Відавочна, што валанцёрская праца ў такім інстытуце мае свае абмежаваньні, і не толькі фінансавыя. Адарванасьць ад каранёў і недастатковыя сувязі з радзімай у значнай ступені ўплываюць на наш патэнцыял. Умоўным абмежаваньнем з'яўляецца таксама тое, што многія з сяброў Інстытута ўваходзяць у склад іншых структур і арганізацый. Усведамляючы такую умоўную абмежаванасць, сябры Інстытута тым не менш, як творчыя і ахвярныя людзі, могуць складаць адно цэлае, калі будуць імкнуцца да выкананьня мэтаў, пастаўленых у Статуце БІНІМа. Аднак, гэта не азначае, што дзейнасьць Інстытута адлюстроўваецца ў простай суме актыўнасьцяў, якія кожны з сяброў праяўляе на сваім месцы. Хацелася б верыць, што высілкі, якія робяцца сябрамі БІНІМ, Канада важныя не толькі для іх самарэалізацыі, але і ўнясуць пасільны ўклад у зберажэнне і развіццё беларускай навукі і культуры, як за мяжой, так і на радзіме.

*Аўтары выказваюць шчырую падзяку сп. І. Сурвіла, прэзідэнту Рады БНР з 1997 г., за каментарыі і дапаўненні да артыкула і яе нястомную працу, як даўнішняга сябра БІНІМу.*

*Гэты артыкул быў надрукаваны ў серыйным выданьні "ЗАПІСЫ", гал.рэд. Н.Гардзіенка. Нью-Йорк-Мінск. 2019. Том 41, сс.313-326.*

[31] Пётра Мурзёнак Бачаньне перспектывы БІНІМ на бліжэйшы час. "Культура, Нацыя", снежань 2017, №20, с. 61-66.

**Сябрамі БІНІМу, Канада за перыяд існавання (1967-2019) апублікаваны кнігі:**

1. Кастусь Акула “Гараватка”. Трылогія. Кніга першая: “Дзярлівая птушка”. Выдавецтва “Пагоня”, Таронта, 1965.
2. Кастусь Акула “Гараватка”. Трылогія. Кніга другая: “Закрываўленае сонца”. Выдавецтва “Пагоня”, Таронта, 1974.
3. Кастусь Акула “Гараватка”. Трылогія. Кніга трэцяя: “Беларусы, вас чакае зямля”. Выдавецтва “Пагоня”, Таронта, 1981.
4. Валянціна Пашкевіч “Беларуская мова” ў двух тамах. Пад рэд. А. Адамовіча. Торонто, 1974.
5. Язэп Малецкі “Пад знакам Пагоні”. Выдавецтва “Пагоня”. Таронта, 1976. 201 с.
6. John Sadouski “A History of the Byelorussians in Canada”. Belleville, Ontario. 1981. 148 p. (Ян Садоўскі “Гісторыя беларусаў у Канадзе”. Бельвіль, Антарыё, 1981. 148 с.
7. Раіса Жук-Грышкевіч “Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча”. Таронта, 1993. 797 с.
8. Кастусь Акула “Змагарныя дарогі”. Мінск, “Мастацкая літаратура”, 1994.
9. Пётра Мурзёнак «Быліна мая, Беларусь», Атава, 2000, 32 с.
10. Maria Paula Survilla. Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Constructing the Nation Through Belarusian Contemporary Music. New York: Routledge, USA. 2002, 216с.
11. Вольга Іпатава “Альгердава дзіда”. Мінск, “Беллітфонд”, 2002. 607 с.
12. Yuri Peliushonak “Through the Eyes of a Coackroach”. Ottawa, 2003. 144 p. (Ю. Пелюшонак “Вачамі прусака”. Аттава, 2003. 144 с.)
13. Yuri Peliushonak “Strings for a Beatle Bass”. Ottawa, 2004. 180 p. (Ю. Пелюшонак “Струны для бас-гітары”. Аттава, 2004. 180 с.)
14. Марыя Ганько “Каб сведчылі пра Беларусь”. Мінск, “Кнігазбор”, 2005. 192 с. Укладаньне Вольгі Іпатавай.
15. Ірына Варабей “Там дзе сэрца маё”. Мінск, “Кнігазбор”, 2005. 124 с.
16. Boris (Barys) Ragula. Against the Current. Montreal & Kingston & London [GB]: MQUP, 2005 (English), 185c. (p. 16). Барыс Рагуля “Супраць цячэння”. Манрэаль, 2005. 185 с.
17. Gimpelevich, Z. Vasil Bykaŭ: His Life and Works. Montreal: McGill-Queen’s Press, 2005 (English).
18. Вольга Грыцук “Мы стваралі сваю Беларусь”. Мінск, “Медісонт”, 2007. 256 с. Укладаньне, літапрацоўка Вольгі Іпатавай.
19. Івонка Сурвіла “Дарога. Стоўпцы - Капенгаген – Парыж – Мадрыд –Атава – Менск”. Радыё Свабода, 2008. 144 с.

20. Kastus Akula "Tomorrow is yesterday". Minsk, “Medisont”, 2008. 200p. (Кастусь Акула “Заўтра ёсць учора”. Мінск, “Медысонт”, 2008. 200с. Пераклад на беларускую сп. І. Варабей)
21. Пётр С. Мурзёнак “Над Дзісенкай ракой”. Аттава. 2008. 338с.
22. Зіна Гімпелевіч “ Интеллигент в романах Доктор Живаго и Мастер и Маргарита.” Orange (CT): Antiquary, 1988. Russian, 196с.
23. Зіна Гімпелевіч. Boris Pasternak: What Millennium IS Out There? NY & Ottawa & Toronto: LEGAS, 1990, 163с.
24. Зіна Гімпелевіч Vasil Bykaй. His Life and Works. Montreal & Kingston & London [GB]: MQUP, 2005 (English), 266с.
25. Зіна Гімпелевіч Беларускія яўрэйскія пісьменнікі XX стагоддзя. Канзас: Цэнтр беларускіх даследаванняў, 2010. 257с. Gimpelevich, Z. Belarusian Jewish Writers of the Twentieth Century: Origin, History, and Discourse. Winfield: Southwestern College Academic Press, 2010. (Belarusian/English).
26. Зіна Гімпелевіч. Литературная тетрадь Валентина Кривича. Санкт Петербург: Серебряный век, 2011. (Russian), 326с.
27. Gimpelevich, Z. Vasil Bykaй: Books and Fate. Moscow: NLO, 2011 (Russian), 398с.
28. Joanna Survilla “A huit ans j’aifait laguerre”. New York-Ottawa-Toronto, 2011. 58 p. (Івонка Сурвіла “У восем год я пайшла на вайну”. Н’ю-Ёрк, 2011. 58 с.)
29. Юрась Шамецька “Шлях да вяртання”. Мінск, “Кнігазбор”, 2011. 96 с.
30. Пётра П. Мурзёнак “Крыніца”. Вершы. Выдавец Зміцер Колас. Мінск, 2011. 144 с.
31. Пётра П. Мурзёнак “Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам”. Аттава, 2012. 314 с.
32. Пётр С. Мурзёнак “Адвечныя плыні”. Мінск, “Кнігазбор”, 2015. 240 с.
33. Юрась Шамецька “Атава”. Вершы. Мінск, “Кнігазбор”, 2015. 128 с.
34. Пётра П. Мурзёнак “Шляхі да беларускай нацыі”. Мінск, “Кнігазбор”, 2016. 344 с.
35. Пётра П. Мурзёнак “Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу”. Мінск “Кнігазбор”, 2017. 96 с.
36. Сяргей Панізьнік “Аблíччы сустрэчаў”. Мінск, “Медысонт”, 2017. 144 с.
37. Сяргей Панізьнік “Выбранае”. Мінск, “Тэхналогія”. 2017. 215 с.
38. Івонка Сурвіла “Дарога. Стоўпцы - Капенгаген – Парыж – Мадрыд –Атава – Менск”. Радыё Свабода, 2018. 163 с. (перавыданне).
39. Gimpelevich, Z. The Portrayal of Jews in Modern Biełarusian literature. McGill-Queen University Press. 2018, 500 pp.
40. Пётра Мурзёнак “Колеры” (вершы). Кнігазбор. Мінск, 2018, 188 с.
41. Юрась Шамецька “Непрадказальнае” (вершы). Кнігазбор. 2019, 116 с.

**Piotra Murzionak, Zina Gimpelevich: Belarusian Institute of Science and Art, Canada in 1967-2019**

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 25, April 2020, pp.32-46, www.sakavik.net)***

The activities of the Institute (BINIM, Canada) are highlighted in the early period, in 1986-2016, and in the current period (since 2017). The article includes: the history of the BINIM, Canada; the participation of the members of the Institute in many forums where presentations of Belarusian issues were discussed, the collaboration with scientists from other countries who study Belarusian topics, organization of exhibitions. The list of 41 books published by the Institute members is presented in the end of article.

**Пётра Мурзёнак, Зина Гимпелевич Белорусский институт науки и искусства, Канада, 1967–2019**

***(интернет-журнал «Культура. Нация», выпуск 25, апрель 2020, с.32-46, www.sakavik.net)***

Деятельность Института (БИНИМ, Канада) освещается в раннем периоде, в 1986–2016 гг. и в текущем периоде (с 2017 года). Статья включает в себя: историю БИНИМ, Канада; участие членов института во многих форумах, на которых были представлены беларусские доклады, сотрудничество с учеными из других стран, которые изучают беларусскую тематику, организация выставок. В конце статьи представлен список из 41 книги, опубликованных сотрудниками института.

**Кацярына Музычэнка, Ларыса Скрыпко, Ігар Пракаповіч: Арганная культура Пастаўскага краю**

Культура Беларусі багатая і шматаблічная ў розных сваіх праявах. Наша краіна мае грунтоўныя традыцыі і змястоўную спадчыну ў архітэктуры, літаратуры, фальклоры, народным мастацтве, танцах, адзенні і іншых напрамках. Адным з важных накірункаў развіцця культуры з'яўляецца музыка і звязаныя з ёй музычныя інструменты, выканальніцкае майстэрства, музычныя фестывалі, конкурсы. У гэтым шэрагу адметнае месца займаюць арганы і арганная культура. "Кароль музычных інструментаў" – менавіта так называюць за велізарныя памеры, надзвычайны дыяпазон гучання і ўнікальнае багацце тэмбраў духавы арган. Музычны інструмент са шматвяковай гісторыяй, які перажыў перыяды шырокай папулярнасці і забыцця, служыў як для рэлігійных службаў, так і для свецкіх забаў. Унікальны арган і тым, што адносіцца ён да класу духавых інструментаў, але пры гэтым абсталяваны клавішамі. Асаблівасцю з'яўляецца і тое, што для ігры на ім выканаўца павінен віртуозна валодаць не толькі рукамі, але і нагамі.

На тэрыторыі Пастаўскага раёна ёсць арганы, якія выкарыстоўваюцца ў касцёльных службах каталіцкіх храмаў у Паставах, Лынтупах, Камаях, Лучаі, Дунілавічах, Варапаеве, Казлоўшчыне і Барэйках. Штогод увосень на Пастаўшчыне ладзяцца арганныя фестывалі. Аднак да цяперашняга часу арганы як музычныя інструменты ў нашым краі не вывучаліся, іх гісторыя не даследавалася, папулярызацыяй арганнай культуры амаль ніхто не займаўся. Так званыя фестывалі не маюць добрай рэкламы, бо праграмы звычайна абмяжоўваюцца выступленнямі 1-2 выканаўцаў. І гэта з'яўляецца значнай рэгіянальнай праблемай. Яе актуальнасць вызначаецца неабходнасцю пашырэння музычнай культуры сярод насельніцтва, улічваючы, што арганныя фестывалі плануецца ладзіць і надалей з магчымым пашырэннем іх статусу да рэспубліканскіх і, магчыма, міжнародных. Такая сітуацыя падштурхнула нас да збору грунтоўных звестак пра мясцовыя арганы і арганістаў і да рэалізацыі шэрагу праектаў, якія магчыма паспрыяюць папулярызацыі арганнай культуры сярод мясцовага насельніцтва і турыстаў.

**I. Агульныя звесткі пра арганы**

Ўвогуле пра арганную культуру існуе даволі многа звестак, а вось канкрэтна пра наш край іх вельмі мала. Аналізаваліся выданні са збораў Пастаўскай раённай бібліятэкі, Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі, бібліятэкі Пастаўскай гімназіі. Гэта былі як агульнабеларускія энцыклапедыі і даведнікі, так і мясцовыя краязнаўчыя брашуры, кнігі, артыкулы ў перыядычным друку. Найбольшую інфармацыю пра арганы ў касцёлах Пастаўшчыны ўтрымлівае энцыклапедычнае выданне “Арганы Беларусі” (Мінск: Выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, 2018), аднак у ім на кожны касцёл адводзіцца толькі адзін разварот кнігі, на якім змяшчаецца шэраг фатаздымкаў, кароткая інфармацыя пра храм і арган (усяго па адным-два абзацы). Грунтоўная праца “Арганы Беларусі” змяшчае фотакаталог 123 арганаў (і будынкаў, дзе знаходзяцца), звесткі пра іх тэхнічныя характарыстыкі і стан, з’яўленне, арганнае будаўніцтва і распаўсюджанне на тэрыторыі ў межах сучаснай дзяржавы, арганных майстроў, арганнае мастацтва, арганістаў і выканальніцтва. Падаюцца картаграфічныя матэрыялы, кружэлка з запісамі “галасоў” дзевяці арганаў краіны (у тым ліку 200-гадовага інструмента ў в. Камаі на Пастаўшчыне) у выкананні беларускіх і замежных музыкаў. Мовы выдання – беларуская і англійская, наклад 700 асобнікаў. У іншых друкаваных крыніцах матэрыялаў яшчэ менш. Асобныя, часта дублючыя звесткі, удалося выявіць у кнігах “Памяць. Пастаўскі раён” (2001) (артыкулы аўтарства А. М. Кулагіна), “Каталіцкія храмы Беларусі” (2008) (таго ж аўтара), “Лучай. Гісторыя маёнтка, мястэчка і вёскі 1542–1998” (2004, самвыдат) (аўтар – Іосіф Зямчонак), “Лынтупы і наваколле. Гістарычны нарыс” (1993), (аўтар – Іосіф Быхавец).

З арганістаў толькі пра Браніслава Руткоўскага маюцца даволі грунтоўныя матэрыялы, бо даследаваннем яго творчасці займаўся вядомы краязнаўца Ян Драўніцкі, які напісаў кнігу “Прафесар музыкі з Камай”. Шэраг матэрыялаў пра арганныя фестывалі на Пастаўшчыне сабраны з публікацый у раённай газеце “Пастаўскі край” за 2013-2018 гады. Аналіз выяўленых звестак пра арганную культуру ў нашым краі паказаў, што яе вывучэннем мэтанакіравана ніхто яшчэ не займаўся.

**Арган** (лац. organum) – самы вялікі клавішны духавы музычны інструмент, які гучыць пры дапамозе труб (металічных, драўляных, без язычкоў і з язычкамі) розных тэмбраў, у якія з дапамогай мяхоў нагнятаецца паветра. Ігра на аргане ажыўляецца пры дапамозе некалькіх клавіятур для рук (мануалаў) і педальнай клавіятуры. Па гукавым дыяпазоне і багацці музычных сродкаў арган займае

першае месца сярод усіх інструментаў і часам называецца "каралём музычных інструментаў". З прычыны сваёй выразнасці і моцы ўздзеяння на духоўны стан чалавека, ён даўно стаў здабыткам цэркваў і касцёлаў.

**Гісторыя аргана**. Зародак аргана можна бачыць у флейце Пана, а таксама ў дудзе. Лічыцца, што арган (гідравлос; таксама hydraulikon, hydraulis — "водны арган")

вынайшаў грэк Ктэзібій, які жыў у Александрыі Егіпецкай у 296-228 гг. да н.э. Малюнак падобнага інструмента маецца на адной манеце або жэтоне часоў імператара Нерона. Арганы вялікіх памераў з'явіліся ў IV стагоддзі, больш ці менш удасканаленыя арганы – у VII і VIII стагоддзях. Папа Віталіян (666 год) увёў арган у каталіцкую царкву. У VIII стагоддзі Візантыя славілася сваімі арганамі. Мастацтва будаваць арганы з'явілася ў Італіі, адкуль у IX стагоддзі яно перайшло на Францыю, а пазней і на Германію. Найбольшае распаўсюджванне арган пачаў атрымліваць у XIV стагоддзі, тады ж у інструменце з'явілася педаль і клавіятура для ног. Сярэдневяковыя арганы, у параўнанні з больш познімі, былі грубай працы; ручная клавіятура, напрыклад, складалася з клавіш шырынёй ад 5 да 7 см, адлегласць паміж клавішамі дасягала паўтара см. На клавішы не націскалі, як цяпер, а білі па іх кулакамі. У XV стагоддзі былі зменшаны клавішы і павялічана колькасць труб.

**Прылады аргана.** Удасканаленыя арганы дасягнулі вялікай колькасці труб і трубак; напрыклад, арган у Парыжы ў царкве St. Sulpice мае 7 тысяч труб і трубак. У аргане бываюць трубы і трубкі наступных велічын: у 1 фут ноты гучаць трыма актавамі вышэй пісаных, у 2 футы — ноты гучаць двума актавамі вышэй пісаных, у 4 футы — ноты гучаць актавай вышэй пісаных, у 8 футаў — ноты гучаць як пішуцца, у 16 футаў — ноты гучаць актавай ніжэй пісаных, у 32 футы — ноты гучаць двума актавамі ніжэй пісаных. Закрыццё трубы зверху прыводзіць да паніжэння гукаў на актаву. Не ўсе арганы маюць трубы вялікіх памераў. Клавіятур у аргане бывае ад 1 да 7 (звычайна 2-4); называюцца яны мануаламі. Хоць кожная клавіятура аргана мае аб'ём у 4-5 актаў, з прычыны таго, што маюцца трубы, якія гучаць на дзве актавы ніжэй або на тры актавы вышэй пісаных нот, аб'ём вялікага аргана мае 9,5 актаў. Кожны набор труб аднолькавага тэмбру складае як бы асобны інструмент і называецца рэгістрам. Кожная кнопка, або рэгістр, мае сваю назву і адпаведны надпіс з пазначэннем даўжыні самай вялікай трубы гэтага рэгістра. Назву рэгістру і велічыню труб кампазітар можа пазначыць у нотах над тым месцам, дзе дадзены рэгістр павінен быць ужыты. Рэгістраў у арганах бывае ад 2 да 300 (часцей за ўсё сустракаецца ад 8 да 60).

Усе рэгістры падзяляюцца на дзве катэгорыі: 1. Рэгістры з трубамі без язычкоў (лабіяльныя рэгістры). Да гэтай катэгорыі належаць рэгістры адкрытых флейт, рэгістры закрытых флейт (bourdons), рэгістры прыгукаў (мікстуры), у якіх кожная нота мае некалькі (больш слабых) гарманічных прыгукаў; 2. Рэгістры, у якіх трубы з язычкамі (язычковыя рэгістры). Злучэнне рэгістраў абедзвюх катэгорый разам з мікстурай называецца plein jeu. Клавіятуры, або мануалы, размешчаны ў арганах тэрасай, адзін над другім. Акрамя іх, існуе яшчэ педальная клавіятура (ад 5 да 32 клавіш), пераважна для нізкіх гукаў. Партыя для рук пішацца на двух нотаносцах – у ключах і як для фартэпіяна. На клавіятуры педаляў, званай проста “педаль”, граюць абедзвюма нагамі, карыстаючыся напераменку абцасам і наском (да XIX стагоддзя – толькі наском). Арган без педалі называецца пазітыў, маленькі пераносны арган – партатыў. Копула – механізм, з дапамогай якога звязваюцца дзве клавіятуры, пры чым вылучаныя на іх рэгістры дзейнічаюць адначасова. Копула дае магчымасць граць на адным мануале, карыстацца высунутымі рэгістрамі другога. Ёсць 4 падножкі над клавіятурай педаляў (Pedale de combinaison, Tritte), з якіх кожная дзейнічае на вядомую пэўную камбінацыю рэгістраў. Жалюзі – прыбор, які складаецца з дзверцаў, якія зачыняюць і адчыняюць аб’ём з трубамі розных рэгістраў, з прычыны чаго адбываецца ўзмацненне або паслабленне гучання. Дзверцы прыводзяцца ў рух падножкай (швелерам).

**Кампазітары**, якія пісалі арганную музыку: Іаган Себасцьян Бах, Іаган Адам Рейнкен, Іагана Пахельбель, Дзітрых Букстэхудэ, Джыралама Фрэскабальдзі, Іаган Якаб Фробергер, Георг Фрыдрых Гендэль, Зігфрыд Карго-Элерт, Макс Регер, Вінцэнт Любек, Іаган Людвіг Крэбс, Маціяс Векман, Сезар Франк.

## II. Арганы Пастаўшчыны

АРГАНЫ КАСЦЁЛА СВЯТОГА АНТОНІЯ ПАДУАНСКАГА І БЕЗЗАГАННАГА ЗАЧАЦЦЯ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ МАРЫІ ПАННЫ Ў ПАСТАВАХ. Першыя ўскосныя звесткі пра арган у Паставах датуюцца 1686 годам. Вядома, што ў гады Першай сусветнай вайны падчас артылерыйскага абстрэлу арган касцёла быў знішчаны. Верагодна, гэта быў арган віленскай фабрыкі Вацлава Бярнацкага, бо ў сваім каталогу прац майстар называе і арган у Паставах, але там не пазначаны год стварэння інструмента. У пачатку 1990-х гадоў літоўскімі майстрамі быў збудаваны сучасны арган. Для яго прыстасавана кафедра электрааргана. З 2013 года Пастаўскі касцёл з'яўляецца цэнтральнай пляцоўкай штогадовага фестывалю "Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны".

Таксама ў музеі пры касцёле захаваўся партатыўны арган, зроблены ў Парыжы (Францыя) ў 1899 годзе. Яго абследаванне праводзілася аўтарамі работы ў снежні 2018 года. Было вызначана, што ён мае шырыню 50 см, вышыню 88 см, даўжыню 150 см. Інструмент складаецца з аднаго мануала, у якім размешчана 36 белых і 25 чорных клавіш. Маецца падстаўка для нот. У тыльнай частцы аргана знаходзяцца мяхі, пры дапамозе якіх ён гучыць. З правага боку аргана захавалася арыгінальная французская ручка. Пульт аргана складаецца з дынамічных перамыкачоў – швелера, самых розных нажных перамыкачоў і клавіш ўключэння копул, якія пераносяць рэгістры аднаго мануалу на другі. Таксама ўдалося высветліць, што гэты арган патрапіў у музей з вёскі Свініца, што знаходзіцца ва ўсходняй частцы Пастаўшчыны каля Варапаева. Захоўваўся ён у хлеве аднаго з мясцовых жыхароў. З якога касцёлу гэты арган пакуль што невядома. Магчыма, з храма ў вёсцы Барэйкі, які быў узведзены там у 1935-36 гадах з дрэва, а ў 1950 годзе разабраны і перавезены ў Варапаева на клуб. Мясцовыя жыхары каштоўныя рэчы з касцёла разабралі па хатах.

АРГАН КАСЦЁЛА СВЯТОГА ЯНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ Ў КАМАЯХ. Арган быў усталяваны ў 1906 годзе майстрам Войцехам Гадко да 300-годдзя заснавання касцёла. Гэта самы ранні, адзіны ў Беларусі, арган гэтага майстра, які цалкам захаваўся і функцыянуе. Каля клавіятуры інструмента ёсць невялічкая шыльда, на якой засведчана аўтарства стваральніка. Сярод іншых інструментаў вылучаецца кампактнасцю будовы вялікі мех, абкружаны з трох бакоў абстрактамі, змешчаны на першым паверсе пад віндладай, трубы знаходзяцца на другім паверсе. У мех паветра напампоўваецца электрычным кампрэсарам. Электрарухавік аргана быў прывезены з Германіі і зроблены спецыяльна пад гэты арган. Калі адсутнічае электраэнергія, то паветра можа падавацца механічным спосабам: у правай бакавіне аргана існуюць спецыяльныя педалі для ног, з дапамогай якіх чалавек (звычайна, мужчына) можа наганяць паветра ў мех. Ступень напаўнення аб’ёма паказвае драўляны язычок.  Арган складаецца з 800 труб. Таксама ёсць педаль, з дапамогай якой можна пераключаць рэгістры. Вядома, што ў савецкія часы ўлады хацелі канфіскаваць арган на карысць нейкай дзяржаўнай установы. Шкадуючы інструмент, ксёндз Андрей Булька перад прыездам камісіі выдаліў з аргана некаторыя трубы. У такім стане яго забіраць не сталі. У 2005 г. інструмент быў адрамантаваны польскімі майстрамі, якія замянілі стары рэгістр Mikstura 2’3 chóry на рэгістр меншай футавасці. У 2013 г. гістарычны рэгістр Mikstura 2’3 chóry быў адноўлены. Гэта рэдкі ў Беларусі выпадак, калі вернікі не толькі адрамантавалі арган, але і фінансавалі працу па вяртанні інструмента да першапачатковага стану. Цікавыя звесткі: 1. Пры пабудове альбо рамонце арганаў для герметызацыі часта выкарыстоўваецца папера. Так, у камайскім органе для герметызацыі крышкі віндлады скарысталі газету 1904 г., на якой можна прачытаць тэрміновае паведамленне пра пачатак высадкі японскіх войск каля Порт-Артура для яго аблогі.

2. Арган пабудаваны з выяўным жаданнем пакінуць як мага больш месца для хору, пры гэтым інструмент павінен быў мець максімальную колькасць рэгістраў. Гэта прывяло да сціснутасці прасторы ўнутры аргана, што вельмі ўскладніла яго абслугоўванне.

АРГАН КАСЦЁЛА СВЯТОГА АПОСТАЛА АНДРЭЯ Ў ЛЫНТУПАХ. Першы касцёл у Лынтупах быў пабудаваны ў 1459 годзе ўласнікам мястэчка Андрэеем Даўгірдовічам. У храме быў арган на дзесяць галасоў і тры званы. На могілках стаяла драўляная капліца з абразам Маці Божай, алтаром, хорам і арганам на дзевяць галасоў, якую пабудавалі ў 1875 годзе. Сучасны касцёл узведзены ў 1908-1914 гадах з фундацыі ўласніка Лынтупаў Юрыя Бішэўскага. Лынтупскі арган пнеўматычны, складаецца з мноства труб. Трубы маюцца як металічныя, так і драўляныя. Чым таўсцей труба, тым ніжэй і гучней гук. Усе рэгістры гучаць з дапамогай паветра. Маюцца 3 мануалы (1 нажны і 2 ручныя). Справа на кафедры раней змяшчаўся гадзіннік (цяпер няма). Інструмент добра захаваўся, мае першапачатковы выгляд, але працуе толькі часткова. У Віцебскай вобласці гэта другі (пасля Слабодкі) па колькасці рэгістраў гістарычны арган. Цікавыя факты: 1. На кафедры адсутнічае шыльда з назвай фабрыкі, але ўнутры шафы захаваўся надпіс «Lyntupy W.B.» («Лынтупы В.Б.») — пазнака фабрыкі В.Бярнацкага. 2. Унутры шафы захаваўся наклееены на корпус талон польской чыгункі, які сведчыць аб перавозцы інструмента па маршруце Вільня— Лынтупы.

АРГАН КАСЦЁЛА СВЯТОГА АПОСТАЛА ЮДЫ ТАДЭВУША Ў ЛУЧАІ. У акце візітацыі касцёла 1779 года занатаваны 5-рэгістравы пазітыў. У 1811 годзе новы ўладальнік Лучая Антон Ванькові́ч фундаваў арган на 12 рэгістраў з эфектамі Zymbelstern і Tympani, які часткова захаваўся да нашых дзён. Вядома, што ў 1834 годзе інструмент быў значна пашкоджаны пажарам і ў 1834-1870 гадах у касцёле выкарыстоўваўся 4-рэгістравы пазітыў. У1871-1873 гг. і ў 1906 г. арган быў грунтоўна адрамантаваны. Інструмент мае вялікую прыгожую арганную шафу 1811 года з класіцыстычнымі рысамі. У аздабленні праспекта гарманічна спалучаюцца драўляная разьба і манахромны аб’ёмны роспіс. Дзве віндлады адпавядаюць тонавым паслядоўнасцям ад C і Cis. У савецкі час, калі касцёл быў закрыты і ператвораны ў склад, арган быў пашкоджаны (верагодна, у гэты час зніклі трубы). У 1990-я гады літоўскія майстры адрамантавалі аўтэнтычныя механічныя часткі інструмента і паставілі ў арган 6 новых рэгістраў. Частка драўляных труб была ўзята з невядомых гістарычных інструментаў, але большасць іх былі самаробнымі. У 2013 годзе частка труб дыскантовага дыяпазону рэгістраў Principal 8' і Octava 4' была заменена на трубы з арганнага металу, зняты і вывезены штокі 5 рэгістраў і рэгістравая ручка рэгістра Jula 8‘. Лучайскі арган – адзіны барочны арган у Віцебскай вобласці. Зараз арган суправаджае службы і ў касцёле ладзяцца канцэрты для турыстаў. Большасць труб, пастаўленых у 1990-я гг., былі

самаробнымі. На некоторых трубах рэгістра Ociava 4' можно было прачытаць надпіс “Сельдь специального посола”, бо яны былі зроблены з металу кансервавай бляшанкі.

АРГАН КАСЦЁЛА НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОІЦЫ Ў ДУНІЛАВІЧАХ. Першыя звесткі пра Дунілавічы сягаюць у далёкі 1473 год. Здаўна ў Троіцкім касцёле службы таксама ішлі ў музычным суправаджэнні. Звестак з апісаннямі арганаў выявіць пакуль што не ўдалося, але ёсць ускосныя матэрялы, якія пацвярджаюць наяўнасць у храме гэтага інструмента. У працы Яна Ходзькі Барэйкі “Diecezja Mińska około 1830 roku” даецца кароткае апісанне парафіяльнай школы, якая дзейнічала пры касцёле зімовай парой. Ён паведамляе, што заняткі з вучнямі праводзіць арганіст, за што яму надалі агарод і паўвалокі зямлі. Маецца і асобны дом для арганіста, у якім гэтыя заняткі адбываюцца. Гістарычныя арганы не захаваліся, а новы арган усталяваны ў 1998 годзе і зроблены па фундацыі С.Мядзёлкі. На цяперашні час арган патрабуе рамонту.

АРГАН КАСЦЁЛА СВЯТОГА МІХАІЛА АРХАНЁЛА Ў ВАРАПАЕВЕ. Першая каталіцкая святыня з’явілася ў Варапаеве ў 20-я гады XX стагоддзя, калі тут асвяцілі капліцу. У 1932 годзе быў узведзены першы драўляны касцёл пад тытулам св.Архانёла Міхаіла, які перавезлі сюды з Дунілавічаў. У міжваенны час службы ў храме аздабляліся музычным суправаджэннем. Адпаведны настрой ствараў арганіст, які выконваў творы на фісгармоніі. Гэты музычны інструмент быў выраблены ў 1899 годзе ў французскім Парыжы, гучаў пад сутарэннямі Варапаеўскага касцела, а пасля яго закрыцця апынуўся ў хляве пад сенам у вёсцы Свініца. І толькі ў 2006 годзе ён быў перададзены ксяндзу пробашчу з Паставаў Анджэю Возьняку для касцёльнага музея пры пастаўскім касцёле. Цяпер абавязкі арганіста выконвае сястра законная Таццяна Данч з Глыбокага. У 2018 годзе ў пастаўскай друкарні выдадзена кніга Аліны Латыш “Свяціся імя тваё…”, у якой аснове літаратурных крыніц і вялікага мясцовага матэрыялу, які складаюць успаміны жыхароў, запісаныя асабіста аўтарам, распавядаецца пра гісторыю касцёла ў Варапаеве.

АРГАНЫ КАПЛІЦЫ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПЯТРА Ў КАЗЛОЎШЧЫНЕ. Капліца была пабудавана ў 1843 годзе з бутавага каменю. Яна мае прамавугольную форму, перакрыта двухсхільным дахам. У капліцы над уваходам маюцца хоры з выступам для размяшчэння невялікага аргана або фісгармоніі. Па словах мясцовых жыхароў, раней падчас службы тут выкарыстоўваўся невялікі арган, які вывезлі ў Мосарскі касцёл. У капліцы меліся ўсталяваць другі арган. Яго прывезлі ў Казлоўшчыну з Польшчы і цяпер ён захоўваецца ў плябаніі. Паколькі ксяндза, які раней тут пастаянна жыў, перавялі служыць у Лепель, то і арганам ніхто не займаецца.

АРГАН БАРЭЙКАЎСКАГА КАСЦЁЛА. Касцёл у вёсцы Барэйкі быў пабудаваны ў 1935-36 гадах з дрэва. Разабраны ў 1950 годзе, перавезены ў Варапаева на клуб. Засталіся толькі муры. Мясцовыя жыхары каштоўныя рэчы з касцёла разабралі па хатах. На месцы храма па ініцыятыве ксяндза Мосарскага касцёла Ю. Булькі ў 2007 годзе ўзведзена каталіцкая каплічка. Паводле гістарычных крыніц, недалёка ад храма жыла шляхцянка Пашкевіч, якая на свае грошы купіла для касцёла арган. Лёс гэтага інструмента невядомы.

**Арганісты Пастаўшчыны**

**Браніслаў Руткоўскі** (27.02.1898-01.06.1964), сусветна вядомы арганіст, дырыжор і кампазітар, музычны крытык, педагог і публіцыст. Нарадзіўся і дзіцячыя гады правёў у вёсцы Камаі (цяпер Пастаўскі раён). Музычную адукацыю атрымаў у С.Пецярбургу. Затым вывучаў паланістыку ў Віленскім універсітэце. У Варшаўскай кансерваторыі быў вучнем М.Сушчынскага. Працягнуў навучанне ў Сарбоне (Парыж), а таксама ў «L. Viene' a Schola Cantorum» (Францыя). У якасці добраахвотніка прымаў удзел у польска-савецкай вайне (1919-1921). За праяўленую адвагу быў узнагароджаны крыжам "Virtuti Militari" пятага класа (1921 г.). У міжваенны перыяд заняўся педагагічнай дзейнасцю. Выступаў з канцэртамі ў Польшчы, Венгрыі, Аўстрыі і іншых еўрапейскіх краінах. Б. Руткоўскі з'яўляецца заснавальнікам і першым старшынёй "польскага грамадства аматараў старадаўняй музыкі". Будучы гарачым прапагандыстам айчыннай музыкі, ён заснаваў "Выдавецкае таварыства польскай музыкі". На працягу шэрагу гадоў выконваў функцыі арганіста Архікатэдры Св. Яна ў Варшаве. Яго вучнямі былі такія сусветна вядомыя музыкі як Й.Грубіх, Г.Мрыка, Ю.Серафін. З'яўляючыся выдатным, віртуозным арганістам, атрымаў мянушку "польскага Альберта Швейцера". Да сённяшняга дня ён лічыцца бясспрэчным "бацькам" сучаснай польскай арганістыкі. Будучы выдатна адукаваным і ўсебакова таленавітым чалавекам, Б.Руткоўскі таксама захапляўся публіцыстыкай. Пісаў артыкулы пра музыку. Быў галоўным рэдактарам часопіса «Ruch muzyczny», аўтарам вялікай колькасці радыёперадач, прысвечаных музыцы. За заслугі ў галіне культуры Б. Руткоўскі быў адзначаны Камандорскім крыжам ордэна Адраджэння Польшчы (1958) і шэрагам іншых узнагарод.

**Даўжук Алена**, арганістка Камайскага касцёла. Нарадзілася ў 1968 годзе ў вёсцы Ёдаўцы Пастаўскага раёна. Скончыла 8 класаў Караліноўскай школы і яшчэ два гады правучылася ў Камайскай сярэдняй. Да таго, як стаць арганісткай, яна спявала ў мясцовым ансамблі, пасля чаго вырашыла пайсці ў Віцебскае вучылішча, дзе адвучылася 2 гады і 3 месяцы. Пазней працавала ў клубе, а затым у дзіцячым садку, дзе была выхавальніцай, а пазней – настаўніцай музыкі. Дзякуючы кс. Чэславу,

Алена прыняла сакрамэнт хросту і стала хадзіць у касцельны хор, а калі з Камаяў з'ехала арганістка, пачала іграць на аргане. Цяпер яна іграе на службах, спявае, сама піша песні. Ужо вышлі тры дыскі з яе песнямі і выкананнем.

**Тамашэвіч Наталля**, арганістка Лынтупскага касцёлу. Нарадзілася 21 студзеня 1976 года ў Лынтупах. Скончыла Лынтупскую музычную школу. Працуе ў музычнай школе. Наталля навучылася іграць на аргане самастойна. Сівіцкая Ядвіга, арганістка касцёла святога Антонія Падуанскага ў Паставах. Нарадзілася 23 мая 1960 года ў горадзе Паставы. Пасля заканчэння СШ № 1 паступіла ў Лідскае музычнае вучылішча па класе акардэона. Працавала ў Іў'еўскай дзіцячай музычнай школе, вучылася завочна ў Мінскім педагагічным інстытуце па спецыяльнасці "настаўнік музыкі". З 1990 года – арганістка ў Пастаўскім касцёле. Першыя ўрокі ігры на арганах атрымала ад ксяндза Яна Шуткевіча, які ў свой час закончыў Маскоўскую кансерваторыю. У 1991-2004 гадах працавала з дзіцячым хорам "Ветразь".

**Ірына Чадаева**, арганістка касцёла Святога Антонія Падуанскага ў Паставах. Нарадзілася 24 снежня 1965 года ў горадзе Браславе. Пасля 10-га класа паступіла ў Маладзечанскае музычнае вучылішча, якое скончыла ў 1987 годзе і размеркавалася ў Пастаўскую музычную школу. Адпрацаваўшы год, выйшла замуж за вайскоўца і праз некаторы час пераехала з ім у Забайкалле на новае месца службы. Пасля вяртання на радзіму, працуючы выкладчыцай Пастаўскай музычнай школы, у 1998 годзе паступіла на музычны факультэт Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта (завочна), які закончыла ў 2002 годзе, атрымаўшы спецыяльнасць "настаўнік музыкі і спеваў". З 1998 года пачала іграць на аргане падчас службаў у Пастаўскім касцёле. У якасці арганісткі ўдзельнічала яна ў службах, якія праводзілі кардынал Казімір Свёнтак, нунцый Папы Рымскага і іншыя высокія іерархі касцёла. Акрамя гэтага, І.Чадаева была арганізатарам і кіраўніком касцельных хораў у Паставах, Дунілавічах, Варапаеве.

**Таццяна Данч**, арганістка Варапаеўскага касцёла святога Міхаіла Архангела. Нарадзілася ў горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці. У 24 гады, вырашыла стаць манашкай. У Варшаве прайшла законную фармацыю, а потым пяць гадоў вучылася ў інстытуце навучання арганістаў у Варшаве. З кастрычніка 2017 года служыць арганісткай у Варапаеўскім касцёле. У храме іграе падчас службаў, вельмі любіць творы Баха і Моцарта.

**Вольга Кватэрчук** нарадзілася ў горадзе Паставы ў 1974 годзе. Атрымала музычную адукацыю ў Наваполацкім музычным вучылішчы па спецыяльнасці фартэпіяна з прысваеннем кваліфікацыі: выкладчык, канцэртмайстар, артыст ансамбля. Працавала ў Лепелі. Пасля вяртання ў Паставы працавала ў адукацыйных установах горада музычным кіраўніком, канцэртмайстрам,

настаўнікам музыкі, завочна вучылася ў Віцебскім педуніверсітэце, магістратуры на спецыялізацыі "Музычнае мастацтва". З 2003 года з'яўляецца арганісткай Пастаўскага касцёла Св. Антонія Падуанскага.

**Арганныя фестывалі на Пастаўшчыне**

АРГАННЫ ФЕСТЫВАЛЬ 2013 ГОДА. Адкрыццё канцэрта арганнай музыкі адбылося ў касцёле Святога Антонія Падуанскага. Высокі творчы ўзровень музычнага свята забяспечылі вядомыя выканаўцы: народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ігар Алоўнікаў, а таксама лаўрэаты міжнародных конкурсаў: салістка Полацкай канцэртнай залы “Сафійскі сабор” Ксенія Пагарэлая, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі Канстанцін Шараў, выкладчыца Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Кацярына Нікалаева і вядомы трубач Валерый Кетрыс. Прысутныя ў пастаўскім касцёле першым віталі апладысментамі дуэт у складзе арганісткі Кацярыны Нікалаевай і нашага земляка, трубача Валерыя Кетрыса. У пастаўскай дзіцячай школе мастацтваў Валерый вучыўся ў класе настаўніка Віктара Жука. Пасля закончыў музычныя каледж і акадэмію і цяпер іграе ў ваенным аркестры.

АРГАННЫ ФЕСТЫВАЛЬ 2015 ГОДА. Вольга Падгайская, выкладчыца Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, таленавітая арганістка, і Віталій Дарашук, лаўрэат міжнародных конкурсаў, саксафаніст— адкрылі ў гэты дзень фестывальную праграму ў Паставах. На працягу гадзіны ў іх выкананні гучалі творы кампазітараў арганнай музыкі розных часоў. У нядзелю жыхары раёна таксама мелі магчымасць прыйсці паслухаць цудоўную арганную музыку. Раніцай адбыліся канцэрты ў касцёлах Святога Іаана Хрысціцеля ў Камаях і Святога Тадэвуша ў Лучаі, а днём у Паставах. У гэты дзень перад слухачамі выступілі арганіст Мінскага касцёла Найсвяцейшай Тройцы, журналіст Беларускага радыё Віктар Кісцень, салістка ансамбля “Камерныя салісты Мінска”, скрыпачка Кацярына Архіпава і салюты Белдзяржфілармоніі Канстанцін Шараў (арган) і Тамара Рэмез (вакал). Вяла канцэрты дыктар Беларускага радыё Маргарыта Захарыя.

АРГАННЫ ФЕСТЫВАЛЬ 2016 ГОДА. Адкрылі канцэрт арганнай музыкі пастаянная вядучая, дыктар замежнай рэдакцыі “Радыё Беларусь” Маргарыта Захарыя, журналістка- ментатар Беларускага радыё, арганіст касцёла Святога Роха

ў Мінску Віктар Кісцень і салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Тамара Рэмез. Яны прадставілі пастаўчанам і гасцям горада літаратурна-музычную кампазіцыю "Авэ Марыя", складзеную з твораў Франца Шуберта, Іагана Себасцьяна Баха, Вольфганга Амадэя Моцарта, Станіслава Манюшкі, Нуну Габунія і іншых айчынных і замежных кампазітараў мінулых стагоддзяў. На наступны дзень арган спяваў пад рукамі ўжо іншых праслаўленых артыстаў — лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, выкладчыцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Вольгі Падгайскай і саліста Белдзяржфілармоніі Канстанціна Шарава, якія выканалі творы Георга Фрыдрыха Гендэля, Джавані Пергалезі, Бенджаміна Брытэна, Алясандра Марчэла, іншых кампазітараў-арганістаў.

АРГАННЫ ФЕСТЫВАЛЬ 2017 ГОДА. У рамках музычнага свята канцэрты класічнай музыкі адбыліся ў Паставах і Камаях. У ім прымалі ўдзел сапраўдныя прафесіяналы, лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Тамара Рэмез (сапрана), акампаніраваў ёй арганіст мінскага касцёла Найсвяцейшай Тройцы, журналіст Беларускага радыё Віктар Кісцень, а на трубе іграў Аляксандр Ахрэмка, саліст Цірольскага аркестра (Аўстрыя). У сваёй праграме яны прадставілі і заходнееўрапейскую класіку (Іаган Бах, Фрыдрых Гендаль), і творы нашых славутых кампазітараў і арганістаў. Сярод іх быў беларус – Станіслаў Манюшка, які працаваў арганістам у Вільні на працягу амаль 20 гадоў і за гэты час напісаў цудоўныя як арганныя, так і вакальныя творы.

**Заключэнне**

Падчас даследавання намі здзейснены паездкі ў населеныя пункты раёна, дзе цяпер дзейнічаюць арганы (Паставы, Камаі, Лынтупы, Лучай), правялі сустрэчы з ксяндзамі і арганістамі і запісалі інтэрв'ю з імі; абследавалі арганы, іх стан, узрост, канструктыўныя асаблівасці, і запісалі іх гучанне. Апісана гісторыя 9 арганаў Пастаўшчыны, прадстаўлены арганісты, якія нарадзіліся у Пастаўскім раёне, асветлены фестывалі арганнай музыкі (2013, 2015-2017). Для папулярызацыі арганнай культуры Пастаўшчыны распрацаваны турысцка-экскурсійны маршрут "Шлях да караля інструментаў". Плануецца зрабіць якасны запіс гучання арганаў Пастаўшчыны ў выкананні мясцовых і вядомых у краіне арганістаў, укласці і выдаць музычны дыск "Гучаць арганы Пастаўшчыны", зняць дакументальны фільм пра арганы Пастаўшчыны.

**Спіс літаратуры**

1. Арганы Беларусі // А.У. Бурдзялёў; А.М. Карлюкевіч, У.У. Андрыевіч. – Мінск: Выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, 2018. – С. 68 – 69; С. 204 – 205; С. 222 – 223; С. 308 – 309. 2. Быхавец, І. Лынтупы і наваколле. Гістарычны нарыс / І. Быхавец. – Паставы: Пастаўская ўзбуйнёная друкарня, 1993. – 84 с. 3. Драўніцкі, Я. Прафесар музыкі з Камай / Я. Драўніцкі. – Паставы: Сумежжа, 2008. – 24 с. 4. Зелянкевіч, Л. Гучаў Кароль музычных інструментаў: У мінулую суботу…[Тэкст] / Л. Зелянкевіч // Пастаўскі край. – 2017. – 2 снеж. – № 96. – С. 4. 5. Зямчонак, І. Лучай. Гісторыя маёнтка, мястэчка і вёскі 1542–1998 / І. Зямчонак. – Паставы: “Сумежжа”, 2004. – 67 с. 6. Кулагін, А.М. З гісторыка-архітэктурнага мінулага / А.М. Кулагін // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мн.: БелТА, 2001. – С. 529-544. 7. Кулагін, А.М. Каталіцкія храмы Беларусі / А.М. Кулагін; фатограф А.Л. Дыбоўскі. – Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008. – 488 с.: іл. 8. Курыловіч, П. Апладысменты выканаўцам і “каралю музычных інструментаў” / П. Курыловіч // Пастаўскі край. – 2013. – 26 кастрычніка. – № 85. – С.4. 9. Шапавалава, А. Душа ляцела з музыкай да бога / А. Шапавалава // Пастаўскі край. – 2016. – 24 снежня. – № 101. – С.5. 10. Шапавалава, А. У «акаймоўцы» саксафона и скрыпкі / А. Шапавалава //Пастаўскі край. – 2015. – 31 кастрычніка. – № 87. – С.5.

**Katsjaryna Muzychenka, Larysa Skrypko, Igar Prakapovich: Organ culture of the Postavy region**

***(web-magazine “Culture. Nation”, issue 25, April 2020, pp.47-59, www.sakavik.net)***

During the study, the authors visited the settlements, Pastavy, Kamai, Lyntupy, Luchaj, where organs are currently working, held meetings with priests and organists and recorded interviews with them; examined the organs, their condition, age, design features and recorded their sound. The history of nine Postavy organs is described, organists born in the Pastavy region are presented, organ music festivals are covered (2013, 2015-2017). To popularize organ culture in the region the tourist route “The Road to the King of Instruments” was developed. It is planned to make a high-quality recording of organs with participation of local and well-known organists in the country, to publish a music CD “Sounds of the organs of the Pastavy region”, and to make a documentary.

**Екатерина Музыченко, Лариса Скрипко, Игорь Прокопович: Органная культура Поставского раёна**

***(интернет-журнал «Культура. Нация», выпуск 25, апрель 2020, с.47-59, www.sakavik.net)***

Во время исследования мы совершили поездки в населенные пункты района, где сейчас работают органы (Поставы, Камаи, Лынтупы, Лучай), провели встречи со священниками и органистами и записали интервью с ними; осмотрели органы, их состояние, возраст, конструктивные особенности и записали их звучание. Описана история девяти Поставских органов, представлены органисты, рожденные в Поставском районе, освещены фестивали органной музыки (2013, 2015-2017). Для популяризации органной культуры был разработан туристско-экскурсионный маршрут «Дорога к королю инструментов». Планируется сделать качественную запись звучания органов Поставского района в исполнении местных и известных в стране органистов, издать музыкальный компакт-диск «Звучат органы Поставского района», снять документальный фильм.

*Інтэрв'ю*

**Наталля Гардзіенка: Даследаваньні беларускай дыяспары**
*(інтэрв'ю часопісу "Культура. Нацыя", 11 сакавіка 2010 года, Атава)*

**1. Як вы прыйшлі да высновы займацца дыяспарай? Ваша адукацыя? Наколькі цікавая для вас гэта галіна гісторыі?**

Скончыла я гістарычны факультэт БДУ, спэцыялізавалася на беларускай гісторыі XVIII стагодзьдзя, абараніла кандыдацкую дысэртацыю, прысьвечаную становішчу шляхцянак Вялікага Княства Літоўскага ў той пэрыяд. Але за часы студэнцкія і аспіранцкія ад таго стагодзьдзя крыху стамілася і стала думаць пра нейкую іншую тэму. Вельмі своечасова я пазнаёмілася зь нью-ёрскім беларусам, архівістам і дасьледчыкам эміграцыі Лявонам Юрэвічам. Ён і падказаў мне зьвярнуць увагу на дыяспару, падзяліўся кантактамі, зацікавіў, адкрыў для мяне абсалютна невядомы раней сьвет беларускага замежжа. Дзякуючы Лявону Юрэвічу я наладзіла сувязі зь беларусамі ў розных краінах. Першым вынікам новай навуковай зацікаўленасьці стала запрашэньне мяне ў Аўстралію празь месяц пасьля абароны дысэртацыі і першая кніга пра тамтэйшых беларусаў, якая пабачыла сьвет у 2004 годзе.

Уласна ад таго часу я і "захварэла" на эміграцыю, і "хвароба" гэтая працягваецца дасёньня, а цікавасьць да тэмы за гэтыя больш як 15 гадоў ня зьменшылася. За гэты час аднаасобна ці ў суаўтарстве з тым самым Лявонам Юрэвічам, мы напісалі, уклалі, падрыхтавалі і выдалі больш за тры дзясяткі кніг, зьвязаных з гісторыяй беларускай эміграцыі. Ад 2004 года я зьяўляюся таксама рэдактаркай адзінага эміграцыязнаўчага альманаху "Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва", і за гэтыя гады пабачылі сьвет 15 ягоных новых выпускаў. Штогод з маім удзелам як аўтаркі, рэдактаркі, укладальніцы выходзяць па дзьве-тры (часам болей) кнігі. І плянаў на бліжэйшыя гады таксама багата. Тэма беларускай дыяспары невычарпальная для дасьледаваньняў.

**2. Ці маглі б вы назваць дзве-тры найбольш яркія знаходкі, працуючы з архівамі?**

Ні Крыжа Еўфрасіньні Полацкай, ні кароны Вітаўта, ні нават архіву БНР, што захоўваўся ў Міколы Абрамчыка, я пакуль не знайшла… З дакумэнтамі беларускай

эміграцыі я працавала ў прыватных, грамадскіх і дзяржаўных архівах у Аўстраліі, Вялікабрытаніі, ЗША, Ізраілі, Італіі, Канадзе, Нямеччыне, Польшчы, Францыі, Чэхіі, Швэцыі. Гэта тысячы, дзясяткі тысяч дакумэнтаў. За гады працы ў галіне гісторыі эміграцыі былі розныя цікавыя, нечаканыя знаходкі раней невядомых успамінаў, ліставаньня, пасьведчанняў некаторых асобаў. Аднак найбольш важным здаецца мне ня гэта. Найбольш захапляе, калі з дробных фактаў, з паасобных дакумэнтаў і сьведчаньняў, знойдзеных у розных архівах, раптам пачынае як пазл складвацца агульная карцінка лёсу нейкага дзеяча, жыцьця асобнага беларускага асяродка. Гэтым і прыцягвае мяне архіўна-дасьледчая праца, яна як складаньне агульнай гістарычнай мазаікі з дробных асклепкаў паасобных фактаў.

**3. Якую долю ў вашых дасьледаваньнях займае сучасная дыяспара?**

Сучасная беларуская дыяспара зьяўляецца натуральным прадметам маіх дасьледаваньняў. Гэтак было ад самага пачатку. Калі я пісала пра беларусаў у Аўстраліі ці ў Вялікабрытаніі, я кантактавала з прадстаўнікамі і паваеннай, і постсавецкай эміграцыі, бо гэта частка аднае агульнае гісторыі беларускай прысутнасьці ў той ці іншай краіне. Тое ж і цяпер, калі я пішу пра беларусаў у Канадзе, дзе прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі амаль не засталося і дзе дзейнасьць сёньнешніх беларусаў ня менш важная і разнастайная, чым паваенных.

Мне заўсёды цікава заўважаць розьніцу і падабенства розных хваляў эміграцыі, адзначаць асаблівасьці іх узаемадзеяньня. Да таго ж — сучасная дыяспара шмат у чым зьяўляецца пераемніцай традыцый беларускай дзейнасьці ад паваенных беларусаў. А яшчэ яна складаецца з людзей, якіх я, здаецца, даволі добра разумею, яны мне блізкія.

**4. Як вы маглі б ацаніць уплыў паваеннай і сучаснай дыяспары ў разьвіцьці беларускай нацыі?**

Найперш мушу адзначыць, што я лічу беларусаў замежжа і беларусаў мэтраполіі неад’емнымі часткамі адзінай агульнай беларускай нацыі. Зразумела, у розныя часы ўзаемадзеяньне гэтых частак мае адметнасьці. Уплыў замежных беларусаў на мэтраполію выяўляецца ў шмат якіх аспэктах і кірунках. Гэта можа быць тэмай асобнага вялікага дасьледаваньня. Можна зьвярнуць увагу прыкладам на тое, што ў часы “халоднай вайны” беларусы на Захадзе сталі своеасаблівымі захавальнікамі “рэпрэсаванай” беларускай літаратуры. Яны публікавалі такія творы і такіх пісьменьнікаў, якія немагчыма было выдаваць у БССР: творы Андрэя Мрыя,

Лукаша Калюгі, Уладзімера Жылкі (дарэчы ягоны "Тэстамэнт" захоўваецца сёння ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры і мастацтва, дзе я працую), "Дзьве душы" Максіма Гарэцкага, нецэнзураваныя Купала і Колас і г.д. Гэта ўсё выходзіла на Захадзе, рознымі шляхамі трапляла ў Беларусь і ўрэшце спрыяла разьвіцьцю беларускай літаратуры, і наогул нацыянальнаму ўсьведамленьню беларусаў.

Варта таксама адзначыць, што і паваенныя, і сучасныя эмігранты ў часе сваёй адаптацыі ў іншым грамадзтве набывалі і набываюць важны досьвед, цікавы і каштоўны для мэтрапольных беларусаў. На пачатку 1990-х беларусы з ЗША, Канады і іншых заходніх краінаў былі гатовыя дзяліцца сваімі ведамі, кантактамі, уменьнямі з суродзічамі на Бацькаўшчыне. Досьвед сучасных эмігрантаў, што жывуць у дэмакратычных грамадзтвах Захаду, можа быць карысны для мэтраполіі ў выпадку яе постаўтарытарнай трансфармацыі.

На сёньня ж найбольш відавочны ўплыў дыяспараў на Беларусь мае гуманітарны характар, дапамога фінансавая і часам арганізацыйная, скіраваная на вырашэньне тых ці іншых праблемаў беларускага грамадзтва, падтрымку значных для нацыянальнай культуры ці існаваньня нацыі наогул праектаў.

І гэта толькі асобныя аспэкты рэальных і магчымых уплываў дыяспары на мэтраполію. Паўтаруся, гэта вельмі шырокая і шматгранная тэма.

**5. Ці ёсць розьніца між сучаснымі дыяспарамі, да прыкладу, у Паўночнай Амерыцы, Еўропе і Аўстраліі?**

Беларускія дыяспары ў кожнай краіне маюць свае адрозненьні, якія вызначаюцца і асаблівасьцямі мясцовага грамадзтва, і аддаленасьцю ад мэтраполіі, і дачыненьнямі зь ёй і г.д. Сёньня, прыкладам, у Аўстраліі вельмі мала арганізаваных структураў беларускай дыяспары, бо прадстаўнікі паваеннай эміграцыі, якія іх стваралі, фізычна адышлі, зьмена пакаленьняў не адбылася, а новая эміграцыя не такая колькасная, мала далучылася да ранейшых структураў і амаль не стварыла сваіх. У Паўночнай Амэрыцы сёньня хіба што найбольш моцныя беларускія асяродкі з тых, што існуюць на Захадзе. І тут важна, што эмігранты 1990-х—2000-х актыўна ўліліся ў створаныя паваеннымі імігрантамі структуры, пераняла кіраўніцтва ў іх і працягнулі дзейнасьць. Безумоўна, ствараюцца і новыя арганізацыі і ініцыятывы, актыўным фактарам гуртаваньня новых імігрантаў сталі сацыяльныя сеткі. Гэта своеасаблівая адзнака часу.

У Эўропе беларускія дыяспары вельмі розныя і, хіба што за выключэньнем Вялікабрытаніі, пераважна дзейнічаюць арганізацыі, створаныя эмігрантамі апошніх дзесяцігодзьдзяў, своеасаблівыя клюбы па інтарэсах, шмат зь якіх жывуць нядоўга, адны зьнікаюць, іншыя зьяўляюцца. Разам з тым жыцьцё эўрапейскіх дыяспараў праз гэта вызначаецца пэўнай дынамічнасьцю, разнастайнасьцю грамадзкіх ініцыятываў.

**6. Якія цяжкасьці вы сустракаеце пры напісаньні матэрыялаў пра дыяспару?**

Напэўна, у працы любога дасьледчыка, які працуе з архіўнымі дакумэнтамі і жывымі людзьмі, ёсьць вельмі падобныя складанасьці. Калі ідзецца пра дакумэнты, то для эміграцыйных гэта найперш праблема даступнасьці — яны раскіданыя геаграфічна і не паўсюль бывае магчыма даехаць, а часам і доступ атрымаць складана. Больш за тое, шмат якія беларускія зборы эміграцыйных дакумэнтаў (у Беларускай фундацыі Крачэўскага ў Нью-Ёрку, у Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане) не апісаныя, а таму пошук у іх забірае багата часу і ніколі не гарантуе выніку. Традыцыйныя складанасьці ўзьнікаюць у працы з рукапіснымі дакумэнтамі: почыркі ў беларускіх дзеячаў на эміграцыі былі вельмі розныя. Асабліва складана расчытваць лісты прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка, літаратуразнаўцы Антона Адамовіча, рэдактара газэты “Беларускі Голас” Сяргея Хмары… Праблемаю бывае адсутнасьць / не захаванасьць тых ці іншых дакумэнтаў, страчанасьць архіваў. Прыкладам, невядома месцазнаходжаньне архіву Язэпа Варонкі, які б багата засьведчыў пра гісторыю беларусаў у Чыкага ў 1920-х—1930-х. А вось пра архіў парыскага беларускага мастака Міхася Наўмовіча вядома — дзеці вынеслі ўсё, што было ў хаце, на сьметнік. І гэта зусім не выключны выпадак. Вельмі шмат архіваў беларускіх эмігрантаў былі страчаныя празь нядбайнасьць іх саміх і іх нашчадкаў. Але бываюць і іншыя сітуацыі, калі дакумэнтаў па пэўнай тэме захавалася вельмі шмат, і праблема ў тым, каб не “патануць” у гэтым моры, каб выбраць, апрацаваць вартаснае, неабходнае.

Аднак дасьледаваньне эміграцыі — гэта праца ня толькі з дакумэнтамі, але і з жывымі людзьмі. І яна мае свае складанасьці, тыя ж, што і міжчалавечыя дачыненьні наогул. Упершыню я сутыкнулася з гэтым ужо на самым пачатку, калі паехала ў Аўстралію, каб зьбіраць матэрыялы для кнігі. Шмат хто зь мясцовых беларусаў паставіўся да мяне вельмі насьцярожана, палічыўшы, што я прыехала па заданьні КДБ. Шмат хто зь цікавых мне асобаў адмаўляўся ад спатканьня, ад запісу інтэрвію, нават не пабачыўшы мяне.

Магчыма яшчэ адно спэцыфічнае эміграцыязнаўчае — складана бывае захоўваць адасоблены погляд на падзеі ў сытуацыі канфлікту ў той ці іншай грамадзе. І гэта датычыць як канфліктаў мінулых, якімі поўніцца гісторыя паваеннай эміграцыі, гэтак і падзелаў і непаразуменьняў сучасных. Чытаючы сьведчаньні кожнага з бакоў, слухаючы аповеды ўдзельнікаў яшчэ жывога канфлікту, вельмі складана бывае захоўваць нэўтральнасьць, заставацца па-над спрэчкамі, і пры гэтым падтрымоўваць кантакты з асобамі з абодвух бакоў. Часам, калі маеш справу з жывымі людзьмі, пішаш пра іх, пачуваешся, як на мінным полі. Ня ведаеш, дзе менавіта ірване, што менавіта выкліча незадавальненьне ў герояў твайго аповеду.

Зразумела, што часам я ў нечым памыляюся, у публікацыях бываюць недакладнасьці, ад якіх ніхто не застрахаваны. Праблема ў тым, што эмігранты (а мо і ня толькі яны) ненаўмысныя памылкі дасьледчыка часам успрымаюць як сьвядомую дывэрсію. І гэта яшчэ адна складанасьць, зь якой я таксама сутыкнулася ад самага пачатку сваёй эміграцыязнаўчай працы.

Аднак нягледзячы на ўсе складанасьці, вывучэньне гісторыі і сучаснасьці беларускай эміграцыі — вельмі захапляльны і надзвычай разнастайны занятак. Гэта фактычна не адна тэма, а вялікая колькасьць розных тэмаў і аспэктаў, якія даюць магчымасьць пастаянна пераключацца, знаходзіць для сябе нешта новае. Здаецца, прафэсійнае выгараньне мне тут не пагражае.

**7. Якія цікавыя старонкі з жыцьця дыяспары яшчэ не раскрыты? Вашы бліжэйшыя творчыя планы?**

Складана сказаць, якія старонкі жыцьця дыяспары сёньня да канца раскрытыя. Возьмем, прыкладам, кнігу Вітаўта Кіпеля “Беларусы ў ЗША”. Калі яна ўпершыню пабачыла сьвет у 1993 годзе, здавалася, што гэта вычарпальная энцыкляпэдыя беларускага жыцьця ў згаданай краіне. Сёньня рыхтуецца да друку ўжо трэцяе выданьне гэтай кнігі, якую аўтар зноў і зноў дапрацоўвае, і ў якой сам жа вызначае, сярод іншага, для будучых дасьледчыкаў магчымыя напрамкі наступных пошукаў.

Або іншы прыклад: разам з маім калегам, сябрам, суаўтарам Лявонам Юрэвічам мы выдалі тры тамы дакумэнтаў да гісторыі паваеннай Рады БНР. Мы ўключылі ў іх бадай што ўсё, што знайшлі, што ведалі, што было нам даступна на той момант. Ад выхаду апошняга тому прайшло пяць гадоў і за гэты час у нас зьявілася багата новых цікавых дакумэнтаў па гэтай тэме. Прыкладам, цяпер мы рыхтуем новы выпуск альманаху “Запісы БІНіМ”, дзеля чаго шмат працуем з архівам айца Льва Гарошкі. І ў ім знаходзім столькі цікавых лістоў, якія датычаць дзейнасьці Рады

БНР, беларускага жыцьця ў Парыжы і ў іншых беларускіх асяродках. І аказваецца, шмат чаго пры ўкладаньні нашых кніг пра Раду БНР мы ня ведалі. Выглядае, што складанасьці міжасабовых дачыненьняў значна больш уплывалі на гісторыю беларускай эміграцыі наогул і Рады БНР у прыватнасьці, чым нам гэта здавалася.

І гэтак напэўна з любым аспэктам дзейнасці беларусаў на Захадзе. Нават калі здаецца, што пра, прыкладам, беларускае студэнцтва ў Бэльгіі ўжо багата ўсяго напісана, але зьяўляюцца новыя і новыя зьвесткі і сьведчаньні, якія вельмі сур'ёзна карэктуюць тую агульную карцінку, якая дагэтуль існавала. А колькі яшчэ тэмаў, якія зусім не закранутыя ні ў якіх публікацыях! Паўтаруся, для дасьледчыкаў у гісторыі эміграцыі надзвычай багата працы.

Што ж датычыць плянаў, то я ўжо іх крыху закранула. Цяпер у нас ідзе праца над новым выпускам "Запісаў БІНіМ", які будзе прысьвечаны рэлігійнаму жыцьцю на эміграцыі, а значная частка матэрыялаў якога будзе заснаваная на ліставаньні з архіву айца Льва Гарошкі. Прыкладам, будзе вельмі цікавая публікацыя на падставе карэспандэнцыі з Мадрыду Ўладыслава Рыжага-Рыскага, Віктара Сянкевіча, Янкі Сурвіллы, зьвязаная з тамтэйшым беларускім студэнцтвам і арганізацыяй беларускіх радыёперадачаў. Беларуская прысутнасьць у Гішпаніі сёньня вельмі мала дасьледаваная. Гэта яшчэ адна "нераскрытая" тэма.

Акрамя "Запісаў", таксама ідзе праца над двухтамовікам, які будзе складацца з "Кнігі магілаў" і "Кнігі нэкралёгаў". Першая ўяўляе сабою даведнік па беларускіх пахаваньнях (зь біяграмамі пахаваных) на Захадзе, а другая — зборнік нэкралёгаў, пасьмяротных успамінаў, якія друкаваліся на старонках найбуйнейшых беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў "Бацькаўшчына" і "Беларус". Праца над гэтым двухтамовікам ідзе ўжо другі год і, спадзяюся, што да канца сьнежня 2020-га яна скончыцца.

А па заканчэньні двухтамовіка асноўная мая ўвага пераключыцца на кнігу пра беларусаў Канады, матэрыялы для якой паступова апрацоўваюцца цягам апошняга дзесяцігодзьдзя. Гэта бадай галоўнае, чым я занятая сёньня і што маю ў плянах.

**Interview Natalii Gardzienka with the editor of the magazine "Culture. Nation"**
***(web-magazine "Culture. Nation", issue 25, April 2020, pp.60-66, www.sakavik.net)***

Natalia Gardzienka, PhD in History is the well-known researcher of the Belarusian diaspora, the author of more than 30 books on this topic. She answered several questions that related to the specifics of the study of the problems of the diaspora, the role of the post-war and post-Soviet diaspora in the development of the Belarusian nation, and further creative plans.

**Интэрвью Натальи Гардзиенка с редактором журнала «Культура. Нацыя»**
***(интернет-журнал «Культура. Нация», выпуск 25, апрель 2020, с.60-66, www.sakavik.net)***

Наталия Гардзиенка, кандидат исторических наук, известный исследователь беларусской диаспоры, автор более 30 книг, посвященных этой теме. Она ответила на несколько вопросов, которые касались специфики исследования проблем диаспоры, роли послевоенной и постсовесткой диаспоры в развитии беларусской нации, а также о своих дальнейших творческих планах.

*Анатацыя*

**Алесь Карлюкевіч: Пасляслоўе да кнігі “Францыск Скарына на мовах народаў свету”.** Прадмова Алеся Сушы. 4-е выд., дап. Мінск: Паліграфкамбінат імя Я. Коласа, 2019. 152 с.: іл.

Урывак з прадмовы Францыска Скарыны да кнігі “Юдзіф” (*“...Помняць гнёзды свае”, Ф.Скарына)* гучыць на 70 мовах народаў свету. Чацвёртым выданнем пабачыў свет анталагічнага характару зборнік “Францыск Скарына на мовах народаў свету”, які ўключыў пераклады з легендарнай прадмовы першадрукара да кнігі “Юдзіф” на 70 моў, у тым ліку – і на беларускую (арыгінал жа пададзены, зразумела, на старабеларускай). “Як звяры, што блукаюць у пушчы, ад нараджэння ведаюць сховы свае, як птушкі, што лётаюць у паветры, помняць/ гнёзды свае, як рыбы, што плаваюць у моры і ў рэках, чуюць/ віры свае і як пчолы бароняць вуллі свае - гэтак і людзі да месца, дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе, вялікую ласку маюць” (пераклад Алеся Разанава).

У прадмове да выдання вядомы культуролаг і скарыназнаўца Алесь Суша заўважае: “Прынцыпова важна, што для Скарыны вобраз паўнацэннага грамадзяніна непарыўна звязаны з наяўнасцю патрыятычнага пачуцця, любові да роднай зямлі. Найбольш ярка і пераканаўча гэта думка ўвасобілася ў прадмове беларускага творцы да “Кнігі Юдзіф”. У ёй пісьменнік параўноўвае чалавека з іншымі жывымі істотамі і на аснове гэтага параўнання сведчыць пра агульную для іх любоў да роднага куточка зямлі, дзе яны нарадзіліся і ўзгадаваны. Тым самым Францыск Скарына даказвае яшчэ адну важную для свайго часу ісціну: ён сцвярджае права грамадзян розных краін ганарыцца сваёй Айчынай і любіць яе, выступае за роўнасць усіх народаў між сабою і за каштоўнасць кожнага з іх паасобку. Выконваючы свой запавет, слаўны палачанін у кожнай са сваіх кніг абавязкова падкрэсліваў уласнае паходжанне і з нязменнай павагай да роднага пазначаў, што кніга “выкладзена доктарам Францыскам Скарынам са слаўнага горада Полацка”. І далей: “Інтэлектуальны пасыл нашага першадрукара быў скіраваны на ўсе саслоўі беларускага грамадства XVI ст. І пры ўсім гэтым выказаныя асветнікам погляды і думкі застаюцца надзвычай актуальнымі і важнымі нават сёння – праз 500 гадоў. Больш за тое, некаторыя думкі Скарыны здолелі зацікавіць і прывабіць многіх інтэлектуалаў ва ўсім свеце, дзякуючы чаму з’явіўся шэраг перайманняў і перакладаў на самыя розныя мовы свету. Асаблівай увагі замежных творцаў заслужылі яго патрыятычныя выказванні, адлюстраваныя ў прадмове да “Кнігі Юдзіф”. Сабраныя ў дадзеным выданні пераклады слоў

беларускага асветніка на розныя мовы свету пераканаўча сведчаць пра сілу яго слова, падкрэсліваюць спрадвечную знітаванасць культурнага жыцця нашых краін”.

Акрамя беларускай, урывак надрукаваны ў пераўвасабленнях на аварскую, агульскую, азербайджанскую, арабскую, армянскую, балгарскую, балкарскую, бурацкую, верхнелужыцкую, в’етнамскую, даргінскую, іспанскую, італьянскую, іўрыт, кабардзінскую, казахскую, калмыцкую, каракалпакскую, карацінскую, карэйскую, кіргізскую, кітайскую, комі, крымска-татарскую, кумыкскую, курдскую, лакскую, латгальскую, лезгінскую, літоўскую, македонскую, мангольскую, марыйскую, нагайскую, нанайскую, ніжнелужыцкую, нямецкую, польскую, пушту, румынскую, русінскую, рускую, рутульскую, саамскую, сербскую, славенскую, табасаранскую, таджыкскую, татарскую, тацкую, тувінскую, турэцкую, удмурцкую, узбекскую, уйгурскую, украінскую, фінскую, французскую, хакаскую, цахурскую, чачэнскую, чувашскую, чэшскую, шведскую, шорскую, эстонскую, якуцкую, японскую мовы.

Сярод перакладчыкаў – знакамітыя паэты, якія працуюць у розных нацыянальных літаратурах: азербайджанец Чынгіз Алі аглу, армянін Эдвард Мілітанян, узбек Улугбек Есдаўлетаў, кітаец Гаа Ман, манголец Галаарыд Бадам-Ачырын, таджык Саідалі Мамур, татарын Рэнат Харыс, удмурт Вячаслаў Ар-Сяргі… Упершыню зборнік “Францыск Скарына на мовах народаў свету” быў выдадзены ў 2014 годзе. У наступных выданнях – 2015 і 2016 гадоў і, зразумела, 2019 года – колькасць моў на якія здзейснены пераклады, пашырылася.

Што цікава, на некаторыя мовы змешчаны па два і болей перакладаў. На беларускую – тры (Алеся Разанава, Івана Саверчанкі, Сяргея Панізьніка), на рускую – таксама тры (Уладзіміра Беразева, Алега Буркіна, Валерыя Грышкаўца), на армянскую, балгарскую, крымскататарскую, марыйскую, удмурцкую, чачэнскую, чэшскую – па два. На сербскую змешчана чатыры пераўвасабленні: іх ажыццявілі Радміла Рысціч, Іван Чарота, Саманта Рац, Даяна Лазаравіч. Іван Чарота, як вядома, беларускі сербіст, доктар філалагічных навук, ды разам з тым яшчэ і акадэмік Сербскай Акадэміі навук (настолькі высокі аўтарытэт нашага суайчынніка ў Сербіі як даследчыка сербскай літаратуры, культуры, як перакладчыка сербскай паэзіі, прозы, публіцыстыкі на беларускую і рускую мовы!). Радміла Рысціч – перакладчыца Скарыны і на нямецкую мову. А яшчэ па-нямецку тэкст Францыска Скарыны загаварыў дзякуючы Норберту Рандаў і Уладзіміру Чапегу, Аляксандру Філюце, Вікторыі Андрэевай.

Цікавымі падаюцца лёсы Норберта Рандаў і Уладзіміра Чапегі, якія паядналіся ў адным перакладчыцкім клопаце. Норберт Рандаў, які нарадзіўся ў 1929 годзе, вывучаў славістыку ў Берліне да 1953 года. Пасля – у Сафіі. Працаваў у Берлінскім універсітэце імя Гумбольта. У 1962 – 1965 гг. знаходзіўся за кратамі – “за

антыдзяржаўную прапаганду" і "дапамогу нелегальнай эміграцыі" з ГДР. Канешне ж, з такім "тлустым" радком у біяграфіі пра навуковую кар'еру ў ГДР марыць не даводзілася. Родная сястра славіста Гундула Рандаў выйшла замуж за беларуса Уладзіміра Чапегу, які нарадзіўся на Гомельшчыне. Менавіта Уладзімір Чапега (1939 – 2014) падштурхнуў спадара Норберта да цікаўнасці да беларускай літаратуры. Як вынік – знаёмствы з Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Алесем Разанавым, Рыгорам Барадуліным, Уладзімірам Арловым. У 2003 годзе ў фондах Верхнялужыцкай навуковай бібліятэкі ў Гёрліцы Н. Рандаў знайшоў невядомы дагэтуль беларусістам асобнік пражскага выдання "Бібліі" Францыска Скарыны. Нямецкі перакладчык пераўвасобіў на сваю родную мову творы Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Алеся Гаруна, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Васіля Быкава. У мяне захаваўся ліст, з якім перакладчык у свой час даслаў пераклад урыўка з прадмовы Ф. Скарыны да кнігі "Юдзіф": "Нойштрэліц, 4 ліпеня 2013 года.

Паважаны спадар Алесь!
Толькі сёння пасылаю Вам пераклад на нямецкую мову тэкста Скарыны з яго прадмовы да "Кнігі Юдзіф". Пераклад зроблены сумесна Норбертам Рандавым (Norbert Randow) і мною, Уладзімірам Чапегам (Uladsimir Tschapeha), з арыгінала Скарыны. Калі выйдзе запланаваная Вамі кніжка, то было б вельмі добра, калі б Вы пераслалі мне адзін яе экземпляр. Можна і на мой мінскі адрас. Калі ў мяне атрымаецца што-небудзь перакласці на рускую мову, то я тады звярнуся да Вас.
Усяго Вам добрага!
З павагаю
Ваш Уладзімір Чапега".

На вялікі жаль, і Норберт Рандаў, і Уладзімір Чапега не паспелі пабачыць кнігу "Францыск Скарына на мовах народаў свету". Абодва пайшлі з жыцця раней, чым гэты праект увасобіўся асобным выданнем…

Крыху – пра спадара Чапегу. У 1961 годзе перакладчык закончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. У 1962 – 1988 гадах служыў у Савецкай Арміі. Экстэрнам скончыў Данецкае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча інжынерных войскаў і войскаў сувязі (1973). Жыў у Германіі. У 1982 годзе перакладчыка прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР. Перакладаў з нямецкай мовы на беларускую і з беларускай на нямецкую. Дэбютаваў у друку ў 1971 годзе.

На нямецкую мову пераклаў раман І. Мележа "Людзі на балоце" , аповесці В. Быкава "Абеліск", "Здрада", А. Кудраўца "Раніца", кнігу У.Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі", творы Цёткі, Я.Брыля, К.Крапівы, П.Галавача, М.Гарэцкага, Я.Скрыгана… З нямецкай на беларускую пераклаў раманы Г.Ота "Пара ў дарогу,

буслы" А.Аменды "Апасіяната", Л.Франка "Ісусавы вучні", творы Ш.Гермлінга, С.Цвэйга. Уладзімір Чапега адзначаны ордэнам "За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй".

Не меней цікавым перакладчыкам з'яўляецца Гао Манг (1926-2017), які пераўвасобіў тэкст беларускага першадрукара на кітайскую мову. Яшчэ ў 1958 годзе ў Пекіне пабачыла свет кніга вершаў Максіма Танка ў перакладзе Гао Манг. Кітайскі мастак слова пераклаў на сваю родную мову і кнігу Святланы Алексіевіч "Цынкавыя хлопчыкі", якая пабачыла свет у Пекіне ў 1990 годзе.

Несумненна, праца над своеасаблівай анталогіяй перакладаў твора Францыска Скарыны на розныя мовы патрабуе свайго працягу. Будем спадзявацца, што да работы над пераўвасабленнем неўміручых радкоў, якія аднолькава значныя па сваёй патрыятычнай скіраванасці для народаў усяго свету, спрычыняцца і перакладчыкі іншых краін Азіі, Афрыкі, Амерыкі, Еўропы. Францыск Скарына ідзе па свету разам з Беларуссю, расказвае свету пра Беларусь і беларусаў.

**Ales Karlyukevich: Afterword to the book "Francysk Skaryna in the languages of the peoples of the world".** Foreword by Ales Susha. 4th ed. Minsk: Ja. Kolas Printing House, 2019. 152 pp.: Ill.

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 25, April 2020, pp.67-70, www.sakavik.net)***
The author informs about the publication of the 4th edition of the book "Francysk Skaryna in the Languages of the World". The book gives a translation of the preface to the book of F.Skaryna "Judith" in 70 languages of the world. This preface is a vivid example of F.Skaryna's love for his homeland and pride in it. The annotation contains information about some translators (Norbert Randau, Uladzimir Chapega, Gao Mang).

**Алесь Карлюкевич: Послесловие к книге «Франциск Скарына на языках народов мира».** Предисловие Алеся Суши. 4-е изд., доп. Минск: Типография Я. Коласа, 2019. 152 с .: ил.

***(интернет-журнал «Культура. Нация», выпуск 25, апрель 2020, с.67-70, www.sakavik.net)***

Автор информирует о публикации 4-го дополненного издания книги «Франциск Скарына на языках народов мира». В книге даётся перевод предисловия к книге Ф. Скарыны «Юдифь» на 70 языков мира. Это предисловие яркий образец любви Ф.Скарыны к своей родине и гордости за неё. В аннотации приводятся сведения о некоторых переводчиках (Норберт Рандау, Владимир Чапега, Гао Манг).

*Краязнаўства*

**Язэп Квач: Нявыдуманыя гісторыі**

*Запісы, зробленыя аўтарам у вёсках Шаркаўшчынскага раёна, Віцебскай вобласці, падаюцца на мове арыгінала. Працяг, пачатак зьмешчаны ў 24-м нумары часопіса ў сьнежні 2019 года.*

***Пра вывезеных дзяцей у Германію***

**Два гады без вестак з Радзімы**

*Клаўдзя Сямёнаўна Сікора***.** Нарадзілася 9 кастрычніка 1926 года ў вёсцы Алашкі Вялікія. Да вайны вучылася ў польскай школе, затым у савецкай, а пры немцах год пахадзіла ў Рымкаўскую школу. Там займалася ў сёмым класе, вывучала ў тым ліку і нямецкую мову. Паступіла ў Пастаўскае педвучылішча. Жыла на кватэры. Кожныя выхадныя хадзіла ў Кундры, што месцяцца недалёка ад Пастаў, да сястры за прадуктамі. Да маці ж у Алашкі было далёка, ды і што яна магла даць, калі бацька ўжо быў памёршы. Аднаго разу, гэта было восенню 1943 года, награнулі ў вёску немцы і ўсіх жыхароў пагналі ў Паставы. На пытанні “куды і чаго нас гоняць”, адказвалі:“Alles frei, alles brant.” Гэта азначала, што усё патрэбна пакінуць, усё будзе спалена.

У Паставах усіх трымалі ў габрэйскім гета. На другі дзень – сарціроўка. Сястру з мужам (ён быў скалечаны) і двух малалетніх дзяцей адпусцілі дамоў, а здаровых і працаздольных пагналі далей на Лынтупы. Па дарозе некаторыя ўцякалі, але я не хацела навесці бяды на сям’ю сястры, а дома таксама чулі, што некспакойна, вось і скарылася лёсу. У Лынтупах нас пагрузілі, як скаціну, у таварнякі і адправілі на Германію. Сабраўся цэлы эшалон. Ехалі каля тыдня. Елі што ў каго было з сабой. Карміць ніхто нас і не думаў. Толькі на станцыях давалі нам вады.

Прывезлі нас у Дзюсельдорф (Паўночная Рэйн-Вестфалія). Зганялі ў лазню і размясцілі ў Arbeitsamt (працоўная служба). Там вывучалі нашы дакументы, каб размеркаваць, хто куды лепш падыходзіць. У мяне ў атэстаце было пазначана тое, што вывучала нямецкую мову і гэта дапамагло мне папасці ў сталовую. А было так.

Прыйшла нейкая гаспадыня, запытала як мяне завуць, колькі год. Я адказала па-нямецку. Напэўна сярод іншых я выглядала ў "сваім нямецкім" даволі прыстойна, бо гаспадыня ўзяла не толькі мяне, але і маю сяброўку, якую я прадставіла сваёй сястрой. Звалі яе Гілена, яна была таксама з Кундраў і на пару год маладзей мяне. Гаспадыня ў сваім доме трымала кухню, дзе гатавалі ежу для рабочых. Мы чысцілі бульбу, мылі посуд, кухню, насілі ваду, часам ездзілі некуды каб загрузіць і разгрузіць прадукты. Пачыналі працаваць у 6 гадзін і да цямна і без выхадных, "а маладым жа яшчэ і паспаць хочацца". Адлучыцца нікуды ні на крок, ні на хвіліну. Дысцыпліна была вельмі строгая, але хоць не галадалі. У канцы вайны, калі фронт падыходзіў блізка, саюзнікі часта бамбілі горад. Хаваліся ў бомбасховішча, якое для вязняў было не прадугледжана, але гаспадыня над намі літавалася і брала да сябе. Дарэчы, у яе быў там асобны пакой, які закрываўся, і там нават было можна спаць, усё як у кватэры.

Вызвалілі нас амерыканцы. Затым пасялілі ў зборным пункце. Дзе таксама выконвалі розныя работы. Затым адправілі нас дамоў, завезлі ў Брэст. Пасялілі ў зямлянках, дзе таксама доўга чакалі сарціроўкі і таксама працавалі. Я застудзіла ногі, павылазілі скулы і я не працавала. Нарэшце нас прывезлі ў Паставы. З Гіленай я не разлучалася. Прывязлі таксама на таварняках, а тут цёмна, з вагона трэба скакаць. І тут я, хацеўшы падаць свой чамадан крычу: "Гілена, гэта ты?" У адказ: "Я, кідай!" Кінула чамадан і не вядома каму. Не багатыя там былі нажыткі, але і тое прапала. Пасля наведала сястру (яны ўсе перажылі навалу) і вярнулася да матулі ў Алашкі. Дарэчы маці ведала, што са мной, што я жывая, бо я ёй пісала ліст з Нямеччыны. Мне таксама пісалі, але, на жаль, я ліста не атрымала і цэлыя два гады жыла ў няведанні, што там робіцца дома.

**Не памянялі сыты Захад на галодную Радзіму**

*Райчонак Валянцін Фёдаравіч*. Нарадзіўся 17 сакавіка 1939 года ў вёсцы Сямёнавічы. Восенню 1943 года немцы праводзячы экспедыцыю ачышчалі тэрыторыю не толькі ад партызан, але і ад цывільнага насельніцтва, якое аказвала партызанам дапамогу. Людзей некакторых папросту на час адсялялі пад Шаркаўшчыну, або некаторых зусім вывозілі ў Германію. Восем сямей з Сямёнавіч былі вывезены на прымусовыя работы, у тым ліку і наша сям'я. А гэта – я, бацька, маці, і баба, з дзедам. Спачатку заехалі ў Шаркоўшчыну, а затым у Глыбокае, а адтуль ужо цягнікам у таварных вагонах нас павезлі ў Германію. Нас прывезлі ў горад Кветленбург (недалёка ад Магдэбурга). Пасялілі ў бараках з двух'яруснымі ложкамі. Бацька працаваў на ваенным заводзе токарам, і маці таксама там, толькі свярлоўшчыцай, бабуля працавала на кухні. Працавалі па 12 гадзін. А мы ў гэты час былі адны і сядзелі ў бараках.

Вызвалялі нас саюзнікі. Гэта памятаю добра, бо ўсю ноч вакол усё гуло, а раніцай мы ўбачылі поўны двор амерыканскіх танкаў. Яшчэ запамятаў амерыканскіх салдат неграў, якіх раней ніколі не бачыў. Іх чарната мяне так уразіла, што пасля, прыйшоўшы дамоў старанна адмываўся, каб іх чарната не прыстала да мяне. Потым нас яшчэ месяцы два трымалі ў фільтрацыйным лагеры. Была магчымасць з'ехаць на захад, якой некаторыя і скарысталіся. Потым прыехаў нейкі рускі генерал і "талкануў рэч", каб вярталіся дамоў, што там будзе добра. Канечне ж сваё роднае цягнула дадому і мы вярнуліся ў "светлае камуністычнае жыццё". Хата наша засталася, а гумно, як дарэчы і ва ўсіх суседзяў згарэла, спаленае нямецкімі самалётамі.

**У палоне наеліся нямецкага "кальрабу", а дома некатарыя не мелі і гэтага**

*Шостак Аляксандр Юльянавіч.* Бацькі родам з Казьян. Аляксандар(Шурка) нарадзіўся 22 лютага 1937 года ў віленскай турме. Маці злавіў паліцэйскі (пры Польшчы было вельмі строга), калі яна гнала самагонку і, не гледзячы на цяжарнасць, пасадзілі на паўгода ў турму.

Забралі нас ў Германію восенню 1943 года. Наша сям'я складалася з шасці чалавек: я, сястра Оля, сястра Дзюня, тата, мама, і бабуля. З Каз'ян сабраўся цэлы абоз і нас павезлі спачатку ў Відзы, а затым у літоўскі Дукштас. Там пасадзілі нас у "цялятнікі" і павезлі на захад. Везлі толькі начамі. Прыбылі ў горад Дрэздан на месца працы. Пасялілі нас ў бараку. У кожным пакоі па 3-4 сям'і. Спалі на двух'ярусных ложках-стэлажах. Я з бацькам наверсе, а мама з сёстрамі – знізу. Бацька працаваў на фабрыцы, а маці на кухні. Мы мелі магчымасць гуляць на двары, але за агароджу не выходзілі. Кармілі вараным "кальрабам" па-нямецку, а па нашаму –гэта звычайны грыжан ці бручка. Праўда нам дзецям яшчэ часам давалі малако і пудзінг(такое варыва падобнае на наш салодкі кісель). Добра, што мама працавала ў сталоўцы, то і нам з яе нешта перападала. А яшчэ, калі мы падыходзілі да сталоўкі, то нас часам частавалі і немцы нейкімі бутэрбродамі. Як цяпер падумаю, то палонныя былі з розных краін. Адна французкая сям'я, упадабала маю сястру і хацела забраць яе замуж і разам з намі. Мама не пагадзілася. Калі стаў набліжацца фронт, то пачасцілася бамбаванне горада. Але яно ў асноўным прыходзілася на стратэгічныя аб'екты, мы ж на ўскраіне не цярпелі з гэтага. Вызваляла нас Чырвоная Армія. Пасля запомніў п'яных салдат ды як яны займаліся гвалтам.

У хуткім часе вярнуліся дамоў. Большасць дамоў пагарэла, але наш неяк застаўся. Яшчэ ўспелі пасадзіць гарод. Свайго, праўда, нічога не было. Бацька хадзіў у Літву (іх нікога не вывазілі), і знаёмыя яму дапамаглі з насеннем збожжа і бульбы.

**Успаміны Хамянок (Караблёвай) Антаніны Іванаўны**

Нарадзілася Антаніна Іванаўна ў вёсцы караблі Цвярской (Калінскай) вобласці 27 лютага 1928 года. Акрамя яе ў сям'і была сястра Маня 1927 года і брат Віктар 1936 года. Іх маці ў сям'і была адна і паходзіла з зажытачных хутаран. У дзеда было шмат зямлі, скаціны, пчол, свой лес, на два канцы хата. Антаніна Іванаўна ўспамінае яго, як магучага, з сівой барадой, разважнага мудрага і спакойнага. Аднаго разу наведваючы дзядулю, яна не магла паверыць сваім вачам – дзед плакаў. Прычына – усю гаспадарку і палову хаты забралі ў калгас. Гэта была для чалавека трагедыя, бяда, але якую неяк перажылі. Яшчэ страшней стала, калі пачалася вайна. Бацька зведаў яе ўжо ў фінскую, з якой вярнуўся паранены і расказваў, якія жахі цярпелі нашы байцы.

У дзень, калі пачалася вайна былі з настаўніцай Нінай Сямёнаўнай на экскурсіі. Прыехаў на кані нейкі знаёмы мужчына і паведаміў ёй страшную вестку. Тая толькі схапілася за галаву. Закрычала і зараз жа адправіла ўсіх дзяцей па дамах. У ваенным гарадку праз рэпрадуктар слухалі паведамленне Левітана пра вераломны напад. Мясцовасць у хуткім часе стала арэнай баявых дзеянняў. Фронт тройчы пракаціўся праз родную вёску. Яна была поўнасцю знішчана, некаторыя суседнія вёскі спалены. Падчас бамбёжак і артналётаў хаваліся за абрывістым берагам ракі Белаздынь, а калі не стала хаты - жылі дзе прыдзецца: па сваяках, па зямлянках, потым у горадзе Ржэве. Больш за ўсё у час вайны баяліся паштальёна, які прыносіў пахаронкі. Смерць падпільноўвала на кожным кроку. Адно толькі ратавала ад голаду, што падкармлівалі салдаты. Успамінаецца салдацкая песня таго часу:

Вот Новый Год идёт – порядки старые

А я по пояс в воде обледенел.

Сплошные выстрелы, «Катюши» вновь гудят

И надо мной снаряд фашистский пролетел.

З вайны не вярнуўся бацька Іван, яго браты Мефодзій і Васіль.

Сям'я дзядзькі Мефодзія засталася ў акупаваным Ленінградзе. Людзі былі настолькі галодныя, што здараліся жудасныя выпадкі. Аднойчы дзядзькава жонка з дачкой Любай і сынам Віктарам вярталіся дамоў. Віктар настолькі аслаб, што не дайшоў да кватэры і памёр у пад'ездзе. Пакуль маці з дачкой зайшлі ў кватэру і вярнуліся, то убачылі, што ў хлопчыка ўжо выразалі філейныя часткі цела ...

**Салдат вермахта**

Гэты выпадак адбыўся на пачатку вайны ў Агальніцах. Немцы праз нашу тэрыторыю рухаліся з боку Каз’ян. І калі нашы, адступаючы, ішлі пешшу, то гэтыя гордыя і пакуль непераможныя на машынах. Прыпыняліся адпачываць. Было лета – не міналі і рэчкі каб асвяжыцца ды памыцца. Адна група купалася на асяродках. Трэба ж было адной жанчыне як раз тады пераплываць на дубіцы праз рэчку на той бок. Адзін салдат захацеў падурэць з ёй і як сталася на сваю галаву. Ён калыхнуў лодку, а тая была няўстойлівая і перакулілася. Жанчына мусіць плавала слаба і па-гэтаму з перапуду ўчапілася ў нямецкага салдата. Як там было, але яна выбралася з рэчкі, а нямецкі салдат – не. Хаця з салдатам былі яго сябры, але ў іх не было і думкі пакараць нявінную жанчыну. Тапельца пахавалі тут жа на беразе. Зрабілі ўсё як след. Паклалі ў магілу вінтоўку, разламалі жэтон, адну палову заставілі пры ім, а другую адправілі для ўліку. Задакументавалі месца пахавання, паставілі крыж і на бліжэйшай хаце павесілі таблічку з надпісам, хто тут пахаваны. Праз некаторы час рухаліся тут яшчэ нейкія нямецкія часці і надпіс прачытаў брат пахаванага. Мясцовая жыхарка Жадзейка Алімпіяда ўспамінала, што ён сабраў дзяцей, загадаў ім прынесці кветкі на магілу і аддзячыў шакаладам. Аказваецца, і гэтаму ёсць шмат падцверджанняў, што салдаты вермахта – гэта не СС, а звычайныя людзі, якіх вайна адарвала ад сваіх сем’яў, ад мірнай працы.

Вінтоўка доўга не залежылася, яе адкапаў мясцовы дзяцюк і падаўся з ёй у партызаны, а вось салдаціка не ўшанавалі. Пакуль ад магілы быў пагурачык – яе не чапалі, а як зраўнялася, то сталі араць – вядома зямлі не хапала. Ды і што дзівіць – для нашых ён быў захопнікам. Ніякай цікавасці не выявілі да яго і ў пасольстве Нямеччыны, куды я тэлефанаваў. Ані ж нашых пашукавікоў. Канечне ж, калі б дазналіся пра гэта пахаванне “чорныя капальнікі”, то не аставілі б магілу ў супакоі. Але дудкі ім, хаця можа родзічы былі б і радыя даведацца пра месца пахавання.

**Доўгая дарога дадому**

Славутая сям’я была ў Гіняк. Вялікая, дружная. Жылі ў Жукоўшчыне на тым месцы, дзе цяпер стаіць хата Рэні Лонскай. А зямля была па той бок ракі на Палаўскім баку, шмат зямлі, быў і свой лес. Кіраваў усёй гаспадаркай Вінцук разам са сваёй другой жонкай Гіленай. У сям’і было дзевяць дзяцей, восем хлапцоў і адна дзяўчына. Ды яшчэ ад першай жонкі ў Вінцука былі дачка і сын. Але, калі жонка памерла, дзяцей забрала яе сястра і вывезла ў Амерыку, дзе сама засталася стала жыць пасля выезду на заробкі.

Сям’я Гіняк была незвычайная, усе хлапцы ігралі на музычных інструментах. Асабліва вызначаліся Юзаф, які іграў на гітары, цымбалах, балалайцы, Зэнусь на балалайцы, Гжэгуш на скрыпцы. Як выйдуць, бывала вечарам пад хату ды як зайграюць дык уся вёска збіраецца: тут і танцы і песні. Ой вясёла было! Жылі ўсе не сказаць што вельмі сыта, але весела. І каціласяб, плыло такое жыццё спакойна і размерана, нібы тая Дзісёнка, каб не вайна.

Гжэгуш сустрэў яе ў Феадосіі, служачы ў Чырвонай Арміі. Як вядома, захопленыя знянацку савецкія войскі часта цярпелі паразы. Так было і ў Крыме. Дваццаці двухгадовы Гжэгуш разам са сваімі аднапалчанамі трапіў у нямецкі палон. Перш найперш немцы аддзялялі для ліквідацыі “Komunisten, Juden und Ofiziren!” На кучаравага, з гарбатым носам Гжэгуша звярнулі ўвагу і палічылі былі ўжо яго за жыда, але вочы былі блакітныя, нешта памацалі чэрап за вухом і правяраючы запытаў: “Polen?” І гэта было паратункам.

Якім было жыццё ў лагеры для ваеннапалонных мы добра ведаем па фільмах. Не лепш абыходзіліся немцы і з ваеннапалоннымі ў Феадосіі. Голад, холад, хваробы забіралі сілы і жыцці маладых салдат. А дзе ў той час былі іх думкі? Канечне ж кожны думаў пра свае сем’і, успамінаў мірнае жыццё. Некаторыя спрабавалі ўцячы і некаму шанцавала. А каго лавілі – таго чакаў расстрэл. Рашыў выпрабаваць сваю долю і Грышка(так яго тут перахрысцілі на рускі лад). Згукаліся яшчэ з двума землякамі беларусамі і дажджлівай ноччу зрабілі падкоп і збеглі. А куды ісці, дзе пераначаваць, што есці ў дарозе? Баяліся каб іх не злавілі і таму ішлі толькі ноччу, капалі бульбу, збіралі яблыкі, спалі па чарзе. Колькі небяспек было на гэтым шляху – і уявіць цяжка. Каля трох месяцаў цягнулася гэта змаганне з небяспекай, страхам, голадам і холадам. І таму такой радаснай была сустрэча з роднымі, з каханай Зонькай. А як цешыліся бацькі? Яны ведалі, што такое вайна і не спадзяваліся, што сын вернецца дадому. Вайна вайной, а жыццё працягвалася. Маладыя Зонька і Гжэгуш ужо не маглі быць паасобку, доўгае расстанне яшчэ больш узмацніла іх пачуцці. І яны павянчаліся ў касцеле, хаця маладая была праваслаўная, а раней без вянчання – аніяк. Гэта не цяперашняя распуста, што закаханыя пачынаюць жыць разам не толькі не павянчаўшыся, але нават і не пытаюць пра гэта бацькоў.

Толькі не доўга цешыліся маладыя. Зімой 1942 года пачалася карная экспедыцыя супраць партызан. Мірных жыхароў адсялялі за Шаркоўшчыну, некаторых пагналі ў Варапаева, а маладых і працаздольных павезлі ў Германію. Патрапілі ў гэту партыю і маладыя Гінькі. На Нямеччыне яны жылі ў бараках для вывезеных і іх забіралі на розныя працы гаспадары. Зонька часцей дапамагала упраўляцца па гаспадарцы, Гжэгуша таксама бралі на сельгасработы. У аднаго гаспадара ён убачыў скрыпку і папрасіў паіграць. Інструмент быў хоць і чужы, але зроблены адмыслова, фабрычны. Паслухаць сапраўднага майстру сабраліся ўсе, і суседзі і

хто працаваў недалёка. І з тых пор маладым Гінькам стала жыць намнога лепш. Гжэгуша наймалі іграць і плацілі: хто паесці, а хто даваў і грошы. Я ўяўляю таго музыку, хаця і не бачыў жывога, а толькі чуў па расповедах. Я маю шчасце быць знаёмым з падобным талентам, як кажуць, ад Бога. Гэта Адамёнак Генадзій Мацвеевіч з Каўшэлева. Яму дастаткова было адзін раз паслухаць мелодыю і другі слупок ён ужо не проста дапамагаў, а так прыўкрашваў мелодыю, што аж за душу брала. Упэўнены, што наш Гжэгуш быў не горш. І ён лёгка мог іграць нямецкія танцы і песні, як і свае родныя.

11 лістапада 1944 года на чужыне нарадзілася дачка. Вайна кацілася цяпер і з захаду і ўсходу. У маі 1945 года немцы капітулявалі. Сям'я Гінькаў аказалася ў амерыканскай зоне. Была магчымасць застацца тут у Нямеччыне ці выехаць у Англію або Амерыку. І многія тым скарысталіся. Але маладых Гінек, нібы тых птушак з выраю, неадольная сіла цягнула дадому на родную Дзісненшчыну. Дачакаўшыся свайго эшалона яны рушылі на Ўсход. Але дадому вярнуліся толькі маці і дачка. У Калінінградзе Грышку затрымалі, правяралі дакументы і г. д.  Ён быў ”вінаваты” у тым, што трапіў у палон у Крыме, што збег аддтуль, што вярнуўся дамоў жывы, што быў вызвалены саюзнікамі, а не Чырвонай Арміяй. Адным словам рашылі, што ён “павінен паслужыць” цяпер па-сапраўднаму сваёй Радзіме. І 6 снежня быў прызваны Калінінградскім ваенкаматам на службу на Калыму. Звольнены быў у 1949 годзе. Затым “дабраахвотна” яго прызвалі папрацаваць на Ўрале на будоўлях галоўнага Ўпраўлення Будаўніцтва Далёкаўсходняй Поўначы НКВД. Дамоў, у родную Жукоўшчыну, вярнуўся толькі 18 снежня 1953 года. Дзе і што рабіў увесь гэты час – нічога нікому не расказваў. Пасля гэтага увесь час працаваў ляснічым у Полаве, іграў у мясцовым ансамблі. І пражыў усяго 56? год, з якіх 12 год забрала доўгая дарога дадому.

**Вялікая Айчынная – гэта толькі частка вайны**

***Змаганне за Польшчу***

На жаль, для нашых землякоў вайна пачалася нашмат раней, чым 22 чэрвеня. А менавіта першага верасня – у дзень, калі быў здзейснены напад на Польшчу. Тыя, хто служыў на той час у войску польскім  папалі на фронт. Узброеныя сілы Польшчы не змаглі аказаць значнага супраціўлення магутнай арміі Вермахта. Нехта з салдат трапіў у палон да немцаў, нехта бяз зброі прабіўся дамоў. Сярод тых, хто трапіў у палон да немцаў было трое нашых землякоў.

*Туронак Дзмітрый Канстанцінавіч* (1914 г.н.) быў адпушчаны немцамі дамоў. Ён двойчы ваяваў за Варшаву. У верасні 39-га абараняў яе ад немцаў, а ў студзені 45-

га вызваляў у складзе першага беларускага фронту. Да Берліна не дайшоў. Бо быў паранены.

*Сікора Мікалай Антонавіч* (1915 г.н.) – таксама трапіў у палон да немцаў. Аднак дамоў не вярнуўся, а працаваў на прымусовых работах у немцаў. Ён быў добры цясляр і ўсю вайну працаваў на мэблевай фабрыцы. Казаў:

- Вайна вайной, а мэблю адсылалі нават варагуючым краінам. Чамусьці ветэранам ён не лічыўся, хаця амаль шэсць год быў у палоне.

*Скрыплёнак Канстанцін Кліменцьевіч* (1916 г.н.) – пасля палону быў дома. Летам 44-га быў зноў прызваны на вайну. Ваяваў у складзе першага Прыбалтыйскага фронту.

Польша не забыла сваіх абаронцаў. Пасля распаду Савецкага Саюза яны атрымлівалі пенсію ў польскай амбасадзе ў Менску. Так, як людзі ўжо былі пажылыя, то для зручнасці выплаты праводзілі раз у квартал. Усе маюць дзяржаўную ўзнагароду Польшчы – ордэн Белага Арла.

***Японская кампанія***

Пасля перамогі над Германіяй нашы войскі ўдзельнічалі ў вайне супраць Японіі. Прайшлі праз гэта выпрабаванне і нашы землякі. Траплялі туды чамусьці тыя, хто ваяваў у Прусіі.

*Андрэйчык Іосіф Валяр'янавіч* (1910 г.н.) мог бы на японскую і не патрапіць. Дэмабілізавалі тых, каму было 50 год і маладзейшых на 13 гадоў. Сюды падпадалі 1895-1908 гады. Калі ў камісіі нейкая сакратарка спытала:

- Вы ж з 1908 года?
- Не, я з 1910 года!

Толькі пасля дапяў Юзюк, што яго хацелі пашкадаваць. І з 5-й арміі 3-га Беларускага фронта ён патрапіў на 1-ы Далёкаўсходні.

*Януш Аркадзій Іванавіч* патрапіў на японскую з 39-й арміі 3-га Беларускага фронту. Ваяваў у складзе Забайкальскага фронту. За час вайны атрымаў тры медалі "За адвагу".

*Лысёнак Лявон Лявонавіч (няма зьвестак).*

**Жыхары вёсак былога калгаса "Іскра", што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну**

| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Дзе ваяваў |
|---|---|---|
| **В. Сямёнавічы** | | |
| 1 | Дубіна Аляксандр Дзмітрыевіч | 21.12.44. Латвія, фронт |
| 2 | Лысёнак Пётр Ільіч | 16.08.44. Латвія, фронт |
| 3 | Мурзёнак Дзмітрый Міхайлавіч | 1942 г. Партызан |
| 4 | Мурзёнак Міхаіл Кандратавіч | 1942г. Партызан |
| 5 | Мурзёнак Мікалай Міхайлавіч | 1942 г. Партызан |
| 6 | Мурзёнак Фёдар Ігнатавіч | Партызан |
| 7 | Райчонак Аляксандр Сцяпанавіч | 25.06.44. Партызан |
| 8 | Райчонак Сяргей Лук'янавіч | Партызан |
| 9 | Стахоўскі Іван Паўлавіч | 23.04.45. Германія, фронт |
| 10 | Скварцэвіч Вячаслаў Іванавіч | 25.12.43. Партызан |
| | **В. Агальніца** | |
| 11 | Андрэйчык Віктар Міхайлавіч | 1943 г. Партызан |
| 12 | Андрэйчык Уладзімір Уладзіміравіч | 09.44. Фронт |
| 13 | Андрэйчык Іван Мікалаевіч | 1942г. |
| 14 | Жадзейка Ягор Мікалаевіч | 1941 г. |
| 15 | Васюковіч Уладзімір Ільіч | 22.11.44. Польшча, фронт |
| 16 | Касарэўскі Аляксей Гіляравіч | 14.04.45. Германія, фронт |
| 17 | Касарэўскі Веньямін Іосіфавіч | 1944г. Фронт |
| 18 | Касарэўскі Леанід Вікенцьевіч | 25.07.41. Фронт |

| | | |
|---|---|---|
| 19 | Касарэўскі Мікалай Усцінавіч | 28.01.45. Фронт |
| 20 | Курачонак Сяргей Сямёнавіч | 1943 г. Партызан |
| 21 | Касарэўскі Павел Гіляравіч | 1941 г. |
| 22 | Касарэўская Зенка | 1941г. |
| 23 | Курачонак Сцяпан Сямёнавіч | 08.01.45. Венгрыя, фронт |
| 24 | Курачонак Цярэнцій Уладзіміравіч | 1943 г. Партызан |
| **В. Грыблы** | | |
| 25 | Андрэйчык Дзмітрый Дзмітрыевіч | 1944г. Латвія, фронт |
| 26 | Балай Уладзімір Кліменцьевіч | 16.08.44. Латвія, фронт |
| 27 | Балай Канстанцін Сямёнавіч | 19.10.44. Польшча, фронт |
| 28 | Балай Пётр Антонавіч | 1944г. Прыбалтыка, фронт |
| 29 | Балай Пётр Іосіфавіч | Партызан |
| 30 | Балай Сямён | 1943 г. |
| 31 | Брэскі Ананій Пятровіч | 1943 г. |
| 32 | Брэскі Данііл Пятровіч | 1944 г. фронт |
| 33 | Брэскі Леанід Венедзіктавіч | Партызан |
| 34 | Брэскі Міфодзій Іосіфавіч | 1943 г. |
| 35 | Брэскі Мікалай Пятровіч | 16.08.44. Прыбалтыка, фронт |
| 36 | Дзіковіч Ірына Пятроўна | 1943 г. |
| 37 | Дзіковіч Савелій Мікалаевіч | 1943 г. |
| 38 | Кішко Арсеній Сямёнавіч | 01.11.44. Літва, фронт |
| 39 | Кішко віталій Вікенцьевіч | 10.44. Фронт |
| 40 | Кішко Пётр Міхайлавіч | Партызан |
| 41 | Лысёнак Іван Пятровіч | 15.09.44. Латвія, фронт |

| | | |
|---|---|---|
| 42 | Лысёнак Канстанцін Сямёнавіч | 19.10.44. Польшча, фронт |
| 43 | Лысёнак Пётр Васільевіч | 12.44. Фронт |
| 44 | Лысёнак Фёдар Анатольевіч | Фронт |
| 45 | Райчонак Веніямін Дзям'янавіч | 06.01 45. Польшча, фронт |
| 46 | Райчонак Уладзімір Іосіфавіч | 13.08.44. Латвія, фронт |
| 47 | Райчонак Сяргей Мартынавіч | 1943 г. |
| 48 | Райчонак Якаў Мартынавіч | 1943 г. |
| 49 | Райчонак Ніна | 1943г. |
| 50 | Райчонак Аляксандр Якаўлевіч | 1943г. |
| 51 | Райчонак Валянціна Якаўлеўна | 1943 г. |
| 52 | Райчонак Мікалай Якаўлевіч | 1943 г. |
| 53 | Сікора Анатоль Антонавіч | 1943 г. |
| 54 | Сікора Дзмітрый Сцяпанавіч | 1943 г. |
| 55 | Сікора Мікалай Андрэевіч | 1944 г. Фронт |
| 56 | Скрыплёнак анастасій Кліменцьевіч | 2.03.45. Прусія |
| 57 | Скрыплёнак Анфіса Антонаўна | 1943 г. |
| 58 | Чабатаронак Дзіяніс Венедзіктавіч | 29.12.44. Латвія |
| 59 | Чабатаронак Фёдар Арсеньуевіч | 1943 г. Партызан |
| **В Слабада** | | |
| 60 | Чабатаронак Уладзімір Францавіч | 15.08 44. Латвія |
| **В. Алашкі** | | |
| 61 | Брэскі Уладзімір Валяр'янавіч | 05.03.45. Германія |
| 62 | Віцько Віктар Іосіфавіч | 22.10.44. Польшча |
| 63 | Зарэцкі Лук'ян Лук'янавіч | |

| | | |
|---|---|---|
| 64 | Лысёнак Дзмітрый Юльянавіч | 05.04.44. Латвія. Фронт |
| 65 | Райчонак Антон Юльянавіч | 24.02.45 г. |
| 66 | Сікора Ягор Сямёнавіч | 1943 г. |
| 67 | Сікора Іван Антонавіч | 07.1944г. фронт |
| 68 | Чарэнка Анфіса Іпалітаўна | 1943 г. |
| **В. Жукоўшчына** | | |
| 69 | Гінько Зянон Вікенцьевіч | 1943г. Прыбалтыка, фронт |
| 70 | Гінько Іван Вікенцьевіч | ? |
| 71 | Касарэўскі Іосіф Усцінавіч | 04.05.45. Германія, фронт |
| 72 | Лысёнак Аляксандр Вікенцьевіч | 1942 г. |
| 73 | Лысёнак Аркадзій Сямёнавіч | 1945 г., фронт |
| 74 | Лысёнак Генадзій Лявонавіч | 1944г. Польшча, фронт |
| 75 | Лысёнак Вікенцій Валяр'янавіч | 1942г. Германія. Фронт? |
| 76 | Лысёнак Канстанцін Георгіевіч | 1944 г. Прыбалтыка, фронт |
| 77 | Райчонак Іосіф Валяр'янавіч | 1944г. Польшча, фронт |
| 78 | Станюш Ананій Канстанцінавіч | 05.1945г. |
| 79 | Станюш Генадзій Вікенцьевіч | 31.10.44 г. Польшча, фронт |
| 80 | Станюш Мікалай Пятровіч | Фронт |
| 81 | Лысёнак Уладзімір Міхайлавіч | 29.01.45. Германія, фронт |
| **В. Мельніца** | | |
| 82 | Касарэўскі Генадзій Канстанцінавіч | 1944 г. Прыбалтыка, фронт |
| 83 | Касарэўскі Сяргей Канстанцінавіч | 1941 г. фронт |
| 84 | Усцінаў Іван Кірылавіч | 1943 г. Партызан |
| 85 | Хаткевіч Георгій Андрэевіч | 10.02.45г. Польшча |

| | | |
|---|---|---|
| 86 | Януш Ананій Пятровіч | 1943 г. |
| **В. Зямцы** | | |
| 87 | Андрэйчык Сяргей Іванавіч | Фронт |
| 88 | Аўлас Іосіф Варфаламеевіч | |
| 89 | Аўлас Павел Іосіфавіч | Партызан |
| 90 | Брэскі Мікалай Лук'янавіч | Фронт |
| 91 | Ваенны Васіль Пятровіч | |
| 92 | Касарэўскі Генадзь Вікенцьевіч | 13.02.45. Польшча, фрнт |
| 93 | Курачонак Іван Сямёнавіч | Фронт |
| 94 | Лысёнак Яфім Усцінавіч | Фронт |
| 95 | Лысёнак Канстанцін Усцінавіч | 4.10 44. Латвія, фронт |
| 96 | Лысёнак Леанід Валяр'янавіч | |
| 97 | Лысёнак Мікалай Валяр'янавіч | 4.10.44. Латвія, фронт |
| 98 | Лысёнак Пётр Венядзіктавіч | 1945 г. Польшча, фронт |
| 99 | Рубцоў Рыгор Іванавіч | 10.44. Фронт |
| 100 | Седзюкевіч Міхаіл Пятровіч | 28.10.44г. |
| 101 | Скрыплёнак Аркадзь Францавіч | 18.11.44. Усх. Прусія, фронт |
| 102 | Райчонак Сяргей Іванавіч | |
| 103 | Чабатаронак Аляксей Васільевіч | |
| 104 | Януш Павел Кандратавіч | Май 44, партызан |
| 105 | Сініца Мікалай Іосіфавіч | 1943 г. |
| 106 | Седзюкевіч Валерый (з сям'ёй) | Расстраляны бандытамі |

**Трошкі гумару**

Жыццё нас песціць не заўсёды і дорыць радасць кожнаму ў нашы маладыя гады і асабліва ў дзяцінстве. У сталым веку чалавека больш займае праца, клопаты і перажыванні, у старасці даймаюць хваробы. І цяпер ужо радавацца асабліва не прыходзіцца. Гэта я так гавару пра большасць людзей, але не пра ўсіх. Паўсюль ёсць зусім другія, тыя, што і ў паўсядзённых турботах, цяжкіх жыццёвых сітуацыях знаходзяць над чым пасмяяцца і развесяліць другіх. Тым самым яны скрашваюць шэрую будзённасць нашага жыцця, настройваюць на пазітыўны лад. З такімі людзьмі прыемна бавіць час, яны – заўсёды жаданыя не толькі ў вясёлай бяседзе, з імі весялей і працаваць і каратаць доўгія часіны чакання або дарогі.

Не памылюся, калі аднясу да такіх людзей полаўскага Сеньку. Касарэўскі Сямён нарадзіўся і пражыў усё жыццё ў Полаве. Чалавек усебакова развіты. Што ён толькі не ўмеў рабіць: быў і першым механізатарам, і камбайнёрам, і машыністам сушылкі, і вайлакі валіў, і на гармоніку іграў, і майстрам быў на ўсю акругу па печах, і самае галоўнае – меў талент смяшыць людзей. Нешта цікавае заўважыць, дакладзе трохі свайго, недзе падбольшыць, нечага дамяшае, зложыць прыпеўку – і выходзіць па-сапраўднаму смешна, трапна, дасціпна і даступна кожнаму, хто яго слухае. Успамінаю яго знешнасць. Быў ён невысокага росту, сярэдняга целаскладу, гаварыў неяк як бы троху шапяляючы, пастаянна ўсміхаўся, а ў вачах заўсёды бегалі жывыя іскрынкі. І калі ён на нейкі час пераставаў гаварыць, то была заўважна яго творчая думка і посмех. Мне здаецца, што ў такі час ён складаў ізноў нейкую смехатуру, расказваў яе спачатку сабе і, задаволены, пасміхаўся. Прыемна было яго бачыць у такі час.

Першы раз пазнаёміўся я з Сенькам, як з мурнікам. Было гэта на пачатку маёй працоўнай дзейнасці ў калгасе “Іскра”. Я жаніўся, нам далі дом і мая гаспадыня Таццяна адразу ж закамандавала перарабіць пліту і каб была печ. Склалі яе шабашнікі хутка, але нешта была слабая цяга. Мне падраілі з’ездзіць за дапамогай да Сенькі. Я з’ездзіў і папрасіў Сеньку аб рамонце. На той час ён быў заняты, але запытаў дзе я жыву і дакляраваў некалі дапамагчы. Прыехаў ён без папярэджання, калі нас не было дома, адняў у хаце вакно і зрабіў сваю справу. Калі ж я прыйшоў на абед, то ў маёй грубцы ўжо палаў агонь і дым ішоў туды куды трэба. Здзівіла мяне яшчэ і тое, што гэты немалады ўжо тады чалавек (было тады яму ўжо за семдзесят) прыехаў сам на матацыкле і не ўзяў з мяне аніякай платы. У другі раз ён працаў у мяне таксама над печчу. Тут была “вясёлая” Полаўская брыгада ў складзе Сенькі, Сашкі Курачонка, Татыржы Генкі і Дарашчонка Генкі. Іх было так шмат таму, што акрамя печы, паставілі мне яшчэ ў пліту і кацёл для вадзянога ацяплення і зманціравалі ўсе трубы. Працавалі вечарамі і ноччу. Усе спяцы, хто

варыў трубы, хто манціраваў батарэі, хто лажыў цэглу. Сенька агледзеў, што ў комін малая дзюрка і гэта прычына таго, што дымелі ўсе мае печы. Як пускалі дым, то перад затопкай, як звычайна, нехта спрабуе то паліць газету, то курыць і глядзіць ці цягне дым ў печ. Сенька ж казаў, што калі добрая цяга, то каля печы ў бабы павінна аж падол падымаць і трэба асцерагацца каб што не асмаліла. Калі не памыляюся усё зрабілі за тры дні. За работу таксама яны з мяне ўзялі мала, праўда гарэлкі папілі ўдосталь ну і канечне ж наслухаліся і Сеньку, а з імі і я.

Запомніў Сенькаву параду, як даваць рады сваёй бабе, калі яна ня ў духу і многа пукчыць на свайго мужа. У такім выпадку Сенька казаў сваёй маладзіцы: “Валя, адстраняйся ты ад злога духа!” Што не кажы – ці ж табе баба змоўкне ды супакоіцца! А тут як прызыў да Ўсявышняга! І калі ў бабы ёсць хоць нейкая вера ды троху мазгоў, то яна правільна прыміць такія словы. Паспрабуйце і вы! Маей дапамагае.

Расказваў адзін выпадак як дзеўкі давялі да канфузу аднаго хлопца. Быў ён прастакаваты, увагі ад дзевак належнай не меў і таму часам сам наведваў дзявочыя кампаніі. Сядзіць, дзяўчат разглядае, слухае. А яны на яго нават увагі не звяртаюць. А дзявочым бяседам гэта часам і замінае яго такая настырнасць. І вось рашылі дзеўкі яго правучыць. Запрасілі яго на нейкія дзявочыя пасядзелкі. Такая павага для дзецюка! Ды так за ім ўхаджваюць, ды наліваюць і пабольш падкладваюць смачнога паесці і да танца запрашаюць і на вушка нешта загадкавае нашэптваюць. А ў напой хлопцу дабавілі пургену. Раздабрэў наш Генюська, зусім разамлеў, тут ужо б і на двор бы схадзіць да ветру ды і не толькі. А дзяўчаты ўсё ўвіваюцца каля яго ды падліваюць, ды накладаюць і просюць: “Пасядзі, Генюська! Пасядзі!” Другі б, які разбітны, проста так бы ім і сказаў, куды яму трэба. А Генюська… вядома ж сарамлівы, цярпеў цярпеў ды не вытрымаў. Аканфузіўся на поўніцу… Затым схапіў сваю вопратку ды праз дзверы. А дзеўкі гагочуць. У, сцервы!

З лёгкай іроніяй расказаў Сенька гісторыю і пра сябе. Яго маладзейшыя сябры (я думаю што гэта пэўна быў Сашка Курачонак) падраілі яму для ўмацавання мужчынскай сілы папіць нейкіх каранёў. Казалі, што пасля іх сіла ў “корані” з’яўляецца незвычайная. Напэўна, у іх, маладых гэта і сапраўды было так, але не быў бы гэта Сенька, каб не паспрабаваў такіх зёлак на сабе. Сказалі яму, якую дозу трэба прыняць і папярэдзілі, каб загадзя падрыхтаваўся, бо дзеянне каранёў наступае хутка. Ну вось, назначыў Сенька сваю патэнцыйную ахвяру, адфранціўся, падзікалоніўся, прыхапіў свае лекі і вечарком ціха вышмыкнуў на вуліцу, каб Валя яго нічога не дапетрыла. Выйшаў на перакрыжаванне, і пабаўтаўшы зелле вінтам заглынуў яго. І так, як яно было настоена на добрым першаку, то ўнутры па ўсім целе разлілося прыемнае цяпло, хутка дало і ў галаву, але больш нікуды. Пачакаў Сенька так хвілін пятнаццаць, потым яшчэ, калі ж пачне тое зелле дзейнічаць. Але

“корань” ніяк не рэагаваў. Ну куды ісці? Пазорыцца? І чаго чакаць, калі ўжо і так добра адубеў. І ён махнуўшы на ўсё рукой, хуценька паскробся дамоў пад коўдру грэцца. Але ж што сказаць тым маладзёнам, што падраілі такое “памоцнае” лякарства? І прыдумаў нядрэннае. Раскажу ім анекдот, як маладыя хлопцы пісалі скаргу на тое, што выпускаюць слабыя прэзерватывы і яны часта рвуцца. А далучыўшыся да іх дзед ім паддакваў і папрасіў каб дапісалі, што яны не толькі рвуцца, але і гнуцца. Вот будуць хлопцы хахатаць і я з імі!

**Сел и подумал: «Как интересно жить!»**

Гэту гісторыю мне расказала Табола Людміла, былая жыхарка вёскі Тузбіца. Гэты расказ мне запомніўся не толькі тым, што ён пра маскаля, не толькі тым, што мова надзвычай яркая, якую я ўжо наўрад ці перадам, а тым, як чалавек знаходзіць цікавасць да жыцця ў звычайных жыццёвых сітуацыях, для другога б якія маглі аказацца цяжкавырашальнай праблемай, прычынай для клопатаў і перажыванняў.

У Квачах на Глыбоччыне, дзе я нарадзіўся і адкуль выйшаў у свет жылі адны католікі. У навакольных вёсках сустракаліся і праваслаўныя, а вось старавераў, або прасцей маскалёў, у нас не было. Тут жа на Шаркоўшчыне – яны не рэдкасць. Раней былі цэлыя вёскі. Перш за ўсё кідаецца іх гутарка з рускім “г”, а таксама шмат рускіх слоў. Сапраўдныя маскалі хадзілі з бародамі, не пілі гарэлкі, не курылі, нават калі давалі папіць вады іншаверцу, то з асобнага кубка, які для іх ужо лічыўся “нячыстым”. Жанчыны іх былі надзвычай добразычлівыя і паважалі сваіх гаспадароў. Ды то было раней. Зараз жа сучасныя спакусы не мінулі і маскалёў, што знайшлі сабе прытулак на нашай зямлі.

Не памятаю, з якой нагоды цётка Люда пачала мне расповед пра знаёмага ёй маскаля. Можа з-за таго, што засталася самотная на сваёй гаспадарцы, дзе нават не з кім перакінуцца словам, а можа проста ўспомнілася даўнейшае жыццё, не лёгкае, паўгалоднае, але надзвычай цікавае і вясёлае, бо верылася, што наперадзе будзе нешта лепшае…

Суседа звалі Парфірый. Як і ўсе сапраўдныя маскалі насіў бараду, калі так можна было яе назваць. Гэта была не акладзістая пышная белакудрая шавялюрына, а хутчэй за ўсё рэдкая “казіная бародка”. Ды і што магло лепшае вырасці на невялічкім хударлявым мужычку. Што не скажаш пра яго дародную Маруту. Пабачыўшы іх разам і не ведаючы, можна б было б сказаць, што Марута моцна трымае свайго Парфішу ў руках. Ды не ж! Слова гаспадара было законам, не гледзячы на розныя вагавыя катэгорыі. Хаця можа так і было толькі на людзях. Павевы эмансіпацыі сталі пранікаць і ў непахісныя патрыярхальныя сем’і старавераў. Марута была партыйная. І хутчэй не па перакананнях, а як дань модзе.

Вадзілася за ёй адна прамашка – амаль заўсёды спазнялася на партыйныя сходы. Ну і ў чарговы раз ёй кажуць: “Будзем цябе, Марута Нікандраўна, караць. Аб’яўляем табе выгавар!”

- А вот і не выгаварыце, я абед мужіку строіла, вот і апаздала, ні выгаваріце. Не іміеце факцічыскага права лішаць маво Парфішу абеда.

Сам жа Парфірый быў любіцель пабалтаць. Сільна ня мудраствваў, але ў кішэнь за словам не лазіў. Прыдзіць бывала на прызбу да баб з мужыкамі, што сялуюць у свята, ды і слухае, а часам і сам сваё нешта “уводзіць у вушы”, ня промах ён і прыманіць нешта:

- Да, вот учара набегался!
- А што такое, Парфіша!
- Да вот Фёдар мой вчэра на танцах в Паташне задрался. Да сільна падрались с Белькамі чуць да панажовшчыны не дашло. Эта харашо, что я праслушал, да заляцел, да разагнал іх хварасцінай. У, бесьі деці!
- Ут, маладзец ты Парфірый, смелы, не пабаяўся нажа!
- Да что мне эта пацанва! А тут не успел дамой прыціць, как ужэ наказывают, что там в Гіньках тваі Грішка с Васькой дерутся с местнымі із-за девок. Ну і туда забежал да разбороніл.
- Ты, Парфіша, як малады, дзе ты так з усім спраўляісся, вот даюць табе жызні твае хлапцы, хай на іх пранцы!
- Да что вы саабражаеце. А я ж тагда прішол дамой. А пагода вечером, салавьі…! Сел і подумал:” Как інтересно жіть!”

**Замашанскі асілак**

Гэту гісторыю расказаў мне мой сусед Касарэўскі Мікалай, чалавек унікальны з розных бакоў і ў тым ліку, што памяць меў фенамінальную. Дык вось, гэты расповед пра аднаго замашанца. Замашанцамі ў нас называлі ўсіх тых, хто жыў па той бок балота Вялікі Мох. А гэтыт, я б сказаў, быў замашанец у квадраце, бо паходзіў з вёскі Замошша Браслаўскага раёна. Не так даўно я там быў. Прыгожае места: навокал лес, два возеры, злучаныя рэчкай. Зараз гэта сапраўдная Мекка для мінскіх дачнікаў. Сюды яны пруць на выхадныя і на лета на свае лецішчы. Дык вось тут прыкладна ў 1915 годзе нарадзіўся Ўладзімір Аляшэўскі. Чым ён быў адметны. Спачатку нічым, рос, як і ўсе вясковыя дзеці пры бацьках, а калі памерла маці, то мачыха стала выпраўляць яго ў заробкі. А дзяцюк ён быў ужо не слабы і па сіле і наконт паесці (казалі на адзін раз заказваў паесці вядровы кацёл бульбы). Ну, а як кажуць, па ядзе і праца. Аднойчы наняўся да аднаго гаспадара малаціць ды і зламаў яму два цапы. А гаспадар быў гарачы ды даў яму па вуху. Хоць і ад гаспадара, але юнак такой крыўды не пацярпеў, схапіў гэтага дзядзьку за каўнер ды

порткі і перакінуў праз пераруб (каля 2.5 метраў). Пабачыў гаспадар, што з такім шуткі слабыя, разлічыў яго ды адправіў дамоў далей ад граху. Пасля неяк ён дабраўся ў Вільню і там працаваў у цырку, паказваючы сілавыя намяры. Атрымліваў ад гаспадара па 10 злоты за выступленне, але пакінуў гэту працу пасля таго як быў падмануты.

Затым вярнуўся дамоў і стаў хадзіць па вёсках і паказваць свае нумары. У нашай мясцовасці ён заўсёды спыняўся ў Саўкі (Райчонка Самуіла) ў Большых Алашках. На сваіх выступленнях браў за білет па 20 грошы. Запомніліся такія яго нумары. Ён перацягваў па дзесяць чалавек на вяроўцы на кожнай руцэ. На яго шыі гнулі прэнт (у сячэнні квадрат 35х35мм). Цалёвую паласу для падковы (25х25х10мм) скручваў, як дрот.

Быў ён з выгляду сярэдняга росту, але шырокі. Заўсёды хадзіў з чамаданчыкам. Аднаго разу ішоў праз капанку, а мужыкі вазілі лес і паракуліліся сані. Качаліся мужыкі каля бэлькі, як мурашкі, і не маглі даць яму рады. А бэлька была адмысловая, недзе каля куба. Пабачыў Аляшэўскі такую няўпраўку, паставіў свой чамаданчык ды і закінуў камель на сані.

Аднаго разу сустрэў ён у вёсцы рызніка (жыда). Той, як звычайна, нешта прадаваў, выменьваў. Нечым Аляшэўскаму гэтыт "франт" не спадабаўся. І заспорыў Уладзімір з жыдам, што калі перацягне яго каня, то забярэ яго сабе. Зачапіў ён за цялегу нейкую вяроўку і моцна ўпёрся ў зямлю. Конь не вытрымаў змагання і, упаўшы на каленькі, перайшоў да новага гаспадара. Падобны выпадак быў на фэсце ў Шаркоўшчыне. Там нейкі пан быў на жарабцы і ў лінейцы. Тут жарабец аказаўся таксама не са слабых. У Аляшэўскага ў руках засталася вырваная з лінейкі вось. І яшчэ расказвалі, неяк размінуліся мужыкі з гэтым асілкам на масце ў Полаве. І толькі яны перайшлі на другі бок, як на рацэ узвіўся вялікі слуп брызгаў. Пасля яны дапетрылі, што яны ад каменя, які не толькі падняць, а і скаціць у раку ніхто не браўся. Вось такіх малайцоў гадавала наша зямля!

Пад час майго візіту ў Замошша я спытаў у свайго знаёмага ці чуў ён што-небудзь пра такога асілка Аляшэўскага. У адказ ён называў нейкія другія прозвішчы і іх "цуды сілы", але яны адрозныя ад згаданага мною Уладзіміра. Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што не ўсе героі застаюцца ў людской памяці і аб тым наколькі іх шмат у нашым краі.

**Прыняў выклік заезжага "мядзведзя" і перамог**

*Мядзюха Ірына Агур'янаўна*

Гэта расповед Мядзюха Ірыны Агур'янаўны пра свайго бацьку і шматлікую сям'ю. Бацька, Савелаў Агур'ян Анісімавіч нарадзіўся ў 1885 годзе ў вёсцы скінгі ў Літве. Па веравызнанню быў маскаль(старавер). Напярэдадні вайны выехаў на працу ў Рыгу. Быў рабочым на вагонным заводзе. Туды ж прыехала на заробкі і маці Марыя (1893г.н.). Там маладыя і пажаніліся. Там нарадзілася ў іх першая дачка. Таксама Марыя(1915). Бацьку забралі на вайну(ён быў наводчыкам пры арудзіі), а маці прыехала дадому ў Зямцы. У вайну бацька патрапіў у нямецкі палон і не адзін. Было шмат палонных з Беларусі ў тым ліку і з мясцін, адкуль была родам жонка. Дабраліся такія ўтрох Агур'ян, Сцяпан Давідовіч (Сашкі бацька) з Зямцоў і Сяргей…. з Полава. Уцячы з лагера было не складана. Куды больш цяжка было дабрацца да дому(усюды па дарогах патрулі, незнаёмая мясцовасць, чужыя людзі). Ішлі толькі па начах. У кожнага, як сказала Ірына Агур'янаўна, была свая "прафесія". Бацька Агур'ян па зорках вызначаў дарогу, Сцяпан дамаўляўся з начлегам, а Сяргей стараўся харчоў. Ішлі больш месяца, шмат перашкод і розных людзей сустракалі на сваёй доўгай дарозе да дому, але Бог мілаваў.

Купілі ў Зямцах 3 гектары зямлі, працавалі на ёй і гадавалі дзяцей. А нарадзілася іх ажно 11. Праўда чацвёра з іх памерлі ў розным ўзросце. Выжылі акрамя згаданай Марыі яшчэ Верка(1918 г.), Клаўдзя(1920 г.), Мішка(1923 г.), Барыс(1932 г.), Ірка(1934 г.), Грышка(1936 г.).

Пры Польшы вялі праз Пятровічы чыгунку. Многія людзі наймаліся працаваць. У 1931 годзе чыгунку ўрачыста адкрывалі. На станцыі ў Пятровічах сабраўся ўвесь навакольны люд. А як жа! Адкрывалася сувязь з усім светам. Вільня, Полацак цяпер сталі даступныя ўсім. З сельскагаспадарчага раёну вывозіўся лес, лён, збожжа. І перавозкі па чыгунцы былі таннейшыя за конныя ў 20 разоў. Былі выступленні, прадстаўленне іграў аркестр. У саставе агітбрыгады быў барэц. Дужы, касматы, рукі моцныя, як лапы ў мядзведзя. Ён прапанаваў: "Можа хто хоча са мной пабароцца?" А тата: "Я!" Мужык ён быў не такі і вялікі, але лоўкі і хітры. І вось яны схапіліся! А бацька неяк прыпадняў таго барца, ды ззаду нагой яму як даў пад пяткі і паваліў. Шыю і галаву так зацісnуў локцям, седзячы наверсе, што ў тога "мядзведзя" аж скура з наса злезла. От білі ў далонькі ўсе! Памёр Агур'ян 17 снежня 1953 года. Можа б і доўга жыў, такі крапак быў! Але аднаго разу пасля лазні папіў, распарыўшыся, халоднай кіслай сывараткі, хваціў запаленне. А кіслае ж сільна небяспечна для прастуды. Казаў: "У сярэдзіне, як шкла набіта, так

коліць!” і доктар прыехаўшы сказаў: “Нічога ня будзіць, лёгкія згарэлі”. Так хутка і сканаў.

**У пастухі з васьмі год**

*Шпаковіч Іван Уладзіміравіч(Янак Шпак)*. На радзіўся 20 ліпеня 1932 года ў вёсцы Крапіўнікі, што каля Валожанак. Бацька не меў зямлі, але з дзедам Пятром маглі сталярнічаць. Рабілі не толькі будынкі, але і мэблю, а дзед нават рабіў і скрыпкі. Дарэчы і сам іграў і вучыў іграць малога Янака на падоранай сваёй скрыпцы. Бацька Ўладзімір зрубіў у Зямцах аднаму гаспадару хату, за што атрымаў 20 сотак зямлі. Гэта месца было пры самым лесе. Паставілі талакой будынкі і жылі са сваіх сотак. Але як з іх можна жыць? Толькі пасадзіць гарод. Бацька нешта зарабляў сваім сталярствам ды паляваннем. Жывучы амаль што ў лесе, асвоіў гэтыт занятак і Янак. У сям’і былі яшчэ два малодшыя браты Манік і Франак і пракарміцца было надзвычай цяжка. Вось матка Агнешка і павяла старэйшага Янака наймацца пасвіць скаціну да гаспадара. Недалёка ад Курылавічаў на хутары, дзе цяпер магілкі жылі два браты Генусь і Казік Дземідовічы. Жылі ў адной хаце і кожны меў сям’ю. У Казіка была дачка Марыся, а ў Генуся Казік, Аліна, Стасік. Гаспадарка была вялікая – 50 гектараў зямлі, чатыры каровы, двое рабочых коней і адна выязная “ангелька” і каля 30 авечак. І вось з гэтымі рагатымі і хвастатымі прыйшлося ўпраўляцца васьмігадоваму хлапчуку. Цяжэй за ўсё было вельмі рана прачынацца(пасвілі скаціну з 4 гадзін ранку і да 10 вечара і з 11 да 14 гадзін абед). Часам малы і засынаў на пашы. Ён кажа: “Прачынаюся, страшна, што можа каровы пайшлі ў шкоду. Аж не, гляджу гаспадар іх глядзіць. На мяне ніколі не крычаў і не біў. У абед вадзіў на раку купацца і праз дзень вазіў у Барэйкі ў касцёл на катэхезу. А карміў! Па дзевяць разоў на дзень. Вот рана ў чатыры гадзіны і з сабой даець і ў кашэнь. У сем гадзін пускаў дамоў есці і давалі з сабой. Як кароў прыганяюць на абед – само сабой і да начы яшчэ чатыры разы. Аднаго разу папрасіў праехаць вярхом на “ангельцы”. Гаспадар папярэдзіў каб трымаўся і не нацягваў аброць, а я ўзяў ды троху крануў і яна мяне як панесла, а каля ручча, дзе вадапой раптам як тармазнула, то я і пляснуўся ў ваду. Генусь падляцеў, збялеўшы, так баяўся хаця б я не скалечыўся. Глядзеў мяне, як свайго сына. А тады было многа ваўкоў. Аднаго разу прыйшлі тры ваўкі. Два ўзялі па авечцы, закінулі сабе за плечы і папёрлі, а трэці схапіў вялікую за каўмер і вядзець, а хвастом падганяіць. Я азяў дубца і адбіў ў яго авечку. Ну як рванула ўсё стада ды дамоў у хлеў, а воўк ззаду, але ўхапіць не сумеў. А перад дзвярмі так тармазіў, што аж шрамы ад кіпцюроў засталіся. За сезон працы гаспадар даваў мне 12 пудоў хлеба і 12 пураў бульбы(1 пур – гэта 3 пуды). У гэтага гаспадара я атрабіў пяць гадоў. Пасля вайны ён выехаў у Польшу. Падарыў мне на развітанне пару трусоў на развод і пустую бутэльку з-пад гарэлкі. А яна

была не прастая, а з фокусам. На ёй была намалявана дзеўка, а калі адпіваеш, то яна раздзяваецца. На жаль, гэта памяць па добрым чалавеку, што дапамог выжываць нашай сям'і не захавалася.

**Спісалі на вайну**

Так, ахвярай партызанскага сваяволля стала сям'я Седзюкевіча Валеркі, што жыў над рэчкай у Чартку. Іх сын Косця неяк быў у Шаркоўшчыне. Ці то партызанам нехта "увёў у вушы", што той перадаваў немцам звесткі пра партызан, ці то яны паквапіліся на багацце гаспадара, але адной ноччу яны ўчынілі самасуд. Патрабавалі золата, пыталіся, як сын звязаны з партызанамі і нічога не дабіўшыся гаспадароў расстралялі, а хату запалілі. Пасля гэтага сын пайшоў служыць у самаахову ў Шаркоўшчыну, а пасля вайны зусім выехаў у Польшу. За забойства сям'і "победителей не судили», усё спісалі на вайну.

**Згубіў галаву**

У простым і пераносным сэнсе згубіў сваю галаву з-за жанчыны, з-за кахання Курачонак Аркадзя з Зямцоў(брат Жэніка – Алегавага Бацькі). Ён прыйшоў у водпуск з арміі і злюбіўся з быўшай цешчай Дзімы Лысёнка (Вуля). Пасля вяртання ў часць не змог перанесці разлукі і збег дамоў прыхапіўшы з сабой пісталет. Хаваўся ў лесе і наведваў сваю каханую. Участковы Булыга пайшоў на хітрасць. Ён падаслаў да Аркадзі Астафея. Што жыў недалёка ад лесу. Аднаго разу на хутары ў завербаванага Астафея прагучалі выстралы быццам бы яго лавіў участковы за нейкія сур'ёзныя грахі і ён збег у лес. Чутка разнеслася па вёсцы і дайшла да Аркадзі, так што сустрэўшыся ў лесе ён не мог западозрыць правакатара. Жылі разам, а за вадой хадзілі па чарзе праз дзень у ручэй. У чарговы раз, калі Аркадзя спусціўся набраць вады прагучала Булыгава: "Рукі ўверх!" Аркадзя памкнуўся ці то ўцякаць, ці дастаць пісталет, але Булыга яго застрэліў. Пасля, калі вязлі яго ў Шаркоўшчыну, то участковы страляў з Аркадзявага пісталета і ў абойме выстралілі толькі тры патроны(астатнія напэўна адсырэлі).

**Щ-974**

*Успаміны Віктара Іванавіча Сікоры (1925-2008).* З Віктарам Іванавічам стаў знаёмы тады, калі яго ўзялі працаваць у калгас забеспячэнцам. Старшынёй калгаса тады працаваў Войцік, а я тады працаваў інжынерам. Спачатку я да яго ставіўся з нейкім недаверам і асцярогай, бо ведаў пра яго мала (казалі, што ён сядзеў у турме

10 год, ну а што добра выпівае – дык я бачыў і сам). Але са сваімі абавязкамі ён спраўляўся добра. У той час татальнага дэфіцыту (дзевяностыя гады) ён "даставаў" запчасткі, насенне, ездзіў нават за памідорамі ў Стаўрапаль. Я мяркую, што яму дапамагаў жыццёвы вопыт, шматлікія знаёмствы, уменне з кім трэба выпіць чарку ну і канечне ж турэмная загартоўка. Памагла мне з ім зблізіцца цікавасць да асобы яго бацькі. Паступова я адкрыў у гэтым чалавеку шчырага беларуса і сапраўднага патрыёта. На той час я ўжо працаваў у Слабадской школе і Віктар Іванавіч таксама ставіў калгас. Наколькі хутка ён сышоўся з Войцікам – і так жа хутка яны і пасварыліся. Аднаго разу малацілі за Алашкамі камбайны і, едучы побач Пракопаў Славік змалаціў і Віктару. Адкуль узяўся Войцік? І загадаў усё зярно забраць у калгас. Віктар паехаў да пракурора і прама ў лоб сказаў: "Ці можаш ты калупнуць Войціка? Ёсць кампрамат." Той сказаў, што не. А Віктар адразу падаў заяву на звальненне, ды і што яму было траціць – ён ужо даўно быў на пенсіі.

Хочацца ўзгадаць знешнасць Віктара Іванавіча. Быў ён высокі, мажны, твар васпаваты. Зусім не падобны да таго, што ў маладым веку на фотаздымках. І яшчэ цяжэй уявіць, што у час пакарання ў ГУЛАГУ ён быў дайшоў да 54 кілаграмаў (рэальна знаходзіўся на мяжы жыцця і смерці).

Калі мы з ім пасябравалі – я часта заходзіў да яго, каб пачуць яго расповеды. Што перш за ўсё уразіла – гэта чысцюткая беларуская мова (хаця вучыўся ён у польскай школе). У Віктара Іванавіча была цудоўная памяць. Даты і прозвішчы ён называў у сваіх 80 гадоў бездакорна. А колькі іх было! Сярод знаёмых такія персаналіі, як Барыс Кіт, Усевалад Родзька, Шкялёнак, Адам Станкевіч і шмат іншых. Пісаў вершы. Увесь яго архіў – гэта каля 700 старонак. Нешта паўтараецца. Але лейтматывам усіх яго твораў з'яўляюцца любоў да Радзімы, роднай мовы, пошук змагарных шляхоў да незалежнасці, нянавісць да камуністаў. А калі казаць вобразна, то яму сніліся сны аб свабоднай і вольнай Беларусі, за якую ён змагаўся і за што паплаціўся дзесяццю гадамі сібірскіх лагяроў. Яго вершы мы сумесна з глыбоцкімі сябрамі "падгладзілі" і выпусцілі зборнік "Шурпатая дарога". Такая назва – гэта крыжовы шлях аўтара і ўсяго нашага народа да незалежнасці.

Нарадзіўся Віктар Сікора 12 ліпеня 1925 года ў вёсцы Малыя Алашкі. Пасля заканчэння польскай школы пры немцах вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. Адзін з кіраўнікоў СБМ у Паставах. З вясны 1944 года сябра Беларускай незалежнай партыі.

Як сталася так, што маладыя семінарысты і Віктар у іх ліку сталі на шлях супрацоўніцтва з немцамі. Я шукаў на гэта адказу. Яго даў мне сам Віктар: "Для нас аднолькавымі ворагамі былі і немцы, і камуністы. І тыя і другія не давалі ніякіх шанцаў для ажыццяўлення беларускіх нацыянальных інтарэсаў. На

той час супрацоўніцтва – гэта спосаб легальнага на той час скрытага супраціву. Ні ў якіх карных мерапрыемства і ў падтрымку нямецкіх улад мы не выступалі.”

Калі прагналі немцаў – вярнуўся дамоў. Хутка сталі забіраць мужчын на вайну. Мабілізавалі і Віктара. Нававбранцаў адразу на фронт не пасылалі, а павезлі абучаць у Белую Цэркву, што на Ўкраіне. Па дарозе Віктар яшчэ з адным сябрам збеглі з цягніка. Гэта было ўжо восенню. Іх везлі з Дзвінска і спатрэбілася пераплываць Дзвіну. Неяк дабраўся дамоў. Хаваўся па хлявах, а калі стала зусім халодна, то змайстравалі ў варыўні схрон пад катухом бульбы ў яме, дзе ён і адседзеў усю зіму. Вясной перабраўся ў лес і быў там не адзін такі. Калі закончылася вайна, то была аб’яўлена амністыя для дэзертыраў і Віктар вярнуўся дамоў. Уладкаваўся працаваць у Полаве паштальёнам. Але спакойна спаць не мог, адчуваў, што дакапаюцца да яго пастаўскай гісторыі. Так і здарылася.

Аднаго ранку, 5 снежня 1945 года, калі было яшчэ цёмна ў вакно настойліва пастукалі. Заходзяць афіцэр і сем аўтаматчыкаў. Арэставалі, рукі скруцілі дротам і павялі ў Варапаева, а адтуль у Вілейку. Прасядзеў восем месяцаў пад следствам. Нацярпеўся ўсяго і прайшоў праз усе экзекуцыі. Пастаянныя допыты і ўсё ноччу, каб не спаў і адно і тое самае: падпісвай і падпісвай. А што падпісваць, калі там усе таварышы твае праходзяць. А можа прасцей было б і падпісаць – усё адно гэбісты ўжо ўсё ведалі. Быў асуджаны паводле артыкула 63-1 КК БССР да дзесяці гадоў пазбаўлення волі і паражэння ў правох на 5 гадоў. Далей перасылка ў лагер Бадайбо на залатыя прыіскі і непасільная праца пры голадзе і холадзе. Вытрымаць такое мог толькі вельмі здаровы і дужы чалавек. І Віктар усё вытрымаў, хаця і дайшоў ужо быў да 54 кілаграмаў. Расказваў: “Вязуць нас на “Студзібекеры”, загрузілі поўны кузаў стоячы, а затым каманда “Садзісь!” і так адзін аднаму на каленьках і праехаць 150 кіламетраў. Прыехалі – устаць ніхто не можа так зацяклі ногі. Далей вязуць па рацэ на баржы. У труме набіта, як сялёдкі, параша з адрэзанай бочкі, смурод задуха страшная. Прыехалі на месца – у многіх дызентырыя, што з’еў тое і выйшла. А другі ззаду збіраіць, прамываіць ды ў якой кансерцы каб зварыць. Страх да чаго дайшло – памiралі пачкамі. У кожнага на спіне і спераду нумар. Пераклічка толькі па нумарах. Віктрару далі Щ-974, як ён казаў: “Мне, нацдэму – гэта была найгоршая абраза. Спецыяльна не знайшлі мне роднай літары, а далі “Маскоўскую Щ”. Неяк аднаго разу пачуў ад літоўцаў, што папаў да іх нейкі хворы Станкявічус і цюкнула адразу ў галаву, што гэта напэўна ж ксёндз Адам Станкевіч. І сапраўды святар ўжо быў моцна хворы і хутка сканаў. Віктар сам вывозіў яго хаваць. І вось у браме для таго, каб каго не вывезлі жывога ахраннік яшчэ кайлом прабівае нябожчыку галаву…

Фізічныя і маральныя пакуты, здавалася б, на ўсё астатняе жыццё павінны былі зрабіць чалавека чэрствым, жорсткім, абыякавым. Віктар такім не стаў.

**Маміна “навука”**

Маёй маме ўжо восемдзесят восем гадоў. Нягледзячы на паважаны ўзрост “не ўрокам дзеля” кажучы, з галавой яшчэ “дружыць”. Летам яна яшчэ так-сяк дае сабе рады, а вось зімой ёй ужо цяжка, асабліва даймае холад. Ды і хадзіць па холадзе за прадуктамі, дрывамі і вадой зімой нялёгка. Вось і каратае яна доўгія зімовыя месяцы ў сыноў. Некалькі гадоў была ў Пятра ў Менску, а гэтай зімой яна ў мяне. У нас канечне не так цёпла ў хаце, як у менскай кватэры, затое ўсё больш прывычна. За пару месяцаў яна ўжо абылася ў нас, па дому не сумуе, часта тэлефануе ў свае родныя Квачы і ведае ўсе тамтэйшыя навіны. Шмат чаго новага яна даведалася і пра мяне ад жонкі пра маю, як яна кажа “проціў права” дзейнасць.

Нягледзячы на тое, што і мне ўжо пяцьдзесят два, для мамы я яшчэ дзіцё і мяне трэба “наставіць на розам”. Вось і з гэтай прычыны аднаго разу кліча яна мяне ў сваой пакой і будзіць казаць: “Сынок, паслухай мяне! Не ідзі ты проці права. Ну што ты зробіш, гэта ж як дыхаць проці ветру. Ну нашто ты ў сваей кніжцы так пісаў пра Баразвэчча, як там камуністы над людзьмі здзекаваліся? Ну нашто ты спорыў з тым Морхатам на сабранні? Ніхай сабе ты і праўду кажыш і многія гэта знаюць, алі ж сідзяць і маўчаць. Ну і што, што ты сказаў? Ну і што, што ты пырхаў? Знай, што і тваё і маё да ср…кі. Гэта ж ня пойдзіць у права. А цябе і з гэтай работы маглі зняць. Ну і што ты тады рабіць будзіш? А нада ж і дзіцям яшчэ памагаць. Сядзі ціханька і маўчы, як і мы маўчалі. А то возьмуць яшчэ ды і пасадзюць. Чаму Пецька маўчыць і нікуды ня лезіць? А табе ўсё нада! Падумай пра сям’ю, пра сябе. Мальчык, паслухай мяне, скольні мне ўжо асталося жыць? А яшчэ крый Бог цябе заберуць… Ну, ці паслухаеш?” Часам, калі я нешта пішу на кампутары, падыходзіць і кажа: ”Хоць жа паліцікі ні пішы!”

Я ведаю, што спрачацца няма сэнсу. Гэтым нічога не паправіш. І па-гэтаму, каб яе заспакоіць або ківаю галавой, або маўчу і толькі сам сабе думаю: “Хоць зараз ужо трохі і другі час, але яе апасенні не безпадстаўныя. О, як жа глыбока прарос у нас страх! І для гэтага было мноства прычын”.

**Халахтары**

Праз нашу мясцовасць немцы адтупалі без баёў. Ды і што ім было тут абараняць. Вялікага руху яны тут не стваралі – карысталіся ў асноўным чыгункай. А вось наступаючых чырвонаармейцаў памятаюць у тым ліку і ў Слабадзе. Хоць вёска і знаходзілася ўбаку ад асноўнай дарогі, але чырвонаармейцы і тут станавіліся на пастой. Некалькі рускіх салдат адпачывалі ў сям’ і Сімучка (Андрэйчыка Сямёна).

Хоць і не багаты быў стол (сваіх едакоў у сям'і было зашмат), але ж чым маглі накармілі салдат. Цікава ж старому, які парадак прынясе новая ўлада ў наш дом. Да вайны Саветы пасля палякаў яшчэ тут добра не акрэплі. І вось пытаецца Сімучок у пастаяльцаў:

- Сынкі, а ці дадуць жа нам зямлі?
- Дадут, дадут, отец, сколько захотите! У нас уже на ней и работать не хотят!
- Вот гультаі!.. Жарт рабіць ня хочуць! Ай-я-яй!

Ніяк стары не мог уявіць, што можна пакінуць зямлю, якая корміць і адзявае.

Яшчэ яго жартам называлі Халахтарам (так ён называў трактары). Згадваючы вайну, ён казаў: " Ішлі ішлі тангі, а за імі халахтары з арудзіямі!"

Стары Сімучок так і не дачакаўся зямлі ўволю. Адмералі яму, як і ўсім два метры грыблоўскага пагоста. А праз гадоў пяцьдзесят, каб ён глянуў на нашу зямлю, што пазарастала бур'яном ды ляжыць закінутая – напэўна б падняўся і сказаў: "Вот гультаі!.. Жарт рабіць ня хочуць! Ай-я-яй!"

**Jazep Kvach: True stories** *(presented in the original language of narrators)*
***(magazine "CULTURE. NATION", April 2020, issue 25, pp.71-95, www.sakavik.net)***
Real short stories about the life of villagers, about the fate of children and families taken to work in Germany and unusual life stories of some people during and after World War II are presented. Entries were made by the author in the Sharkaushchynski district of the Vitebsk region (*continued, the first part read in the previous, 24th issue of the magazine, November 2019*).

**Язеп Квач: Невыдуманные истории** *(представлены на оригинальном языке рассказчиков)*
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», апрель 2020, выпуск 25, стр. 71-95, www.sakavik.net)***
Представлены короткие реальные истории о жизни жителей села, о судьбе детей и семей, вывезеных на работы в Германию, представлены необычные жизненные истории людей во время и после Второй мировой войны. Записи сделаны автором в Шарковщинском районе Витебской области *(продолжение, начало читайте в предыдущем, 24-м номере журнала, ноябрь 2019).*

**Дар’я Данілевіч, Аліса Януш, Ігар Пракаповіч: Спадчына роду Друцкіх-Любецкіх на Пастаўшчыне**

*У артыкуле прадстаўлены вынікі даследавання спадчыны Друцкіх-Любецкіх на Пастаўшчыне. Друцкія-Любецкія, славуты род на абсягах ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, пакінуў багатую культурную спадчыну на тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі. Пасля прадстаўнікоў пастаўскай галіны гэтага роду такіх як Ануфрый, Ігнацый Станіслаў, Уладзімір Друцкія-Любецкія, Святаполк-Мірскія, Ленскія, Галеры і іншых, у Манькавічах і Казлоўшчыне засталіся сядзібна-паркавыя ансамблі, у Асінагарадку, Казлоўшчыне, Манькавічах, Варанцы, Ажунах – храмы і капліцы, у Варанцы – сельскагаспадарчае вучылішча, у беларускім Парыжы – чыгуначная станцыя Навадруцк, у навуцы – “Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага ўездаў Віленскай губерні”.*

**Уводзіны**

Пастаўскі раён знаходзіцца на паўночна-заходняй ускраіне Беларусі, на мяжы з Літвой, на значным аддаленні ад вялікіх гарадоў і навуковых цэнтраў. Па гэтай прычыне яго тэрыторыя вывучалася часткова і толькі па некаторых накірунках. Актыўна развіваецца мясцовае краязнаўства, праводзяцца цікавыя даследаванні, падчас якіх вывучаюцца гістарычныя, геаграфічныя, этнаграфічныя, культурніцкія адметнасці рэгіёну. Аднак значная частка рэдкіх, а ў некаторых выпадках і ўнікальных аб’ектаў і з’яў па розных прычынах застаецца недаследаванай. Асабліва гэта датычыцца аб’ектаў матэрыяльнай спадчыны, якія знікаюць або знаходзяцца на мяжы знікнення. Слаба пакуль даследавана жыццё і дзейнасць асоб, дзякуючы якім былі ўзведзены тыя ці іншыя пабудовы, архітэктурныя помнікі, сядзібныя комплексы, прамысловыя або гаспадарчыя аб’екты.

Да ліку адметных дзеячаў Пастаўшчыны можна аднесці прадстаўнікоў знакамітага роду Друцкіх-Любецкіх, сярод якіх вылучаецца асоба князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага, імя якога пакуль што рэдка згадваецца і ў нашай мясцовасці, і ў Беларусі. А гэта быў чалавек, які заслугоўвае добрага ўспаміну, пашаны і папулярызацыі за вынікі сваёй дзейнасці.

Матэрыяльнай і духоўнай спадчынай У.Друцкага-Любецкага вучні Пастаўскай гімназіі зацікавіліся падчас збору матэрыялаў пра паўднёвы ўчастак Манькаўскага лесу паміж вёскамі Сарочына і Пятроўшчына, які ўтварае адметны адносна ізаляваны прыродна-гістарычны комплекс “Крыжоўкі” (так называюць мясцовыя жыхары гэта ўрочышча). На ім размяшчаюцца маляўнічыя марэнныя ўзгоркі паазёрскага ледавіка, лагчына ракі Мядзелкі, узбярэжжы азёр Доўжа і Варанец, багаты раслінны і жывёльны свет, германскія і расійскія ўмацаванні часоў Першай

сусветнай вайны. Значная плошча гэтага комплексу ў канцы XIX стагоддзя належала роду Друцкіх-Любецкіх і мела назву “ферма Варанец”. Гэту тэрыторыю князь аддаў для заснавання сельскагаспадарчай школы для сялянскіх дзяцей. З фундацыі У. Друцкага-Любецкага тут быў пабудаваны вучэбны комплекс са значнай колькасцю пабудоў. Пазней недалёка ад школы пасля смерці князя была ўзведзена капліца-маўзалей, у якой знаходзілася яго забальзамаванае цела. Падчас Першай сусветнай вайны ўсе пабудовы на тэрыторыі комплексу былі разбураны.

Гэтыя факты зацікавілі і падштурхнулі да збору больш грунтоўных звестак і пра самаго князя, і пра яго матэрыяльную спадчыну. У 2012-2019 гадах было праведзена сем комплексных экспедыцый (кіраўнік – настаўнік геаграфіі І.М.Пракаповіч), падчас якіх вывучаліся аб’екты, звязаныя з дзейнасцю У. Друцкага-Любецкага. Гэта дазволіла сабраць значны матэрыял, які патрабаваў апрацоўкі, абагульнення і фармулёўкі пэўных высноў, што і падштурхнула да напісання даследчай работы па тэме “Знікаючая спадчына князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага”. Работа была выканана вучаніцай Пастаўскай гімназіі Алісай Януш у 2017-2018 гадах. Яна ахоплівала тэрыторыю паўднёвай часткі Пастаўшчыны ў ваколіцах вёсак Манькавічы, Язы, Варанец, Сарочына.

Падчас збору матэрыялаў выявілася, што ва ўласнасці Друцкіх-Любецкіх на Пастаўшчыне акрамя маёнтка “Манькавічы” быў яшчэ маёнтак “Казлоўск”, гісторыя і адметнасці якога пакуль што не вывучаліся. Гэта праблема падштурхнула да правядзення даследаванняў па тэме “Спадчына Друцкіх-Любецкіх ва ўсходняй Пастаўшчыне (Казлоўшчына, Асінагарадок, Навадруцк)”. Збор матэрыялаў і іх апрацоўка адбываліся на працягу 2018-2019 гадоў. Частку матэрыялаў склалі вынікі ранейшых краязнаўчых экспедыцый. Распрацоўкай тэмы займалася ў асноўным вучаніца 10 класа Пастаўскай гімназіі Дар’я Данілевіч.

Таксама было выяўлена, што адзін з прадстаўнікоў роду Друцкіх-Любецкіх з Пастаўшчыны – Уладзімір Ігнатавіч – быў суаўтарам адметнай навукова-папулярнай кнігі “Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага уездаў Віленскай губерні” (1896). Гэта падштурхнула да правядзення вывучэння і аналіза ўнікальнага выдання. Мы заўважылі, што імя У.І.Друцкага-Любецкага не згадваецца ні ў шэрагу географаў-даследчыкаў Беларусі, ні сярод краязнаўцаў, хоць кніга была адным з першых грунтоўных выданняў па гісторыі і геаграфіі паўночна-заходняй часткі нашай краіны.

Вывучэнне літаратурных крыніц і інтэрнэт-рэсурсаў па тэме даследавання дало нязначныя вынікі, што сведчыць пра тое, што спадчына ўласнікаў маёнткаў “Казлоўск” і “Манькавічы” ні навукоўцамі, ні краязнаўцамі амаль не вывучалася. Удалося ўстанавіць, што асноўныя матэрыялы пра род Друцкіх-Любецкіх захоўваюцца ў Гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу (РГИА, ф. 1631, 549 адз.

захоўвання, 1845-1917) і ў Гістарычным архіве Літвы. Каштоўныя звесткі былі атрыманы з кнігі І. Зямчонка "Ваколіцы Парыжа. Старонкі гісторыі Пастаўскага Паазер'я" (2000 г.) [4]. Асобныя звесткі пра У. Друцкага-Любецкага змяшчаюцца ў кнізе "Манькавічы" [12], а таксама ў блогу карыстальніка Ginek, які падае інфармацыю пра дзейнасць школы.

Вельмі карысны збор – архіўная папка са справай будаўніцтва Варанецкага сельскагаспадарчага вучылішча – была атрымана з Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіву [1]. Частку матэрыялаў склалі апытанні мясцовых жыхароў, якія праводзілі ў розны час вучні пастаўскай гімназіі і СШ № 1 г. Паставы. Усе аб'екты матэрыяльнай спадчыны У. Друцкага-Любецкага былі абследаваны падчас правядзення краязнаўчых экспедыцый. Каштоўныя матэрыялы па тэме даследавання ўдалося атрымаць з музея Навадруцкай школы (кіраўнік – С. Латыш) [4]. Картаграфічны аналіз мясцовасці быў праведзены на аснове карт рознага часу. У працы выкарыстоўваліся: "трохвёрстка" расійскіх ваенных тапографаў (канец XIX ст.), польскія карты 30-х гадоў XX стагоддзя, вайсковая карта 1971 года маштабу 1:100000, касмічныя фотаздымкі.

Род **Друцкіх-Любецкіх у Беларусі і на Пастаўшчыне**

Друцкія – вядомы і ўплывовы княскі род на абсягах ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. За доўгі гістарычны час ён разгалінаваўся на шмат атожылкаў, якія ўтварылі амаль самастойныя родавыя дрэвы. Найбольш вядомыя з іх – Друцкія-Любецкія і Друцкія-Сакалінскія. Радавод іх пачынаецца ад маёнтка Друцк, які размяшчаўся на беразе ракі Друць, прытоку Дняпра. Любецкія, або Відэнескія (Відэніцкія), князі, галіна князёў Друцкіх. Федка, удава па Алізару Шыловічу, запісала князю Багдану Васілевічу маёнтак Любчу (Lubcze) з ваколіцамі. Пасля смерці Багдана Аляксандр Ягайла ў 1500 годзе перадаў яго брату князю Раману Васілевічу.

Калі прадстаўнікі роду Друцкіх-Любецкіх патрапілі на Пастаўшчыну сказаць дакладна пакуль што немагчыма, але адбылося гэта верагодна ў другой палове XVIII стагоддзя, калі Ануфрый Францавіч Друцкі-Любецкі ажаніўся з Элеанорай Апалінарай Жабай. Як вядома з гістарычных дакументаў, род Жабаў валодаў Асінагарадком. У сям'і было многа дзяцей: сын Ігнацій, дочкі Тэрэза, Паўліна, Караліна, Марыя.

Пасля Ануфрыя маёнтак "Казлоўск" перайшоў у спадчыну да яго сына Ігнацыя-Станіслава-Юзафа (1809-1961), які быў жанаты на Адэлаідзе Святаполк-Мірскай. Пасля смерці гаспадара яго спадчына перайшла да сына Уладзіслава-Тамаша, які

пасля пераходу з каталіцтва ў праваслаўе называўся Уладзімірам Ігнацьевічам Друцкім-Любецкім. Вядома, што ён быў уласнікам маёнткаў "Манькавічы" і "Казлоўск" на Пастаўшчыне, а таксама "Старынкі" наМіншчыне.

Дзейнасць гэтай асобы на тэрыторыі Беларусі і, у прыватнасці, на Пастаўшчыне, амаль не даследавалася, бо жыў ён у асноўным у Санкт-Пецярбургу, у свае маёнткі наведваўся пераважна летам. Аднак тое, што ён пакінуў у спадчыну пасля сябе ў нашым краі дазваляе зрабіць выснову, што гэта быў чалавек адукаваны, справядлівы, шырокага кругагляду, шчодры мецэнат і прыхільнік хрысціянства. Пра князя У. Друцкага-Любецкага матэрыялаў сабраць пакуль што ўдалося не вельмі многа, але тое, што ўжо назапашана, сведчыць пра яго інтэлектуальнае і духоўнае багацце.

Уладзімір Ігнатавіч Друцкі-Любецкі (1845-1905), князь, служыў пры двары рускага імператара Мікалая II шталмайстрам (галоўным стайнікам (канюшым)), мецэнат і прыхільнік хрысціянства, суаўтар адной з першых кніг па краязнаўстве быў уласнікам маёнткаў "Манькавічы" і "Казлоўск" на Пастаўшчыне. За яго сродкі была пабудавана нанова царква ў Манькавічах, праведзена карэнная рэстаўрацыя храма, узведзена капліца на могілках у Асінагарадку, адбудавана царква ў Ажунах, уладкаваны сядзібна-паркавыя ансамблі ў Казлоўшчыне і Манькавічах.

Князь выдаткаваў грошы на будаўніцтва чыгункі Новасвянцяны-Беразвечча. Да ўсяго гэтага, ён цікавіўся даўніной, вёў уласныя пошукі. У. Друцкі-Любецкі быў суаўтарам і фундатарам адметнай працы даследчыка Аляксея Сапунова "Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага ўездаў Віленскай губерні" (1896). У. Друцкі-Любецкі перадаў свой фальварак "Варанец" для стварэння селькагаспадарчага вучылішча для сялянскіх дзяцей (дзейнічала 1909-1913 гг), фінансаваў яго будаўніцтва, заснаваў стыпендыі для навучэнцаў. У С.-Пецярбургу быў членам савета дабрачыннай арганізацыі "Мариинское попечительство для слепых".

**Навукова-краязнаўчая і асветніцкая спадчына**

***Кніга Аляксея Сапунова і Уладзіміра Друцкага-Любецкага "Матеріалы по исторіи и географіи Дисненскаго и Вилейскаго уездовъ Виленской губерніи"***

Кніга "Матеріалы по исторіи и географіи Дисненскаго и Вилейскаго уездовъ Виленской губерніи" была напісана даследчыкам Аляксеем Сапуновым у суаўтарстве з князем Уладзімірам Друцкім-Любецкім. Выдадзена яна ў 1896 годзе ў Віцебскай губернскай тыпа-літаграфіі. Гэта першае грунтоўнае выданне пра прыроду і гістарычныя адметнасці паўночна-заходняй Беларусі. Гэты кнігу можна

лічыць і першым краязнаўчым выданнем рэгёна. У ёй змешчана геаграфічнае і гістарычнае апісанне мясцін на тэрыторыях сучасных Пастаўскага, Мядзельскага, Вілейскага, Глыбоцкага раёнаў.

Кніга мае аб'ём 414 старонак і складаецца з васьмі раздзелаў. На першых старонках змешчаны каляровыя гербы Вілейскага і Дзісненскага ўездаў. Яны маюць форму французскага шчыта, які гарызантальна падзелены на дзве часткі. На верхняй размяшчаецца Пагоня – герб тагачаснай Віленскай губерні, на ніжняй – гербы ўласна ўездаў. Для Вілейскага гэта ладдзя, павернутая ўлева, з пшанічным коласам і дванаццацю мяхамі збожжа, што адлюстоўвае яго спецыялізацыю на вывазе сельскагаспадарчай прадукцыі на захад. Сноп жыта на полі сімвалізуе адметны занятак жыхароў Дзісненшчыны – земляробства.

Сама праца пачынаецца з геаграфічнага агляду. Дзісненскі уезд займае 13,9% плошчы ўсёй Віленскай губерні, а Вілейскі – 15,1%. Пададзены месцы некаторых вышынь гэтых адміністрацыйных адзінак (у Вілейскім — в. Вайцяшы, фальв. Карейкаўцы, фальв. Юстынова, в. Мацуры (сучасны Пастаўскі раён) і іншыя; у Дзісненскім — в. Сарокі, в.Старынкі, в. Шалушына, фальв. Шэндзін, застава Дуброва). Даецца апісанне такіх рэк, як Дзісенка, Ізабелінка, Бірвіта, Голбіца, Беразвіца, Мнюта, Язніца, Дрысвята, Янка, Вята, Друйка і іншых. Найбольш падрабязна разгледжана рака Вілія. Ёй прысвечана асобная частка, якая раздзяляецца на падтэмы: рака Вілія і яе прытокі, берагі і дно Віліі, парогі і перашкоды на р. Віліі, ачышчэнне рэчышча Віліі, ускрыццё і замярзанне Віліі і разлівы яе, гандаль на р. Віліі, судны і іх прылады, праекты каналаў паміж сістэмай р. Віліі і сістэмамі Дняпра і Дзвіны, прытокі Віліі (Чэрня, Жызнева, Сластоўка, Сэрвач, Арцянка, Жучка, Спорня, Страча). Таксама ў кнізе апісаны азёры Дзісненскага ўезда (Глыбокае, Богінскае, Доўгае, Ілаўскае, Інаўскае, Пліса, Рафалова, Свяда, Сшо, Пераброддзе, Укля, Чарэзскае) і Вілейскага ўезда (Сэрвач) з памежнымі азёрамі Мядзел і Нарач. Таксама паведамляецца пра балоты, якія даюць пачатак рэкам. Найбольш значнае – Ваўкалапскае. Яно знаходзіцца ў Вілейскім ўездзе.

У выданні даецца вельмі сціслае апісанне геалагічнай будовы і глебаў, клімата; крыху пашырана – флоры і фаўны. Паведамляецца, што расліннасць Віленскай губерні была даследавана А. Зелянцовым і апісана ў кнізе “Очерк флоры”. А. Сапуноў і У. Друцкі-Любецкі выкарысталі яе ў сваёй працы. Пасля сціслага апісання асаблівасцей рэгіянальнай флоры і фаўны падаюцца спісы жывёл і раслін на рускай і лацінскай мовах.

Другі раздзел кнігі – “Взгляд на исторические судьбы Дисненского уезда Виленской губ.”. Падчас работы над гэтым раздзелам аўтары выкарыстоўвалі гістарычную інфармацыю і карты, якія дапаўняюць матэрыял. Чытачам

прапануецца агульны агляд гістарычных падзей, якія закранулі Дзісненскі ўезд. Працягваецца апісанне Дзісненшчыны ў цікавым краязнаўчым раздзеле "Замечательнейшие в историческом отношении местности в Дисненском уезде". Найбольш падрабязна апісаны ўездны горад Дзісна і яго адметнасці. Падзеі з рэлігійнага жыцця дзісненцаў стаяць у цеснай сувязі з гісторыяй дзісненскага храма, фотаздымак якога размешчаны на старонцы кнігі. У Дзісне, на беразе ракі, была пабудавана капліца ў памяць Імператара Аляксандра ІІ. Усяго падаецца апісанне 41 населенага пункта. Вось некаторыя геаграфічныя і гістарычныя звесткі пра мястэчкі і вёскі (сёлы).

Мястэчкі. *Германавічы* ляжаць на р. Дзісенцы. *Глыбокае* размяшчаецца паміж двума азёрамі. Невялікая рака, якая цячэ з аднаго возера ў другое, падзяляе мястэчка на дзве няроўныя часткі. *Галубічы* размешчаны ў даліне на невялікіх пагорках. Мястэчка *Іказнь* ляжыць на заходнім беразе аднаіменнага возера. Назва *Іоды* быццам бы паходзіць ад літоўскага слова і азначае "чорны лес". У 1798 г. *Казяны* былі зацверджаны мястэчкам і належалі гр.Плятэр. *Лявонпаль* у XVI стагоддзі меў у валоданні Леў Сапега. У 1519 годзе, падчас раздзелу паміж братамі Сапегамі, *Лужкі* сталі належаць Хведару Іванавічу-Сямёнавічу Сапегу. Мястэчка *Міёры* размешчана ў вельмі прыгожым месцы, каля вялікага аднаіменнага возера. Сігізмунд-Аўгуст у 1571 г. прызнаў *Перабродзе* вольным горадам. Станіслаў-Аўгуст даў мэстэчку *Пліса* прывілей на кірмашы. У 1506 г. кароль Аляксандр сцвердзіў права Сапегі на ўладанне *Пагостам*. Падчас вайны *Паставы* былі важным зборным пунктам літоўска-польскіх войск. Пётр Вялікі праездам быў у горадзе *Друя*.

*Ляўкоўскі двор* спрадвеку належаў полацкім епіскапам. У 1552 г. Пётр Васільевіч Корсак меў ва ўладанні *Удзелаўскі двор*. Упершыню маёнтак *Беразвеч* згадваецца ў 1519 г. У 1782 годзе там было заснавана вучылішча. Маёнтак *Чэраз* належаў Анікею Андрэевічу Корсаку, потым – Радзівілам. У 1503 г. маёнтак *Шаркаўшчына* быў перададзены вялікім князем Аляксандрам Юрыю Дзеспат-Зяновічу. Маёнтак *Язна* пераходзіў з рук у рукі: да Корсакаў, Глінскіх, Друцкіх-Сакалінскіх, Казелаў-Паклеўскіх, Кацэлаў.

Сёлы. У Балошніках недалёка ад царквы ёсць насып, дзе паводле падання пахаваны французы. Сяло Богінь некалі належала Струтынскім. У Галомыслі была заснавана ўніяцкая капліца ў імя Мікалая Цудатворцы. Горкі ў свій час належалі полацкім архіепіскапам. У Дзісненскам уездзе былі два Залессі і яны належалі Корсакам. Замошша ляжыць на беразе возера Срэднік. Ігумен ляжыць недалёка ад 2 рэк: Паловіцы і Дзісенкі. Сяло Кавалі некалі належала глубокскім камерлітам, але потым перайшло ў казну. Сяло Мамаі з ранейшых часоў належала Корсакам, але потым як пасаг перайшло да Аскеркаў. У Мосары ў 1792 г. Ганна і Робарт

Бржастоўскія пабудавалі каменны касцёл. Асінагарадок належаў некалі Жабам, а пасля князю Друцкаму-Любецкаму. Празарокі належалі Баркалабу Іванавічу Корсаку. Псуя была падзелена на 3 часткі паміж братамі Корсакамі. Рымкі некалі былі маёмасцю Тызенгаўзаў, а потым гр. Пшаздзецкай. Вялікі князь літоўскі Казімір даў грамату на сяло Свіла Грыдку Сянковічу. Узмены былі некалі ўладаннем князёў Свірскіх, а потым Мірскіх і Агінскіх. Чэрневічы ў пачатку XVIII стагоддзя належалі Рэмігіану Сяліцкаму, а ў канцы – ген. Кошалеву. Юдыцын некалі ўваходзіў у склад маёнтка Іоды, у 1794 г. дастаўся Мікалаю Лапацінскаму.

Чацвёрты раздзел кнігі – “Взгляд на исторические судьбы Вилейского уезда”. Ён пачынаецца з гістарычных звестак (цяперашні Вілейскі ўезд уваходзіў у склад Полацкага княства. Аб гэтым сведчыць ацалеўшы помнік пачатку XII ст. – камень на беразе р. Віліі з імем Барыса, па ўсёй імавернасці, Усяславіча) і пераліку месцаў храмаў і касцёлаў.

Працягваецца апісанне ў краязнаўчым раздзеле “Замечательнейшие в историческом отношении местности в Вилейском уезде”. У ім падаецца апісанне 40 мястэчак і вёсак. Найбольшая ўвага нададзена ўезднаму гораду. Паведамляецца, што ў 1842 годзе Вілейка ўвайшла ў склад Віленскай губерніі. Горад быў адным з навейшых гарадоў. На старонцы кнігі можна ўбачыць план Вілейкі. Вось некаторыя звесткі з апісанняў мястэчкаў, маёнткаў, вёсак.

Мястэчкі. *Будслаў* ляжыць каля ракі Сэрвач, сярод вялікіх балот. *Гарадок* знаходзіцца на левым беразе р. Бярэзіны і быў населены выключна яўрэямі. *Данілавічы* размешчаны над воз. Свідна і невялікай р. Прэсмыч, некаторы час мястэчка нележала нават Сігізмунду-Аўгусту. *Ілія* некалі належала Радзівілам, а ў час Салагубаў тут быў вялікі шкляны завод. *Краснае* згадваецца ў 1519 г.: тут ваявалі рускія. *Крывічы* ляжаць каля р. Сэрвач, мястэчка стала “гняздом знакамітага роду Кішкаў”. *Лебедзева* – айчына кн. Гальшанскіх. *Лучай* належаў Мастоўскім. *Манькавічы* былі ва ўладанні Жабаў, а потым У. І. Друцкага-Любецкага. Недалёка ад *Маркава* ёсць курганы, якія называюць французскімі. Існавалі два мястэчкі з назвай Мядзель: *Стары Мядзель і Новы Мядзель*. Мястэчка *Рэчкі* ляжыць паміж двух невялікіх рэчак.

Маёнткі. У 1478 г. кароль Казімір даў дарчую грамату надворнаму маршалку Івану Кучуку на маёнтак Вязынь. Далгінаў – айчына князёў Друцкіх-Сакалінскіх. У палове XVI ст. маёнтак Касута знаходзіўся ва ўладанні Міхаіла Іванавіча Сапегі. Кароль Сігізмунд у 1523 г. зацвердзіў Крайск за дзецьмі Юрыя Зяновіча. Норыца – некалі айчына Сулістроўскіх. Перад уніяй (1569) горад Радашковічы быў аддадзены каралём Сігізмундам-Аўгустам Каляніцкаму-Тышкевічу.

Сёлы. У Батурына была пабудавана ўніяцкая царква. Іжа знаходзіцца недалёка ад р. Узлянкі і р. Слабажанкі, некалі нележала Сулістроўскім. Кароль Сігізмунд Першы перадаў Княгінін Яўстафею Козел. Краснаселле Новае – прадмесце мястэчка Краснае. Латыгаль належала Салтыкам, Салагубам, Валадковічам, Кацелам, Тышкевічам, Умястоўскім. У Порплішчы быў храм, напэўна, у імя св. Троіцы, бо сяло тады звалася Троіцкім. Рабунь належала Еўфрасінні Сапежанцы. Сітца належала Бржастоўскім, потым – Дамейкам. Па паданні сяло Яршэвічы спустошана шведамі.

З усіх населеных пунктаў, для якіх пададзена асобнае апісанне, на тэрыторыі сучаснага Пастаўскага раёна знаходзіцца сем: Паставы, Манькавічы, Норыца, Асінагарадок, Дунілавічы, Рымкі, Лучай.

Значную частку кнігі складаюць дадаткі (Приложения), у якіх друкуюцца дакументы з розных гістарычных крыніц. Іх 39. Найчасцей яны адлюстроўваюць падзеі, якія адбываліся ў Дзісне, Вілейцы, Мядзелі, Лебедзеве, Маладзечне, Друі. Пастаўшчыны датычыцца толькі адзін дакумент пад № 31 “Привилегия короля Августа II на учреждение ярмарок в Поставах 21 апреля 1713 г.”

Наступная частка кнігі – заўвагі (Примечания). Яна з’яўляецца таксама карыснай крыніцай геаграфічнай і гістарычнай інфармацыі, паколькі прыведзены падрабязныя тлумачэнні, якія ўтрымліваюць шмат каштоўных звестак. Усяго падаецца 133 прыкладанні, у якіх пераважаюць спасылкі на крыніцы, якімі карысталіся аўтары, а таксама розныя статыстычныя дадзеныя.

Важна заўважыць, што для свайго часу выданне добра ілюстравана. Па тэксце размешчана 67 малюнкаў, у тым ліку планаў і карт. Подпісы для ілюстрацый падаюцца асобным дадаткам у канцы кнігі.

Такім чынам, можна зрабіць наступны вывад: адметная праца Аляксея Сапунова і Уладзіміра Друцкага-Любецкага “Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дісненскага і Вілейскага ўездаў Віленскай губерніі” мае значную геаграфічную, гістарычную і краязнаўчую каштоўнасць, у ёй апісана шмат сёлаў, мястэчкаў, гарадоў, выкарыстаны геаграфічныя і гістарычныя звесткі, карты, схемы, малюнкі.

***Варанецкае сельскагаспадарскае вучылішча***

На ўзгорках паміж азёрамі Варанец, Доўжа і ракой Мядзелкай у пачатку XX стагоддзя размяшчалася сельскагаспадарчае вучылішча. Дзейнічала яно з 1909 па 1915 год дзякуючы ініцыятыве і фундацыі ўласніка Манькавічаў і Казлоўшчыны князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага. Вясной 1904 года ён звярнуўся да цара

Мікалая II з просьбай дазволіць яму ахвяраваць фальварак (у дакументах – ферму) Варанец на карысць Віленскага Таварыства сельскай гаспадаркі для стварэння сельскагаспадарчай школы. Участак, які ён хацеў перадаць на дабрачынныя мэты, меў плошчу каля 124 дзесяцін зямлі і ўваходзіў у склад яго маёнтка. Князь Друцкі-Любецкі, для абсталявання школы мэбляй і навучальным рыштункам, ахвяраваў 40 000 рублёў уласных сродкаў.

13 траўня таго ж года прашэнне князя было разгледжана і здаволена, а праз год на ўчастку паміж азёрамі Варанец і Доўжа пачалося будаўніцтва школы. У сакавіку 1905 года Уладзімір Друцкі-Любецкі памёр, яго пахавалі ў капліцы каля ставу ў Манькавічах. Работы на будаўніцтве школы арганізоўвала Віленскае Сельскагаспадарчае Таварыства, а нагляд ажыццяўляла міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маёмасці.

На ўзвядзенне школы было закуплена 300 тысяч штук цэглы, 100 кубаметраў каменя, 50 бочак вапны, цэмент і іншыя матэрыялы. Да 1907 года былі пабудаваны два каменныя і чатыры драўляныя будынкі: двухпавярховы цагляны навучальны корпус, цагляная сталовая для навучэнцаў і выкладчыкаў, а таксама драўляны дом для кіраўніка, лазня, склеп для захоўвання малочных прадуктаў (млячарня), і адрына для жывёлы.

Малодшы ляснічы Віленскага Лесаахоўнага Камітэта Васілеўскі, дакладваў 20.02.1907 г. у Кіраванне Земляробства і Дзяржмаёмасці Віленскай губерні: "[…] Усе пабудовы (драўляныя) збудаваны з дыхтоўнага часанага бруса, на каменным падмурку і пакрыты гонтай, мураваныя дымавыя трубы ўсюды выведзены і скончаны. Пабудовы гэтыя маюць прыгожы і прыемны выгляд. Унутранае іх аздабленне мае быць выраблена вясною і ўлетку гэтага года. Дзверы, вароты, аконныя рамы, бар’еры веранды і ганка, дошкі для насцілу падлог і падшыўкі столяў вырабляюцца ў Вільні на заводзе Парнеса…" [1]. Для навучэнцаў была абсталявана спартовая пляцоўка і закуплены інвентар для гульні ў кракет.

Паколькі ў ліку ахвяраваных князем Друцкім-Любецкім 124 дзесяцін зямлі было толькі 9 дзесяцін лесу, што з'яўлялася недастатковым для паўнавартаснага функцыянавання школы, Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай маёмасці з бліжэйшых да Варанца дзяржаўных лясных угоддзяў дадаткова вылучыла яшчэ 116 дзесяцін лесу (урочышча Бялоўшчына).

Будаўнічыя работы ў Варанцы былі завершаны напачатку 1909 года. Пачаліся падрыхтоўчыя працы да адкрыцця навучальнай установы. Быў зацверджаны статут Варанецкай ніжэйшай сельскагаспадарчай школы 1-га разраду, у якім дэкляравалася, што "Варанецкая ніжэйшая с/г школа Віленскага Таварыства

сельскай гаспадаркі мае мэтай даць навучэнцам асноўныя веды па сельскай гаспадарцы, звяртаючы асноўную ўвагу на практычныя заняткі…".

Паводле статуту меркавалася, што ў 1-ы клас школы будуць прымаць "асоб мужчынскага полу ўсіх саслоўяў, не маладзей 15 гадоў, пасля ўступных іспытаў па курсе гарадскіх і павятовых вучылішчаў". Аднак, улічваючы тую акалічнасць, што школа была разлічана, галоўным чынам, на дзяцей сялян, якія ў большасці сваёй былі наогул непісьменнымі, то ў статут былі занесены змены, паводле якіх уступны адукацыйны цэнз быў паніжаны да выпускнікоў сельскіх вучылішчаў (2 класы). Акрамя таго, каб павялічыць колькасць патэнцыйных вучняў с/г школы, бліжэйшая да яе Манькавіцкая царкоўна-прыходская школа была ператворана ў сельскае двухкласнае вучылішча.

20 траўня 1909 года адбыліся ўступныя іспыты. У тым жа годзе слова "школа" ў назве навучальнай установы было зменена на "вучылішча". З гэтага часу навучальная ўстанова стала называцца Варанецкім Ніжэйшым Сельскагаспадарчым Вучылішчам.

Першымі яе кіраўнікамі былі Мікалай Міхайлаўскі і Сяргей Такмачоў. Ганаровым апекуном вучылішча, аж да сваёй смерці, з'яўляўся князь Друцкі-Любецкі, а апекуном – граф Станіслаў Моль, выпускнік фізіка-матэматычнага факультэта Юр’еўскага (Тартускага) універсітэта. У абавязкі апекуна ўваходзіў агульны нагляд за ажыццяўленнем кіраўніцтва навучальнай установай. Намеснікам апекуна быў Эдмунд Пілсудскі, які скончыў у свой час Мікалаеўскую вышэйшае кавалерыйскае вучылішча. Ён даводзіўся стрыечным братам Юзэфу Пілсудскаму, будучаму маршалу Польшчы.

Выкладчыкамі ў вучылішчы працавалі: Ісаін Уладзімір Мікалаевіч, які выкладаў батаніку, земляробства і лугазнаўства; Запольскі Аляксандр Аляксандравіч – хімію, глебазнаўства і жывёлагадоўлю; Валдманіс Арвід Янавіч – фізіку, чарчэнне, землямерства, заалогію, малочную гаспадарку і законазнаўства; Лазаровіч Уладзімір Мікалаевіч – арыфметыку, геаграфію, геаметрыю і рускую гісторыю: дырэктар школы Такмачоў – с/г машыназнаўства і с/г эканомію і рахаўніцтва.

Настаўнікамі Закона Божага ў вучылішчы служылі: плябан Манькавіцкай праваслаўнай царквы Міхаіл Міркові, а пасля яго смерці ў 1910 годзе, іерэй той жа царквы Павел Фёдаравіч Макарэвіч.

Навучэнцам каталіцкага веравызнання Закон Божы выкладаў ксёндз-плябан Пастаўскага касцёла Дзяшульскі, а пасля яго пераводу ў іншы прыход, ксёндз з Пастаў Казімеж Кавалеўскі. Напачатку 1915 года кс. К. Кавалеўскага змяніў кс. Аляксандр Нянеўскі.

Акрамя пералічаных вышэй прадметаў, у вучылішчы чыталі лекцыі па асновах с/г "будаўнічага мастацтва", меліярацыйных работах і лесаводстве, межавой справе, ветэрынарыі і гігіене, рыбаводству і пчалярству. Паводле статуту, агульная колькасць працоўных і навучальных гадзін у дзень, разам з падрыхтоўкай урокаў, не павінна была перавышаць для вучняў 1-га класа 10-ці гадзін, для 2-га і 3-га класаў не больш 12 гадзін у дзень.

У штаце вучылішча таксама меліся: лекар, канторшчык (Мікалай Паўлавіч Чмут), дзве кухаркі, тры прыслугі на кухні, адзін начны вартаўнік і кучар.

Навучанне было платным і складала 50 рублёў у год з вучня. У 1915 годзе, у сувязі з інфляцыяй, сума была паднята да 55 рублёў. Курс навучання працягваўся 3 гады і размяркоўваўся на 3 класы, два з якіх былі агульнымі, а трэці адмысловы, з падраздзяленнем на дзве паралелі: а) Земляробчы, б) Жывёлагадоўлі і малочнай гаспадаркі.

Для заахвочвання лепшых вучняў былі заснаваны дзве стыпендыі. Першую – імя памерлага князя Уладзіміра Друцкага-Любецкого, заснавала 27 кастрычніка 1908 года яго ўдава княгіня Марыя. Гэта стыпендыя складалася з трох роўных частак. Першыя дзве, паводле волі апошняй, павінны былі ўручацца лепшым вучням вучылішча, жыхарам Манькавіцкай воласці праваслаўнага веравызнання. Трэцяя – лепшаму вучню каталіку. Другая стыпендыя была заснавана Дваранскім Зборам Віленскай губерні і штогод выдавалася вучню, які паказаў лепшыя вынікі ў вучобе, незалежна ад яго веравызнання і месца жыхарства.

Выхаванцы, якія скончылі поўны курс вучылішча, павінны былі прайсці абавязковую гадавую практыку ў прыватнай гаспадарцы, і толькі пасля гэтага, на падставе станоўчай справаздачы з месца практыкі, атрымлівалі атэстат. Выпускніку таксама выдаваўся дарма камплект новай формы, ніжняй бялізны і абутку. Навучэнцы, якія паказалі падчас вучобы выдатныя вынікі, маглі быць (паводле рэгламенту) заахвочаны каштоўнымі падарункамі, карыснымі ў сельскагаспадарчай працы (напрыклад, с/г інвентаром).

Зарплата выкладчыкаў была наступнай: дырэктар атрымліваў 1500 рублёў у год; выкладчыкі спецыяльных прадметаў – 850 рублёў; выкладчыкі агульнаадукацыйных прадметаў – па 600 рублёў; законавучыцелі (Закон Божы) – па 400 рублёў.

Каб зразумець, многа гэта ці мала, варта звярнуцца да статыстычных дадзеных пачатку XX стагоддзя. Сярэдняя зарплата ў Расіі ў 1909 годзе складала 35,71 рублёў у месяц. За год, адпаведна, 428,52 рубля.

Па стане на кастрычнік 1914 года ў вучылішчы займалася 64 вучні. З іх у першым класе – 22, у другім – 24, у трэцім – 18. У тым жа годзе, у сувязі з пачаткам 1-й сусветнай вайны, выпуск трэцяга класа адбыўся датэрмінова. Некалькі вучняў старэйшага ўзросту былі прызваныя ў войска.

У 1915 г. лінія фронта стала хутка набліжацца да Пастаў. У жніўні Варанецкае вучылішча ў спешным парадку было эвакуявана ў Чарнігаўскую губерню на ст. Баравіцы, у сцены Майноўскага с/г вучылішча, дзе прадоўжыла сваю працу. Аднак неўзабаве, пасля бальшавіцкага перавароту, гэта навучальная ўстанова таксама спыніла сваё існаванне. У час Першай сусветнай вайны праз тэрыторыю вучылішча прайшла лінія фронту. Тут размесціліся перадавыя пазіцыі геманскіх войск. У выніку баявых дзеянняў амаль усе будынкі былі разбураны. Ад былога вучэбнага корпусу засталіся рэшткі падмурку, склеп і бітая цэгла.

**Духоўна-рэлігійная спадчына**

Да 30-х гадоў XIX стагоддзя большасць прадстаўнікоў роду Друцкіх-Любецкіх вызнавала каталіцызм, аднак пасля падаўлення расійскімі ўладамі паўстання 1830-31 гадоў, некаторыя з іх перайшлі ў праваслаўе і сталі актыўнымі яго прыхільнікамі. Асабліва вызначыліся ў гэтым Ігнацый Ануфрыевіч і яго сын Уладзімір Ігнатавіч. Іх рупнасцю былі пабудаваны і пазней рамантаваліся і аздабляліся цэрквы ў Манькавічах, Асінагарадку, узведзены капліцы ў Асінагарадку, Манькавічах і Казлоўшчыне, адбудавана царква ў Ажунах.

**Праваслаўная спадчына**

***Свята-Пакроўская царква ў Асінагарадку***

Свята-Пакроўская царква ўзведзена ў гонар Прасвятой Багародзіцы. Мясцовасць, на якой стаіць храм, – невялікае ўзвышша, мае форму паўвострава, з 3-х бакоў абнесеная валам. Вакол царквы і на ўсім цвінтары растуць бярозы. Пабудавана яна ў 1782 годзе літоўскім ваяводам Жабам, які на той час валодаў Асінагарадком. Царква была шатровая, драўляная. У некаторых крыніцах падаецца, што будаваў яе Ануфрый Друцкі-Любецкі, аднак гэта не так, бо Ануфрыю на той час ішоў толькі 14 год і ён ніякага дачынення да Асінагарадка не меў.

У 1856 годзе па распараджэнні ўласніка маёнтка князя Ігнацыя Друцкага-Любецкага царкву капітальна перарабілі: быў пастаўлена новы дах, сцены абабіты дошкамі, выведзены вялікі купал, падрамантаваны падмурак. Паводле тагачаснага апісання храм выглядаў наступным чынам. Да прастакутнага асноўнага зруба

прымыкаюць роўны з ім па шырыні бабінец і пяцігранная апсіда з прыбудовамі па баках. Дах складаны, шмат'ярусны, з высокай шатровай вежачкай у цэнтры. Непадалёк размешчана званіца, складзеная напалову з каменя і якая мае драўлянае завяршэнне. Унутранае размяшчэнне храма квадратнае. Вокны ў царкве ў адзін ярус. На храме тры глухія купалы. Крыжы на даху жалезныя, васьміканцовыя. Дах храма драўляны. Будынак царквы абабіты дошкамі, ўваходных дзвярэй двое. Столь насланы дошкамі, выбелена, у алтары выфарбавана рознакаляровымі фарбамі. Падлога цагляная, у алтары з дошак, пафарбавана цёмна-чырвонай фарбай. У той час сцены царквы былі пабелены вапнай, алтары абабіты палатном, на якім намаляваныя Святыя Чатыры Евангелісты, Прарок Майсей і першасвятар Аарон.

Найбольш шануецца абраз Святога Мікалая Цудатворцы, які намаляваны на дошцы з меднымі часткамі і ахвяраваны селянінам Казімірам Кадушкевічам у 1811 годзе. Крыж вялікі напрастольны сярэбраны з такім жа распяццем Збаўцы і Прамянямі з надпісам: “Rok 1817”. Званіца ўладкована асобна, драўляная, на каменным падмурку, у ёй чатыры званы, адзін з іх вагай у 5 пудоў (80 кг), другі — два пуды (32 кг), трэці — у пуд (16 кг) і чацвёрты — прыкладна каля пуду. Звон у 5 пудоў ахвяраваны селянінам вёскі Лазовікі Якімовічам у 1822 годзе. Астатнія званы набыты на царкоўныя грошы. У 1856 годзе вакол царквы ўладкованы каменны мур.

Папячыцельства пры царкве зацверджана з 1864 года. Складалася яно з 8 чалавек ганаровых прыхаджан і старшыні. Да 1864 года царкве належалі дзве капліцы: на могілках у Шчотках і Барэйках. У 1897 годзе сын Ігнацыя Уладзімір за свой кошт зрабіў капітальны рамонт храма: быў узведзены новы дах, сцены абабіты дошкамі, выведзены вялікі купал, папраўлены падмурак. Праект рэканструкцыі царквы ў нарвежскім стылі распрацаваў і ажыццявіў прыдворны архітэктар Нікаля. Яна мае традыцыйную кампазіцыю: прамавугольны асноўны зруб, роўны з ім па шырыні бабінец, пяцігранная апсіда і складаны шмат’ярусны дах з высокай шатровай вежачкай у цэнтры. На аздабленне алтарнай часткі выкарыстоўвалася пецярбургская сасна. На сродкі У. Друцкага-Любецкага былі закуплены абразы.

Паводле звестак царкоўных летапісаў, пад алтаром храма ёсць склеп, у якім спачываюць продкі князёў Друцкіх-Любецкіх.

Царква і званіца з’яўляюцца помнікамі драўлянага дойлідства з выкарыстаннем элементаў стылю “мадэрн”.

***Царква св. Уладзіміра на могілках у Асінагарадку***

На суседнім узгорку, які знаходзіцца цераз дарогу ад Свята-Пакроўскай царквы размешчаны грамадзянскія могілкі. На іх знаходзіцца невялікая царква, якая была ўзведзена за сродкі князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага ў 1902 годзе. Вось як гэта апісваецца ў летапісе Свята-Пакроўскай царквы: “В сем году благодаря

щедротам князя Друцкого-Любецкого на Осиногородском кладбище выстроена маленькая деревянная церковь. Закладка совершена была 21 мая сего года".

***Царква Успення Прасвятой Багародзіцы ў Манькавічах***

Так склалася гістарычна, што большая частка насельніцтва Манькавічаў па веравызнанні належала і належыць да праваслаўнай веры, таму і стаіць на ўездзе ў вёску праваслаўны крыж, такія ж крыжы стаяць на могілках, а амаль у цэнтры вёскі ўзвышаецца праваслаўны храм. Царква пабудавана з бутавага каменя. Асноўны квадратны ў плане аб'ём пакрыты пакатым шатром. Да асноўнага аб'ёму далучаны вялікі квадратны бабінец, завершаны вежай званіцы, і паўкруглая апсіда. Пры ўваходзе – невялікі прытвор. Дэкаратыўныя дэталі выкананы з цэглы і атынкаваны. Царква – помнік эклектычнай архітэктуры.

У 1855 годзе пачалі будаваць каменную царкву. У 1871 годзе ўрачыста асвяцілі каменны храм у імя Успення Прасвятой Багародзіцы, які быў пабудаваны непадалёку ад ранейшай драўлянай царквы дзякуючы фундацыі князя Друцкага-Любецкага. Мяняліся часы, улада, а царква засталася. Праўда, у лістападзе 1943 года будынак быў спалены, знішчаны былі і шматлікія звесткі пра вёску, яе жыхароў і ўладароў. Але вяскоўцы змаглі вынесці з храма ўсё каштоўнае – царкоўныя кнігі, абразы. А ў пасляваенны час ніхто не спяшаўся аднаўляць разбураную праваслаўную царкву. У ёй гадавалі калгасных трусоў. У 90-я гады XX стагоддзя храм быў вернуты вернікам і адноўлены.

***Капліца-маўзалей У. Друцкага-Любецкага ў Варанцы***

Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, князь Друцкі-Любецкі быў жанаты на француженцы Марыі. Ён памёр у сакавіку 1905 года і быў пахаваны ў капліцы ў Манькавічах. Каб ушанаваць памяць любімага мужа, праз пяць гадоў княгіня пабудавала капліцу каля возера Варанец. На будоўлю з Францыі на шасцярыках валоў вазілі матэрыял, пераважна чорны базальт. Узведзенае збудаванне было непаўторнай прыгажосці. Унутры яго аздаблялі золата і срэбра, на навершшы зіхацеў на сонцы залаты крыж.

У 1910 годзе пры вялікім натоўпе народа цела князя ўрачыста перавезлі з Манькавічаў у Варанец. Цела было забальзамавана, знаходзілася ў сярэбранай труне з дубовым футлярам. Падчас Першай сусветнай вайны немцы капліцу разбурылі, а труну з целам князя разрабавалі і скінулі ў возера Доўжа (па іншай версіі – у возера Варанец). На месцы былой капліцы застаўся толькі падмурак. Нядаўна ўдалося адшукаць фотаздымкі, на якіх адлюстраваны капліца і труна князя Друцкага-Любецкага.

Захавалася апісанне ўрачыстасці ў Варанцы, якое звязана з асвячэннем капліцы князя Друцкага-Любецкага [13]. Паводле інфармацыі “Весника Виленскага православнаго Св.-Духовскаго братства”, 26 жніўня 1913 года ў Варанцы адбылася ўрачыстасць, якая прыцягнула шмат народу з мястэчка і суседніх вёсак. У 10 гадзін раніцы маёнтак наведаў Архіепіскап Літоўскі і Віленскі Агафангел, які разам з мясцовымі святарамі асвяціў надмагільны помнік-капліцу над пахаваннем князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага. Высокапрэасвяшчэнны Архіпастар адслужыў вадасвятны малебен, акрапіў капліцу звонку і знутры святой вадой, адслужыў паніхіду па князю. Потым прысутным ён раздаў памятныя крыжыкі і брашуры рэлігійна-духоўнага зместу.

На асвяшчэнні капліцы-пахавальні У.Друцкага-Любецкага прысутнічалі начальнік губерні, камергер Вышэйшага Двара Вяроўкін з жонкай, губернскі прадвадзіцель дваранства г. Красоўскі з жонкай, начальнік Віленска-Ковенскага ўпраўлення Земляробства і Дзяржаўнай Маёмасці Сялянін і прадстаўнікі ўлады Віленскага ўезда. Пасля асвяшчэння капліцы Уладыка наведаў Варанецкае сельскагаспадарчае вучылішча, якое было заснавана і ўладкавана “по мысли и на средства покойного князя В. Друцкаго-Любецкаго”. Там ён сустрэўся і даў бласлаўленне выкладчыкам і вучням.

Пасля гэтага ўдава Марыя Іванаўна Друцкая-Любецкая запрасіла Уладыку і афіцыйных гасцей на сняданак. У сваёй застольнай прамове Архіяпіскап Агафангел добрымі словамі ўзгадаў Уладзіміра Друцкга-Любецкага. Ён высока ацаніў дабрачынную і культурную дзейнасць князя, нагадаў, што той паходзіў са старажытнага роду князёў Паўночна-Заходняй Русі, свядома перайшоў з каталіцтва ў праваслаўе і шмат зрабіў для яго пашырэння сярод мясцовага насельніцтва. Па словах Уладыкі, У. Друцкім-Любецкім былі асабліва “облагодетельствованы” прыходы – Асінагарадоцкі Дзісненскага ўезду, у якім пабудаваў два храмы, і Дунілавіцкі Вілейскага ўезду, дзе аднавіў у акаталічанай частцы гэтага прыходу Ажунскую царкву. У культурным жыцці губерні абметнай з’явай сталася адкрыццё сельскагаспадарчага вучылішча, на якое князь завяшчаў фальварак Варанец і значныя грашовыя сродкі. Напрыканцы сваёй прамовы Архіяпіскап прапанаваў гасцям малітоўна ўспомніць спачылага князя, пасля чаго айцец пратадыякан прамовіў памерламу “боярину Владимиру” вечную памяць, якую праспявалі ўсе прысутныя.

Падчас Першай сусветнай вайны праз тэрыторыю сельскагаспадарчага вучылішча прайшла лінія фронту, якая затрымалася тут амаль на тры гады. У капліцы германцамі быў уладкаваны назіральны пункт, які стаў аб’ектам абстэлу расійскай артылерыі. У выніку капліца была разбурана. Цяпер на яе месцы знаходзіцца падмурак і некалькі кавалкаў чорнага базальту.

***Царква Прасвятой Багародзіцы ў Ажунах***

Вёска Ажуны – адно са старэйшых паселішчаў на Пастаўшчыне. На карце Радзівіла 1613 года яно паказана як значны населены пункт, у якім ёсць храм. Сапраўды, на той час у Ажунах ужо дзейнічала царква. У апісанні Віленскай губерні, якое было складзена афіцэрамі Генштаба ў сярэдзіне XIX стагоддзя, чытаем наступнае: “Ожинская во имя пресвятыя Богородицы, приходская церковь деревянная; когда и кем построенная, неизвестно; к ней принадлежат две приписные церкви Дуниловицкая и Лембовская”.

Як паведамляе Метрыка Літоўская, у сярэдзіне XVI стагоддзя ў Ажунах (Ожунічах) быў двор. Валодалі ім прадстаўнікі княскага роду Галаўчынскіх герба “Лебедзь”. Паходзілі яны ад князя Мацвея Мікіцініча, які прыехаў у ВКЛ з дваром Алены Іванаўны, дачкі вялікага князя маскоўскага Івана III, жонкі вялікага князя літоўскага Аляксандра. Вызнавалі праваслаўе, пасля перайшлі ў каталіцтва. Цяжка сказаць хто прадстаўнікоў гэтага роду і колькі часу валодаў Ажунамі, але дакументальна вядома, што ў сярэдзіне XVI стагоддзя ўласнікам паселішча быў сын Мацвея Мікіцініча Астафій Мацвеевіч (?— 6.3.1557). Акрамя Ажунаў яму належалі маёнткі Палачаны, Лужаны, Занарач у Ашмянскім павеце, Маладзечна і Заслаў у Менскім павеце, Новы Двор, Княжыцы, Струня і іншыя.

Цікава, што ў ЗША захоўваюцца ксеракопіі (электронная версія) метрычных кніг храма ў Ажунах. Гэта дакументы за 1809-1827 гады па грэка-каталіцкай царкве, за 1840 год – па праваслаўнай царкве. У канцы XIX стагоддзя царква была адрамантавана з фундацыі Уладзіміра Друцкага-Любецкага.

**Каталіцкая спадчына**

***Капліца Друцкіх-Любецкіх у Манькавічах***

За ставам, на высокім узгорку, знаходзіцца радавая капліца-пахавальня Друцкіх-Любецкіх. Яна выканана ў стылі позняга класіцызму, і ўтварала з сядзібай, што знаходзілася на супрацьлеглым беразе Мядзелкі, цэльны сядзібна-паркавы ансамбль. Размяшчалася яна па адной восі з сядзібным домам-палацам. Паводле некаторых звестак, капліца была пабудавана ў другой палове XIX стагоддзя і ў ёй пахавана Элеанора Друцкая-Любецкая. Пасля смерці князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага ягонае цела таксама спачатку знаходзілася тут, але пазней было перавезена ў капліцу каля возера Варанец.

Капліца пабудавана з бутавага каменя, мае два паверхі: верхняя зала выкарыстоўвалася для малення і службы; пад ёй быў склеп з нішамі-пахаваннямі. Адно з пахаванняў у склепе датуецца 1870 годам. Памеры капліцы прыблізна 10 х 7 метраў.

Раней у капліцы штогод ладзілася свята “Божэ цяло”, на якое з’язджаліся ксяндзы і католікі з наваколля. Зараз жа яна знаходзіцца ў вельмі занядбаным стане: склеп з пахаваннямі разбураны, тынкоўка ў ва многіх месцах абвалілася, абрынуўся дах. У 90-х гадах была зроблена спроба адбудаваць капліцу, нават пастаўлены рыштаванні, але справа далей не пайшла. Так і стаіць зараз гэты невялічкі храм у аблозе рыштаванняў з пачарнелых і падгнілых дошак, чакаючы сваёй долі. А лес усё шчыльней бярэ капліцу ў палон…

***Капліца-пахавальня Друцкіх-Любецкіх у Казлоўшчыне***

У вёсцы Казлоўшчына на мясцовых каталіцкіх могілках знаходзіцца адметная капліца-пахавальня роду Друцкіх-Любецкіх. Найбольш вядомыя яго прадстаўнікі Ануфрый, яго сын Ігнацый і ўнук Уладзімір – уласнікі Казлоўшчыны і Манькавічаў, мецэнаты, фундатары.

Капліца была пабудавана ў 1842 (ці 43?) годзе з бутавага каменя. Выклікае захапленне характар кладкі: рознакаляровыя валуны абчасаныя і шчыльна падагнаныя, нібыта ў мазаіцы. Пабудова мае прамавугольную форму, перакрыта двухсхільным дахам. Над фасадным трохкутным франтонам узвышаецца невялічкая сігнатурка. Бутавую муроўку сцен аздабляюць атынкаваныя і пабеленыя архітэктурныя элементы вакол уваходу, каля вокнаў і карнізаў.

У капліцы маюцца два паверхі. У верхнім праводзяцца службы, у ніжнім, цокальным, знаходзіцца сутарэнне з 12 пахавальнымі нішамі, з якіх восем – пустыя, а чатыры, верагодна, з’яўляюцца магіламі. З апошніх тры замураваныя і на плітах расчытваюцца прозвішчы Марыі з Сніткаў княжны Друцкай-Любецкай, Канстанцыі з Валасоўскіх Святаполк-Мірскай і князя Ігнація Любецкага. Пахаванне жонкі Ігнація, Адэлаіды Святаполк-Мірскай княжны Друцкай-Любецкай, парушана, пліта з надпісам стаіць на падлозе, у нішы знаходзіцца металічная труна. Па словах мясцовых жыхароў, магілу разбурылі яшчэ ў савецкія часы студэнты, якія прыязджалі ў калгас “на бульбу”.

Ніжняя частка агароджы вымуравана бутавым каменем, на адным з якіх захавалася дата будаўніцтва “R 1852”. Намаганнямі ксяндзоў Уладыслава Завальнюка і Юозаса Булькі, мясцовых вернікаў капліца была адрамантавана і цяпер дзейнічае як невялікі касцёл пад тытулам святога апостала Пятра.

Удалося выявіць цікавы запіс з метрычнай кнігі Лучайскага касцёлу за 1873 год, які датычыцца капліцы Друцкіх-Любецкіх у Казлоўшчыне: *"27 сентября 1873 года в Козловской частной домашней каплице ксендз Абдон Андржейкович, викарный Лучайского костела, на основании диспенсации, данной местным Эпархиальным Начальством, освобождающей от всех оглашений, зарегистрировал брак благородных Гилярия Ленского (юношу 37 лет) с княжною Мариею Констанциею Друцкою-Любецкою (девицей 19 лет), обоих из г. Вильны прихожан Св. Иановского Р.-К. Костела.*

*Родители жениха: сын благородных Александра и Марии, урожденной Лебедзинской, Ленских.*

*Родители невесты: дочь Игнатия и Аделаиды, урожденной Мирских, Друцких-Любецких.*

*Свидетели: князь В. Друцкий-Любецкий, дворянин Павел Карлович Рауэ и многие другие, при том находящиеся."*

**Ландшафтна-канструкцыйная спадчына**

***Сядзібна-паркавы ансамбль у маёнтку Манькавічы***

Сядзібна-паркавы ансамбль у Манькавічах пачаў стварацца ў другой палове XVIII стагоддзя па волі гаспадара маёнтка Тадэвуша Жабы. Вядома, што сядзібны дом быў пабудаваны па праекце італьянскага архітэктара Дж. Сака, які, верагодна, распрацаваў і праект усяго ансамблю. Закончаны выгляд архітэктурна-пейзажны комплекс замеў у канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў, калі Манькавічамі валодаў князь У.Друцкі-Любецкі.

Ад сядзібнага ансамблю часткова захаваўся прысядзібны парк пейзажнага стылю, высаджаны па берагах ракі Мядзелкі. Перагароджаная плацінай з млынам і мостам, яна стварае на тэрыторыі сядзібы два ставы, якія адыгралі, бадай, галоўную ролю ў яго фармаванні. Архітэктурную кампазіцыю абапал ракі стваралі драўляны палац мяжы XVIII – XIX стагоддзяў, які меў багаты збор твораў мастацтва, млын, гаспадарчыя пабудовы на супрацьлеглым беразе Мядзелкі. На ім на схіле пагорку размешчана капліца-пахавальня Друцкіх-Любецкіх.

***Сядзібны дом.*** Сядзібны дом пабудаваны ў другой палове XVIII стагоддзя і быў вырашаны ў пераходным барочна-класіцыстычным стылі. Ён уяўляў сабой аднапавярховы будынак з мураваным чатырохкалонным порцікам з мезанінам і балконам па цэнтры працяглага 13-восевага франтальнага фасада. Галоўны фасад вылучаны двухярусным чатырохкалонным ганкам (у ніжнім ярусе калоны круглыя,

у верхнім – квадратныя ў сячэнні) з ажурнай агароджай у другім ярусе і ажурным разным франтонам у завяршэнні. Элементы стылю барока праглядаюцца ў форме “французскага”, з заломам, мансардавага даху, рытмічна падзеленага круглымі вокнамі-люкарнамі ў фігурных ліштвах, у пірамідальным завяршэнні порціка. Плоскасны гарызантальна ашаляваны фасад рытмічна расчлянёны прамавугольнымі вокнамі ў простых ліштвах – класіцыстычны стылёвы матыў. Унутры ад цэнтральнага вестыбюля ў бакі “разбягаліся” анфілады апартаментаў. Уся прастора пад дахам адводзілася пад летняе жыллё.

Сядзібны дом быў спалены падчас Другой сусветнай вайны і потым разабраны да падмурку.

***Свіран.*** Сярод гаспадарчых пабудоў манументальнасцю архітэктуры вылучаўся вырашаны ў стылі ампір мураваны свіран – прамавугольны ў плане на высокім бутавым цокалі цагляны будынак, накрыты двухсхільным гонтавым дахам з трохвугольнымі франтонамі ў тарцах. Вуглы сцен аздоблены рустам, адзін з падоўжаных фасадаў, дзе размяшчаліся ўваходы ў свіран, быў афармлены галерэяй на дзесяці калонах тасканскага ордэра. На сённяшні дзень захаваўся толькі бутавы цокаль пабудовы.

***Вадзяны млын.*** У маляўнічым месцы на рацэ Мядзелка да параўнальна нядаўняга часу стаяў млын. Дакладна вызначыцца з часам яго пабудовы пакуль што немагчыма, але, верагодна, пачатак будаўніцтва прыходзіцца на канец XVIII стагоддзя. Тады Манькавічамі валодаў Тадэвуш Жаба, які пачаў ствараць у гэтай мясцовасці сядзібна-паркавы ансамбль.

У гістарычных крыніцах згадваецца, што ў 1886 годзе ў мястэчку дзейнічаў вадзяны млын з сукнавальняй. У суткі перамолвалася да 12 бочак мукі. Перамол каштаваў па 60 капеек за бочку, а пытляванне – 2 рублі. Млын знаходзіўся ў арэндзе ў яўрэяў, якія плацілі гаспадару, князю Друцкаму-Любецкаму, 1000 рублёў у год. Рамонт млына ажыццяўляўся за кошт арандатара, але з матэрыялаў уласніка. Для гаспадара збожжа малолі дарма.

У міжваенным часе, пры Польшчы, на млыне быў устаноўлены генератар, які працаваў на энергіі падаючыц вады. Выпрацаваны ток ішоў на асвятленне млына і палаца. У другую сусветную вайну млын быў пашкоджаны і некаторы час не працаваў. Нанова яго запусцілі ў пачатку 50-х гадоў і ён дзейнічаў да канца 80-х, праўда, збожжа малолі ужо з дапамогай электрычнасці.

У першай палове 90-х гадоў млын пачалі пакрысе разбіраць мясцовыя жыхары і дачнікі, а пад час моцнай буры будынак паваліўся. Зараз на ягоным месцы засталося толькі некалькі металічных балак і две турбіны з прыладамі, а вакол – кустоўе ды быллё.

***Сядзібна-паркавы ансамбль у маёнтку Казлоўшчына (“Казлоўск”)***

Вёска носіць назву Казлоўшчына з пачатку XX ст. Раней – маёнтак “Казлоўск”, ўласнасць роду Жабаў, потым з XV ст. перайшоў да нашчадкаў роду князёў Друцкіх-Любецкіх і належаў ім да XX стагоддзя. У 1859 г. тут пабудаваны вадзяны млын, які захаваўся да цяперашняга часу. У 1865 г. быў запасны магазін. З 1884 г. была школа граматы. У 1888 г. у маёнтку дзейнічала садова-агародная школа, рэарганізавана праз 4 гады ў гаспадарча-аграрную. Выробленая вучнямі прадукцыя карысталася попытам у спажыўцоў, экспанавалася на Выстовка ў Вільні, Пабрадзе, Ноўгарадзе, дзе былі атрыманы 23 медалі. У 1905 г. у Вілейскім павеце. У 1939 г. дробны прыватны магазін, пачатковая школа, дзе вучылі на польскай мове. У 1933 г. непадалёк ад Казлоўшчыны ўсталяваны памятны знак да 1900-годдзя хрысціянства.

***Сядзібны комплекс.*** Сядзіба ўласнікаў размяшчалася на высокім узгорку на паўночным беразе возера Ласіца. Гэта быў вялікі комплекс, які ўключаў жылую частку з усходнім парадным пад’ездам, ад якога засталіся дзве цагляныя калоны і гаспадарчая частка, дзе размяшчаліся вялікія аборы, стайні, свінарнікі. На самым беразе возера захаваліся рэшткі сцен глінабітнай пабудовы. Раней тут быў бровар (па іншай версіі – сырзавод), пасляваенным часам дзейнічала малочарня: у яе прывозілі на конях малако, а затым з яго рабілі сыр, вяршкі і сыворатку.

На месцы былога сядзібнага дому да 2014 года знаходзілася мясцовая школа, але пасля закрыцця яна ў хуткім часе, 3 студзеня 2017 года, згарэла: пажарам былі пашкоджаны сцены, перакрыццё другога паверху і падлога. Некалькі гаспадарчых пабудоў, рэшткі парка і бровара яшчэ акрэсліваюць рамантычныя рысы старадаўняй сядзібы.

На возеры, насупраць сядзібнага дома, па словах мясцовых жыхароў, быў штучна створаны востраў, які і зараз цудоўна ўпрыгожвае краявід. Паводле легенды, па загаду мясцовага пана тутэйшыя жыхары на ладдзях звозілі на сярэдзіну возера каменне і кідалі іх у ваду. Рабілі яны гэта да таго часу пакуль не ўтварылася штучная выспа. Пазней на ёй назапасіліся іл і пясок, пачалі расці дрэвы і травы. Праўда, да яго мала хто падплывае, бо баяцца, што ён зноў можа пайсці пад ваду. Да таго ж, зрэдку чуваць, як на востраве хтосьці плача.

***Вадзяны млын.*** У вёсцы на рацэ Ласіца захаваўся вадзяны млын, які быў збудаваны ў 1859 годзе, аб чым сведчыць камень з надпісам на ўваходзе. Абсталяванне абнаўлялася ў 1920-я і 1950-я гады. Млын мае тры паверхі: ніжні крыху заглыблены, паўпадвальнага тыпу, вышэй размешчаны жорны, на трэцім стаяла абсталяванне для прасейвання мукі. У будунку захаваўся стары грузавы

ліфт, засталіся розныя старыя механізмы. Акрамя памолу збожжа млын выконваў і некаторыя іншыя важныя функцыі. На ім было ўсталявана электрагенеравальнае абсталяванне за кошт якога асвятлялася вёска Казлоўшчына і сядзіба Друцкіх-Любецкіх. У драўлянай прыбудове да каменнай часткі млына размяшчалася лесапіка, на якой выраблялі гонту – матэрыял для даху ў выглядзе драўляных пласцін. Акрамя гэтага млына мелася некалькі ставоў, куды на зіму запускалі рыбу, якую вылавілі ўвосень і не паспелі прадаць. Апошнім часам млын прыватызаваны і на ім праводзіцца рэканструкцыя, якая дазволіць ператварыць гэту адметную старую пабудову ў цікавы турысцка-экскурсійны аб'ект.

**Тапанімічная спадчына**

На Пастаўшчыне маюцца дзве геаграфічныя назвы, якія звязаны з родам Друцкіх-Любецкіх: чыгуначная станцыя Навадруцк і царква святога Уладзіміра на могілках у Асінагарадку.

Навадруцк – чыгуначная станцыя каля аграгарадка Парыж за 23 км на ўсход ад Варапаева. У пачатку XX стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісненскага павета. Назва з'явілася ў канцы XIX стагоддзя, калі тут узнікла станцыя на першай у Расійскай імперыі прыватнай чыгуначнай лініі Новасвянцяны – Беразвечча (Глыбокое). Названа яна ў гонар князя У.Друцкага-Любецкага, які прычыніўся да будаўніцтва чыгункі. Назва "Навадруцк" захавалася да сёння толькі ў найменні чыгуначнай станцыі, вёсцы вярнулі назву Парыж.

Царква на могілках у Асінагарадку атрымала тытул святога Уладзіміра ў знак падзякі Уладзіміру Друцкаму-Любецкаму, які выдаткаваў сродкі на яе пабудову.

**Заключэнне**

Род Друцкіх-Любецкіх утварыў на Пастаўшчыне асобную галіну, прадстаўнікі якой валодалі значнымі зямельнымі ўгоддзямі і вёскамі з канца XVIII стагоддзя да 1939 года. Род Друцкіх-Любецкіх спачатку перадаваўся па мужчынскай лініі (Ануфрый, яго сын Ігнацый і ўнук Уладзімір), пазней, праз сястру Уладзіміра Марыю прадоўжыўся ў нашчадках родаў Ленскіх і Галераўю Ва ўласнасці Друцкіх-Любецкіх знаходзіліся маёнткі Манькавічы і Казлоўчына ("Казлоўск"), дзе былі створаны мясцовыя гаспадарчыя цэнтры і сядзібна-паркавыя ансамблі.

Прадстаўнікі роду Друцкіх-Любецкіх на Пастаўшчыне пакінулі багатую матэрыяльную і духоўную спадчыну. Сярод іх асабліва вызначыўся Уладзімір Друцкі-Любецкі – адметны дзеяч канца XIX-пачатку XX стагоддзя на абсягах паўночна-заходняй Беларусі. Ён выдаткаваў сродкі на адбудову праваслаўных

храмаў у Манькавічах, Асінагарадку, Ажунах, уладкаванне сядзібна-паркавых ансамбляў у Казлоўшчыне і Манькавічах. Князь далучыўся да будаўніцтва чыгункі Новасвянцяны-Беразвечча, перадаў свой фальварак "Варанец" для стварэння селькагаспадарчага вучылішча для сялянскіх дзяцей. Да ўсяго гэтага ён быў суаўтарам і фундатарам адной з першых краязнаўчых кніг "Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні" (1896).

Сабраныя матэрыялы дазволілі зрабіць апісанне матэрыяльных помнікаў, якія звязаны з жыццём і дзейнасцю У. Друцкага-Любецкага. Захаваныя элементы былых пабудоў даюць магчымаць выкарыстоўваць іх у турысцка-экскурсійнай дзейнасці.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Дело "Об открытии сельскохозяйственной школы фермы "Воронец" 1904 г. // Материалы Литовского государственного исторического архива, Ф.525, №1642.
2. Дубоўка, М. Мае санаторыі і курорты / М. Дубоўка // Маладосць – 1994. – № 2. – С. 201–234.
3. Дубоўка, У. Пялёсткі/Уладзімір Дубоўка. Мн.:Мастацкая літаратура, 1973.124 с.
4. Зямчонак, І. Вёска Манькавічы / Іосіф Зямчонак. Наш край. 1997. № 7 (80). С. 9.
5. Краткие сведения о Маньковичском приходе и приходском храме Успения Божей Матери // Матэрыялы Пастаўскага краязнаўчага музея. – 1992. – 3 с.
6. Кулагин, А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Беларуси / А. Н. Кулагин. – Мн.: Беларусь, 1981. – 118 с.
7. Летапіс в. Манькавічы (рукапіс) // Матэрыялы Пастаўскага краязнаўчага музея (70-я гады ХХ ст). – 7 с.
8. Матэрыялы апытання жыхароў вёскі Манькавічы // Уласны архіў І. М. Пракаповіча.
9. Матэрыялы рукапіснага аддзела Віленскага дзяржаўнага універсітэта // F 34 – GD 495.
10. Поездка Высокопреосвящённейшего Владыки в м. Поставы и в им. Воронец // Вестник Виленскага православнаго Св.-Духовскаго братства. – 1913. – № 18. – С. 333-335.
11. Пракаповіч, І., Заяц, І. "О Беларусь, мая шыпшына...": На радзіме У. Дубоўкі / Ігар Пракаповіч, Ірына Заяц. – Мінск: Тонпік, 2007. – 128 с.: іл.
12. Пракаповіч, І.М. Ваколіцы Паставаў: помнікі прыроды, гісторыі і культуры з маршрутамі краязнаўчых вандровак / І.М. Пракаповіч. - Паставы, Сумежжа, 2004. - 60 с.: іл.
13. Сапунов, А., Друцкий-Любецкий, В. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / Алексей Сапунов, Владимир Друцкий-Любецкий. – Витебск, 1896.

**Daria Danilevich, Alisa Yanush, Igar Prakapovich: The legacy of the Drutsky-Lyubetsky clan in the Postavy district**

(***magazine “CULTURE. NATION”, April 2020, issue 25, pp.96-118,*** *www.sakavik.net*

The article presents the results of a study of the heritage of Drutsky-Lyubetsky in the Postavy district. Drutsky-Lyubetsky’s, a well-known clan on the territory of the Grand Duchy of Lithuania, the Commonwealth of Two Peoples and the Russian Empire, left a rich cultural heritage on the territory of Northwestern Belarus. Representatives of the Pastavy branch of this fa,ily, such as Anufry, Ignatius Stanislav, and Vladimir Drutsky-Lyubetsky’s, Svyatopolk-Mirsky’s, Lensky’s, Galery and others, left behind manor and park ensembles in Mankavichi and Kazloushchyna, temples and chapels in Asinagaradok, Kazloushchyna, Mankavichi, Varanets, Azhuny, Navadrutsk railway station in “Belarusian Paris”, agricultural school in Varanets, results of study “Materials on the history and geography of Dzisna and Vileika districts of the Vilnja province”.

**Дарья Данилевич, Алиса Януш, Игорь Прокопович Наследие рода Друцких-Любецких в Поставском районе**

***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», апрель 2020, выпуск 25, стр. 96-118, www.sakavik.net)***

В статье представлены результаты изучения наследия Друцкого-Любецкого в Поставском районе. Друцкие-Любецкие, известный род на территории ВКЛ, Содружества Двух Народов и Российской империи, оставили богатое культурное наследие на территории северо-западной Беларуси. Представители поставской ветви этого рода, такие как Ануфрий, Игнатий Станислав, и Владимир Друцкие-Любецкие, Святополк-Мирские, Ленские, Галеры и другие, оставили после себя усадебно-парковые ансамбли в Маньковичах и Козловщине, храмы и часовни в Асинагородке, Козловщине, Маньковичах, Воронце, Ажунах, железнодорожный вокзал Навадруцк в «белорусском Париже», сельскохозяйственное училище в Воронце, научную работу «Материалы по истории и географии Дзисненского и Вилейского уездов Виленской губернии».

**Ігар Пракаповіч: БЕАТА ТЫШКЕВІЧ І ПАСТАЎШЧЫНА**



Беата Тышкевіч

Беата Тышкевіч – знакамітая польская актрыса, якую ведаюць усе, хто хоць крыху цікавіцца кінематографам. У яе творчым лёсе больш больш за паўсотню фільмаў. У Савецкім Саюзе была вельмі папулярная пасля выхаду ў пракат кінастужкі рэжысёра Андрэя Канчалоўскага “Дворянское гнездо”. Для многіх яна запомнілася ролямі ў фільмах “Марыся і Напалеон”, “Вялікае каханне Бальзака”, “Лялька”. У кінастужцы беларускага рэжысёра Міхаіла Пташука “У жніўні 44-га…” Беата Тышкевіч выканала ролю пані Гралінскай. Нарадзілася яна ў Вільні ў 1938 годзе, жыве ў Польшчы. Якое дачыненне яна можа мець да Пастаўшчыны? Аказваецца, вельмі нават роднасна-блізкае. Радаводныя ніткі звязваюць яе з вёскай Казлоўшчына, што ляжыць на ўсходзе Пастаўскага раёна. Сама актрыса ў вёсцы, магчыма, не бывала, а вось яе блізкі родзіч не толькі тут жыў, але і быў уласнікам даваеннага вялікага маёнтка “Казлоўск”. Звалі гаспадара Генрык Тышкевіч і даводзіўся ён Беаце дзядзькам – родным братам яе бацькі Крыстофа. Былі яны

сынамі графа Юзафа Тадэвуша Тышкевіч-Лагойскага гербу “Ляліва” і Ірэны Галабек-Язерскай гербу “Прус II”.

Генрык Марыя Станіслаў – так гучала поўнае імя ўласніка маёнтка – нарадзіўся ў 1909 годзе, а ў 26 гадоў стаў валодаць Казлоўшчынай. Атрымаў ён маёмасць праз шлюб з Аленай-Ізабэлай Незабытоўскай, дачкой вядомага палітычнага і грамадскага дзеяча Расійскай імперыі і Польшчы Караля Незабытоўскага. Гэты чалавек быў пры грашах, меў некалькі маёнткаў, з’яўляўся членам Дзяржаўнага Савета ад Мінскай губерні (1911—1912), займаў пасаду міністра сельскай гаспадаркі і дзяржаўнай маёмасці II Рэчы Паспалітай (1926—1929).

Да Тышкевічаў Казлоўшчынай валодалі Ленскія – нашчадкі князёў Друцкіх-Любецкіх. Асноўнай іх рэзідэнцыяй быў маёнтак Белая Вака каля Вільні, дзе яны пабудавалі палац і храм. Кіраваць Казлоўшчынай у Ленскіх, напэўна, не было імпэту і магчымасці, таму маёнтак выставілі на продаж. Яго і купіў Караль Незабытоўскі для таго, каб перадаць сярэдняй дачцэ ў якасці пасагу, калі тую засваталі Тышкевічы. Што ж, бацьку трэба было рупіцца, бо дзяўчына заседзілася ў дзеўках – ёй было ўжо дваццаць дзевяць, жаніх – на тры гады маладзейшы. Так Генрык Тышкевіч стаў уласнікам Казлоўшчыны. Маёнтак на той час, напэўна, быў у заняпадзе, бо не меў належнага кіравання. Малады гаспадар актыўна пачаў яго аднаўляць. Пра гэта пісаў у газеце карэспандэнт, які ў 1936 годзе наведаў Казоўшчыну з прычыны пажараў, якія бушавалі ў вакольных лясах: “Пасля вяртанне ў двор, маю яшчэ досыць часу да адпраўлення цягніка, каб наведаць маёнтак Казлоўск. Прыемны гаспадар праводзіць мяне па сваім “дамініёне”, ахвотна мне паказвае стан пасеваў, стайні, тартак, млын, машыны. Нягледзячы на тое, што толькі год рукой графа Тышкевіча кіруецца гаспадарка Казлоўска, усюды відаць памкненне паставіць гаспадарку на належны ўзровень, усюды сляды інвестыцый: там новы дах, там-сям свеціць свежымі дошкамі новы плот, там ізноў уваходзім на новы мост.

Вялікай рэччу з’яўляецца замілаванне зямлёй. А што граф Тышкевіч з’яўляецца ўлюблёным і дасведчаным земляробам, нягледзячы на малады ўзрост, не падлягае сумневу”. Па ўспамінах мясцовых жыхароў, гаспадар маёнтка быў шчодрым і справядлівым чалавекам, дапамагаў простым людзям. Мясцовыя жыхары прыгадваюць, што ён любіў коней і займаўся іх гадоўляй.

Як склаўся лёс Генрыка Тышкевіча пасля ўсталявання тут савецкай улады – невядома. Яго жонка памерла ў 94-гадовым узросце ў 2000 годзе. Дзяцей у сям’і не было. Другая сусветная вайна раскідала па розных краінах і сям’ю брата. Але вось якая цікавая паралель праявілася праз гады. Беата Тышкевіч ад шлюбу з першым мужам, вядомым рэжысёрам, Анджэем Вайдай мае дачку Караліну, якая спачатку

абрала матчыну прафесію, стала кінаактрысай, здымалася ў фільмах. Але цяпер яна жыве ў былым маёнтку непадалёку ад Варшавы і займаецца… Чым бы вы думалі? Яна гадуе коней, прадае іх, а таксама навучае ў сваёй Акадэміі мастацтва верхавой язды. Гісторыя паўтараецца. Толькі ў іншых дэкарацыях і дэталях.



Уязныя вароты



Рэшткі сырзавода

**Igar Prakapovich: Beata Tyszkiewicz and Pastavy district**

(***magazine “CULTURE. NATION”, April 2020, issue 25, pp.119-123,*** *www.sakavik.net*

Beata Tyszkiewicz is a famous Polish actress. In her creative destiny more than fifty films. She was born in Vilnius in 1938 and lives in Poland. What does it have to do with the Postavy region? It turns out to be very even related. Generic threads connect her to the village of Kazloushchyna, which lies in the east of the Pastavy district. Henrich Tyszkiewicz, owner of the pre-war Kazlousk estate, is the brother of her father, Christoph. The article describes the history of the estate and the nature of activities of its owners, presents contemporary pictures of the former estate.

**Игорь Прокопович: Беата Тышкевич и Поставщина**

***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», апрель 2020, выпуск 25, стр. 119-123, www.sakavik.net)***

Беата Тышкевич - известная польская актриса. В ее творческой судьбе более пятидесяти фильмов. Она родилась в Вильнюсе в 1938 году, живет в Польше. Какое она имеет отношение к Поставскому краю? Оказывается, очень даже родственное. Родовые нити связывают её с деревней Козловщина, которая лежит на востоке Поставского района. Генрих Тышкевич, владелец довоенного большого имения Козловск, является родным братом ее отца, Кристофа. В статье излагается история имения и характер деятельности ее владельцев, представлены современные снимки бывшего имения.

*Інфармацыя аб падзеях з культурнага жыцьця беларускіх суполак*

**Олег Рудаков: Презентации в Иркутском Беларусском клубе «Крывічы»: Фильм «Бенедикт Дыбовский. Тайны Священного моря», книга О. Рудакова «Очерки, рассказы и сказки белорусов Иркутской области» (29.03.2020).**

29 марта в 16-30, Иркутский Белорусский клуб «Крывічы» в Иркутском планетарии (ул. Седова, 30) представляет:

- Фильм «Бенедикт Дыбовский. Тайны Священного моря».
- Книгу «Очерки, рассказы и сказки белорусов Иркутской области».

Вход бесплатный, но после регистрации по тел. 8-902-17-068-30. Это связано, с тем что мы ограничиваем участие зрителей до 50 человек.

…....................................................................................................................

Иркутский Белорусский клуб «Крывічы» по эксклюзивному праву представляет фильм

**«Бенедикт Дыбовский. Тайны Священного Моря»**

*Снятый Студией исторических фильмов «Мастерская Владимира Бокуна» при поддержке Международного фонда «Наука вокруг нас»*

**Фильм проекта «100 имен Беларуси»**

Ещё 150 лет назад крупнейшее озеро планеты считалось практически необитаемым. Ученые светила в один голос утверждали: кроме омуля да еще нескольких биологических видов там никакой жизни нет. Значит, и исследовать нечего. Лишь несколько ссыльных из белорусских земель им не поверили – и все же рискнули.

Бенедикт Дыбовский родился за шесть тысяч километров от Байкала – в Беларуси в имении Адамарин неподалеку от Молодечно. Получил блестящее образование, сделал неплохую карьеру. Уже к 30 годам он профессор зоологии Варшавского университета. Экспедиции по всему миру, награды, признание в научных кругах…

Но в 1863 году вспыхнуло восстание против царского самовластия. Остаться в стороне Дыбовский не мог. В итоге – арест, суд. И приговор – смертная казнь!
После ходатайства самого Отто фон Бисмарка казнь заменили каторгой. Казалось, на научной карьере можно поставить крест: в суровых сибирских условиях хоть бы выжить... Но даже оказавшись не лесоповале, Дыбовскийпродожал исследования.
Благодаря Бенедикту Дыбовскому и его друзьям, занимавшимся изучением Байкала и его окрестностейб мир заново открыл это Священное море. Дыбовский описал много новых, доселе неизвестных науке, видов рачков, открыл голомянку и прочую живность озера.

Автор сценария Борис ГЕРСТЕН
Режиссер-постановщик Тарас ВАЩЕНКО
Оператор-постановщик Андрей ДУК
Исполнительный продюсер Валентина ЖАРСКАЯ
Продюсер Владимир БОКУН

.......................................................................................................................................

**После просмотра фильма и его обсуждения состоится презентация книги:**

Долгожданное событие в белорусской диаспоре Прибайкалья!

Издана книга: «Очерки, рассказы и сказки белорусов Иркутской области»!

Редактор-составитель: Олег Васильевич Рудаков (Алег Рудакоў) – исследователь, этнограф, известный общественный деятель, родоначальник современного культурного движения белорусов в Прибайкалье. Книга издана на русском и белорусском языках.

**Аннотация:** Книга является историей переселения белорусов в Иркутскую область, написанная в популярно-публицистическом стиле. Большинство авторов пишут о себе, о своей семье, о своём роде. Это издание является первой попыткой осмысления вклада белорусского народа в развитие Прибайкалья. В Альманахе представлены труды 22 авторов.

Резюме книги:
Присутствие беларусов в Иркутской области практически никем не изучено. А их, между прочим, на сегодняшний день проживает в нашем крае около 50 тысяч человек. Хотя только по Столыпинской реформе (1906-1912) сюда переселилось около 300 тысяч беларусов, но за более чем 100 лет процесс ассимиляции сделал своё дело, и рождённые в Сибири потомки этих переселенцев уже в основном называют себя русскими. Плюс некоторые чиновники осознано, при переписи

населения, записывают всех рождённых в Сибири беларусов – русскими.
Так как же беларусы попали в Иркутскую область? Что делали? Чем занимались? И были ли у них свои особенности? Сделали ли они свой вклад в развитие нашего региона в экономическом, социологическом, демографическом, культурном аспектах?

Возможно, вы не сможете в полной мере разобраться во всех этих вопросах, прочитав нашу книгу. Но начало положено. Несомненно, вы узнаете много любопытных фактов из жизни беларусов в Восточной Сибири.
В первом же очерке Алега Рудакова: «Беларусы Прибайкалья: этнокультурное развитие вдали от Исторической Родины» рассказывается об **11 основных волнах переселения беларусов в Иркутскую область!** Имеется в виду не частные самостоятельные переезды, а именно массовые переселения из Беларуси в Прибайкалье, начиная с прихода первых отрядов казаков и первопоселенцев и заканчивая выводом ракетных войск из Беларуси.

**Aleg Rudakou: About the presentation of the film "Benedict Dybovski. Secrets of the Sacred Sea" and A.Rudakov's book "Essays, Stories and Tales of Belarusians of the Irkutsk Region"**

***("CULTURE. NATION", April 2020, issue 25, pp.125-128, www.sakavik.net)***

The Irkutsk Belarusian club "Kryvichy" organized two presentations in March 2020: the film "Benedict Dybovski. Secrets of the Sacred Sea" (project "100 Names of Belarus"), and the book by A.Rudakov "Essays, Stories and Tales of Belarusians of the Irkutsk Region". Benedict Dybowski was born in Belarus, near Molodechno, by the age of 30 he was famous professor of zoology at the University of Warsaw, participants of expeditions around the world; awards, recognition in the scientific community ... He participated in the uprising of 1863, exiled to Siberia. He described many new species of crustaceans, hitherto unknown to science, and other living creatures of Lake Baikal. Book by A.Rudakov is the history of the resettlement of Belarusians in the Irkutsk region. Only according to the Stolypin reform (1906-1912) about 300 thousand Belarusians moved here. Today, about 50 thousand Belarusians live in the region. The Almanac presents the works of 22 authors. Most authors write about themselves and about their families. This publication is the first attempt to comprehend the contribution of the Belarusian people to the development of the Baikal region.

**Олег Рудаков: О** презентации фильма «Бенедикт Дыбовский. Тайны Священного моря» и книги А.Рудакова «Очерки, рассказы и сказки белорусов Иркутской области» ***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», апрель 2020, выпуск 25, с.125-128, www.sakavik.net)***

Иркутский Белорусский клуб «Крывічы» организовал в марте 2020 две презентации: фильма «Бенедикт Дыбовский. Тайны Священного моря» (проект «100 имен Беларуси») и книги А.Рудакова «Очерки, рассказы и сказки белорусов Иркутской области». Бенедикт Дыбовский родился в Беларуси, неподалеку от Молодечно, к 30 годам профессор зоологии Варшавского университета, экспедиции по всему миру, награды, признание в научных кругах… Участник восстания 1863 года, сослан в Сибирь. Описал много новых видов рачков, доселе неизвестных науке, и прочую живность озера Байкал. Книга А. Рудакова является историей переселения белорусов в Иркутскую область. Только по Столыпинской реформе (1906-1912) сюда переселилось около 300 тысяч беларусов. Сегодня в области проживает около 50 тысяч беларусов. В Альманахе представлены труды 22 авторов. Большинство авторов пишут о себе, о своей семье, о своём роде. Это издание является первой попыткой осмысления вклада беларусского народа в развитие Прибайкалья.

*Літаратура*

**Ю. І. Крашэўскі “Сеймавыя сцэны. Гародня. 1793.”**

*Пераклад з польскай мовы Міхася Кенькі*

**Прадмова**

У нумары 24 часопіса “Культура. Нацыя” быў змешчаны ўрывак з рамана вельмі папулярнага ў свой час польскага пісьменніка Юзафа Ігнацы Крашэўскага і пададзены звесткі пра аўтара. Зараз часопіс друкуе поўны тэкст твора ў перакладзе на беларускую мову. Ён упершыню выйшаў з друку ў 1875 годзе пад псеўданімам Б.Баляславіт.

Чытачы, якім адрасаваў свой твор Крашэўскі, добра ведалі пра тое, аб чым апавядаецца ў творы. Ва ўсіх быў на памяці апошні сейм незалежнай польскай дзяржавы – Рэчы Паспалітай. Гэты сейм доўжыўся ў Гародні з 17 чэрвеня па 23 верасня 1793 года. На ім быў зацверджаны акт аб другім падзеле Рэчы Паспалітай, па якім Рэч Паспалітая фактычна ператваралася ў пратэктарат Расійскай імперыі. Дэпутатаў сейму змусілі зрабіць гэта пад ціскам расійскіх улад.

*Чытачам твора трэба ведаць пра папярэдні і наступны падзелы, якія звязаны з сеймам 1793 года. Першы падзел Рэчы Паспалітай адбыўся ў 1772 года паміж Расіяй і Аўстрыяй, а таксама паміж Расіяй і Прусіяй. У адпаведнасці з гэтымі дакументамі Аўстрыя атрымоўвала Галіцыю, Прусія - Памор'е (акрамя Гданьска) і частку Вялікай Польшчы, Расія - украінскія і беларускія землі на ўсход ад Заходняй Дзвіны, Друці і Дняпра, а таксама Латгалію.Чатырохгадовы сейм (1788-1792) 3 мая 1791 г. прыняў Канстытуцыю Польшчы. Пры падтрымцы Расіі ў маі 1792 года старашляхетскай партыяй была створаная Таргавіцкая канфедэрацыя, якая ставіла сваёй мэтай ліквідацыю канстытуцыі 3 мая. Расійскія войскі, якіх запрасілі канфедэраты, уступілі ў Варшаву, у выніку чаго лідэры патрыятычнай партыі змушаныя былі пакінуць краіну. Прусія таксама ўвяла ў Польшчу свае войскі, якія занялі Данцыг і Торн. Другі падзел Рэчы Паспалітай зрабіўся ў гэтых умовах непазбежным. 12 студзеня 1793 года паміж Расіяй і Прусіяй была падпісаная новая канвенцыя. Расія атрымлівала ўкраінскія і беларускія землі з гарадамі Мінск, Слуцк, Пінск, Жытомір, Камянец-Падольскі. Прусіі дасталіся частка Вялікай Польшчы і Куявія, а таксама Гданьск. Сейм 1793 гады (апошні ў гісторыі Рэчы Паспалітай) вымушаны быў ратыфікаваць дагаворы з Расіяй і*

*Прусіяй, замацоўвалі вынікі Другога падзелу. Адначасова без абмеркавання была зацверджана новая канстытуцыя, паводле якой Польшча стала васалам Расійскай імперыі. Польскія патрыёты, не змірыўшыся з рашэннямі сейма, у сакавіку 1794 года абвясцілі ў Кракаве аб пачатку паўстання супраць замежных войскаў. На чале паўстання стаў Тадэвуш Касцюшка. Паражэнне паўстання прывяло да поўнай ліквідацыі Рэчы Паспалітай. 3 студзеня 1795 г. была падпісаная канвенцыя аб трэцім падзеле Рэчы Паспалітай паміж Расіяй і Аўстрыяй, а 24 кастрычніка падобная канвенцыя была заключана паміж Прусіяй і Расіяй. Да Расіі адышлі Літва, Курляндыя, Заходняя Беларусь і Заходняя Валынь. Аўстрыя атрымала Малапольскае зямлі з Любліне і Кракавым, Прусія - частку Падляшша і Мазавецкага земляў з Варшавай, а таксама частка Жамойці.*

*Варта нагадаць таксама пра тое, што такое польскі сейм. Польская дзяржава Рэч Паспалітая была канстытуцыйнай, саслоўнай манархіяй, на чале з выбарным каралем. Заканадаўчым органам у ёй быў двухпалатны агульны парламент (Вальны сейм), які складаўся з вышэйшай палаты – Сената (Рады) і Пасольскай ізбы. У Сенат уваходзілі найбольш знатныя феадалы ў колькасці каля 150 чалавек: магнатаў, вярхушкі цэнтральнай і мясцовай адміністрацыі, вярхоў каталіцкай царквы. Вальныя (агульныя) сеймы (іх яшчэ называлі кароннымі сеймамі) разглядалі і прымалі пастановы на асобных пасяджэннях Сената і Пасольскай ізбы. Разгледзеўшы адны і тыя ж пытанні паасобку, Сенат і Пасольская ізба сыходзіліся на агульнае пасяджэнне і ў выпадку, калі іх пастановы супадалі, яны прымаліся і пасля зацвярджэння каралём набывалі сілу закона. У 1589 г. было уведзена правіла аб тым, што усе пастановы кароннага сейма павінны прымацца аднагалосна. Пры гэтым дзейнічаў прынцып liberum veto(свабоднага вета), калі група дэпутатаў альбо адзін з іх мог сказаць “не дазваляю”, пасля чаго дзейнасць сейма прыпынялася, а усе прынятыя на ім раней пастановы касаваліся. Liberum veto лічыўся адной з важнейшых “залатых шляхецкіх вольнасцей”, гарантаваўшых права шляхты, але на практыцы гэта дазваляла магнатам блакіраваць нежаданыя для іх пастановы, а таксама дало магчымасць замежным дзяржавам умешвацца ў справы Рэчы Паспалітай.*

Крашэўскі ў мастацкай форме ўзнаўляе абставіны, у якіх праходзіў сейм. Ён не засяроджваецца выключна на пасяджэннях сейма, пачынае твор з апісання таго, што адбываецца ў Гародні, зводзіць чытача з прыдуманымі ім персанажамі, (пераважна з ліку дробнай шляхты, рамеснікаў), як гэта і павінна быць у мастацкім творы. А затым ён знаёміць і з рэальна існаваўшымі гістарычнымі асобамі – удзельнікамі сейма. Яны выразна падзяляюцца на дзве групы. З аднаго боку гэта патрыятычныя дэпутаты Мікорскі, Краснадэбскі, Кімбар, Юзафовіч, Шыдлоўскі, якія спрабуюць выступіць супраць падзелу Польшчы, нягледзячы на запалохвані і пагрозы. У процівагу ім аўтар выводзіць групу дэпутатаў, якія здраджваюць сваёй

краіне, паддаюцца на подкуп і ўціск, кіруюцца толькі ўласнымі эгаістычнымі памкненнямі. Гэта магнаты Паніньскі, Масальскі, Бяліньскі, Анквіч, якія прадаюць сваё сумленне дзеля ўласных выгод, трымаюцца за свае прывілеі і тытулы. Сейм праходзіў у часы, калі каралём у Рэчы Паспалітай быў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Польшчы. Пра яго паводзіны падчас сейму і ролю ў прыняцці яго рашэнняў апавядаецца ў рамане.

Раман "Сеймавыя сцэны" – першы з задуманага пісьменнікам "Касцюшкаўскага цыкла", працягам якога стаў раман "Варшава ў 1794 годзе". Злучае гэтыя творы гісторыя паручніка Паўла Сольскага, эмісара патрыятычнай арганізацыі, якая рыхтуе глебу да будучага паўстання. Гісторыя кахання яго сястры Юстыны надае твору лірычнае адценне. Падрабязнае апісанне апошняга пасяджэння сейма завяршае раман.

Сучаснаму чытачу патрэбны тлумачэнні пэўных прозвішчаў, паняццяў, назваў. Яны зроблены перакладчыкам і падаюцца ў зносках. Словы і фразы на французскай і лацінскай мовах тлумачацца ў дужках.

......................................

\- * - * - * -

У 1793 годзе вясна на Гарадзеншчыне надарылася такая сырая і сцюдзёная, што людзі ніяк не маглі дачакацца сонечных дзён. Сонца часам паяўлялася, крыху прыгравала, здавалася ўжо, што вось-вось пацяплее, а зялёныя лісцікі, якія ляніва распукваліся, змогуць нарэшце развінуцца, ды тут налятаў вецер, з шэрай хмары сыпаліся снежныя крупы, а часам і густы снег, з поўначы несла такім холадам, што нечага было і думаць аб тым, каб скінуць кажух. Тыя, хто рана адсеяўся, вельмі шкадавалі, што пасняшаліся. З кожнай зменай квадры Месяца спадзяваліся, што надвор'е палепшае, аднак дарэмна. Людзі пра гэта дзейкалі рознае, нават, што нібыта такое зло ідзе ад Масквы – калі ёй шанцуе, тады па свеце шырыцца холад. Ды яшчэ дадавалі і тое, што кожны раз, калі Масква ішла на Польшчу, заўсёды надараўся снег, мароз і ўсялякае насланнё.

Гэтак разважаў і пан Барысевіч, а то быў чалавек, які пражыў нямала, шмат чаго пабачыў і ўведаў, на ўсё ў яго была свая думка. Яму тады было недзе гадоў пад

пяцьдзесят, і, нягледзячы на тое, ён пачуваўся яшчэ рухавым і здаровым, працаваў, калі надарыцца работа, прычым не толькі наглядаў за сваімі памочнікамі-чаляднікамі, але і сам з вялікай ахвотай браўся за кельму, бо ён быў майстрам-мулярам і столькі цэглы панаскладаў у сцены, што, паводле ягоных слоў, калі б за кожную яму плацілі па шэлегу, то быў бы міліянерам.

У часы нябожчыка Тызенгаўза[1] ў Гародні было многа збудавана фабрык яшчэ з той пары, як пан Барысевіч быў маладым. У тыя гады ён падзарабіў грошай і паставіў сабе прыгожы дамок за касцёлам ордэна дамініканцаў, таму быў хаця б упэўнены, што мае дах над галавой і нікому не будзе кланяцца, каб займець жытло. Тое-сёе ляжала ў скрыні на чорную гадзіну.

У пана Барысевіча быў толькі адзін сын, і не дзіва, што бацька, хаця яму давалі нямала парад, як прыстроіць хлопца да чагось лепшага, аддаў яго вучыцца на муляра, скіраваў па сваім рамястве. Адзінае, у чым адступіў ад свайго – паклапаціўся, каб сын умеў чытаць і пісаць, меў разумную галаву. Жонка пана Міхала марыла або вывучыць сына на купца або падшукаць яму больш далікатную працу, але бацька заўпарціўся. Калі ён чаго хацеў, то яна не спрабавала пярэчыць, бо ведала, што ён чалавек разумны.

Людзі кажуць, што аднаму хоць лапатай у галаву розум кладзі, а ўсё без толку, а другому ўсё даецца нібыта само па сабе. Барысевіч быў непісьменны, ён лічыў, што тыя, хто быў адукаваны, толку з таго тым не меней часта не мелі. Ён быў чалавекам памяркоўным, пачцівым і разумным, да таго ж вельмі сціплым. Іншы мог бы заганарыцца, маючы такі дарунак ад Бога, тым болей, што пана Барысевіча і людзі паважалі, прыходзілі да яго на параду ў складаных справах, выбралі яго старшым у брацтве Святога Ружанца[2], у гільдыі муляроў[3], казалі, што яго могуць выбраць і ў магістрат[4] але ён ні на макулінку не скарыстаў ад таго, жыў сабе ціха і

---

[1]Антоні Тызенгаўз Тызенгаўз (1733-1785) - вялікі скарбнік Літоўскі ў 1765—1780 гг, сябар караля Станіслава Панятоўскага.Мецэнат. Стваральнік вядомых мануфактур у каралеўскіх маёнтках; Апошнія гады жыцця правёў у Паставах.

[2] Братэрства Святога Ружанца было заснавана ў 1475 годзе пры дамініканскім кляштары ў Кёльне. Ружанец (на лаціне rosarium – ружавы кветнік) – пэўны спосаб малітвы, паслядоўнасць якой адлічваецца нібы па пялёстках ружы, што разгортваецца ярусамі па пяць малітваў у кожным.

[3] Гільдыя (нем. Gilde - аб'яднанне купцоў) - цэх, аб'яднанне 10-15 чалавек (рамеснікаў) адной або падобных прафесій.

[4] Магістрат – мясцовы орган дзяржаўнай улады на ўзроўні горада. Кожны магістрат складаўся з бургамістра, які прызначаўся урадам па прапанове гарадскога сходу дэпутатаў, і ратманаў , якія абіраліся гарадскім сходам дэпутатаў.

сціпла. Ніхто і ніколі не бачыў яго ўгневаным; калі было цяжка, ён толькі ўздыхаў, ківаў галавой, калі ж яму ўжо вельмі дапякала, панура маўчаў. І жонку яму Бог даў добрую, яна жыла з ім удобрай згодзе. Пані Міхалова была надта хударлявай, але ўвогуле прывабнай жанчынай. Яна вельмі любіла гадаць. Пан Барысевіч ёй у гэтым не перашкаджаў, лічыў, што для жыцця і такі занятак патрэбны. Яшчэ з тых часоў, калі яны толькі пабраліся, паміж імі ніколі не ўзнікала сварак, часам хіба спрачаліся крыху, але ўрэшце пані Міхалова адступалася, ведаючы, што раз яе Міхалка стаіць на сваім, то ўжо не дарэмна. Жытло Барысевічаў за кляштарам Дамініканцаў не было шыкоўным, не камяніца, не палац накшталт таго, які паставіў Сапега[5]. Дзеля эканоміі пан Міхал выбудаваў яго напалову драўляным. Дом быў сціплы, але зграбны. Каля яго быў сад, яны і тое-сёе садзілі з гародніны, і яна ў іх не ішла на звод. На сваёй сядзібе Барысевіч выкапаў студню, вада ў ёй была такая, што людзі здалёку прыходзілі з вёдрамі, каб набраць яе, прычым студня ніколі не перасыхала, і вада нават улетку была халоднай.

Дык чаго ўжо было пану Барысевічу яшчэ жадаць, акрамя блаславення Божага? Жылі Барысевічы проста, як здавён звыклі, усяго ім хапала, не галадавалі. Старая Параска была ў іх за кухарку, прала, палола ў агародзе, хадзіла на рынак з кошыкам, і разам з малой Гарпынькай вяла ўсю гаспадарку як мага лепей. Пані Міхалова таксама не любіла сядзець,склаўшы рукі. Хаця яна магла на свята апрануць шаўковую сукенку, калі б ёй зажадалася, яна не грэбавала пакорпацца ў гародзе, і ў кухні завіхалася разам з Параскай. На ўсё была свая пара, і на малітву па святой кніжцы, і на пацеры[6] па памяці, і на святую імшу ў касцёле, а калі трэба, то і на гаспадаранне.

Сам Барысевіч, нягледзячы на тое, што ўзбіўся на ўласную гаспадарку, ды яшчэ і падзарабляў, і трымаў тое-сёе ў скрыні на чорны дзень, усё ж не грэбаваў дадатковымі заробкамі. Калі выпадала дзе-небудзь папрацаваць, згаджаўся, нават калі дзеля гэтага даводзілася кудысці ехаць. Колькі падчас гэтых выездаў перажыла пані Міхалова, колькі папакутвала ў чаканні, адзін Бог ведае. Часам яна спрабавала адгаварыць яго ад такіх паездак, бо хацела, каб ён лепей пасядзеў дома.

Але ў тым годзе нічога не надарылася. Пан Лахніцкі збіраўся штосьці будаваць, але разважыў, што не выпадае – не той час. А час сапраўды быў змрочны, залатыя дні пасля трэцяга мая[7] якія ужо напоўнілі сэрцы радасцю, скончыліся, іх засланіў

[5] Сапегі - адзін з самых магутных магнацкіх родаў. Пачынаючы з 16-га стагоддзя, Сапегі мелі вялікае значэнне ў Рэчы Паспалітай, многія з іх займалі вышэйшыя пасады ў дзяржаве.

[6] тут: малітвы.

[7] 3 мая 1791 была прынята на Чатырохгадовым сейме ў годзе Канстытуцыя Рэчы Паспалітай

Таргавіцкі морак. Пасля Таргавіцкай канфедэрацыі[8] увайшлі маскоўскія войскі, занялі край і аб'ядалі бедных людзей… і пачаліся тыя нешчаслівыя часіны пры царскім Рэпніне… Сам Рэпнін[9] як стары ўжо чалавек, не паказваўся. У горадзе і ў вёсцы ў тыя майскія дні адчулі, што ў іх нібы развязалі рукі, мяшчанству далі свабоду, шляхту упісалі ў гарадскія кнігі, а пасля Таргавіцы ўсё гэта скасавалі, і муніцыпалам (дэпутатам муніцыпалітэта) , як іх называлі, зґразілі карамі, калі яны ўздумаюць марыць пра свабоду.

Гараджане таксама былі незадаволены Таргавіцай…

Але і на яе сышла кара Боская… Пасля таго, як увайшлі войскі "найяснейшай пратэктаркі", расійскай царыцы Кацярыны Другой, якія ксёндз-езуіт Лускіна[10] у сваёй газеце назваў "прыяцельскімі", ад Таргавіцы засталася толькі назва.

Маскалі і Касакоўцы[11] задралі нос, прымушалі ісці да іх на паклон. Патоцкі[12] рваў валасы на галаве, калі даведаўся, што Прусія ўмяшалася ў польскія справы, і прусакі зноў разарвуць на часткі Рэч Паспалітую… плакаў, праклінаў – нішто не дапамагло. Нага царыцы-самаўладцы тупнула, яму было аб'яўлена: –"Тут твая радзіма!" Быў незадаволены Севярын Жавускі[13], пратэставаў серадскі ваявода Валеўскі[14] і многія іншыя – дарэмна. Запанавалі тыя, каго маскалі купілі за грошы, а іншыя не хацелі прыкласці руку да паўторнага чацвертавання айчыны…

---

[8] Таргавіцкая канфедэрацыя (па-польску. Konfederacja targowicka) - саюз польскіх магнатаў, накіраваны супраць рэформаў, прынятых Чатырохгадовым сеймам, у тым ліку прыняцця канстытуцыі Рэчы Паспалітай ў 1791 годзе. Канфедэрацыя была створана 14 мая 1792 года ў мястэчку Торгавіца (цяпер Кіраваградская вобласць Украіны).

[9] Міколай Васілевіч Рэпін (1734-1801) - князь, генерал і дыпламат
Царскі пасол у Варшаве ў 1763-1769 гг.

[10] Штэфан Лускіна (1724-1793) – езуіт; з 1774 года да смерці ён выдаваў газету Gazeta Warszawska.

[11] Касакоўскія - браты: Юзэф (1738-1794) і Шымон(1742-1794) – магнаты, прыхільнікі Кацярыны II, жорсткія праціўнікі соймавых рэформаў..Іх пакаралі за здраду краіне ў 1794 годзе.

[12] Станіслаў Шчэсны Патоцкі (1752-1805) магнат, ваенны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай з роду Патоцкіх, харунжы вялікі каронны, ваявода рускі, генерал-лейтэнант польскай арміі., Фактычны кіраўнік Таргавіцкай канфедэрацыі. Уладальнік маёнткаў на тэрыторыі сучаснай Украіны.

[13] Севярын Жавускі – Северын Жавускі (1743-1801) Магнат. Адзін з заснавальнікаў Таргавіцкай канфедэрацыі, У час паўстання Касцюшкі быў завочна асуджаны да смяротнага пакарання як «здраднік Айчыны», падвергнуўся «вечнай ганьбе», пазбаўленню шляхецкай годнасці і канфіскацыі маёмасці.

[14] Міхал Валеўскі (1735-1806). - Падчас Чатырохгадовага сойма
адзін з кіраўнікоў гетманскай партыі, з 1785 г. ваявода серадзкі.

Што рабілася ў часіну адчаю і роспачы, колькі людства тады паспівалася, звар'яцела, памерла – хто падлічыць? Хіба Той, хто апякуецца лёсам людзей і без каго волас з галавы не ўпадзе.

Сапраўды, змрочны то быў час, але нідзе не было так змрочна, як у Гародні, хаця тут як быццам спрабавалі ўзвесяліцца. Ужо ў першыя дні красавіка пачала цягнуцца з Варшавы і з усіх бакоў розная набрыдзь... Сейм, як вядома, нечым нагадвае кірмаш, на ім прадаецца сумленне, ідзе гандаль душамі, сорам прыкрываецца грашыма, справядлівасць памірае са страху, у дадатак на вуліцах грае музыка, ліецца віно з бочак, каб было чым заліць розум, і гэтак жа, як на кірмаш, збіраюцца цыганы і цыркачы, злодзеі і ашуканцы.

Людзі памяталі і той дэлегацыйны, нядобрай памяці сейм 1773 года, падчас якога срэбра езуітаў і іх маёмасць парасцягалі прахадзімцы, а таму не было чаго спадзявацца і на гэты сейм, дзе вырашыцца, што міліёны людзей пападуць у маскоўскую, і ў сто разоў горшую нямецкую няволю. А людзі ўжо зведалі многае… і бізун, і Сібір[15], і вязніцы і крэпасці, і тую павольную тугу, якая высмоктвае кроў, гняце душу… а чалавек нават не ведае, калі і як яна яго пакіне…

Калі Барысевіч даведаўся пра скліканне гарадзенскага сейму, то схапіўся за галаву.

– Божа, заступнік наш! – усклікнуў ён. – зноў панаедуць няпрошаныя госці!. Насланнё!
Пані Міхалова стаяла каля парогу, упёршы рукі ў бакі, іківала галавой.

–Ты лепей не гняві Бога! Паглядзі, што робіцца ў горадзе. Столькі народу панаехала ў Гародню, людзі падчас сеймаў на багацце ўзбіцца могуць, табе ж гэта як бы няўсмак…
Барысевіч глянуў на жонку і падкруціў свой акуратна падстрыжаны вус.

–Што ты пляцеш, мая ты даражэнькая, – прамовіў ён, – Ці ж гэта добра – зарабляць на чужой бядзе, у такую нешчаслівую для ўсіх нас пару? А тое, што наш край забіраюць маскалі і немцы… мы яшчэ паплачам крывавымі слязамі, а табе вось зажадалася зарабіць. Вочы б мае таго не бачылі, рукі не падніmaліся… Яны ж тут будуць падпісваць і прыпячатваць тое, што каму ўзбрыдзе на розум… гэты сейм – суцэльны гвалт і гора!
Міхалова пахітала галавой.
–А няўжо ж я не ведаю? Хіба мне гэта даспадобы? Божа мой! Але ж нам таго не мінуць, яно само на нас набрыдзе. Галавой сцяны не праб'еш. Плач не плач, а нашы слёзы нічога не зменяць! То чаму б і не зарабіць які грош, іншыя ж панапхаюць іх

[15] маецца на ўвазе месца ссылкі ў царскія часы.

ва ўсе кішэні.

Пан Міхал нічога не адказаў, толькі перасмыкнуў плячыма.

–Я тут нічога не зараблю, – прамовіў ён праз хвіліну, – бо яны прыдуць не будаваць, а разбураць, а я да гэтага не здатны.

Пані падабрэла, усміхнулася і ціха прамовіла;

– Паслухай, мой коце, я нічога такога не мела на ўвазе, але вось падумала, што мы можам здаць пару пакояў у нашым доме. Пані Тарабашова брала па дукату за пакой з ложкам, горшы, чым наш, і гэта нядорага, хаця Мерхель за пакой з двума вокнамі браў, трасца яго бяры, тры дукаты штодня. А гэта неблагія грошы! Чаму б і нам не зарабіць крыху? Ужо сёння на галоўнай вуліцы хоць мільён хто прапануе, а жытла не знойдзе, ужо і падвалы займаюць… і дзяруць за іх колькі… ужо нідзе хутка не будзе вольнага кутка, а у нас два такія пакоі стаяць пустыя, у іх жа нават пана ваяводу было б не сорамна пасяліць.

Пан Міхал цярпліва выслухаў жонку, толькі час ад часу ўсміхаўся і шаптаў: Ну, ну, што яшчэ, што яшчэ, – аж пакуль яна не выклала ўсё і змоўкла.

– Дык вось што я табе зараз скажу на гэта, – адгукнуўся гаспадар, – ты яшчэ не ведаеш, што гэта такое – узяць пастаяльца. Яшчэ невядома,на каго патрапіш. Другі-каторы можа ўсё запаскудзіць, абадраць, засмеціць… Ды і нам дзень і ноч не будзе спачыну… Яшчэ і маскаль можа надарыцца… А хто іх ведае, якія яны? Паселіцца прыстойны чалавек, дык яго будуць высочваць пад вокнамі жулікі, паселіцца які прахадзімец, тут жа назаве поўны дом такіх, як ён сам. Паскудства, клопаты, і ўсё дзеля дуката за дзень. Цьфу!

Майстар плюнуў і пайшоў у пакой. Міхалова доўга маўчала… але ўсё яшчэ круціла галавой, думала, і было відаць,што муж яе не пераканаў.

– Я згодна, твая праўда,ты разумнейшы, чым я, ніхто не запярэчыць, крый божа! Але можна і мяне паслухаць часам. Я ж не хачу проста паставіць на сваім. Ты мяне ведаеш, я цябе, ведаеш, што і я магу іншы раз падказаць нешта разумнае. Мы ж можам не запрашаць абы каго, заплюшчыўшы вочы, а запросім таго, хто нам будзе падыходзіць. Колькі бедакоў шукае кватэру і за вялікія грошы, жыды іх абдзіраюць,а мы з двума пустымі пакоямі сядзім, баімся, каб нам сцены не папсавалі. Мой Міхале… хіба я такая ўжо прагная да грошай? Скажы…

– Ды як быццам не. – адгукнуўся Міхал.

– Калі ж разважыць з толкам, то чаму б нам для адзінага дзіцёнка і не прыспорыць пару тысяч… і нам гэта зусім не будзе абыходзіць.

– Так ужо і пара тысяч! – усміхнуўся Міхал.

– А хіба не? Улічы, сейм будзе тры месяцы, не меней, а то і зацягнецца… а па дукату ў дзень...

Пан Міхал быў у гэты дзень не ў гуморы, маркотны. Ён пахадзіў узад уперад па пакоі.

– Не хацеў бы я ні таго сейму, ні тых грошай. Ты зірні, што вакол дзеецца… У

Гародні… усюды казакі, салдаты, гарматы, усялякай набрыдзі як мурашак… Можна падумаць,не на сейм з'язджаюцца, а на вайну…
– А якая нам справа да ўсяго гэтага? Што мы можам перайначыць? – усклікнула Міхалова. – Хай Бог бароніць!
Майстар засунуў рукі ў кішэні сіняга каптана і моўчкі мерыў крокамі пакой.

– Ты толькі паглядзі, і не злуйся, – улагоджвала яго пані Міхалова, – пойдзем, зірнем на тыя пакоі.
Барысевіч моўчкі пасунуўся за ёй.
Сядзіба сапраўды была досыць вялікая, а іх толькі двое, і яшчэ двое слуг. З сяней адчыняліся дзверы ў пакоі гаспадара і гаспадыні. З другога боку – кухня і ядальня. Злева ад уваходу якраз і былі тыя два пакоі, пра якія гаварыла пані Міхалова – чыстыя, не ацепленыя, яны ні для чаго не былі прызначаны. У іх былі печы і вокны, падлога з дошак, цэлая, але даўно не мытая. Ніхто тут ніколі не жыў, часам складвалі тут розныя рэчы з хатняга ужытку. Дзежкі, начоўкі, дошкі, лесвіца, салома, вугаль, зламаныя крэслы, сталы, старыя рэчы валяліся дзе папала, у адным кутку была складзена горка цэглы, у другім старая кафля.
– Зірні, – сказала пані Міхалова, уваходзячы ў адзін з пакояў,– хіба тут нельга як дуж прыбраць? Параска дапаможа, а то і парабка на дзень возьмем.
– А дзе мы гэтыя бэбахі падзенем? – запытаў майстар.
– Як дзе? Ды божа ж, мой, на гарышча, у другія пакоі знясем, у павець, хіба там месца не знойдзем?
– Падумай і пра тое, – прамовіў Барысевіч, – што чатыры куты яшчэ не ўсё, тут жа ні стала людскага, ні крэслаў, ні тапчана нават, не кажучы пра ложак… Прыедзе ж не абы хто, а панства, шляхта, усе распешчаныя, сапсаваныя ... а лічыцца ж, што лепшыя людзі… а тут ні люстэрка, ні занавесак… а яны ж без гэтага не могуць…
– Дык ты згодзен? – спытала пані Міхалова, – тады нешта прыдумаем… Ёсць у нас два тапчаны, прыробім ім ножкі. І стол ёсць, я яго вышарую, будзе лепшы, чым новы. Пяць простых крэслаў прынясем… А люстэрка… хто дужа модзіцца, той сваё прывязе… Калі хто захоча жыць у такім пакоі – хай жыве, а не… Бог яму суддзя. Мы плакаць не будзем…
– Рабі сабе, як хочаш, – прамовіў Барысевіч, аб адным толькі я думаю… добра было б, каб з тым, хто паселіцца, можна было пагаманіць, словам перакінуцца, а нейкага гіцаля, хай сабе ён кучу злотых прапануе, не вазьму.
Пані Міхалова ўзрадавалася.

– Хай будзе па-твойму, хай так і будзе. Воля твая.
Барысевіч падаўся ў горад, а пані Міхалова тымчасам узялася за справу… Пабегла на кухню, каб расказаць Парасцы, што удалося настаяць на сваім. У пані не было болей з кім пагаварыць, яна была радая, што хоць хтосьці яе выслухае. Параска рэдка адгукалася,часам хіба паўтарала тое, што скажа пані.

У пакоях пачалі наводзіць парадак, работа закіпела… Некалькі пустых бочак выкацілі на панадворак, дошкі выцягнулі ў сені… узняўся такі пыл, што абедзьве жанчыны раскашляліся, але ачыстка пакояў ішла сваім парадкам…

Барысевіч жа тымчасам засунуў рукі ў кішэні і няспешна крочыў па вуліцы. У галаве крыху праяснілася. Дома яму не было чаго рабіць, гармідар у пакоях яму быў непрыемны, хацелася прайсціся, паглядзець, што робіцца ў горадзе. А паглядзець было на што… Гародня, звычайна ціхі і спакойны горад, у якім, калі лічыць і яўрэяў, не было і чатырох тысяч жыхароў, зараз аж віравала чужынцамі… калі не лічыць маскалёў. У Верхнім горадзе палац, які называўся замкам Тызенгаўза, а часцей – эканоміяй, вялікі аднапавярховы пяцікутны будынак прыстасавалі пад дом для дэпутатаў. Туды ўжо заязджалі павозкі. У новым замку, дзе павінен быў жыць падчас сейму кароль, размалёўвалі сцены, спехам скраблі, чысцілі, фарбавалі. Жыхары Гародні рамантавалі свае дамы з надзеяй пасяліць дэлегатаў сейму. На вуліцах было шмат фур, павозак, вазоў, гэта купцы з Варшавы ўжо загадзя падвозілі свой тавар. Хто конна, хто ў брычцы, ехалі і па бруку, і там, дзе нават пехатой цяжка было прайсці.

Барысевіч ведаў, што там, дзе пасяліліся рускія, было небяспечна разглядацца па баках, але ён пазіраў непрыкметна, і так сунуўся далей. Ужо досыць далёка адышоўся ад свайго дамка, калі напаткаў ксяндза. Гэта быў ксёндз брацтва дамініканцаў Патрыцый Собек, добра знаёмы яму. Быў ён з гарадскіх, але, хаця і вучоны, а не ганарысты, рахманы, дабразычлівы. Ён часта хварэў. Барысевіч здаля пакланіўся, але ксёндз усміхнуўся і падазваў яго. Ён быў бледны, час ад часу кашляў.

– Чаму вы, ваша мосць, ходзіце па вуліцах? – спытаў Барысевіч, – вы ж няважна выглядаеце, а на двары сырасць, можна зусім расхварэцца.
– Захацелася! – ціха адказаў ксёндз, усміхнуўшыся з нейкай дзіцячай прастатой, – На вольным паветры мне будзе лепей, чым седзячы ў келлі. Кашаль пройдзе, ужо ж вясна… вясной папраўлюся.
– Але ж зараз, хіба гэта вясна? – запярэчыў Барысевіч.
– А што ж? – спытаўся ксёндз, дапытліва гледзячы на майстра.
– Хіба я ведаю! – уздыхнуў майстар. – Увесну раней у чалавека сэрца радавалася, вочы смяяліся, а зараз?
– Ваша праўда, – ціха адказаў ксёндз. – Што ж, і гэта перажыць трэба, які ўсё, што Бог пашле.
– А хіба гэтае насланнё ад Бога? – прамармытаў майстар, а ксёндз са здзіўленнем глянуў на яго.
– Гэта нашы грахі, – дадаў Барысевіч, – грахі нашы.
Сказаўшы тое, ён хацеў пайсці далей, бо ксёндз на развітанне ўжо быў перажагнаў

яго, але Собек зноў загаварыў.

– Днямі прыедзе кароль. У горад едуць і едуць людзі… О,мілы Божа, што тут зараз будзе! Вы часам не чулі ў магістраце, ці праўда, што нікому не будзе дазволена выехаць з горада без пропуску маскавітаў?
– Я нічога не ведаю, бо ў магістрат не хаджу, – адказаў Барысевіч, – там цяпер панавыбіралі такіх, якіх слухаюць лепш, чым мяне. А чаму б і не? Можа быць…
– І гарматы каля замку збіраюцца паставіць?
– Відаць што і пастаўяць, – пацвердзіў Барысевіч.
– Калі так, то мяне пры патрэбе не пусцяць у Ласосьну, – уздыхнуў ксёндз.
– Абы па вуліцах хадзіць можна было, і то ўжо добра.
Яны паўздыхалі, і хацелі ўжо разысціся, але тут з-за вугла паказаўся мужчына з натапыранымі вусамі, маладжавы, апрануты на нямецкі лад, з кіёчкам у руцэ. У ім адчувалася ваенная выпраўка, твар быў увесь у плямах, выгляд непрыемны, позірк востры, ганарысты. Ён убачыў ксяндза Патрыцыя і Барысевіча, падышоў да іх і супыніўся.

– Вітаю ягамосцяў! – прамовіў ён, зняўшы капялюш і пакланіўшыся.
– Ну што, хутка наша Гародня будзе падобнай на сталіцу? – прамовіў ён, кашляючы і плюючыся, нібы ў яго нешта засела ў горле. Яму нічога не адказалі.
– Калі такое мнагалюддзе на многа месяцаў, то вы, пане домаўладца, – звярнуўся ён да Барысевіча, – будзеце з прыбыткам.
– Хай лепей пан капітан падлічыць, колькі нам будзе каштаваць пражыццё, калі ўжо ўсё ўдвая падаражэла… На рынку нічога не купіць. Не паспее фура спыніцца, як яе абступаюць з аднаго боку казакі і салдаты, з другога перакупшчыкі з Варшавы... няшчасным гараджанам не праціснуцца…
– Ну, так будзе хіба ў першыя дні, запярэчыў капітан, – далей пойдзе іначай. Вы заробіце многа грошай.

– Толькі не я, – дадаў Барысевіч.
– А хіба ў вас няма свайго дома? – спытаў капітан.
– Я пастаяльцаў не браў, і невядома, ці вазьму… хутчэй каўтун на галаве зажыву…
Капітан падкруціў вус, падыйшоў бліжэй да Барысевіча і ціха сказаў яму:

–Я б вам паставіў егерскага паручніка[16], вельмі добры чалавек… у вас быў бы добры прыбытак, калі б ён у вас пажыў.
–Хай мяне Бог бароніць! – усклікнуў Барысевіч, – Ды нізавошта на свеце!

Капітан засмяяўся… Ксёндз Патрыцый пакланіўся ім і пайшоў, яны засталіся

[16] Паручнік – камандзірская пасада, а з XVIII ст. афіцэрскае званне ў арміях Вялікага княства Літоўскага, Польшчы, Расіі. Егерскія войскі, егеры або стралковыя войскі - лёгкая пяхота.

ўдвух.

– А чаму не? – гнуў сваё капітан, – Хіба рускія – не людзі, і сярод іх нямала талковых…
– Яно то так, – прамармытаў Барысевіч, – але толькі я не люблю ваенных, хай бы яны былі нават з палка Міхаіла архангела, майго апекуна…

– Добра, але як толькі вам спатрэбіцца кватарант, звярніцеся да мяне.
Барысевіч нічога не адказаў, азірнуўся, засунуў рукі ў кішэні. Капітан пільна сачыў за тым, што ён робіць, і падкручваў вус.

Праз якую хвіліну майстар штось дастаў з кішэні і ўсунуў у руку капітану, які не кажучы ні слова, паклаў руку ў кішэню і ціха прамовіў:

– Люблю тых, хто ўсё разумее… Вы ж ведаеце, я сам служыў у царскім войску, і, што праўда то праўда, былі ў ім людзі талковыя, але было і такіх нямала, хто поркаўся пальцам у носе, а за сталом грамаздзіў перад сабой кучу касцей… Але я іх цаню… яны багатыя! У іх многа грошай. Ды ўсё ж спакайней, калі трымаешся ад іх далей.

Барысевіч пакланіўся яму, і яны разышліся, а капітан усміхнуўся, і задаволена сказаў сам сабе:

– Добрая сустрэча! Трэба папаляваць яшчэ! Ён штось заспяваў і падаўся далей.

* * *

О, гэтыя ваколіцы Гародні, іх вёскі і лясы, прынёманскія даліны і ўзгоркі, ціхія берагі прыгожай ракі, аточаныя вандроўнымі валунамі з далёкіх краёў! О, зялёныя лугі з песнямі пастухоў, статкамі белых авечак, нібы жэмчуг, рассыпаныя па аксамітых палянах! О,бруістыя ручаі, пахілыя бярозы, крывыя старыя сосны, пясок, з якога вецер выдзімае спарахнелыя косці… хаты на каменных падмурках… касцельчыкі, аблямаваныя ялінамі… і вялікія могільнікі, на якіх ядловец ахінае магільныя пагоркі. Хто не носіць вашы вобразы ў сэрцы з тых, каму выпала хаця б раз падарожнікам наведаць гэтыя цудоўныя мясціны?

Край гэты ціхі, маўклівы, ён увесь у спакоі і чаканні. Лясы спяць і сонна гойдаюцца, у дрымоце і зморы цякуць рэкі, лянівa і павольна расце трава, бяроза сонна хіліцца да зямлі… зморана апусціўшы галінкі… нават птаства спявае сцішана, каб не парушыць маўчання…

Край гэты, нібы ў казцы, зачараваны… Паўсюдна сляды даўнейшага жыцця, напружанага, бурлівага, пасля якога настаў спачынак. Зрослыя мохам камяні, якія

ляжаць тут і там, некалі грукацелі, перакочваліся ў марскіх хвалях… але тут яны залеглі, зморания; вадой павымывала вялікія нізіны, нібы карыты, па якіх ледзьве пасоўваецца вазок… на пагорках руіны былых паселішчаў, наймення якіх ужо ніхто не ўспомніць, у полі плуг выварочвае рэшткі зброі і гаспадарчых прылад,.. сляды смерці і жыцця… Ніхто ўжо не памятае, хто насыпаў тыя курганы, ніхто не згадае, як называліся тыя вёскі… усё забылася, не засталося ў памяці людской… Адны толькі могільнікі, па якіх асцярожна ступаюць людзі, каб не абудзіць нябожчыкаў. Зірніце, як гэтыя старыя абамшэлыя крыжы на магілах моляцца за ўсіх памерлых ад пачатку вякоў… Як гэта прыгожа, і як гэта нявесела…

Кветка расцвіла на лясной паляне… нахіліся да яе і зазірні ёй у тварык… яна расцвіла на папялішчы… і колер у яе бледны і пах нейкі ледзь улоўны… Кветкі паволі гойдаюцца… Зірні на іх сцяблiны… здаецца, нібыта тысячы вужоў аплялі іх карэнні, што глыбока ўраслі ў зямлю. Прайшлі стагоддзі з тых часоў, калі яны ўраслі ў магільныя пагоркі… нібы шукалі рэшткі жыцця…

Яны растуць няспешна… сонца тут грэее іначай, і блакіт неба нібыта акрыты нейкай празрыстай заслонай – а ўночы, калі высыпяць зоркі – яны нібызаспаныя, такія бледныя і маленькія… Каласы на полі рэдкія, растуць яны невысока… навошта мёртвым хлеб… Наступіць ранне, ажывіць наваколле, з нябёсаў спадзе заслона, і ў лесе заспяваюць птушкі, і ручай зацягне сваю вечную песню… Хай жа спіць старадаўні край бітваў… хай спіць…

Такой соннай была і вёска Вярцішкі над Нёманам, за пяць вёрст ад Гародні – але ў ёй усё было прыгожым і мілым сэрцу, хто туды завітаў, той ужо не хацеў жыць нідзе болей. Бо тут усё прамаўляла да чалавека і ўсё з ім здружылася, ад каменння да людзей.

Яна аказалася непадуладнай часу, нібы ўвесь свет збіўся з тропу, а яна адна засталася сама па сабе… Былі тут і палі, і лугі, лясы, і бераг Нёмана, і касцельчык на пагорку, і памесце каля дарогі, толькі не стала былых гаспадароў.

О, доля людская! Там, дзе былі святыні, новыя пакаленні будуюць корчмы, на трунах ставяць калыскі а па слядах анёлаў ступаюць нячысцікі… Там, дзе быў мір, назаўтра з’пачынаецца разня, мардаванне,смерць. О, доля людская!

Некалі там жыла сям’я старых Вігунтаў, іх не стала… але паселішча не засталося без гаспадароў… праўда, некалькі гадоў запар па ім бегалі мышы, але пра тое ўведалі ў Вільні і вось ужо людзі ў навакольнай вёсцы даведаліся, што ў іх будзе новы пан. Тады быў час бескаралеў’я, адны радаваліся, другія казалі, што будзе яшчэ горш.

Тым часам і пасяліўся тут пан шамбялян[17] Пажэўскі са сваёй жонкай і з панам ротмістрам[18] Жубрам, жончыным братам… і з усім дваром, чэляддзю, брыкамі, мэбляй. Спачатку яны прыглядаліся, дзе б пасяліцца, і вось прыгожая ужо не першай маладосці пані Пажэўская з усмешкай сказала, што тут месца рамантычнае… толькі трэба закласці парк з "дзікай прыродай" і паставіць у ёй капліцу… тады будзе як бы малы рай, копія парку Павонзкі[19], што ў Варшаве.

Ротмістр гаварыў тое самае, і абодва палічылі, што тут многае трэба перайначыць, а ўсё, што было, перарабіць па-свойму… Сыраварня здалася яму карыкатурнай, складзік – абрыдлівым… платы нагадвалі пра няволю… ды і дрэвы былі нейкія не тыя. Пані хацела насадзіць тут платаны, а ротмістр – акацыі.

Шамбялян аглядаў новую гаспадарку разам з імі, час ад часу даставаў залатую табакерку, у якой быў табак, так званая іспанка, браў яго пальцамі… не кажучы нічога, ён толькі ківаў галавой у знак згоды. Ён не любіў многа гаварыць, быў лянівы. І так часта пагэтаму трос галавой, што пры нязгодзе яшчэ і моршчыў бровы.

Шамбялян быў мужчына рэдкай прыгажосці, на яго было прыемна глядзець. Пастава Апалона, рысы твару шляхетныя, твар спакойны, адухоўлены, румяны, поўны пачуцця, вочы светласінія… Рукі ў яго было такія, што ім зайздросцілі жанчыны… Але нельга ад чалавека патрабаваць немагчымага, вось і ён не быў тым ідэалам, які падабаўся б усім. Гаварыў мала, і як быццам і не надта над чым задумваўся. Быў ён нейкі санлівы, калі яго пра што-небудзь пыталіся, абуджаўся, пры гэтым пытаўся: што такое? што такое? А потым, калі мог пазбыцца клопатаў рухам галавы, то ахвотна рабіў гэта. Затое як ён апранаўся! Якая ў яго была ўсмешка! Не аднойчы ён, як Нарцыс, любаваўся на сябе ў люстэрка праз акуляры, і знаходзіў у гэтым пэўнае задавальненне. Прырода надарыла яго дзіўнай звычкай. Ці ён стаяў, ці сядзеў на канапе, а ўсёроўна прымаў прыгожую позу; умеў так пакласці рукі, паставіць ногі, прыняць паставу, павярнуць галаву, што на яго было люба паглядзець. У Варшаве яго з задавальненнем малявалі прыдворныя мастакі

[17] Шамбялян (камергер), ганаровая прыдворная пасада ў Рэчы Паспалітай у 18 ст. Пасада існавала як узнагарода магнатам, шмат Ш. прызначыў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Ш. атрымлівалі аплату ад караля.

[18] Воінскае званне ў кавалерыі ў царскай арміі. Адпавядала званню капітана.

[19] Парк, заснаваны ў 1770 г. Адамам Казімірам Чартарыйскім у прыгарадзе Варшавы, у ім пераважалі імітацыі старажытных руін. П. сталі любімым месцам экскурсій і і адпачынку варшавян.

караля – Бачыярэлі, Лампі, Грасі, Плерш, Норблін, Марто[20]. Скульптар Пінк[21] зрабіў яго бюст. Яго кахалі жанчыны, ды якія! ого якія!, але ён заўжды заставаўся адданым сваёй "багіні". Той багіняй была ягоная жонка, "цудоўная Мелані", а прасцей – Эмілія.

Праўда, яна яго добра муштравала, але ж і моцна кахала. Шамбялян быў шчаслівы з ёй і ўвогуле шчаслівы. Ён апранаўся так, як хацеў, апранацца ж ён дужа любіў. Пры гэтым ён яшчэ умеў іграць, але не на простай флейце, як прускі кароль Фрэдэрык II, гетман Агінскі, той што б пабудаваў канал да Шчары, і князь Радзівіл "Пане Каханку"[22], а на адмысловай, тонам вышэй, флейце-пікала, мініяцюрнай, з чорнага эбенавага дрэва і слановай касці, заўжды насіў яе ў кішэні.

Як рамантычная жанчына пані таксама любіла сядзець у маляўнічай позе. Шамбялян садзіўся у яе ў нагах так, каб утваралася прыгожая група, даставаў флейту, і тады рэху толькі і заставалася, што паўтараць мелодыі песні, якія ён іграў.

---

[20] Марчэлі Бачыарэлі (1731-1818) - італьянскі жывапісец, Ён адыграў выдатную ролю ў развіцці культуры мастацкі тур польскага Асветніцтва; заснаваў у сваёй студыі школа жывапісу, з якой выйшлі вядомыя польскія жывапісцы, маляваў партрэты каралёў, карціны для каралеўскага замка. пакояў.

Ян Хрысціцель Лампі (1751-1830) - італьянскі жывапісец, У 1788-1791 жыў пры двары караля Станіслава Аўгуста.

Лозеф Грассі (1758-1839) - італьянскі жывапісец, партрэтыст; ён жыў у Польшчы з 1791 года.

Ян Багуміч Плерш (1732-1817) - прыдворны гісторык, дэкаратыўна-партрэтыст Станіслава Аўгуста.

Ян Пётр Нарблін дэ ля Гурдэйн (1745-1830) - выдатны мастак, прывезены ў Польшчу з Францыі Чартарыйскім. З 1792 г. застаўся ў Варшаве, заснаваў жывапісную школу, Прызначаны каралеўскім прыдворным мастаком.

Луі Марто (каля 1720-1805) - француз, прыдворны партрэтыст Станіслава Панятоўскага.

[21] Францішак Пінк (1733-1798) - прыдворны скульптар Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

[22] Фрыдрых II (1712-1786) - прускі кароль дынастыі Гогенцолераў,
праводзіў антыпольскую палітыку, быў ініцыятарам першага падзелу Рэчы Паспалітай.
Міхал Казімір Агінскі (1728-1800) – дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, паэт, мецэнат. вялікі літоўскі гетман вызначыўся як выдатны гаспадар. У Слоніме ён пабудаваў некалькі прадпрыемстваў, друкарню. Па яго ініцыятыве і на яго сродкі пабудаваны Агінскі канал, які злучыў рэкі Шчара і Яселда, а праз іх - басейны Дняпра і Нёмана.
Караль Станіслаў Радзівіл, па мянушцы "Пане Каханку" (1734-1790, дзяржаўны дзяяч Вялікага Княства Літоўскага. Падчашы (1752) і мечнік вялікі літоўскі (1752—1762), ваявода віленскі (1762—1764 і1768—1790), быў найбольш заможным магнатам Рэчы Паспалітай другой паловы XVIII ст. і адным з найбагацейшых прадстаўнікоў арыстакратыі ў Еўропе.

Акрамя таго ягоныя рукі былі здатныя да малявання. Адным росчыркам пяра ён мог намаляваць птушку, ды так прыгожа! Пісаў ён толькі пад дыктоўку, ці сам дыктаваў, калі хацеў выказаць якую думку, бо тады ён не мог сканцэнтравацца на каліграфіі.

Тое, да чаго шамбялян сам быў здатны, ён цаніў і ў іншых: уменне іграць на флейце, прыгожа пісаць, апранацца *"de buono gusto "* (з добрым густам, італ.). Калі хто не быў здатны да ўсяго гэтага, то ў вачах шамбяляна быў нічога не вартым.

Аднак ён настолькі любіў свой спакой, што быў надта асцярожны, і нікому не пераказваў сваіх думак. Размовы ён лічыў небяспечным заняткам, і разумна рабіў.

Што ж да "цудоўнай Мілюсі", якая таксама была прыгожай, ды яшчэ ўпэўненай, што яна увогуле прыгажэйшая за ўсіх, то яна была асобай вядомай. Паходзіла з роду Жубраў, *primo voto* (у першым шлюбе, лац.) была за князем, які добра зрабіў, калі неўзабаве памёр (яна яго цярпець не магла), запісаўшы на яе значную маёмасць. Пасля смерці князя, які стаў для яе пасля пахавання *ombre cherie* (найдарожшым ценем франц.), удава доўга вагалася, не спяшалася зноў выйсці замуж, бо не хацела губляць ні тытулу княгіні, ні вельмі любай ёй волі.

Але здрадлівы свет урэшце даўся ёй у знакі, яна стала нудзіцца, упала ў меланхолію, ды тут якраз знайшла "свайго анёла". Ім быў на той час чалавек без тытулаў, небагаты, які меў вялікую магнасць да тэатра, але не меў здольнасцей. Ён захапляўся балетам. Яна вырвала яго з гэтай сферы, прыдбала яму пасаду шамбяляна і далучыла да сваёй світы. Цэлы год вазіла яго па заграніцах, нарэшце ўпэўнілася, што ён набыў свецкія звычкі, і ўвяла яго ў вялікі варшаўскі свет. Там ён зрабіў вялікае ўражанне. Здалёк ён выглядаў такім прыгожым, такім інтэлігентным (чаго на самай справе не было), што прыгожыя пані проста шалелі. Але Мілюся не дала яму збіцца з тропу.

Брат пані, ротмістр Жубр, прыліп да сястры таму, што ўсё сваё майно страціў, у яго нічога не засталося, акрамя сэрца залатой Мілюсі. Ён умеў быць ёй патрэбным, дагадзіць. Чалавек ён быў зрэшты неблагі, пачцівы, калі хацеў такім выглядаць, нават прыстойны, але гулец, аматар выпіць і пабыць у якой-небудзь паганай кампаніі, таму, калі не сноўдаўся я па модных салонах, то часам мог аказацца ў карчме за квартай водкі з калодай картаў у руках у кампаніі з фурманамі. Мілюся гаварыла, што ён "эксцэнтрычны". Яму нельга было даверыць нават грош, інакай на яго нападалі дзіўныя фантазіі. Але сястру слухаўся, апроч выпадкаў, калі ён не мог за сябе адказваць. Нібы слон, які доўга нудзіцца на прывязі па сваёй пустыні, заходзіцца ў рыку і вырываецца, так і ён рычэў, абражаў усіх брыдкімі словамі, плёў абы што. Бывала і так, што яго, звязанага, клалі на ноч на ложак, а раніцой ён кідаўся ў ногі Мілюсі і прасіў прабачэння. Caro infirma! (Чалавек слабы!). Сястра

даравала яму. У вёсцы ён не мог нічога ўтварыць шкоднага, бо ўсім арандатарам было строга наказана не даваць яму гарэлкі. Тады ён вырываўся ў мястэчка. Калі па яго прыязджалі спецыяльна пасланыя людзі, ён ужо бываў дужа нападпітку.

А тыя, хто бачыў яго ў свецкіх салонах, нават гледзячы на ягоны чырвоны нос, не маглі ўявіць сабе яго ў становішчы слана на прывязі. Ён быў такі, што хоць да раны прыкладай,.. вясёлы, мілы, дасціпны, прыемны. Калі ж ён напіваўся, то рабіўся надзвычай грубым, абражаў сястру такімі словамі, якіх яна нават не разумела, а муж затыкаў вушы.

Што з ім паробіш? Даводзілася трымаць яго пры сабе. Мілюся вельмі хацела, каб ён стаў мніхам у ордэне бенедыктынцаў у Вільні і такім чынам перамог у сабе цягу да гарэлкі. Але ротмістр вельмі хацеў ажаніцца. Бернардынцы ведалі ягоную рэпутацыю, і не хацелі, каб ён стаў мніхам нават за грошы.

А які б то быў цудоўны мніх!

Словам, ротмістр вісеў на шыі ў Пажэўскіх… Паміж ім і шамбялянам былі асаблівыя адносіны. Часам, калі ротмістр глядзеў на шамбяляна, то адводзіў вочы, бо ведаў, што ротмістр любіў паказваць яму язык. Але сястра пра гэта не ведала, ветлівы шамбялян ёй не расказваў.

Калі шамбялян ішоў з правага боку ад пані, то ротмістр *et vice versa* (наадварот – лац.) з левага. Адзін на адзін яны стараліся не сутыкацца.Калі ж такое здаралася, то шамбялян так шпарка сыходзіў, што здавалася, нібы ён уцякае.

Перад сястрой Жубр заўжды выстаўляў швагра ў выгодным свеце, казаў, што любіць яго, але калі напіваўся, то абзываў яго… не мае значэння, як.

І яшчэ адна асоба была пры Пажэўскіх – панна Юстына Сольская, пляменніца самой пані, узрост якой вызначалі па-рознаму.

Юстына была маладой і прыгожай, але побач з пані Пажэўскай, нібы напаказ створанай, здавалася народжанай для якогась ціхага куточка, які толькі і магла б аздобіць сабой… Бацькі яе страцілі маёмасць, бацьку забілі салдаты Дрэвіца у часы Барскай канфедэрацыі[23], маці выплакала па ім вочы, неўзабаве памерла. Засталася ў яе цётка, манашка ў кляштары Візітак[24] у Вільні, там Юстына і

---

Барская канфедэрацыя – саюз польскай шляхты супраць свайго караля Станіслава-Аўгуста Панятоўскага, які заключыў з Расіяй непрымальны для яе дагавор. Створана ў крэпасці Бар на Падоллі 29 лютага 1768 года. У падаўленні канфедэрацыі прымаў удзел Ёган фон Дрэвіц, (Drewicz), палкоўнік царскай арміі, які абыходзіўся з вязнямі асабліва жорстка.

[24]Жаночы каталіцкі манаскі ордэн, заснаваны ў 1610 годзе.

атрымала пэўнае выхаванне, вынесла адтуль уменне маўчаць, паводзіць сябе непрыкметна, сціпласць. Ніхто з ёй не зблізіўся, з усімі яна была добрай, ветлівай, нікому ў доме не адкрывала сваіх пачуццяў. Але яна была натурай адважнай, у яе і характар быў энергічны. Хаця яна замыкалася ў сабе, але ўмела паставіць на сваім. Пані яе не любіла. Хаця яна лічыла, што яе прыгажосць не можа ісці ў параўнане з чыёй-небудзь, але ж калі яны стаялі побач… ці мала што можа быць… Людзі маглі сказаць штось добрае і пра Юстыну, а пані хацела, каб гаварылі толькі пра яе.

Пані Пажэўскай не падабаліся і некаторыя прывычкі і погляды Юстыны. То яна скажа, што Юстына “нос задзірае”, то аб’явіць,што тая “не атрымала вышэйшага выхавання, недалікатная”. На самай справе сама пані любіла ліслівіць, а Юстына не магла сябе змусіць да гэтага, хаця і жыла з яе ласкі.

У сваім коле пані магла сказаць, што Юстына “добрая, але экстраардынарная”. Яна даўно магла б выжыць дзяўчыну з дому, але “чароўная Мілюся” не любіла гаспадарыць, не магла ні ў чым даць сабе рады, і ўсё ляжала на Юстыне, пакуль у яе былі ключы, усё ішло добра… усюды і ўсяго хапала… а пані любіла раскошу.

Панне Юстыне жыццё ў вёсцы не здавалася раем, але яна мусіла ў ёй заставацца, бо не ведала, як яшчэ ўладкавацца ў жыцці. Нямногія родзічы яе былі бедныя. Юстына ахвотна пайшла б служыць у чужых, але пані гэтага не адобрыла. Хаця пані і была Юстыне цёткай, але называць сябе так не дазваляла ёй, лічыла, што гэта не пасуе ёй. “Кожны павінен быць на сваім месцы” – казала яна.

Ротмістр лічыў панну Юстыну вельмі прыгожай, а яна такой і сапраўды была, і спачатку паспрабаваў шчасця і хацеў пазаляцца да яе… Іграў на гітары, спяваў, але панна Юстына не магла цярпець ні ягоных спеваў, ні гітары, ды і яго самога. Дала яму суровую водпаведзь, і ён пайшоў, як мыла з’еўшы. Потым ён паспрабаваў яшчэ раз удацца ў ласку, але гэта яму так не пасавала, што панна Юстына або выходзіла, калі ён да яе звяртаўся, або глядзела ў іншы бок.

Значна больш непрыемнымі былі адносіны да яе прыгожага пана шамбяляна. Ён сапраўды пры жонцы ніколі не ўзіраўся ў панну Юстыну, але аднаго разу, крадком, застаў яе адну і паспрабаваў выказаць ёй сваю прыхільнасць, даў ёй зразумець, што яна яму не абыякавая… Яна адхіліла ягоныя залёты яшчэ больш сурова, чым заляцанні настырнага сваяка. Калі б пані мела хоць бы цень падазрэння ў сімпатыі мужа да Юстыны, то яе даўно ўжо не было б у іх доме. Наваяўлены антычны прыгажун Антыной, ён ведаў нораў жонкі і асцерагаўся праяўляць свае пачуцці. У такім становішчы ён палічыў за лепшае праяўляць цярпенне. Гаспадыня ў вёсцы сумавала, бывала не ў гуморы і пастаянна чаплялася да панны Юстыны, выказвала ёй свае прэтэнзіі. Бывала, што ёй яна нічога і не казала, але нашэптвала мужу, або выказвала брату сваю незадаволенасць ёй.

Панна Юстына любіла чытаць і брала кніжкі, якія толькі ўдавалася знайсці, яна ўмела знаходзіць радасць у тым, што было ёй даступна. Пані Пажэўская чытала толькі камедыі і французскія раманы, а таму іншых кніжак не магла цярпець.

– Яшчэ адна прыхамаць у яе… вечна сядзіць з кніжкай… Я паглядзела, што яна чытае… нешта па-польску… нейкія глупствы… Ёй выяўна нехапае густу… Корчыць з сябе філосафа…

Пані любіла забаўляцца з канарэйкамі, але не любіла сялян… і не магла зразумець панну Юстыну, калі яна давала лякарствы з аптэчкі “брудным хамам”. Словам, у іх нязменна былі нелады…

Перасяленне ў гэты нованабыты маёнтак было не даспадобы пані Пажэўскай. Спачатку ў ёй жылі рамантычныя пачуцці, але запатрабавалася заняцца гаспадарчымі справамі, і яна пасля доўгага жыцця за мяжой засумавала. Суседзі ёй ўсу як адзін не спадабаліся, шляхта была тут як бы і не тая… няма з кім перабыцца…

У яе было задумана іншае: як мага хутчэй пакінуць Верцішкі, бо ёй надакучыла займацца гаспадараннем, выехаць на жыхарства ў Варшаву, ці хаця б урэшце ў Вільню. У Вільні ў яе былі добрыя сувязі з самымі вядомымі прадстаўнікамі шляхты: Масальскімі, Касакоўскімі, Забеламі, нават з Несялоўскіміі Сапегамі. Яе колішні княскі тытул і першы шлюб узвысілі яе ў тамтэйшым свецкім коле.

І усё ж пакуль тое станецца, пані хацела перабудаваць Вярцішкі, перайначыць на французскі манер, зрабіць ідэальную “вясковую рэзідэнцыю”. Дом, у якім яна жыла з першым мужам, згарэў, ад яго засталіся ў пані толькі невясёлыя ўспаміны. Ёй расхвалілі Вярцішкі з іх хараством і яна сюды пераехала. Але ў яе вачах усё тут выглядала дзікім, варварскім… Стары панскі дом трэба было абнавіць… На горцы над Нёманам яна хацела паставіць палацык, яго план ёй ужо даў віленскі архітэктар пан Гуцэвіч… за ім павінна быць заложана алея для праменаду. Яе перасякала рачулка Швентка, што ўпадала ў Нёман. Праз яе трэба было перакінуць мост у выглядзе аркады. Назву Швентка яна перарабіла на Мурмюрант… Прытулак кахання, кітайская альтанка, грот… ім ужо былі вызначаны адпаведныя месцы. На ўзгорку каля ракі павінен быў стаць абеліск з надпісам:

***"Dedié aux Ombres chéries." (Прысвячаю дарагім ценям, лац).***

Усе задумы пані цяжка было падлічыць. Муж падтрымліваў яе ў гэтых намерах, а ротмістр, у якога не хапіла слоў, сказаў толькі: – А гэта будзе шыкоўна! Так, будзе шыкоўна!

“Цудоўная Мілюся” часам нават апускалася да ўзроўню панны Юстыны, хаця лічыла, што тая “ардынарная істота” і не зможа ацаніць яе планы.

Яна ж аднойчы сказала, што лес і так дужа прыгожы, у ім толькі трэба пракласці сцяжынкі. Пані звысоку глянула на яе, але нічога не адказала.

Да пары да часу месціліся ў старым палацы, хаця пані ўвесь час вохкала, што яна там жыць не можа,што яна там памірае, што яе там хочуць замучыць… Нібыта і столь там нізкая, што гэта і не столь зусім, а нешта жахлівае – так яна гаварыла. Той, хто жыў тут да іх, загадаў, каб закрыць бэлькі, зацягнуць столь палатном, з часам яно абвісла, а мышы і пацукі ладзілі там свае гульні…

Праўда, у палац была завезена новая мэбля і ўсё, што было патрэбна для такога жыцця, да якога пані прывыкла, хаця тое-сёе і папсавалася з часам, але яна ўсё казала, што памірае у гэтай вязніцы…

Для новага палаца ўжо і цэглу завезлі…. ужо і план быў гатовы… ужо збіраліся з прыходам вясны распачынаць будоўлю…. Мясцовы ксёндз, калі ў яго спыталіся, каго запрасіць кіраваць работамі, назваў Барысевіча.

Па яго паслалі фурманку ў Гародню.

Майстар Міхал не спяшаўся ўзяцца за справу, але і не адмовіўся. Спярша ён распытаўся у людзей пра гаспадароў, даведаўся, што яны багатыя. На прысланай фурманцы ён не паехаў, але паабяцаў, што на наступным тыдні распачне працу.

Гэта не дужа спадабалася пані, яна думала, што раменік павінен быць шчаслівым толькі тым, што яму падвярнуўся такі заробак… І спачатку хацела наняць кагосьці іншага, каб паказаць, што абыйдзецца і без яго, але ксёндз запэўніў яе, што лепшага майстра ёй не падшукаць, што ён многа панабудаваў у Гародні, і лепей дачакацца яго, мець справу з дасведчаным чалавекам, чым зазываць абы каго. Пані на тое нічога не адказала.

Можа быць, ёй хацелася пачуць навіны з Гародні, бо яна думала пра сейм, ёй хацелася ўведаць, што робіцца ў горадзе калі прыедзе добры мілы кароль, хто будзе ў свіце? Якія будуць увесяленні? Ці будуць баляванні, французскі тэатр? Хто са свецкіх дам прыедзе ў Гародню? Пра ўсё гэта да яе даходзілі толькі смутныя чуткі…

Пані Пажэўская была "du dernier mieux" ( у добрых адносінах, франц.) з многімі вядомымі дыпламатамі і прадстаўнікамі знаці, у тым ліку са Штакельбергам, ведала барона Д’Арша, бачыла ў многіх дамах Гольца і Бухгольца, дэ Кашэ ў яе часам бываў… і ёй хацелася даведацца, хто з іх прыбудзе ў Гародню, і што за

фігура гэты Сіверс[25], якога там чакалі, ён жа мабыць ужо стары… а гэта не вельмі добра для сейма…

Па праўдзе, майстар-муляр не мог быць так ужо абазнаным у падобных рэчах, але, жывучы ў горадзе, мог хоць нешта пачуць… А гэта ўсё ж лепей, чым нічога…

Яна хацела ўжо нават паслаць на выведы ротмістра – але… яна яго надта добра ведала! Адпраў, а ён там засядзе з афіцэрамі за віно і карты, і нічога з таго не выйдзе…

– Божа ж мой, мецЬ такога брата-дзераўеншыну, што нельга паслаць яго з даручэннем… няма сіл цярпець… але такі ўжо ён нягеглы, што з яго возьмеш, – жалілася яна мужу.
Прыгожы шамбялян паківаў галавой і толькі ўсміхнуўся.

Тыдзень ужо канчаўся, калі ім паведамілі ў час вячэры, што майстар прыехаў. Каб добра выглядаць перад такім панствам, Барысевіч убраўся ў самае лепшае, а чаго нехапала, дакупіў. І сапраўды, ён выглядаў вельмі важна ў навюткім сурдуце, чорных бліскучых ботах, чорнай камізэльцы, з кішэні якой звісаў ланцужок гадзінніка. У руцэ ён трымаў пазалочаную тросць з булдавешкай. Ён пабываў і ў цырульні – галава, барада і падстрыжаныя вусы выглядалі элегантна.
Пані Пажэўская нават не ў святочныя дні апраналася як у свята, а таму выглядала прыгожай, нібы каралева. Яна абаперлася рукой на крэсла і з цікавасцю пазірала на майстра. Прыгажун шамбялян стаяў ззаду за крэслам адну руку трымаў пры камізэльцы, а ногі паставіў як у першай пазіцыі для танца. Воддаль сядзеў згорблены ротмістр, ён сачыў вачыма за паннай Юстынай, якая завіхалася каля стала. Шамбялян таксама асцярожна скоса пазіраў на яе, але потым пераводзіў позірк на жонку.

Панна Юстына была як заўсёды прывабная, хаця і сціпла ўбраная. На ёй было чорнае плацце, якое называлі “паланезкай”, валосы прыгожа аблямоўвалі яе румяны тварык.

Яе чорныя шустрыя вочы як бы звысоку пазіралі на панства. Па сваім становішчы яна была ніжэй за іх, але ў думках, відаць, лічыла сябе вышэй. Пані гэта, мабыць, адчувала,за што яе і неўзлюбіла.

Калі пан Барысевіч паказаўся на парозе, пані злёгку нахіліла галаву і пакланілася яму.

[25] Якуб Ян Сіверс (1731-1808) - у 1792-1793 гадах пасол Расіі ў Польшчы,
ён ухваліў другі падзел Рэчы Паспалітай падчас сейму ў Гародні.

– Вы ведаеце, пане майстар, навошта мы вас запрасілі? – спытала яна. – Мы хочам збудаваць палац. Ці даводілася пану будаваць палацы?
– У Гародні будаваў, для яснавяльможнага пана падскарбія.
– О! Ягоны палац надта ж безгустоўны, наколькі я ведаю.
– Пані, яго будавалі па плану падскарбія.
Пані Пажэўская глянула на майстра.

– Дарэчы, ротмістр, падай мне наш план… ён ляжыць на маім століку.

Ротмістр ляніва ўстаў, але панна Юстына апярэдзіла яго і моўчкі паклала аркуш на стол. Барысевіч заглыбіўся ў яго, астатнія моўчкі чакалі, якое ўражанне зробіць план на майстра. А той памаўчаў, нарэшце прамовіў:

– План вельмі прыгожы, але пры нашых снягах рабіць плоскі дах… а калоны… не ведаю, адкуль іх браць… а рабіць з цэглы і цэменту – разваляцца.
– Дах італьянскі, ён вельмі прыгожа глядзіцца, – прамовіла пані.
– Так, прыгожа, але ж пад цяжарам снегу можа праламацца.
Заўвагу палічылі неістотнай.
– А чым вы хочаце крыць дах? – спытаў Барысевіч. – Матэрыялу для яго паблізу няма, давядзецца везці з-за мяжы. Гонт слабы, баіцца агню. Крыць бляхай дужа дорага.
– Грошай у нас хопіць! – запэўніла пані.
Майстар кіўнуў галавой.
– І колькі ж усяго спатрэбіцца грошай?
– Гэта яшчэ трэба падлічыць, – стрымана прамовіў майстар, – на вока не прыкінеш нават… трэба ж ведаць, з чаго і як будаваць.
– Да зімы можна яго збудаваць? – спытала пані. Барысевіч зірнуў на яе са здзіўленнем.
– Не паспець. Хіба толькі пад дах удасца вывесці. – адказаў ён.
Ягоныя адказы не спадабаліся пані, яна ў думках ужо вызначыла майстра як “экстраардынарнага чалавека”.
Размова пра будаўніцтва палаца цягнулася яшчэ некалькі хвілін. Тлумачэнні Барысевіча слухалі ўважліва. Тут якраз панна Юстына нешта прашаптала на вуха пані, яна пакруціла галавой.
– А што цікавага чуваць у Гародні? – пані павярнула гаворку да таго, што яе цікавіла яшчэ больш.
–Васпанства ж ведае, што. Вось вось пачнецца гэты няшчасны сейм.
Барысевіч лічыў, што ў доме гэтых памешчыкаў ён можа смела выказваць свае думкі. Ды не ўгадаў. “Цудоўная Мілюся” ўстрывожана зірнула на мужа і ротмістра. Муж узяўся за табак, ротмістр скрывіўся.
– Кароль яшчэ не прыехаў?

– Праз пару дзён прыедзе… ужо яго сакратар пан Фрыз[26] і Кіцкі[27] прыехалі, а яго вялікасць кароль пакуль што ў Беластоку. Пакоі для яго яшчэ не гатовыя.
– А многа людзей прыехала? – спытала гаспадыня.
– О! Вельмі многа, і паслоў многа, і сенатараў… ужо і расійскі пасол прыбыў у Гародню.
– Пан не чуў, што гэта за чалавек?
– Адкуль жа мне ведаць? Кажуць, што не малады, вядомы палітык, вельмі далікатны… што не вельмі добра. – загаварыў Барысевіч.
– Чаму не добра? – ускінулася пані.
– Той, хто злуецца і крычыць, хутка астывае, а той, хто памяркоўны… той страшнейшы, вядомая рэч…
– А ці будзе баль? – спытала гаспадыня. Барысевіч паморшчыўся.
– Проша пані, хіба ж каму да танцаў будзе, калі нас хочуць падзяліць на часткі…
Пасля гэтых смелых слоў у пакоі стала ціха, як у труне. Панна Юстына са здзіўленнем і як бы з удзячнасцю глянула на майстра. Пані, наадварот, зморшчылася, муж скорчыў пакрыўджаную міну, звысока змерыў майстра позіркам. І на твары ротмістра адбілася здзіўленне.
Барысевіч зразумеў, што сказаў нешта не ў тон размове, не да смаку прысутным.

І тут азваўся пісклівым, як флейта, галаском пан шамбялян, які так рэдка ўступаў у размову, што пані здзіўлена паглядзела на яго.

– А капэла будзе? – спытаў ён

– З Масквы, – адказаў Барысевіч.

– Я памятаю, калісьці была ў Вільні, калі там стаяў полк генерала Крэчэтнікава, тады яны прыязджалі, я слухала іх, добра ігралі… – умяшалася пані. – у рускіх ёсць многа чаго добрага.

Барысевіч быў уражаны яе словамі, зразумеў, што шчыра гаварыць пра тое, што чуў, не выпадае, ды нават і небяспечна. Ён зноў унурыўся ў план.

– Калі панства хоча распачаць будаўніцтва, тады трэба…

– Мы яшчэ паспеем пра гэта пагаварыць,– перабіла яго пані, – Скажыце, а Касакоўскія тут…
– Павінны ўжо быць, – ціха прамовіў майстар. Яны ж дэпутаты.

[26] Крысціян Багуміл Фрыз (1717–1795) - судовы саветнік і Станіслава Панятоўскага.

[27] Ян (Антоній) Кіцкі (- дзяржаўны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, мечнік вялікі каронны (з 1773), апошні ваявода рускі (1791-1794)

– А Забела?
– Пра гэта не ведаю.
– А пра каго вы што ведаеце?
Барысевіч засунуў рукі ў кішэні і збянтэжана прамовіў:
– Я… не многіх ведаю… гэта не мая справа…
– А ўсё ж?
Роспыты прыводзілі майстра ў адчай, ён адказваў коратка і няпэўна, быў разгублены. Але тут ад гасцінца пачуўся гук паштовай трубы. Ротмістр усхапіўся з крэсла, шамбялян зірнуў на жонку, яна дала знак памаўчаць і чакаць. Здалёку данеслася рыпенне колаў. Нехта ехаў да палаца. У вачах пані засвяцілася радасць.
– Пане Барысевіч, забярыце гэты план з сабой… паглядзіце… мы пагаворым пра яго заўтра… – прамовіла яна. Майстар развітаўся і пайшоў адпачываць у адведзены яму пакой. А панна Юстына выбегла на ганак, паглядзець, хто едзе.
Каля ўваходу пачуліся галасы, смех. Мілюся ўсклікнула:

– О, гэта ж мой дарагі міністр! Я пазнала яго па голасе!

Шамбялян зірнуў на дзверы. Ротмістр якраз увёў госця. Той, хто прыйшоў, мог нават пры нарцысічным шамбяляне называцца прыгожым: мужчына ў росквіце сіл, хаця і быў старэйшы за гаспадара, і сляды перажыванняў адбіліся на ягоным твары. У ім можна было адразу ўгадаць паважнага пана, радавітага, выхаванага, з характарам… На ягоным твары адбіліся і выхаванасць, і пагарда да ўсяго свету, і лёгкадумнасць… Такому твару пазайздросціў бы і рымскі імператар Цэзар. На гладкім палыселым ілбе чытаўся розум, досціп, жывасць натуры… на пагардлівых вуснах адбівалася распуснасць, уласцівая таму веку…

Гэта быў Анквіч[28], колішні міністр, прадстаўнік Рэчы Паспалітай у Капенгагене, які з таго пасольства быў адкліканы на чатырохгадовы сейм, у Таргавіцу. Ён быў адзін з самых здольных и самых безпрынцыповых польскіх паслоў, якія служылі ў Пецярбургу. Як і падскарбій Панінькі[29], ён не верыў ні ўва што, апроч грошай і

[28] Юзэф Анквіч (каля 1750-1794) – польскі шляхціц, граф, дэпутат сейма 1793 года. Пра яго дзеянні падчас сейму і далейшы лёс апавядаецца ў рамане.

[29] Адам Караль Панінькі (1732-1798) – дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. 7 мая 1764 года Панінскай падпісаў маніфест аб пакліканні ў Польшчу рускіх войскаў для абароны канвакацыйнага сейма. Гэты момант адлюстраваны на вядомай карціне Яна Матэйкі “Рэйтан – заняпад Польшчы”. 1 верасня 1790 года Чатырохгадовы сейм абвясціў аб выгнанні з Польшчы Адама Паніньскага, які быў пазбаўлены ўсіх тытулаў і пасад. Ён выехаў з Варшавы у аўстрыйскую Галіцыю. Таргавіцкая канфедэрацыя адмяніла прысуд Адаму Паніньскаму, дазволіўшы яму вярнуцца і вярнуўшы яго тытулы.

У 1773 годзе стаў кавалерам Ордэна Белага Арла, які быў у яго адабраны ў 1790 годзе.На сейме 1793 года быў прадстаўніком прарасійскай партыі шляхты.

раскошы… але ад Панінскага адрозніваўся тым, што быў больш здольны, смелы і цынічны.

Тут трэба дадаць, што ён быў даўнім і верным каханкам пані Пажэўскай, яшчэ да той пары, калі яна стала княгіняй. Хто ведае, можа яна і пайшла б за яго замуж, але разрахавала ў думках, што ён тут жа прайграў бы яе пасаг у карты, што ні дня не быў бы ёй верным, што бессаромна падманваў бы яе. Пераважыла тое, што сваім прыгожым шамбялянам яна магла круціць, як хацела.

Не дзіўна, што шамбялян яго ненавідзеў, але ніколі гэтага не паказваў.

“Цудоўная Мілюся” устала, каб прывітаць такога дарагога госця. А панна Юстына аж ступіла колькі крокаў назад ад разгубленасці.

Анквіч – шыкоўны, плячысты, вышэй за ўсіх ростам – адданымі вачыма з любоў’ю зірнуў на пані, пацалаваў ёй руку…

– Каралева мая, уладарка і дабрадзейка,.. прыпадаю да тваіх стоп…

– Што за шчасце! Не веру сваім вачам!
– Як бачыш, пані, верная любоў, а дакладней сказаць, старая дружба, – паправіўся ён, бо пры пану шамбяляну не выпадала гаварыць пра каханне… – ледзь толькі я прыехаў у Гародню… хаця Сіверс мне дыхнуць не даваў… але хоць на гадзіну ды вось завітаў пакланіцца вам…
– *Vous-êtes adorable!* (Пані вартая кахання! франц.), – прамовіў шамбялян, а ў думках вылаяўся – Чорт бы яго забраў! Але на твары ягоным, калі павярнуўся да Анквіча адбілася ветлівая ўсмешка.
– Скажу табе, дарагі міністр, – прамовіла пані Эмілія, папраўляючы валасы, – *au grand jamais* (ніколі франц.), ніколі яшчэ ты не быў такім жаданым госцем, як зараз…. Мы тут паміраем ад цікаўнасці, хочам уведаць, што там дзеецца ў нашай Гародні…
–– *Rien de plus simple* (Няма нічога больш простага. франц.). Загадайце запрагаць коней, ды і прыязджайце, – прамовіў міністр, – іначай нам будзе цяжка бачыцца, бо трэба будзе цэлымі днямі сядзець на сейме. Няўжо ж пані будзе сядзець тут у самоце, а мы будзем там баляваь без вас?

– А хіба вы збіраецеся весяліцца? – спытала пані.

– А як жа? Трэба ж неяк падсаладзіць горыч жыцця.

– Так, сапраўды… Але ж, дарагі міністр, шляхта падніме лямант… *Vous savez* (вы разумееце? франц.), патрыёты нашы тут жа закрычаць – радзіму разрываюць на часткі, а яны танцуюць!!! Баюся я гэтай дэмагогіі.

– Яны будуць на нас крычаць пастаянна, бо толькі на гэта і здатныя – холадна адказаў Анквіч, – не зважайце на іх. Радзіма – *c'est parfait!* (гэта святое. франц.) Толькі што мы можам супраць шасцідзесяці тысяч маскалёў і сарака тысяч прусакоў? Гэта ж проста смешна.

– Я ведаю, – ціха прамовіла пані, — *nousn'y pouvons rieu!* (мы нічога не можам! франц). Дык што ж нам, пасыпаць валосы попелам? Але скажыце мне – Сіверс… Хто такі Сіверс? Кажуць, ён стары… А хто прыехаў з генералаў? Раскажыце, прашу вас… я ўся ў чаканні…

Анквіч уздыхнуў

– Пра гэта можна доўга расказваць, – пачаў ён. – Сіверс… Пані хоча ведаць, хто ён такі? Уявіце сабе старога французскага маркіза, які хоча выглядаць прыстойна… які пастаянна ветлівы, але халодны, як зіма, які нікому слова крыўднага не скажа, але можа адцяць галаву роднаму брату, калі яму тое будзе патрэбна… Ветлівы, маўклівы, замкнуты, таямнічы, але ў свецкім коле мілейшы чалавек. Разбіраецца ў музыцы… любіць кветкі, гатовы цэлы дзень любавацца імі ці слухаць гранне… але гэта не перашкодзіць яму аддаць загад страляць па нас з гармат, калі мы яго не паслухаемся. Ён – сентыментальная гільятына!

– Ну і размалявалі ж вы яго! – усклікнула пані Эмілія.

– Стары, у якога вы, можа, яшчэ закахаецеся… але ён нас задушыць, зламае, змесіць як цеста. *Voila*! (Вось як! франц.).

Анквіч змоўк, потым прадоўжыў:

– Я называю яго так – *typ d'un homme d'Etat et du meilleur monde* (тыповы дзяржаўны муж і чалавек з вышэйшага свету. Франц.).

– Не жанаты? – запытала пані.

– Удавец… цудоўны бацька, штодня піша дочкам.

– А хто яшчэ прыехаў?

– Генерал Дунін. Просты генерал і нічога болей.

— А яшчэ?

— Свецкі… малады… распусны… летуценны князь Цэцыянаў…

Далей Анквіч пералічыў па ранжыру іншых вядомых вайскоўцаў…. Пані слухала з вялікай цікавасцю…

– А хто прыедзе з каралём?

— Тыя самыя, што і заўсёды, — прамовіў Анквіч. – Кіцкі, Дзяк, Храптовіч, але ён неўзабаве паедзе ў Карсбад, Тышкевіч, якога мы выберам на сейме маршалкам ад Літвы.

— А хто з жанчын?

— Пані Кракоўская, як заўсёды… пані Мнішкава, яна ж усюдыісная, пані Тышкевічава абавязкова.

— І Грабоўская?

— О не! Замест яе маркіза Люллі…. – усміхнуўшыся, прамармытаў Анквіч. — Я штосьці пра яе чуў, але глуха. Штосьці накшталт таго: як гэта вы не ведаеце, як гэта вы не чулі, як гэта вы не бачылі каралевы моды, маркграфіні Люллі… гэтага цуда прыгажосці, якое прызначана для асушэння слёз караля, бо кароль увесь час плача…

— З якім запалам вы пра яе расказваеце! – холадна зазначыла пані Эмілія, у тай час як шамбялян ажывіўся, зацікаўлены.

— Я магу пра яе расказваць як пра пэўны вобраз. Яна не на мой густ, але ж нельга не сказаць, што яна дужа прыгожая. Яна прывезла сюды найсвяжэйшыя ўзоры моды.

— А! Моды! *Au nom du ciel!* (Божа мой! франц.) якой моды?

— Мода, якая нібы набліжае да прыроды, цудоўная мода… хіба пані пра яе не чула?

Пані Эмілія адмоўна пакруціла галавой.

— Яна паяўляецца на балі ў муслінавым плацці, як бы вам сказаць, апранутым на голае цела… На аголеных нагах брыльянтавыя кольцы, яны задрапіраваныя *a la greque* (на грэчаскі манер. франц.), адцяняючы яе прыгожыя калені…

Пані жахнулася: — *Pas possible!* (Быць таго не можа! франц.)

— Тым не менш, гэта і ёсць апошні крык моды! Неўзабаве ўсе вы будзеце так апранацца… Мода – тыран, на баль ужо і нельга будзе паказацца апранутай іначай…

— Васпан – вялікі жартаўнік.

— Магу прысягнуць!

— Не, усё ж у гэта цяжка паверыць.

Міністр засмяяўся.

— Самі хутка ўбачыце. Пані Кракоўская так яшчэ не апраналася, але гэтую моду пераняли ўжо жонка шамбяляна Камелі, пані Ажароўская, княгіня Чацвярцінская.

— Задурылі вы мне галаву гэтай Люллі, – прашаптала крыху збянтэжаная гаспадыня. – а як называецца гэты ўбор?

— *C'est le costume — Verite...* (убор называецца… Праўда, ёсць такі ўбор! франц.). Але давайце пагаворым пра іншае.

Пакуль ішла гэтая вельмі цікавая, ажыўленая гаворка з пакою выслізнула панна Юстына, а следам за ёй, кінуўшы вокам на шамбяляна, выйшаў ротмістр. Што да пані, то яна была так захоплена сваім госцем, што нават не заўважыла гэтага. Ёй здалося, што муж крыху пасумнеў, і яна салодкім голасам сказала яму:

— Мой даражэнькі, прагуляйся крыху па садзе, а я з госцем пагавару пра палітыку… разумееш, пры табе ён не будзе такім праўдзівым! Пагуляй!

Шамбялян паслухмяна пакрочыў да парога. Ніхто не ўбачыў, як ён нервова сціснуў кулакі і патрос імі.

Ледзь толькі ён схаваўся сярод дрэў, пані падсунулася бліжэй да Анквіча і працягнула да яго свае белыя рукі.

— О, як жа даўно мы не бачыліся! Як я рада!

— Я і словам і справай дакажу, што па-ранейшаму адданы вам. Праўда, сёння я мушу вярнуцца назад, у Гародню, але потым прыеду яшчэ…

— Як жа гэта? Сёння і назад? – здзіўленні спытала пані. J Чаму?

— Так, сёння… абавязкова… мне яшчэ трэба пабыць на нарадзе ў Сіверса… тысяча спраў! Сейм будзе вельмі бурны… Трэба будзе неяк супраціўляцца гэтай дзяцiннай бесталкоўшыне.

— Але ж раней мы самі праводзілі сеймікі, і выбіралі паслоў, такіх, якіх хацелі…

— А! Так! Раней так і было, але цяпер, – пачаў Анквіч. Заўсёды знойдзецца купка шляхціцаў…

— Мы ніколі не дойдзем да розуму… – прашаптала гаспадыня.

Анквіч уздыхнуў, а потым з усмешкай працягваў:

– Дарагая Эмілія! Вось я прыехаў… хаця для цябе гэта так неспадзявана… павер мне… у мяне ёсць адна просьба…

— Да мяне?

— Так, да цябе, мая заўжды прыгожая, заўжды цудоўная, заўжды прыцягальная….

Яна злёгку ўдарыла яго па руцэ.

— Маўчы, памаўзлівец… – кажы, чаго хочаш… мне цікава… Яна глянула на яго жартаўліва, спакусліва. – І спадзяюся, што ты не будзеш спрабаваць павярнуць мяне са шляху адданасці і абавязку…

Яна ўсміхнулася,паказаўшы белыя зубы, прымружыла вочы і ціха дадала:

— Пра тое, што паміж намі было, трэба забыць!

— Нізавошта! — усклікнуў Анквіч, — Дазволь сказаць яшчэ адно, пакуль я не паеду. Я хачу выцягнуць вас у Гародню. Сіверс гаварыў мне, што ён хоча, каб на баляваннях было многа вельмі прывабных і вясёлых жанчын… Ён вялікі дыпламат! І ён успомніў пра цябе, Эмілія! Прыедзеш, прынясеш з сабой весялосць… У цябе цудоўная кампаньёнка… я прыкмеціў яе… вазьмі і яе з сабой…

Гаспадыня нахмурылася.

— Пра каго ты кажаш?

Яе вусны пагардліва скрывіліся.

— Пра тую паненку, якая нядаўна выйшла! У яе прыгожыя рысы твару, шляхетная постаць.

— Што ты кажаш? Што ты ўздумаў? Божа ж мой! Гэта проста дзеўчынёшка. Чаму табе выдалася, што яна прыгожая? Звычайная правінцыялка…

Пані перасмыкнула плячыма.

— Але нам нехапае маладых… Вазьмі яе з сабой…

— Мне трэба ехаць у Гародню? – ужо ўся ахопленая радасцю, спыталася пані Эмілія. – Сапраўды?

— Але гэта ўжо вырашана. Будзеш там у найлепшай кампаніі. Княгіня Радзівіл з прыгожай паннай Нарбутавай, графіня Патоцкая, жонка падскарбія Агінская, Ажароўская, Чацвярцінская…

Гаспадыня апусціла вочы долу.

— Я затым і прыехаў, каб угаварыць цябе, папрасіць, каб ты нас выратавала… іначай прападзем… Людзі зусім страцілі розум, бяруцца падпраўляць гісторыю, будуць перакройваць яе, разбураць, парушаць, і ўсё без толку…

— Мне так ужо надакучыў гэты патрыятызм... я пра гэта пастаянна кажу — адгукнулася пані — …вечна знойдзецца жменька нявыхаваных, неразумных людзей, *des brouillons* (баламутаў. франц*)*, і наробіць лямантy.

— Нічога страшнага, — уставіў Анквіч, — *mais la société doit les dominer* (грамадства павінна ўзвысіцца над імі. франц), трэба паказаць ім, што яны памыляюцца...

Ён перасмыкнуў плячыма.

— Айчыну нашу нам усёроўна не ўратаваць – прамовіў ён са скрухай, – трэба ратаваць сябе… Расіяне – людзі высокай культуры, калі іх не дражніць, то можна ўсё ўладкаваць. У іх ёсць свецкае абыходжанне, усе гавораць па-французску... галантныя манеры, любяць забавы, умеюць жыць. *Vous allez voir*! (Вы ўсё самі ўбачыце! франц).

— Ты лічыш, што мне трэба паехаць? — яшчэ раз спытала прыгожая Эмілія, пільна ўзіраючыся ў свайго былога каханка, – скажы!

— Вядома.

— Але як жа — а тая Люллі... а грэцкі модны ўбор... я нізавошта яго не апрану!

— Даражэнькая... – ты можаш апрануць што хочаш, – жартаўлівым тонам прамовіў Анквіч, – толькі ножкі, я ад гэтага не адступлю, ножкі павінны быць аголенымі....

— І з кольцамі? — спытала пані – а на якіх пальцах?

— Ды хоць на ўсіх!

Пані Эмілія жвава ўзяла Анквіча на роспыты, ёй было цікава ведаць, хто будзе задаваць баляванні, ці прыедуць з Варшавы пані Люкс і Лазарэвіч са сваімі салонамі мод, яна распытвала пра тысячы розных дробязяў, і Анквіч напоўжартам, напоўсур’ёзна адказваў на іх.

Пакуль яны размаўлялі, прыгажун шамбялян, пахадзіўшы па садзе, вярнуўся да ганку з патаемнай думкай высачыць Анквіча. Ад самой жонкі ён ведаў, што той быў яе палюбоўнікам. "Дарагая Мілюся" любіла расказваць яму пра свае амурныя прыгоды, каб паказаць, якім ён павінен быць шчаслівым, што выбраў яе ў жонкі – тую, якая абуджала страсць у многіх… Яна так многа расказвала, што міжволі

наводзіла на падазрэнні.

Шамбялян быў чалавекам бязвольным, слабым, прыезд Анквіча абудзіў у ім страх перад магчымай стратай дарагога скарбу…

Ледзь ён ступіў на ганак, як жонка тут жа паслала яго сказаць, што пара падаваць вячэру, папрасіла напомніць пра добрае віно. Ён паслухмяна падаўся на кухню… хаця патрэбы ў тым не было – на стале ўжо было ўсё пастаўлена.

Панна Юстына завіхалася на кухні, а ротмістр стаяў воддаль, але ён не звяртаў увагі на дзяўчыну, яго больш цікавілі бутэлькі з гданьскай водкай*., якія стаялі без нагляду. Шамбялян спачатку ўзрадаваўся, што хаця б пафліртуе з Юстынай, але ўбачыў ротмістра і застыў на парозе – пры ім ні нашто не адважыўся, бо той мог данесці сястры.

Юстына толькі зірнула на шамбяляна, а потым перавяла позірк на ротмістра, які з-за вугла паказаў шамбяляну язык і скруціў дзве дулі.

– Гэта… хіба… пара падаваць… як жа яно называецца? – спытаў гаспадар , звяртаючыся да дзяўчыны.

– Зараз загадаю падаваць…

– Мілюся просіць таго… як жа яно называецца… віна… старога…

Праказаўшы гэта, шамбялян прыязна глянуў на Юстыну, але яна таго не заўважыла, бо якраз папраўляла штосьці на стале. А ротмістр працягваў прыдурвацца, паказаў шамбяляну “асліныя вушы”. Той мусіў сцярпець і вярнуўся ў пакой якраз тады, калі Анквіч пачціва цалаваў ручку гаспадыні. Шамбялян хацеў абурыцца, але ўрэшце ён не падаў выгляду, што незадаволены, пакланіўся і сказаў:

– Ужо… таго!

Мілуся падала руку былому палюбоўніку і пайшла з ім у пакой. Шамбялян плёўся ззаду і, сціснуўшы кулакі, размахваў рукамі. У гэтым ён нібы прыпадабняўся да ротмістра, які любіў такім спосабам выказваць сваю непрыязнасць.

За сталом парушыўся звыклы парадак. Гаспадыня села першай, каля сябе пасадзіла з правага боку Анквіча, а з левага мусіла даць месца кузіне, каля яе сеў ротмістр, а за Анквічам – шамбялян. Аканом, якога часам дапускалі да панскага стала, пры гасцях не прыходзіў. Калі рассаджваліся, пані Эмілія паспела шапярнуць мужу:

– Прашу цябе, будзь гасцінным, падлівай Анквічу віна, як сабе.

Шамбялян здзіўлена зірнуў на жонку.

– Я табе потым скажу, навошта.

Селі. Размова зайшла пра тое, як цяжка стала з кватэрамі ў Гародні, як яны ўзняліся ў цане. Анквіч запэўніў, што для сямейства шамбяляна ён знойдзе прыстойнае месца. Гаварыў так, нібы ўжо было вырашана справа аб прыездзе. Гаспадар жа звярнуўся да жонкі:

– А можа мы… таго?

– Як можна! Як можна! Ехаць трэба! Быць пры каралі – абавязак шамбяляна!

Пры гэтых словах Анквіча шамбялян выпрастаў спіну, пагардліва зірнуў на ротмістра, нібы хацеў сказаць: – Я шамбялян, а ты хто?

Але ротмістр у гэтую хвіліну ні на што іншае не зважаў, ён быў шчаслівы тым, што за сталом яму ніхто ўжо не перашкодзіць, наліў шклянку гданьскай водкі і выпіў яе, нібы ваду. Потым зірнуў на панну Юстыну і зухавата стукнуў шклянкай па стале.

За сталом ротмістр мяняўся. Нават цвярозы ён быў здольны выкідваць розныя конікі, а як выпіваў праз меру, то рабіўся проста шалёным, нікога не слухаў. Таму панна Юстына баялася, каб ён не перапіў, бо віну за тое маглі б ускласці і на яе. Той, хто хоць раз бачыў ротмістра ў кампаніі, дзівіўся, як хутка той п’янее… Эмілія сурова зірнула на Юстыну, а што тая магла зрабіць? Заставалася спадзявацца, што ротмістр хаця б не ўступіць у размову.

– Нас, вядома, гэта паездка навядзе на кошт, – звярнулася гаспадыня да Анквіча, – але мы ахвотна паедзем… Выдаткі значныя…але раз ужо кароль таго хоча… то што паробіш, гэта наш абавязак… і мой коцік там напомніць пра сябе… Скажу табе, пані міністр, мы крыху пакрыўджаны… амаль усе шамбяляны ходзяць пры ўзнагародах… а коцік ужо столькі год служыць… мог бы ўжо мець ордэн… але пра яго забыліся…

Яна хацела сказаць нешта яшчэ, але ротмістр так порскнуў, што аж задрыжэлі шклянкі на стале. Зірнуўшы на шамбяляна, ён выпнуў грудзі і паказаў на сябе.

– Калі ўжо швагра атрымае ордэн, – усклікнуў ён, – то, павінны і мне штосьці даць! Калі ён муж,то я – брат! Ён іграе на флейце, гэта так, а я – іграю шабляй па карках…

– Ну, ну, і што з таго? – азваўся шамбялян.

Пані Эмілія змерыла брата суровым позіркам.

– Прашу цябе, вельмі прашу, супакойся…

Яна пачырванела і шэптам пачала тлумачыць Анквічу: – Ён слабы на галаву… як вып’е…

– Ды што там, – усміхнуўся Анквіч, – гэта не страшна.

– Як вып’е, бывае невыносным…

– Нічога страшнага, – паўтарыў Анквіч і павярнуўся да ротмістра. – А дзе гэта васпан іграў шабляй па карках?

– А, ці мала дзе! Я нават хадзіў на туркаў! – усклікнуў ротмістр, але салдацкі хлеб – жабрацкі… Які з таго толк: пры маім розуме – страціў здароў’е, грошы распусціў, жыву вось з ласкі сястры… швагра не дае выпіць… Вось і памяркуйце… што гэта за жыццё…

— Ротмістр! – усклікнула гаспадыня, – спыніцеся… прашу…

— Не падабаецца слухаць? Але што з таго… што з таго? Як жа мне злым не быць… гэтая разявака будзе перада мной ордэнам на бруху фарсіць…

Анквіч засмяяўся, шамбялян ускочыў, але жонка дала яму знак, каб сеў. Ротмістр нястрымана мянціў языком.

Панна Юстына сядзела, апусціўшы вочы,і дрыжала.

Пані зразумела, што трэба ўтварыць нешта незвычайнае, зірнула на брата, які абмінуў стол і падыйшоў да яе.

— Слухай, не нясслаў мяне і дом, бяры графінчык наліўкі, ідзі да сябе, але калі ты зноў тут з’явішся да ад’езду пана Анквіча, даю табе слова, клянуся ценямі бацькі і маці…

Яна нахілілася да вуха пана ротмістра і штосьці прашаптала.

Ротмістр пакланіўся ўсім.

— Прашу прабачэння ў шаноўнай кампаніі, мушу пакінуць вас, раптоўна разбалеўся зуб. Дабранач!

Анквіч прыўзняўся.

— Не шанцуе пану!

Мілуся павесялела, шамбялян уздыхнуў вальней.

Далей вячэра цякла вольна, нязмушана. Анквіч вярнуўся да ўспамінаў пра французскі тэатр, сказаў, што з Пецярбурга прыбудуць венгерскія музыканты.

Графіня Камелі зачаруе сваім голасам. Чакалі імправізатара з Неапаля, якога запрасіў нунцый. У Гародні Сіверс ужо ўсё падрыхтаваў для баляў, да таго ж баляванні меліся зладзіць яшчэ і сеймовыя маршалкі Пуласкі[30], Касакоўскія.

Меўся таксама прыехаць Зубаў[31].

Словам, забаў і весялосці будзе нямала.

Калі Анквіч выехаў з двара, выйшаў са свайго пакоя ротмістр і на ўвесь голас гукнуў:

— Ура!!

Паслалі па слуг, каб супакойлі ротмістра, бо ён ужо быў зусім п'яны і лаяў швагра ў выразах, якіх не знойдзеш ні ў адным слоўніку. Перапала і сястры.

— Наш ротмістр, — вяртаючыся ў пакой, сказаў шамбялян жонцы, – сапраўды… таго!

І незадаволена пакруціў галавой.

Назаўтра зранку Барысевіч спадзяваўся пагаварыць з паняй пра план пабудовы палаца, але ноччу павеяў нейкі іншы вецер, і яму перадалі праз аканома падзяку і вестку аб тым, што ў гэтым годзе за палац брацца не будуць. Паколькі "фатыгу", як гэта кажуць у народзе, ён узяць нізавошта не захацеў, яму з кладоўкі наладавалі якіхсьці прыпасаў, і пан Міхал паехаў дадому, бо вельмі хацеў хутчэй вярнуцца. Ён дужа баяўся, што жонка ў вялікім клопаце пра заробак аддасць падрыхтаваныя пакоі каму папала, вельмі ж многа папрыязджала ў горад народу. Добра ведаў сваю жонку, якой кожны добры чалавек здаваўся прыстойным, і яе лёгка можна было ўгаварыць. Яна то ведала, што мужу будзе непрыемна, калі яна штосьці зробіць па-свойму, але калі хто будзе настойлівым,то можа і паддацца на ўгаворы.

Дзе па пяску, дзе па каменні ехаў Барысевіч дадому. Ён двойчы адпачываў, абедаў у лясной карчме, і толькі надвячоркам з радасцю ўгледзеў горад. Пакуль даехаў, увесь час сустракаў казакаў, яго нават адзін раз затрымалі, спыталі, хто ён такі, але паколькі Барысевіч быў з Гародні, то афіцэр яго адпусціў. Патрулёў па шляху было некалькі, каля самага горада стаяў ваенны лагер, усюды мноства вайскоўцаў. Гледзячы на тое, пан Міхал уздыхнуў і прачытаў малітву.

[30] Антоні Пуласкі (1750-1813) – шляхціц, дэпутат сеймуверны прыхільнік Кацярыны II

[31] Платон Зубаў (1767-1822) - генерал-лейтэнант, фаварыт імператарыцы Кацярыны II

Пані Барысевіч выбегла на панадворак адразу ж, як толькі каламажка спынілася каля варот. А потым падалася на кухню, адкуль Параска прынесла паесці. І тут жа пачала лемантаваць:

— Божа літасцівы... – завяла яна сваю песню, – колькі я напакутвалася тут... ці не дзесяць чалавек шукалі кватэру. Адзін даваў нават два дукаты за дзень, але я сама нічога не вырашала. У мяне няма ўмення разбірацца ў людзях, чытаць па вачах, што робіцца ў іх душах, а ты мог бы ўжо паспяшацца і прыехаць раней. Бо тыя, хто прыходзіў, паселяцца ў другіх, а наш дом будзе стаяць пусты.

— Ды няхай сабе стаіць! – сказаў майстар – што бог дасць, то і дасць... не перажывай....

Але і сапраўды, ледзьве ён пераступіў парог, як хтосьці завітаў да іх. Параска сказала, прыйшлі шукаць кватэру, і гаспадары выбеглі сустракаць.

Госць быў не такі ўжо і малады, але модна апрануты, ад яго патыхала дарагой парфумай… Майстар глянуў на яго і зніякавеў. З твару госць быў як бы і сімпатычны, добры, усмешлівы, але маленькія вочы хітравата бегалі. Ён добра гаварыў па-польску, але выглядаў як чужынец. На ягоным фраку быў прычмацаваны ордэн у выглядзе крыжа, парык акуратна прычасаны, як у маладога. Па адзенню выглядаў як пан, а па абыходжанні – як слуга. Ён моўчкі агледзеў пакой, спытаўся, хто яшчэ жыве ў доме, яму адказалі, што толькі гаспадары. Госць прайшоўся па пакоі, панюхаў табаку, і ўзяў гаспадара на роспыты. Барысевічу не хацелася здаваць яму пакой, гаспадыні ён таксама не спадабаўся, і яна не нахвальвала жытло госцю.

— Як пана клічуць, і пры якой справе? – спытаў прышэлец.

— Я майстар, муляр, завуць мяне Барысевіч.

— Ну што ж, я хачу зняць пакой, але на пэўных умовах, Колькі вы за яго просіце?

— А ці доўга вы збіраецеся ў ім жыць? – запыталася гаспадыня.

— Пакуль сейм не скончыцца...

– Мабыць, вы будзеце з дэпутатаў? – спытаў Барысевіч.

Мужчына зірнуў на яго ганарыста, нібыта пытанне яго зачапіла.

— Я не дэпутат, але калі пана гэта так цікавіць, то скажу, што я са світы караля, канцылярскі чыноўнік… У мяне ёсць таварышы, ім таксама трэба недзе пасяліцца… Я хачу папярэдзіць, што я хачу вольна распараджацца нанятым памяшканнем, каго я запрашу яго наведаць – то мая справа… Магу і адмовіцца ад

найму…. Усё што тут будзе рабіцца, пра што будуць весці размовы… усё гэта нікога не датычыць, не будзе пераказвацца, абмяркоўвацца, пераносіцца. Такая мая ўмова.

Барысевіч зірнуў на яго.

– Мне ўсё роўна, хто тут будзе на пастоі, абы толькі па начах не было шуму, махлярства, п'янак… вось чаго я цярпець не магу.

Госць перасмыкнуў плячыма.

– Мы заплацім за ўсё. Колькі асіндзей[32] хоча за кватэру?

– Калі мне давядзецца быць госцем у сваім доме, то я не здам кватэру ні за якія грошы… – халодным тонам адказаў майстар.

– О! Мне гэта падабаецца! – засмяяўся госць. Кватэра пустуе… А што асіндзей будзе рабіць, калі сюды задарма ўселяць расійскага афіцэра?

– А гэта ўжо мая справа! – раззлаваўся майстар.

– Я б параіў пану..

– З гарадскім квартэрмайтрам я ўжо неяк дамоўлюся…
– Нічога не дапаможа. Над ім ёсць улада… ды і я тое-сёе магу…
– Калі ж асіндзей не хоча здаць кватэру за добрыя грошы, то потым пашкадуе.

Госць прайшоўся ўзад-уперад па пакоі, зноў стаў перад гаспадаром.

– Што васпан сабе думае… гэта ж дзяржаўная справа! Сейм! Дэпутатаў трэба размясціць. На вашы капрызы ніхто і зважаць не будзе. Генерал Дунін[33] скажа, і вам падсунуць ваенных…

Кроў ударыла ў твар Барысевічу.

– Ага! Дык пану няма чаго прасіць, вы хочаце сілай заняць гэты пакой, і ўсё тут. Але і я буду шукаць выйсця… Пойдзем, – павярнуўся ён да жонкі, – гаварыць няма пра што…

Ён павярнуўся да парога, але тут госць, мабыць, нешта разважыў і загаварыў больш лагодна.

[32] Ветлівы зварот у польскай мове.

[33] Дунін – расійскі генерал, камандзір дывізіі, размешчанай у Гародні падчас сейму.

– І ўсё ж скажыце, колькі б вы хацелі мець закватэру?

– Ні за якія грошы не здам! Хай сабе генерал паставіць маскоўцаў… лепш іх, чым сваіх пад прымусам.

Незнаёмы надзьмуўся, плюнуў, вылаяўся і выбег з пакоя. Але ў сенцах азірнуўся і прамовіўда гаспадароў:

– Вось што… успомніце мяне, калі станецца так, што наробіце глупства. Калі я ішоў да вас, бачыў, як непадалёк спынілася карэта, з яе выйшлі два шляхціцы, праўда, досыць бедна апранутыя. Да іх падбег жыдок і сказаў, што тут блізка ёсць дзе зняць кватэру.
Госць спыніўся на панадворку, каб паглядзець на шляхціцаў, потым наблізіўся да іх.

Яны былі апрануты па-дарожнаму, выглядалі важна. Адзін з іх быў прыгожы, стройны, маладжавы, з выцягнутым тварам, на якім праглядала важнасць, нават пагарда… Другі – ніжэйшы, брунет, рухавы, з сумным тварам. Абодва выглядалі стомленымі, незадаволенымі тым, што лёс прывёў іх сюды. Аптэкар яго каралеўскай вялікасці стаў перад імі, пакланіўся і спытаў:

– Прашу прабачыць паноў дабрадзеяў, ці не скажаце вы, адкуль прыехалі?
– А з кім маем гонар размаўляць?
– Я прыдворны караля.
– А! Прыдворны!
– І каго ж я маю гонар вітаць?
– Я прыдворны яго вялікасці караля.
– Так, мы прыдворныя, – пацвердзілі абодва госці. Яны з цікавасцю аглядалі пакой. Нам няма дзе жыць. Пачціва кланяемся пану…
Бледны твар прыдворнага паружавеў.

– Але я… Мне здаецца, што я ўжо меў прыемнасць… бачыць паноў у Варшаве…

– Вельмі можа быць… прабурчаў малодшв і адвярнуўся.
– Вы тут сабе жытла не знойдзеце, – дадаў чыноўнік, – Гаспадар дзівакаваты… ставіць умовы…
Яго перапыніў яўрэй.

— А чаму б вам і не пасяліцца тут? Вы мне прабачце, але… Цудоўная ж кватэра… Відна… Цёпла…, Чыста… асобна стаіць… ва ўсёй Гародні другой такой кватэры няма…

Пакуль ішла размова, Барысевіч меў час, каб прыгледзецца да новапрыбылых, з-за ягонага пляча паглядала на іх і жонка.

А чыноўнік не супакойваўся.

– Яго вялікасць кароль наказваў нам, – прамовіў – каб мы дапамагалі гасцям уладкавацца, калі ўзнікне патрэба. Я да вашых паслуг.
– Не трэба нам ніякіх паслуг, – раздражнёна выгукнуў госць. – Самі дамо рады. Ніхто нам не патрэбны.
Другі госць пакланіўся чыноўніку, і той падаўся прэч, як бы і раззлаваны, але ў той жа час пасміхаўся. Госці глянулі ўслед яму, пашапталіся, а тымчасам да іх падыйшоў Барысевіч.
— Вам патрэбна кватэра? – спытаў майстар. Калі так..

— Нас тут чыноўнік ужо так настрашыў… адносна вас… многа просіш за пастой? – спытаў ён.

— Ну, як з каго, – адказаў пан Міхал, – як для каго. Паны прыбылі на сейм?

— Так, нам загадалі! —адказа ў першы — нічога не зробіш ... загадалі, — і мы паехалі ; non tam libenter, quam reverenter (не па хаценню, а па загаду).Так! На сейм....

Абодва ўздыхнулі.

– Ці многа пан хоча за кватэру? – спытаў меншы.
– Я вам яшчэ раз кажу – як для каго… Прашу ў пакой. Распранайцеся. – прамовіў Барысевіч і саступіў убок. – Прашу…
– Калі дазволіце, трэба каб вы ведалі, з кім вы маеце справу, каб не гаварыць без толку, – затрымаўшыся ў парозе, сказаў старэйшы, на яго твары адбилася зацікаўленасць. – Нашы імёны вам нічога не скажуць, таму я іх не называю, важней тое… што абодвы мы мазуры.. так! З пад цёмнай зоркі… Сядзім на пяску… таму грошай у нас нямнога… Шляхта у нас небагатая… Хаця мой таварыш і шамбялян, але такі ж галяк, як і я…
– Як дзве кроплі вады! – пацвердзіў жывы, чорны, рухавы чалавечак…
– Асіндзей ведае, як і мы, што на голых тут найбольш разлічваюць і найстаранней палююць, каб напхаць іх кішэні злотымі і згрызотамі, купіць іх сумленне. Але мы абодва… будзем жыць сваім хлебам. Многа заплаціць не можам, бо грошай мала маем, а што маем, то ўсё з мазаля.. Крывавым потам напрацавана, раскідвацца грашыма не можам… Вось так яно, пане майстра…
– Прашу паноў зайсці ў пакой! – зазваў Барысевіч ужо больш прыязна. Я прасіў бы ў пана Бога паслаць мне такіх гасцей, каб не навялі на дом кары нябеснай сваёй непачцівасцю… Напэўна, мы паладзім… прашу…
Ён адчыніў дзверы ў ў чыстыя пакоі, дзе было ўсё прыбрана, падлога пасыпана. аерам, вокны памытыя, сцены пабеленыя, прахалода…

Старэйшы ўвайшоў, зняў шапку і сказаў:

— Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус…

Барысевічы адказалі:

– На векі вякоў!
– Тое, што нам трэба, сказаў меншы, якога першы госць назваў шамбялянам, – сапраўды, пан лоўчы.. як для нас добра.

— Ды і не дарага! Паверце слову, – прамовіў Барысевіч… – Вы пытаецеся пра цану?

Яўрэй з-за парога пачаў падлічваць, сказаў:

– Паны ўжо з дзесятак дамоў абышлі, былі у Пацукоў, у Керсця, У Шмуйлы, у Вянглоўскіх.

— Значыць, пра цэны панове ўжо ўведалі, – прамовіў Барысевіч з дабразычлівай усмешкай.

— Дужа дарага для нас усюды… – адказаў старшы.

— А колькі б вы далі...

— Паслухай, пане майстар, – уставіў малы шамбялян. Мы не хацелі б Вас пакрыўдзіць, але Бог сведка, лоўчы[34] і я не можам даць болей, чым па дзесяць дукатаў за месяц… Дваццаць за дваіх.

Глянуў яму ў вочы.

Майстар засмяяўся, стукнуў кулаком у грудзі. Яго жонка весела глянула на гасцей,

— Карацей кажучы, дайце, колькі зможаце… вы, панове прыехалі не на маскоўскія грошы, а па сіроцкай службе нашай Рэчы Паспалітай, яна цяпер бедная, не можа добра плаціць… а я б для вас не пашкадаваў! Хай Бог бароніць! А мая хата хай будзе для вас як свая родная…

Ён нізка пакланіўся. Лоўчы падышоў, працягнуўшы руку. - Дабраславіць вас Бог на добрае слова, на добрае сэрца ...

Шамбялян засмяяўся.

— Такіх людзей, як Вы, пане майстра, мала. Вядома, нехта даў бы вам і трыццаць,

[34] Лоўчы – прыдворны чын.

але мы…

— Мы дамовіліся… больш пра гэта гаварыць не будзем – з весялосцю ў голасе перапыніў яго Барысевіч, выйшаў да яўрэя, штосьці сунуў яму ў руку і сказаў, каб заносілі рэчы ў хату.

— Калі вам будзе патрэбна штосьці для гаспадаркі – дадала пані Барысевічава, радая, што справа зладжана, – то вось кухня, заказвайце, што згатаваць для вас. Чым хата багата, тым і служыць рада.

— Дзякуем! – усклікнуў лоўчы, – Нам бы хацелася крыху падагрэць бігус[35], узяты ў дарогу, а потым...

Пастаяльцы пачалі развязваць свае клункі. Шамбялян расчыніў акно, якое выходзіла на Дамініканскую вуліцу. Там быз вялікі рух. Ад хаты шыбаваў яўрэй, рады, бо атрымаў ад гаспадара падарунак, ды яшчэ хлопцы праз акно дадалі яму па пары злотых.

— Ты не ведаеш таго пана, якога мы сустрэлі каля дзвярэй? – спытаў шамбялян. Яўрэй яго нахвальваў гаспадару, палка пераконваў, яму вельмі хацелася дагадзіць таму пану.

— Як жа не ведаць? Не для таго я служыў фактарам-пасрэднікам у столькіх паноў. Мне трэба пра ўсіх ведаць і ўсё бачыць! Вы мне толькі скажыцье я пра любога вам падрабязна распавяду…

— Дык хто ж той пан?

Яўрэй спыніўся, зноў наблізіўся да акна.

— Не можа быць, каб вы яго не ведалі! Ён тут, лічы, як гараднічы, не менш важны, яму нават ваенныя слугуюць! Гэта ж Баскамп[36].. Ён тут, у Гародні вельмі значная асоба. Ён тут гаспадар! Яму нават афіцэры слугуюць! Вось хто такі баскамп.

— А! — усклікнуў шамбялян,— Гэта той Баскамп, які быў у Канстантынопалі. Ён

[35] Бігус, (бігас) – традыцыйная для ўкраінскай, беларускай, польскай, латышскай і літоўскай кухні другая страва з квашанай капусты і мяса. Лічыцца спрадвечна польскай стравай, аднак існуе версія, што яна была прывезена з Вялікага княства Літоўскага ў Польшчу каралём Уладзіславам Ягайлам, які любіў паспытаць яе на паляўнічых прывалах.

[36] Караль Баскамп, Баскамп Ласапольскі (памёр 1794) – аванурыст, быў на дыпламатычнай службе караля Станіслаўва Аўгуста. За заслугі ў галіне польска-турэцкай палітыкі атрымаў шляхецкае званне і камергерскі ключ (1776). Падчас сойма у 1793 годзе ён стаў слугой Сіверса,. У чэрвені 1794 г. быў павешаны.

блізкі да караля і расійскага пасла. Як жа, ведаю…

Яўрэй усмінуўся.

— А вунь і ён сам… Паклікаць яго?

Лоўчы здаля махаў рукой. Фактор яшчэ далёка не адышоўся, як невысокага росту шляхціц перайшоў вуліцу, зазірнуў у акно і знік. За ім праслізнуў нейкі па-французску апрануты пан, ён спяшаўся і не глядзеў па баках, але і ён зыркнуў у дварышча, дзе стаяла брыка, пайшоў далей і таксама знік.

Госці паперанасілі рэчы ў пакоі, лоўчы пачаў іх парадкаваць.

— Мы будзем спаць у адным пакой разам, па-паходнаму, тут і манаткі нашы паскладаем, а другі пакой будзе служыць нам як парадны, для сталавання, прыёму гасцей. – распараджаўся шамбялян.

— З усім згодны, – азваўся другі пастаялец, – мяркуй сам, парадкуйся, як табе заўгодна. Я на ўсё гатовы. І гасцей у нас, мабыць, не будзе. Нас хутчэй пазбягаць будуць, чым напрошвацца ў кампанію.

— Давай, Мацэк, смаж бігус, папрасіў лоўчы, – мне ўжо дужа ж захацелася есці. Занось рэы, ды хутчэй.

Абодва шчыравалі з уладкаваннем, шамбялян шукаў, на чым бы падсмажыць бігус, ужо не адчуваючы сябе госцем. І тут на парозе з'явіўся прыгожы мужчына, шыкоўна апрануты, хоць быў і малады, у шапцы з пяром, закручанымі ўгору вусамі, у мяккіх чырвоных ботах, твар празмерна чырвоны, нават крыху лілёвы. Ягоныя вочкі жвава бегалі. Ё пераступіў парог і спыніўся ў нерашучасці..

— Перапрашаюся, ці магу я запытацца ў вас… можа тут пасяліўся пан Юзафовіч?[37]

— Такога тут няма, – суха азваўся шамбялян, – але гэта не спыніла госця. – А вы нічога пра яго не ведаеце? – працягваў ён.

— І не ведаю, і не чуў.

Запанавала маўчанне. Потым незнаёмы зноў загаварыў.

— Паны прыехалі на сейм?

— Сам бачыш! – адгукнуўся лоўчы, не асабліва ахвочы да размоў.

[37] Юзафавіч, Мікорскі, Краснадэбскі – сапраўдныя прозвішчы дэпутатаў сейма 1793 года.

— А з якіх мясцін? — распытваў ад парога госць, відаць, хацеў тое-сёе выведаць, і хлопцы насцярожыліся.

– Мазуры мы…

Госць задумаўся, потым прамовіў: — У мяне ў Мазоўшы ёсць радня, недалека ад Вышаграда.

Шамбялян моўчкі глядзеў на незнаёмага.

— Мазуры – цудоўныя людзі! – усклікнуў госць. – Патрыёты, верныя сыны нашай няшчаснай айчыны! – сказаў госць ад парога, пераступіў яго і ўвайшоў у пакой. Лоўчаму гэта не спадабалася, але ўсё ж ён уступіў у размову.

— А пан сам з якіх мясцін?

— О, я… як бы гэта вам сказаць, некалі быў з Сандамірскага павету, але цяпер без пасэсіі… бадзяюся па свеце… Я маю гонар належаць да двара пана Пулаўсскага, знаёмы з панамі Касакоўскімі, ксяндзом біскупам і панам гетманам…

Хлопцы гаспадарылі ў хаце, хацклі пазбыцца ад назолы бадзягі, але той стаяў, як прырос да падлогі.

— Мацэк, – папрасіў лоўчы, давай бігус, паміраю з голаду. – Даруй пане, мы дужа здарожыліся.

Хаця чырвоны госць разумеў, што яго хочуць адпрэчыць, але не пакрыўдзіўся, усміхнуўся.

— Яшчэ пару слоў, калі дазволіце… я дужа цікаўны… Можа паны дабр… захочуць наведаць пана маршалка канфедэрацыі, яму вы можаце аказацца карыснымі.Я магу вам услужыць.

— Мацэк, бігус! Напрамілы бог, прашу! — замест адказу залемантаваў лоўчы.

Шамбялян паспрабаваў выручыць таварыша, твар якога ўжо набрыняў чырванню ад злосці, падыйшоў да цікаўнага і сказаў:

— Мы вельмі ўдзячны пану, але зараз мы нікуды не збіраемся ісці… я што потым…

— … Бог ведае. Я да вашых паслуг.

Сказаўшы гэта, бадзяка па свеце і сябра Касакоўскіх выйшаў.

— Ну вось, толькі з воза злезлі, яшчэ не ўладкаваліся, а нам ужо спакою не даюць..

– расстроіўся лоўчы. – Чаго ж тады чакаць далей…

— О! Мы ж прыехалі сюды не надоўга, гэта так, але да ўсяго трэба быць гатовам… – адказаў шамбялян.

Абодва ўздыхнулі. Мацэк прынёс падсмажаны бігус. На стале, засланым сурвэткай, з’явілася бутэлька водкі, кавалак хлеба. Селі вячэраць, ні сумныя, ні вясёлыя. Шамбялян быў у задуменні, лоўчы жартаваў.

Пакаштавалі бігусу. Нішто як бы не перашкаджала вячэры, як раптам на вуліцы нешта забрынчэла, забухала, пачуліся галасы, крыкі. Лоўчы не варухнуўся, а больш рухавы шамбялян зірнуў у акно. Перад самым ганкам, выглянуў напалоханы твар жанчыны. Праз акенца глядзела яшчэ адна, На вуліцы стаяла вялікая карэта, коні заблыталася ў вупражы. Слугі завіхаліся каля вупражы. А з вакна пазіралі дзве спалоханыя жанчыны.

— Божа мой! – усклікнуў шамбялян, Гэта ж былая княгіня, пані шамбялянова Пароўская… мая даўняя знаёмая! А з ёй прыгожая дзяўчына… чарнабрывая, цудоўная….

— О! Ну, пачалося! — засмяяўся лоўчы, не адрываючыся ад ежы. Ты ўжо загарэўся, баламут… Як бы і не шамбялян яго княскай мосці… Супакойся! Дай паесці! Супакойся…

Шамбялян не даслухаў яго, выскачыў з хаты, нават шапку не надзеў. Пані ў карэце змерыла яго прыжмуранымі вочкамі. Так, гэта была яна — "боская Мілуся".

— А! Пан шамбялян!

— Я, пані дабрадзейка… велімі рады! Ён перавёў позірк на чарнабрывую, якой аказалася панна Юстына.

— Што пан тут робіць? О, гэтыя коні! Я так напалохалася!

— Нічога страшнага, конь спатыкнуўся.

— Пан тут як дэпутат?

— Так, пані… А вы?

— Мы ж тут блізка жывём, па суседству. Прыехалі пацікавіцца ….. Тут усё занята… я паслала да Анквіча, ён абяцаў дапамагчы. . А вы тут даўно?

— З гадзіну.

З павозкі выглянула галава ў парыку, без капелюша. Гэта быў прыгожы шамбялян.

— Хто гэта? – запытаў ён у жонкі.

— Гэта Мікорскі…

— А! Я не ведаю яго…

Вупраж паправілі, а тым часам прыбег пасланы да Анквіча, паказаў дом, дзе іх пасялілі. Гэта была камяніца якраз насупраць дома Барысевіча. Можна было заязджаць.

— Я дужа рады! Мы будзем па суседству з вамі. – усклікнуў Мікорскі і зірнуў на панну Юстыну, якая азіралалася па баках. Прыгожая Эмілія праз акно глядзела на дом. У ім было пяць фокан з фасаду, два слупкі каля ганку, на другім паверху балкон са зламанымі парэнчамі.

— Ах! Як гэты дом непрыгожа выглядае!

— Пані дабрадзейка, гэта яшчэ для Гародні не самае горшае жытло, – засмяяўся Мікорскі, – тут жа столькі народу зараз… Цяжка выбраць лепшае… Пачуўшы такое, пані шамбялянава нахмурылася, Юстына прыгледзелася да Мікорскага… а той пакланіўся ёй, зірнуў у вочы, потым вярнуўся ў хату.

— Ты ведаеш, – звярнуўся ён да лоўчага, – у нас будуць дзве прыгожыя суседкі, старэйшая – пані шамбялянава, я саступаю яе табе, а малодшай, чарнабрывай, зацікаўлюся сам.

— Пані шамбялянава будзе пры шамбяляне, адказаў Краснадэбскі, – але я аддаю табе іх абедзьвух: мне зараз бабы не ў галаве! І хачу цябе загадзя папярэдзіць: не трэба каб праз жанчын мы зазналі тут непрыемнасцей і пакут. Яны да дабра не давядуць! Ды і не месца ім тут. Я так думаю, мы сюды змагацца прыехалі… і ў абозе бабы нам не патрэбны. Як па мне, яб іх усіх адсюль вымеў, вычысціў і вышкраб. І чарнабрывых, і даўгавалосых, старых і маладых…

Мікорскі ў задуменні апусціў галаву.

— Не бойся. – прамовіў ён. – клянуся табе ніводная Венера мяне з тропу не зверне, за гэта можаш быць спакойным... Але – я не капуцын*, і ахвочы палюбавацца на прыгожы тварык. Так, дзеля цікавасці… дзеля жыцця.. чым яшчэ ўсцешыцца?

Ён сеў каля акна і пачаў узірацца ў тую камяніцу, да якой пакіравалі новыя госці. Шыкоўны вазок пана Анквіча ужо стаяў каля дома, бо галантны гаспадар сам прыехаў сустрэць прыгожую пані, якая так адгукнулася на ягоную просьбу прыехаць у Гародню… І першае, што ён спытаў

— Ці навяла тут парадак пані Лазаравічова? Я не бачу ніводнага слугі!

Назаўтра перад адкрыццём сейму, пасля бурнай сесіі, на якой не дапусцілі да прысягі Бяліньскага[38], раніцой прачнуўся шамбялян Мікорскі і падпёршы локцем галаву, глядзеў на спячага лоўчага, думаў, ці не пара ягоны сон перапыніць, ці то даць яму яшчэ паспаць. Але тут пачуўся нейкі гук з першага пакою, дзверы якога былі замкнёныя… Гэта не былі слугі, але нехта ў нецярплівасці хадзіў па пакоі з кута ў кут… не зважаючы на тое, што можа некага разбудзіць. Шамбялян хацеў ужо азвацца, але тут дзверы адчыніліся і на парозе паказаўся мужчына, на твары якога адбіліся неспакой і трывога.

Акно было завешана і ён не адразу разгледзеў, што робіцца ў пакоі. Мікорскі якраз уставаў, а лоўчы толькі прачнуўся і праціраў вочы.

–Дзень добры, – прывітаўся госць. – Па праўдзе, не такі ўжо ён добры. Уставайце панове.
– Каторая гадзіна? – спытаўся лоўчы.
– Сем.

– Ну, тады ў нас ёсць час.
– Хто ведае, ці хопіць яго нам для размовы. – прамовіў госць. Я дакладна ведаю, што нас збіраюцца арыштаваць.
Мікорскі засмяяўся.

– Пане падваявода, не выдумляйце, гэтага не можа быць!
– Слова даю! Сіверс ад пачатку хоча нас запалохаць, каб мы баяліся.
– Не можа таго быць! Не можа быць! — у адзін голас запярэчылі Краснадэбскі і Мікорскі. – Дарэмныя страхі!
– Яшчэ два словы. – заспяшаўся Карскі, – вось-вось прыедуць Кімбар і Цямнеўскі, нам трэба параіцца.
– Колькі нас? – спытаў Мікорскі.
– Калі па ўчарашняй сесіі, то недзе паўтараста Зпанавала маўчанне. Лоўчы ўздыхнуў.
– А, мала нас, але ж трэба штосьці зрабіць, каб перашкодзіць.
Ледзь паспелі гаспадары апрануцца, як увайшоў упіцкі пасол Кімбар, невысокі, на паголенай галаве чуб.

– Вітаю, панове-брацці! Колькі вас тут?

---
[38] Станіслаў Костка Бяліньскі (памёр у 1812 г.) - з 1765 г. камергер Станіслава Аўгуста. У 1793 г. маршалак сейму, прызначаны Сіверам на гэтую пасаду,
ён быў цалкам пад яго ўплывам.

– З панам будзе чатыры, – адказаў яму Карскі. –
– Цямнеўскага штосьці не відаць…
Але тут ён якраз увайшоў.

– Вітаю! Adsum. (Гэта я. лац.)
– Яны прыселі на ложку.
– Пачынаем? – спытаў Кімбар. – Расказвай, Цямнеўскі, – што там з радай, бачыўся з кім?
– Я іду ад Шыдлоўскага… мы з ім сустрэліся яшчэ а пятай.
– Уведалі пар што-небудзь? – спытаў лоўчы.

– Па праўдзе, не так ужо і многа, – уздыхнуўшы, пачаў Цямнеўскі, – Нас невялікая кучка. І Бог ведае, ці і яна застанецца… Будзем спрабаваць штосьці рабіць, перад Богам, светам, будучым нашым. Трэба пратэставаць! Нам не застаецца нічога іншага! Кароль! Бог ты мой! Ён жа нічога не можа… Ён бязвольны. Ці разумее ён, што сёння пачнецца? На апошнім сейме ён быў патрыётам… а мажа стаць здраднікам на гэтым сейме, з чыстым сумленнем бо сам не ведае, што з яго зрабілі бабы і пазыкі. Пра караля няма чаго казаць… Але горшая за яго зграя платных нягоднікаў…

– Што мы значым супраць іх з нашай роспаччу, з гонарам, які выдае смешным, з крыкамі, якія назавуць якабінскімі[39]… з болем, які назавуць шаленствам?... Мы можам страціць свае месцы, але сёння нам трэба быць, і адстрэльвацца…
– Але што толку? Чаго мы даб'емся? – перапыніў яго Краснадэбскі…
– Хай сабе гэта будзе жэст адчаю. – запярэчыў Цямнеўскі. – Але нельга папусціцца. Стаяць сцяной, крычаць, лаяць іх, бэсціць, сарамаціць, ускідваць на вочы… ірваць, нішчыць прадажніцтва і здраду…
– І што мы каму гэтым давядзем? – спытаў Мікорскі.
– Так мы давядзем адну важную рэч: свет будзе ведаць, што было сярод паслоў дваццаць прыстойных людзей, тых паслоў, якія стаялі перад маскоўскімі штыкамі, якіх яны хацелі змусіць да падману. Будзе хоць нейкі голас праўды. Будзе наш маніфест не для горада і трыбуналу сейма, бо туды нас Сіверс не пусціць, але для скрыжаляў Боскай справядлівасці.
Мікорскі пляснуў далонямі. Раптам спалоханы хлапчук зайшоў у пакой, за ім увайшоў Барысевіч.

– Панове!... ... там афіцэр з салдатамі. Ратуйцеся, хто верыць у Бога!
Не думаючы доўга, што рабіць, Карскі скочыў да дзвярэй, за якімі ўжо чуўся

[39] Якабінцы - рэвалюцыянеры. Якабінцамі называліся польскія прыхільнікі радыкальных пераменаў у канцы 18 ст.

бразгат зброі .... потым падбег да вакна, схапіў абедзвюма рукамі аконныя рамы, вырваў іх, выскачыў у сад і знік. А Кімбар, Цямнеўскі, Краснадэбскі, Мікорскі стаялі, як агаломшаныя. Малады, вельмі прыгожы, з усмешкай на вуснах, афіцэр, прыклаўшы руку да шапкі, з'явіўся на парозе. За ім услед увайшлі чатыры салдаты з вінтоўкамі. Афіцэр трымаў паперу ў руцэ. Напэўна, яму было загадана абысціся з пасламі пачціва, якраз і выбралі такога, які мог зрабіць справу прыстойна.
Афіцэр падыйшоў да збянтэжанага Мікорскага, які ступіў крок уперад.

– Мне вельмі непрыемна, – прамовіў ён, выканаць гэтую місію, хай мне паны даруюць, – я толькі салдат, павінен выконваць загады маіх начальнікаў.
– Але ж мы ім не падначаленыя, – перапыніў яго Мікорскі.
– Афіцэр паказаў на салдат.
– Хіба ў васпанства ёсць сілы супраціўляцца зброі?
– Але ж закон ёсць закон…
– Я не ведаю законаў, – адказаў афіцэр.
– Выходзіць, мы арыштаваныя? – спытаў Цямнярскі.
– Зусім не! – усклікнуў афіцэр. У мяне толькі даручэнне прасачыць, каб панове не прыходзілі сёння на пасяджэнне сейма… (C' est tout! Гэта ўсё! франц.) Калі панства захоча зрабіць шпацыр у Гродзенскі сад… або падыхаць дзе-небудзь вясновым паветрам, то я і мае салдаты паслужым вам як ганаровая варта…
– Што за гонар! – засмяяўся Краснадэбскі.
Мікорскі падаў афіцэру крэсельца, але той не сеў, а пачаў расстаўляць сваіх салдат. Аднаго з зараджанай вінтоўкай паставіў каля выбітага акна, другому загадаў застацца каля дзвярэй, а двух астатніх адправіў у дварышча.

У сенцах каля адчыненых дзвярэй можна было ўбачыць абодвух спалоханых Барысевічаў, Параску, служанку, двух падлеткаў і пару чалавек з вуліцы, якія зацікавіліся відовішчам. Плошчу салдаты ачысцілі так, што не засталося ніводнай жывой душы.

Чатыры дэпутаты стаялі моўчкі.

– Што ж, будзе нам навука, – спакойным голасам сказаў па-польску Краснадэбскі, той, які спяшаўся хацеў устаць раніцой, – а ўсё ж Карскаму ўдалося збегчы.
– Афіцэр сеў, зняў з галавы шапку. На яго ніхто не звяртаў увагі.
– Вечна трымаць нас тут не будуць, – прамовіў Краснадэбскі амаль весела, – І тым не менш нам трэба неяк падтрымліваць жыццё, але ж мы пад вартай.
Ён наблізіўся да афіцэра.

– Хачу спытаць у вас, прамовіў ён, пакланіўшыся. – Мы знаходзімся пад началам пана. А ці можам мы памыцца?
Афіцэр ахвотна пацвердзіў гэта.

– І апрануцца таксама можна?
– Калі ласка.
– Гэта добра. – разважліва прамовіў Краснадэбскі. – А паслаць па каву?
– Калі пан сам хоча схадзіць у кавярню ў суправаджэнні салдата, то я не супраць.
–Пан афіцэр вельмі прыемны і добры чалавек. Раз ужо вы ў нас у гасцях, то можа вып'еце кавы з намі?
– Не! – з усмешкай адказаў афіцэр.
– Чаму?
– Каву можна атруціць. Пра жыццё аднаго афіцэра клопат невялікі, але панове маглі б трапіць пад суд, – жартаўліва адказаў афіцэр.

Пасмяяліся.Падыйшлі бліжэй да афіцэра, які стараўся быць у добрым гуморы, хаця яму гэта цяжка давалася. Тым часам Цямнеўскі думаў.

– Што ж гэта за сейм такі? І такі сейм з такой свабодай голасу будзе мець якуюсьці вагу? – усклікнуў ён, не зважаючы на сведку. – Сапраўды, трэба было б азалаціць і генерала, які вас паслаў, і яго самога. Выходзіць, гэта толькі над намі ўчынілі такоу насілле: Але ж гэта вада на наш млын!

Аастатнія маўчалі. Мікорскі тымчасам паспешліва апранаўся ў спальні.

– Не можа быць такога, каб гэта засталося невядомым, – разважаў Кімбар. Карскі ўцёк, ён прарвецца на сейм, апавясціць дэпутатаў… раскажа пра нас. Сіверс будзе вымушаны нас адпусціць.
– Тымчасам апрануўся і Краснадэбскі. Мікорскі выйшаў са спальні і ў задуменні сеў пад вакном, якое было з таго боку, дзе ў доме пасялілася пані шамбялянава. Заўважыў, што там незвычайны рух. За імі з цікавасцю назіралі з акон дома, заўважыўшы незвычайнае відовішча. Узброеная варта прыцягнула ўвагу .
Прыгожая, чарнабрывая пані стаяла з закінутымі за галаву рукамі і злёгку кіўнула Мікорскаму. Ён таксама пакланіўся… Пры другім акне воддаль стаяў шамбялян, бледны, устрывожаны, ён баяўся выглянуць у акно, каб яго не ўбачыў салдат, выцягваў шыю, перавёў позірку у дварышча, убачыў там салдата, і неўзабаве адышоўся, ягоная галава больш у акне не паказвалася... А прыгожая пані шамбялянава не адыходзіла ад акна, і можна было заўважыць, што яна ўсхваляваная, узрушаная… Яна да кагосьці прамаўляла, махала рукамі… А потым у акне Мікорскі ўбачыў ротмістра Жубра, які прыехаў таксама, ён выглянуў у акно, з усмешкай глянуў на дварышча, салдата пры дзвярах. А з малога аконца каля ўваходу час ад часу пазіралі бледныя слугі.

Прынеслі каву. Усе моўчкі пілі, і тут якраз паўз вокны праходзіў радца Баскамп, убачыў салдат,здзівіўся, і шпаркім крокам пашыбаваў да дзвярэй. Салдат не затрымаў яго. Адчыніў дзверы.

– Прабачце, – ад парогу пачаў Баскамп, – акінуўшы вокам кампанію за кавай, – Можа быць, тут якое непаразуменне, і я змагу скарыстаць свой уплыў, дапамагчы вам…
Ніхто яму не адказаў. Баскамп ветліва прывітаўся з ужо са знаёмым яму афіцэрам. Той прамовіў:

– Ніякага непаразумення тут няма. У мяне загад не дапусціць, каб панове трапілі на сесію.
– Баскамп выказаў здзіўленне, апусціў рукі, доўга хітаў галавой. На яго твары адбіўся смутак і жалкаванне.. магло здацца, што гэта яго напаткала такое няшчасце…
Ён павярнуўся да Мікорскага.

– Нешта я не магу прыпомніць пана, ці не Мікорскі вы?
– Так, – суха адказаў той.
– Я меў шчасце бачыць пана ў пакоях у N… І трэба ж спаткацца зараз у такіх незвычайных варунках!
Біскампу ніхто не адказаў, і ён працягваў:

– Мы перажываем зараз сапраўды цяжкія часы… а найбольш цяжка перажываць за наш харошы, шляхетны, толькі вельмі неабсяжны патрыятызм.
– Калі ж хто не хацеў служыць роднаму краю… але сёння тут… тых лепей не дражніць!
Паслы пераглянуліся. Баскамп працягваў.

– Я маю шчасце ведаць яго эксэленцыю барона Сіверса… Ён у самым высокім сэнсе слова чалавек патрыярхальны, далікатны, ветлівы, гатовы ўвайсці ў чужое становішча, гатов…
– Тут Цямнеўскі пачаў смяяцца, Баскамп пачырванеў і змоўк.
– Даю панам слова – так яно і ёсць. Але калі вывесці яго з раўнавагі, ён робіцца жалезным…
– Дык шт ож рабіць? – з’едліва спытаў Мікорскі. – Што нам цяпер рабіць?
– Толькі адно – калі няма сіл, каб супраціўляцца, то ёсць розум, каб прыняць тое, што накануе нам лёс… Nec Hercules contra plures. ( Нават Геракл не адолее ўсіх. лац.) – божа мой! Хто б не аддаў жыццё за радзіму… але што гэта дасць… Я хоць па сваім паходжанні чужынец, але маю гонар лічыць сябе грамадзянінам Рэчы Паспалітай, атрымаў грамадзянства на мінулым сейме, нават узяў сабе польскае прозвішча – Лясапольскі, якое сам кароль утварыў з майго ранейшага.
Усе маўчалі і панура глядзелі на госця.

— Пане, – загаварыў Краснадэбскі, – усё тое, пра што ты кажаш, святая праўда, пра адно забываешся… што ёсць людзі, якія лепш памруць, чым будуць сядзець па

самыя вушы ў гаўне… Біскамп пачырванеў…

– А чым вы, панове, дапаможаце сабе, ідучы супраць сілы? Сёння вы пад хатнім арыштам, а даўтра вас вывезуць…
– Хай вязуць у Сібір! – усклікнуў Кімбар
– Хай расстраляюць! – выкрыкнуў Цямнеўскі.
– А які толк будзе з таго, што аднаго пана вывезуць, а другога расстраляюць?
– Паслухай мяне, пане, – загаварыў Цямнеўскі, – Толк будзе! Ні вы, пане, ні хто яшчэ з вам падобных, не разумее таго, што пакутніцтва дасць плён… кроў пакліча да помсты. Гісторыя доўжыцца… тое, што вам здаецца канцом, аказваецца ці не самым пачаткам.
– Баскамп паціснуў плячыма.
– Прыгожыя словы! Але толькі словы! – прамовіў ён. – дарэмнна будзеце выступаць супраць сілы.. Але ў мяне сціскаецца сэрца… краіна то гэта выцерпіць… Хто ведае? Можа яна ўся будзе забрана…
– Можа і так будзе, можа нехта адзін забярэ, – сказаў Краснадэбскі. Абы толькі не прусак забраў… ды хай саебе цэсар аўстрыйскі, чорт яго забяры, захопіць усю краіну, хай яго забярэ імператрыца, але хай яго не чацьвяртуюць…
Запанавала маўчанне.

– А, пакуль бог на небе, ён не дапусціць… – усклікнуў Цямнеўскі.
Біскамп павярнуўся да яго.

– Вы, панове, не хочаце разумець палітычнай сітуацыі.
– Бо мы грэчкасеі, а не палітыкі, – адказаў яму Краснадэбскі, – мы разбой называем разбоем, зладзейства – зладзействам… ашуканства – падманам, Чаго ты ад нас хочаш? Такімі ўжо дурнямі нас Бог стварыў, што палітыцы мы не навучымся. Ніколі!
– Так, гэта праўда. – сказаў, усмхнуўшыся, Баскамп, пакланіўся ўсім, падаў руку афіцэру, зірнуў на гадзіннік, і выйшаў.
Некалькі хвілін усе маўчалі… Мікорскі падышоў да акна. Убачыў у акне насупраць постаць Юстыны. Яна паявілася і тут жа знікла. Потым паявілася зноў з крыжам у руцэ. Узняла яго ўгору, другой рукой пакзала на яго. Потым, нібы баючыся, што яе ўбачаць, схавалася.

* * *

Нягледзячы на ўсе намаганні Сіверса і яго світы, ужо ад першых пасяджэнняў сейма пачаліся цяжкасці і нечакана, таямніча выступіла апазіцыя. Хто быў яе натхніцелем? Гэтага хітры Сіверс ніяк не мог разгадаць.

Каля дваццаці чалавек, якіх не ўдалося ні купіць, ні настрашыць, узнялася супраць дыпламатыі і войскаў Сіверса.

Спрактыкаваны дзяржаўца хацеў зразумець, чаго хоча дамагчыся гэтая слабая сама па сабе купка людзей… і не мог даўмецца. Ён злаваў на караля, лаяў згоднікаў Касакоўскіх, падазраваў тых, хто браў у яго грошы, падазраваў акружэнне караля. Ён пагражаў праціўнікам вісельняй, Тышкевіча саслаў у ягоны маёнтак – нічога не дапамагло.

Пачатак сейма быў увогуле цяжкім, Сіверс ужо нічога не разумеў. У яго быў паслухмяны маршалак сейму[40] якраз такі, якога ён хацеў, была большасць, якая павінна была б яго задаволіць, судзяў ён выдаліў з залы, горад напоўніў войскам.. пагражаў усім, нават сваім улюбёнцам, а на сейме ўзбурылася і віравала нешта неспадзяванае…

Дайшло да таго, што ён ужо нікому не верыў, апроч сваіх генералаў, але ж і тыя захапіліся прыгожымі полькамі, і дазвалялі баламуціць сейм жорстка, адкрыта, небяспечна…

Ён не ведаў, што ўчыніць.

Горад быў нібы ў аблозе, закрыты ўсе шляхі, пастаўлены заслоны, усюды салдаты, – але штодня паяўляўся нехта яшчэ, употай, шастаў па горадзе, знікаў…

Сіверсу даносілі пра ўсё. Ён ведаў, што Баскамп служыць яму як сабака, а Рыкс[41], каралеўскі сакратар, здразіў, маглі здрадзіць і іншыя. Апоры не было, ён нібы ступаў па купінах на балоце, якія правальваліся пад нагамі… Стары дыпламат быў у роспачы…

Ён здагадваўся, што Ігестром[42], седзячы ў Варшаве, здраджваў яму, што Бюлер[43]

[40] Маршалак сейму – старшыня сейму, выбраны дэпутатамі на час яго работы.

[41] Францішак Рыкс - дварэцкі Станіслава Аўгуста. Ён пачаў сваю кар'ера ў якасці цырульніка .Яму ўдалося заваяваць давер караля да такой ступені, што ён стаў для яго самым сакрэтным дарадцам , асабліва ў пытаннях унутранай палітыкі (непасрэдна ўплываў на размеркаванне вакансій, ордэнаў і г. д.)

[42] Юзаф Ігельструм (1737-1818) - расійскі генерал і дыпламат. камандаваў рускімі войскамі ў Польшчы..

[43] Бюлер, Маркаў, Альтэст – імёны рускіх саноўнікаў і дыпламатаў.

мог яго паставіць, але больш за ўсё ён падазраваў Касакоўскіх, якія куміліся ў Пецярбургу з Зубавым, Маркавым, Альтэстам і іх кампаніяй.

У караля таксама не было ані чалавека, якому ён мог бы давяраць, ён плакаў…

Былі незадаволены ўсе. Апазіцыя пагражала карай Боскай, Мікорскі бязлітасна здзекваўся з маскоўскіх пасланцоў, Краснадэбскі высмейваў іх. Пасля некалькіх пасяджэнняў Сіверс пераканаўся, што яму вельмі не проста будзе дамагчыся таго, чаго хацеў, хваравіта ўспрымаў глупства палякаў.

Ён быў незадаволены Бяліньскім, маршалкам сейму, Анквічам, таямнічым і непрадказальным, Пуласкім, які стараўся многа зрабіць, а нічога не мог, не спадзяваўся на на бяздзейнага слізкага Сулкоўскага, на ўсіх, хто браў грошы, а не мог зламаць супраціўлення…

Першыя дні сейму былі атручаны гэтымі непаразуменнямі… Сіверс, які ўсё так разумна спланаваў, не мог задавальняцца тым, што ягоным намерам перашкаджалі.

А тымчасам ў горад прыязджала ўсё больш прыгожых пань і паненак, вось-вось пачнецца баль за балем, і можна было прадбачыць шаленства, памутненне розумаў, уплыў чорных і блакітных вочак.. для якіх было назапашана нямала інструкцый і брыльянтаў.

Майскім вечарам да стаўшай прывычкай сесіі у Бяліньскага палуднавала некалькі асоб з ліку выбраных. Бяліньскі – маршалак сейму – на гэты час не меў за душой ламанага шэлега, што для Сіверса было немалаважным. Той быў гатовы наўсё, бо любіў наядацца, напівацца, а яшчэ іграць у карты. Добра было і тое, што ў яго не было вялікіх здольнасцей, але ж выконваў, што яму загадвалі, сваёй думкі не меў, яго маглі лаяць, абражаць… ён цярпеў усё, але сам сабе казаў, што такое жыццё трэба нечым аплочваць. Сіверс лаяў яго штодня, рэзаў яму праўду ў вочы пра яго паводзіны, і ў горадзе яго па-ўсякаму абьзывалі, лаялі апошнімі словамі. Ды Бяліньскі толькі пазяхаў і ўсміхаўся. Яму было ўсёроўна.

Вось так можна абмаляваць чалавека, якога Сіверс быў вымушаны ўтрымліваць за свой кошт, на рукі яму не даваў ні граша, а Баскампу плаціў па 500 дукатаў штомесячна, і той дастаўляў маршалку ўсё патрэбнае. Бяліньскі і гэта прымаў з гумарам.

Стомленымі вярнуліся і селі за позні абед Бяліньскі, Анквіч, біскуп Масальскі, і Манчыньскі[44]. Гэта была групка людзей, аб’яднаных адной шляхетнай страсцю яны былі ўаўзятымі карцёжнікамі.

[44] Каетан Манчыньскі(1154-1801) дзяржаўны дзеяч, адзін з кандыдатаў у маршалкі на сейме 1793г.

Біскуп прайграваў не толькі свае грошы, але і касцёльныя… за вечар ён мог прайграць іншы раз па некалькі тысяч дукатаў. … За картамі ён забываўся пра пра модлы, ежу, пітво, пра сваё добрае імя, якім тым не меней вельмі ганарыўся

Князь Масальскі як было вядома… з'яўляўся магчымым прэтэндэнтам на расійскі трон. Яму здавалася, што царыца ставіцца да яго як да радні. Калі ж ён іграў… калі гульня авалодвала ім, то яго нізавошта нельга было б адцягнуць ад зялёнага стала.

На твары біскупа і ў яго паставе адбіваліся пыха і запал. У яго была скура, падобная на гнілое яблыка, рысы твару непрыемныя, але выглядаў ён як разумны, вучоны чалавек, амбіцыі і у яго былі яшчэ большыя.

Уплыў васямнаццатага стагоддзя адбіўся на ім, ён стаў абыякавым да сваёй святарскай сукні, якую насіў. Святаром ён сябе не адчуывў. Гэта быў магнат у мантыі… А паколькі ён лічыўся шэфам палка Масальскіх, то посах біскупа лічыў яшчэ і генеральскім жазлом. Ён быў вялікі знаўца і аматар жывапісу, калісьці і ўлюбёнцам прыгожых паняў, цяпёр ён быў прыгнуты часам, згорблены, хваравітае падабенстваа да чалавека.

У яго была тысяча нагод для незадаволенасці: пазыкі, нешанцавнне ў гульні, трывога за techniques становішча ў капітуле, [45]урэшце справы сваёй пляменніцы, якую ён выдаў за князя дэ Ліня, а той лёгкаважна развёўся з ёй, і расказваў на людзях, што быў вельмі нешчаслівы ў шлюбе і змушаны развесціся, бо не мог з ёй жыць.

Бяліньскі прывёў ксяндза біскупа, трымаючы яго пад руку і паказваючы дарогу, у камяніцу, якую займаў у гэтыя дні, за імі прыйшлі Анквіч і Маньчыньскі. Баскамп ужо быў там, сядзеў за чаркай. Моўчкі прывітаў гаспадара і гасцей.

Усе былі стомленыя, маўчалі… Біскуп сеў у крэсла, падпёр галаву рукой і выдаваў, нібы дрэмле… Бяліньскі пачаў гаспадарыць, Маньчыньскі знайшоў канапу і лёг на ёй.

Адзін Анквіч нават пасля шмадгадзіннага крыку ў сейме і сварак яшчэ быў здольны штосьці рабіць. Так, гэта была цэльная фігура, яе нішто не магло зламаць – усяночнае баляванне, гульня ў карты да апошняй кашулі, інтрыгі, што дадаюць жоўці ў крыві, ночы без сну, перастомленасць… нішто не магло адолець гэтага чалавека. Падрэмле крыху, устане, памыецца, вып'е вады, і зноў поўны сіл. Ен мог іграць дваццаць чатыры гадзіны ў суткі не ўстаючы з-за століка… піць гарэлку два дні без усялякай стомы, – калі ж трэба было ваяваць, страляць, глядзець у вочы небяспецы, ішоў на гэта без здумення, нібы на званы абед.

[45] Капітул – духоўная калегія (рада) пры біскупе ў каталіцтве.

Ён многа паражыў, многім нацешыўся, многім здаволіўся, ні ўва што не верыў – і ўсё яму забыякавела…

Бяліньскі загадаў паспяшацца з абедам, паправіў парык. Паміж ім і Анквічам была толькі адна розніца – той быў таленавіты, красамоўны і смелы. Бяліньскі спаўняў усё тое, што яму адказвалі, не выяўляў свайго імпэту, быў настолькі разбэшчаны распустай, што яму ўжо нішто было не міла.

Маньчыньскі, такі ж ігрок, як і яны, хіба крыху шчаслівейшы ў картах, быў больш цынічны і саркастычны, але за гучным словам у яго хаваўся дзяржаўны розум….

— Як бы гэты Сіверс не сапсаваў нам абед і забавы, пазяхнуўшы, прамовіў маршалак. – Вечна яму нечага хочацца, ніякага спакою ад яго…

Масальскі змрочна сказаў ...

— Спакайнейшага, чым ён, пасла я не ведаю, а я ж іх колькі бачыў на сваім вяку. Праўда, я заўсёды аддаваў перавагу вайскоўцам. З Рэпніным дв Стакельбергам яшчэ можна было б мець справу, нашы пані іх лоўка водзяць за нос, а гэты, як снулая рыба...

— Ха! ха, – прамармытаў Анквіч, мераючы крокамі пакой, – ён такі нясмачны і смярдзючы ...
– Цікавая рэч, як ён будзе кіраваць ... – перапыніў яго біскуп. – Вы зразумелі, што (тут ён панізіў голас) ён коса глядзіць на Касакоўскага?

— Ці не пазнавата мы пра гэта празналі, – прамармытаў Анквіч.

Біскуп махнуў рукой, нібы паказваючы каму дулю.

– Ды хай сабе і будзе, – дадаў ён ціха, – пацешымся хоць гэтым фарсам…

Усе змоўклі. Бяліньскі даў знак, што пара абедаць. Біскупа запрасілі і падвялі да стала, і ён, сеўшы на сваё месца, пачаў глядзець на наліты суп з прагнасцю гурмана. Ён еў без думак аб тым, што нешта са страў можа быць для яго шкодным, Усе астатнія таксама былі галодныя, і толькі Боскамп, які таксама сеў за стол, еў без апетыту. Некаторы час панавала цішыня – чуўся толькі стук талерак і лыжак.

— Маркіза прыехала! – абвясціў Анквіч пасля таго, як даеў суп.

– Якая? – утаропіў у яго вочы, чырвоныя, нібы ў труса, біскуп.
– Яна спакушае, як д'ябл, – усклікнў Бяліньскі, – перад ёй не ўстаіць нават анахарэт. Яе тут ні з кім не параўнаеш. Можа апрануцца ў рыбацкую сець і і паявіцца як Ева перад Адамам…

– Біскуп ускінуў вочы, паківаў галавой і суха вымавіў:
– Не загаворвайцеся, маршалак.
– Прабачце… але ваша экселен.. ваша княская мосць, – паправіўся ён, вы ж такі знакаміты знаўца мастацтва, жывапісу… чаму б вам не ацаніць жывой красы?
— Яшчэ некалькі гадоў і ад яе красы мала што застанецца, – сказаў Масальскі. – Так што нечага захапляцца.

Баскамп, таксама вялікі знаўца прыгоства, у палюбоўніцах у яго была вядомая ў свой час прыгажуня, жонка генерала Вітта,

— Маркізе далёка да жонкі генерала.

— Кожны лічыць за гонар пахваліцца сваім. – зазначыў Анквіч.

— А хіба няма чым? – запярэчыў Баскамп, – Люллі – гэта кветка з аранжарэі, далікатная і кволая, а мая пані, гэта пышная кветка Ўсходу, якая не так хутка адцвіце, перажыве розныя віхуры!

— Такія прыгажуні, – сказаў Анквіч, – квітнеюць нядоўга, не паспееш азірнуцца як ужо выглядаюць старымі бабулькамі.

— О! Да таго яшчэ далёка!, – прамовіў Баскамп.

Біскуп ніяк не мог наесціся. Але праз хвіліну і ён уступіў у размову.

— Хто ўчора выйграў?

— Дзе? – ажыўлена спытаў Бяліньскі.

— У Пуласкага. Я не дабыў там да канца, канчалі без мяне.

— Сулкоўскі… Ці чулі вы, што ён утварыў прускаму каралю, помсцячы за Польшчу? – уступіў у размову Баскамп, – Пазычыў у яго больш за тысячу талераў, а там у яго нарасло ўжо столькі пазык, што Брандэбурчык можа пайсці з торбай.

— Autant de pris sur l'ennemi! (Колькі ўжо ўзята ў ворагаў! франц.) — дадаў, смеючыся, Анквіч, – Я змагу запэўніць панства, што калі б я мог пазычыць у імператрыцы міліён, зрабіў бы гэта з чыстым сумленнем.

— Праўда, імператрыца нікому не пазычае грошай. – заўважыў Масальскі.

Усе сціхлі, памаўчалі з асцярогай.

Абед ішоў сваім парадкам, слугі падавалі страву за стравай. Масальскі еў і піў напоўніцу. Налівалі бургундскае, яго змяніла шампанскае, якое ўваходзіла ў моду, келіхі пусцелі і зноў напаўняліся.

— Шампанскае – пітво правінцыі, — бурчаў Бяліньскі. – без старога добрага венгерскага віна і абед не абед.

— Будзе і яно, – запэўніў Баскамп.

— Але паслухай, гаспадар, уставіў біскуп. – Час дарагі, нас ужо так замардавала гэта сеймавая паншчына, што адбываць яе няма сіл. Кожная хвіліна дарагая. Пара ўжо расстаўляць столікі для гульні ў карты. Хто будзе трымаць банк?

Ніхто не азваўся. Маньчыньскі сядзеў, падпершы галаву рукамі, і вочы ўсіх прысутных павярнуліся да яго.

–Пане Маньчыньскі, згаджаецеся? – спытаў Анквіч.
— Я не супраць, – адказаў Маньчыньскі. – Але толькі за наяўныя грошы, ніяк іначай.

Біскуп пачаў шукаць штосьці ў кішэнях. Урэшце ён выцяг вялікі брудна-зялёны шаўковы мяшочак і, падняўшы яго, паказаў Манчынскаму, патрос. Праз сетку былі бачны бліскучыя дукаты. Маньчыньскі усміхнуўся.

— Будуць мае, – прамовіў ён суха.

Рука біскупа павісла ў паветры, бо ў пачакальні пачуўся голас, сіплы, высокі, злосны. Хтосьці хацеў увайсці. Усе застылі ў маўчанні.

— Толькі б не пасланец ад Сіверса! – узняўшя рукі ўгору, усклікнуў Бяліньскі.

Дзверы адчыніліся, увайшоў дзіўна апрануты не малады ўжо чалавек, і ўсе замаўчалі. Гэта быў, здавалася, нейкі прывід, апрануты ў дарагую вопратку, шэрую і парваную, са стужкай ордэнаў Св. Андрэя і Белага Арла, у ссунутым набок парыку, з бледным тварам, бледнымі вачыма, апушчанымі вуснамі, цынічна пагардлівым позіркам. Ён падышоў, абапіраючыся на кій, павольна, са стаўленнем чалавека, які мае права ўваходзіць куды заўгодна. З выразу на твары можна было здагадацца, што ён быў пасля абеду і багатых забаў. Упёршы руку ў бок, ён стаяў і глядзеў, але ніхто яго не прывітаў. Біскуп азірнуўся і хуценька паклаў мяшочак у кішэню, быццам баючыся, што ён адбярэ яго. Бяліньскі быў прыкметна разгублены.

– А, пан казначэй ... Няхай князь сядзе ... можа,падаць келіх віна?
– Служба Яго Вялікасці, пане маршалак, – хрыплым голасам прамовіў госць – ці ведае тут мяне хто, ці не, але спадзяюся, што вы не баяліся мяне ўпусціць пад выглядам вячэры. Не бойцеся, асіндзеі, я не буду есці.

Прысутныя прамаўчалі.

— Адкуль вы, князь? – спытаў хтосьці.

— Адкуль? Ад пасла. – з сарказмам адказаў Паніньскі(гэта быў ён) – уздумалася яму запрасіць мяне на абед. Стары дзед… але ў яго добры повар… лепшы, чым ён сам як палітык.

Усе моўчкі слухалі.

Князь сеў на крэсла, якое яму падставілі.

— Гэты сейм, васпанства, дурны – працягваў князь, – не прадстаўнічы… вы з ім не справіцеся. Ты, Бяліньскі… для гэтага не здатны…

Ён стукнуў кійком.

— Ну, і што пасол? – спытаў Анквіч, каб перавесці размову на іншае.

— Або дрэмле пасля абеду, або піша прачулыя лісты дочкам. Я не ведаю. Адно ведаю, што на вас усіх ён злы, і ёсць за што… Вы, як і служба Бяліньскага, яшчэ нявопытныя… Тут трэба мець такога выпрабаванага чалавека, як я… які і каралём мог стаць і пад шыбеніцай аказацца… на кані, і пад канём… Я б тут зладаваў сейм! А вы! Вы!! Падшыванцы! Бяліньскі – табе больш падыходзіць танцаваць кадрыль… Анквіч – табе лепей дзе небудзь у Капенгагене пасломm быць, каля дзевак, каля спаднічак завіхацца… Ці той жа Пуласкі. Гэтаз ж асёл, якіх мала.

Анквіч засмяяўся.

— Ваша княская мосць, што мы пачаткоўцы, гэта праўда, але ж тут трэба заставацца чыстымі… нельга патыкацца ў сейм з бруднай атымалкай.

— Яны проста па-ранейшаму важдаюцца з вамі! – запярэчыў Панінскі, але ж і вы не такія ўжо чыстыя. … калі ж вас, як мяне скарыстаюць, а потым выкінуць як смецце… Вы думаеце, што вас напаткае іншы лёс? Не! Калі выціснуць лімон, яго выкідваюць…

Ён змоўк на хвіліну, потым загаварыў зноў.

— У параўнанні са мной вы ўсе вучнёўцы! Да таго ж, хто вас навучыў таму, чым вы цяр займаецеся? Хто ўсё гэта зладзіў? Тое, што вы зараз робіце, але нягегла, прабачце, усяго толькі пераспеў таго, што Я запачаткаваў раней, і за што ледзь не быў засілены… Ды што там казаць,.. адставілі ад спраў, узнагародзілі так… што нігроша за душой няма…

Масальскі ўзбурыўся

— А хто ва ўсім вінаваты? .. вы ж раскралі мільёны. Вы сапраўдная бочка

Данаід[46]…

— А хіба вы лепшыя? – запярэчыў Паніньскі – Як жа! Ксенжа адзін колькі нагроб сабе…

— Прынамсі, я не скарджуся...

— Я таксама… Я толькі думаю… Чаму мы, шэльмы, не можам жыць як прыстойныя людзі… Нам штосьці належыць за гэта… а хіба было б лепей, каб у мяне быў маёнтак, а потым яно канфіскавалі? Ды што ўжо там! Пажыў, дый годзе! Дайце віна.

Баскамп паклікаў слугу, той неўзабаве прыйшоў з бутэлькай бургундскага. Падскарбі змяніўся з твару і прабурчаў:

— Самі венгерскае п’еце, а мне як лёкаю, нейкія памыі. Што робіцца!

— Памылка! – усклікнуў Бяліньскі

— Нішто сабе памылка… я ўсё ж яшчэ не заслужыў таго, каб мяне за парогам так доўга трымалі…

Прысутныя зніякавелі.

Паніньскі папрасіўдаць яму большы кілішак, наліў у яго віна і ўзняў угору.

— За здароў’е васпанства! Жадаю вам такога шчасця, якое напаткала мяне! Віват! Віват! – узнёс ён тост, выпіў і бразнуў кілішак вобзем.

У пакоі запанавала маўчанне. Біскуп у нецярплівасці ўзяўся за падлакотнік крэсла і пачаў уставаць, кісла скрывіўшыся, не гледзячы на падкаморыя, які ўтаропіў у яго свой пагляд. Паніньскі сеў, выцягнуў ногі, рукі засунуў у кішэні, і пазіраў на прысутных. Біскуп яго нечым раздражняў.

— Князь біскуп, – звярнуўся да яго, - а ці не згуляць нам партыю-другую ў карты?

Князь кінуў на яго злосны погляд.

— Успомні, мы не раз гралі з табой, цэлымі начамі… і ты выйграў у мяне нямала дукатаў… і я ў цябе выйграваў, дзе ў чорта цяпер падлічыш, хто колькі... але ўсё ж у тваіх кішэнях іх асела болей…

Біскуп уцёк у другі пакой, а падскарбій дадаў услед яму:

[46] Бочка Данаід – бяздонная бочка.

— Біскуп, пане каханку, – не злуй! Сапраўды, ты не лепшы за мяне… абое мы вартыя адзін аднаго… ні на грам адзін з нас не пераважыць…

Усе падаліся ўдругі пакой услед за біскупам. Застаўся толькі Баскамп. Падыйшоў да падскарбія.

— Княжа, не варта выліваць столькі жоўці на людзей, яны таго не заслугоўваюць.

— А як яны са мной абыходзяцца? Хай сабе, сябрамі яны мне не будуць, а што надакучаю, то такі ўжо я ёсць… Хай прабачаць.

У другім пакоі пачалі гуляць у карты. Паніньскі застаўся адзін, выхапіў з рук слугі бутэльку з віном, паставіў яе каля сябе на століку, наліў кілішак і наважыў у спакоі выпіць яго, нібыта ў сябе дома.

Пачалася гульня, але раптам ёй перашкодзілі дзве высачэзныя постаці, адна ў нечым фіялетавым, другая ў мундзіры расійскай арміі. Яны абмінулі Паніньскага і ўвайшлі ў пакой да гульцоў. Гэта былі біскуп і гетман Касакоўскі. Сярод разнастайных тыпаў твараў, якія былі на сейме, яны не выдзяляліся. У абодвых праглядала важнасць, нават нейкая пышнасць. У біскупа быў твар мкдраца, вочы вучонага, толькі ніжняя сківіца не пасавала да ягонага высокага ілба. У яго былі вузкія вусны, сціснутыя, нібы ў помслівай натуры, і яны псавалі ўражанне ад яго прыгожага чала.

Гетман быў атлусцелы, шыракаплечы, з панскімі замашкамі, горды, бязлітасны. Кат, ды і толькі.

У пакоі тым часам стала шумна. Бяліньскі, які ўжо быў пры картах, устаў насустрач гасцям, Касакоўскі кіўнуў яму галавой, а Масальскі павёў яго і гасцей для гутаркі ў спальню. Без Бяліньскага гульня спынілася, але чакалася, што госці доўга не затрымаюцца. І сапраўды, неўзабаве яны паехалі, а Бяліньскі вярнуўся, ён быў бледны і моўчка асунуўся ў крэсле. Анквіч павярнуўся да яго.

— Чаго ім хацелася?

— Мне здаецца, што яны і самі таго не ведаюць, – адказаў Бяліньскі. Іх злаяў Сіверс, а яны мяне. А на каго лаяцца мне?

— Ты ведаеш, гэта сапраўды цікавае пытанне! – засмяяўся Анквіч. – Лаянка ўрадоўцаў падобна на вядомую гульню, у якой атрыманага плескача тут жа адпасоўваюць суседу. Вось ты можаш якраз злаяць Баскампа.

— Ідзі ты к чорту! Ён стаіць бліжэй да Сіверса, чым я… На мне многа крыві...

І ўсклікнуў ужо іншым голасам:

– Гуляем далей! Сто дукатаў на двойку!
Ягоны голас разбудзіў Панiньскага, які драмаў у першым пакоі… той дапіў віно, потым пайшоў, абапіраючыся на кiёк, да таго століка, дзе ішла гульня. Спыніўся… паглядзеў. Потым падняў з падлогі карту, а руку апусціў у кішэню камізэлькі. Выцягнуў з яе пяць дукатаў.

Паглядзеў на іх, як бы развітваючыся, паклаў чатыры з іх на стол разам з картай

Масальскі кінуў на Панiньскага кіслы позірк.

Двойка, на якую паставіў Паніньскі, прайграла.

Паніньскі застыў, як аслкпянелы.

На твары яго адбілася ўзбуджэнне, было відаць, як яму хочацца выйграць. Ен нахіліўся да біскупа, які сядзеў побач.

– Паслухай, будзь такі добры… пазыч мне пяць дукатаў. Сабакам буду, калі папрашу яшчэ. Толькі пяць…
Біскуп тут жа са злосцю кінуў яму, як жабраку, пяць дукатаў, і адразу ж адсунуўся ад яго з крэслам.

Паніньскі схапіў дукаты дрыжачай рукой… паставіў на першую ж карту, якая трапілася… Іншыя гульцы здзекліва глядзелі на яго.

Маньчыньскі выцягнуў карту. Паніньскі выйграў! Паставіў выйгранае зноў… выйграў яшчэ раз.. дваццаць дукатаў… У яго загарэліся вочы. Паставіў зноў, толькі на іншую карту. І зноў выйгрыш. Прысутныя паглядзелі на яго са здзіўленнем. Падскарбій павагаўся, але гульню не кінуў. Пакуль што яму шанцавала. Засмяяўся і зноў зрабіў стаўку.

Так ён дайшоў да двухсот чырвонных злотых, якія ўсе зараз спусціў Манчынскаму. Пастаяў крыху каля стала… паківаў галавой…. І вярнуўся ў першы пакой. Але бутэлькі там ужо не было. Ён папрасіў падаць яшчэ адну, сеў на канапу і заснуў.

Гульня між тым працягвалася з азартам. Зялёны мяшэчак Масальскага ляжаў на стале амаль што пусты. Анквіч выйграваў. Бяліньскі прасадзіў усё да апошняга гроша і пайшоў будзіць Баскампа, каб папрасіць пазыку.

А тым часам займаўся майскі ранак. На небе гаслі зоркі На ўсходзе святлела, птушкі ў садзе пачалі спяваць. Анквіч адчыніў вакно, якое выходзіла на вуліцу, каб упусціць у пакой свежага паветра. Пакой, у якім ішла ігра, выходзіў на вуліцу. Але з горада яшчэ не даносіласася гукаў, было ціха.

Ужо добра развіднела, а гульня ўсё ішла, свечкі сталі непатрэбнымі, іх згасілі.

Бяліньскі загадаў падаць каву. Гульцы з пабляднелымі тварамі, змучаныя, сядзелі за столікам. Маньчыньскі выйграваў і хацеў завяршыць гульню, але біскуп зазлаваў. Ён паставіў на карту апошняе і хацеў адыгрwelcomeцца. Маньчыньскі папрасіў хаця б перапыніцца, пакуль слугі прынясуць каву.

Кава крыху падмацавала, асвяжыла гульцоў.

— Што там сталася з Паніньскім? – спытаў Анквіч.

Адказам яму стаў гучны храп з другога пакою.

Вуліца за вокнамі пакрысе ажывала, вазы пацягнуліся на рынак, поўапранутыя яўрэі перахаплівалі іх.

Некалькі казакоў прайшлі паўз вокнаў. Зазіралі ў іх.

Анквіч сядзеў, дыхаў свежым паветрам.

— Я вам кажу, як ёсць: пара нам усім пайсці спаць, – прамовіў ён, пазяхнуўшы.

За вокнамі пачуўся шум.

Прысутныя адзін за адным падыйшлі да вакна пацікавіцца, што там здарылася.

Яны ўбачылі вазок, запрэжаны адным канём, ён павольна набліжаўся. З накрытай палатном кабінкі пазірала поўапранутая жанчына, якая трымала каля грудзей голае дзіця. Лес чорных распушчаных валос аблямоўваў яе цёмны твар з прыгожымі вуснамі. Каня вёў загарэлы мужчына ў палатнянай кашулі з шырокім пасам, абсаджаным латуннымі колцамі, босы. Два хлопчыкі ў кашулях, парабак у саламянай шапцы з палкай, і дзяўчынка з распушчанымі валасамі, вялізнымі чорнымі вачыма, пакрытая прасцінай у палоскі, сонная, цягнулася за імі. Дзяўчыне магло быць і пятнаццаць, яна не была прыгожая, але Анквіча ўразіў яе агністы выгляд і гнуткая фігура. Ён глядзеў на яе сквапнымі вачыма. Дзяўчынка таксама ўбачыла яго і спынілася, прашаптала штосьці жанчыне, адкінула валасы назад, загарнулася ў прасціну і, пазіраючы з наіўнасцю і какецтвам, – смела падышла да акна. Малюсенькая чорная рука працягнулася да Анквіча, а другая пачала паказваць яму, што яна можа пагадаць.

Вазок спыніўся, хлопчыкі пачалі прасіць міласціну, яны таксама падбеглі да акна. Анквіч усміхнуўся і працягнуў сваю прыгожую белую руку.

–Ты можаш гадаць, дзяўчынка?

– Магу, – прамармытала яна і паківала галавой.

– Ну і як? Што ты бачыш на маёй далоні?

Дзяўчынка з цікаўнасцю глядзела на ягоную руку.... Раптам яна пачала ківаць галавой і закрычала, адскочыўшы ад Анквіча. Нягледзячы на сваю смеласць і бойкасць, яна крыху сумелася.

Не патрабуючы нават узнагароды, дзяўчынка адступіла далей, чорныя вочы з наморшчанымі бровамі глядзелі на яго са страхам, нават жудасцю, потым яна заламала рукі.

– Ах, праклятая ведзьма, – кідаючы талер ёй пад ногі, крыкнуў Анквіч, – кажы, што ты там убачыла?
Дзяўчына падняла талер, але галава яе дрыжала, рукі паказвалі нешта вельмі страшнае. Ёй нібы адняло мову.

Анкевіч настойваў. Цыганскі вазок спыніўся. Стары падышоў да дзяўчыны, сказаў нешта ёй на вуха, а жанчына выглянула з кабінкі, аддаючы загад вачыма. Нарэшце, калі Анкевіч падняўся з крэсла, абапёрся на вакно абедзвюма рукамі і крыкнуў: – Ведзьма паганая, адказвай! – дзяўчына развязала свой чырвоны пояс, накінула яго на шыю і падняла канцы ў руцэ.

Рух занадта выразна азначаў – цябе павесяць.

Анквіч засмяяўся, адступіў ад вакна і разваліўся ў крэсле.

– Гэта была найлепшая помста за маю цікаўнасць, – падумаў ён
Цыганы паспешліва рушылі далей.

Ніхто, акрамя дурнога міністра, не бачыў гэтага цыганскага прадказання.

"Après tout" (Урэшце рэшт), сказаў Анквіч, – са мной можа здарыцца і гэта.

* * *

Мы зусім выпусцілі з-пад увагі пані шамбялянаву, якая спадзявалася, што ў Гародні з ёй здарыцца многа прыемнага, была цалкам наструнена на гэта. Яшчэ не страціліся яе варшаўскія сувязі з салонамі Люкс і Лазарэвічовай, першаму яна была віннай каля дваццаці дукатаў за карункі ( гэта была такая дробязь – казала яна), а другому – больш за пяцьдзесят дукатаў за тафту на сукенку.

Яна спадзявалася, што ёй удасца добра пакрасавацца ў свецкіх колах, таму заказала ў магазінах пяць ці шэсць сукенак, каб іх пашылі на працягу тыдня. Лазарэвічава клялася ўсім на свеце, што швачкі вельмі занятыя, і добра калі паспеюць пашыць хаця б дзве сукенкі за дзесяць дзён. А што такое дзве сукенкі? А Лех толькі мармытаў, што паспрабуе зрабіць усё, што можна. Усёё аказалася дужа дарагім. За

пяро белага страуса ( а гэта было яе ўлюбёнае ўпрыгожанне) – прасілі пяць дукатаў. Шамбялянава хапалася за галаву. Было ўсяго два цырульнікі, абодва страшэнна занятыя. Праўда, ёй паабяцалі прынесці англійскую парфуму.

З першага свайго ваяжу па крамах яна вярнулася ў роспачы, з хворай галавой. Самому шамбяляну таксама патрабавалася паднавіць свой гардэроб – а пад ягоны вытанчаны густ таксама было цяжка падабраць штосьці адпаведнае. … Да таго ж у доме было сыра і “анёлак” прастудзіўся. … Калі яшчэ яна да ўсяго ўбачыла сцэну з салдатамі, Карскага, які выскокваў праз вакно, жаўнераў, якія стаялі на варце да самай начы, ды паслухала Анквіча, які расказваў пра непрыгожыя сцэны ў палацы, пра людзей, якія забыліся на тое, хто яны такія і штодня сварацца, нібы ў карчме, – шамбялянава за малым магла страціць прытомнасць. Суцешыла яе толькі тая вестка, што рыхтуецца накалькі баляў, што Сіверс просіць яе застацца і дапамагчы сваім уплывам суняць разгневаных звяроў. Анквіч дадаў яшчэ, што трэба абавязкова ўзяць з сабой панну Юстыну, каб павялічыць колькасць прыгожых асоб, сярод якіх і яна будзе.

Тут пані шамбялянава зноў паказала незадаволенасць.

— Але ж яна не салонная паненка, хутчэй “асоба без выхавання”, у вышэйшай ступені звычайная…

— Гэта не страшна – тварык прыгожы… выгляд прыстойны… гэтага дастаткова.

— Што значыць – прыстойны выгляд? Васпан мае свае капрызы… Вы ж гляньце на яе…

Анквіч стаяў на сваім.

— Яшчэ я вам скажу, што я не вельмі ўпэўнена ў ёй, – дадала шамбялянава.

— Як гэта? У чым?

— Ну, хаця б у тым, што мне здаецца, нібы яе галава занята патрыятызмам. Гэта так на яе падобна. Па праўдзе, яна ніколі мне гэтага не казала, бо я б на яе насварылася, але ж калі адбылася гэтая сцэна ў дварышчы, калі гэтых двух падбухторшчыкаў зусім справядліва ўзялі пад варту, яна залемантавала, аж дзіўна было… кляла маскалёў. Аднак я прымусіла яе замаўчаць.

— Ну, ці бачыш пані, – літасць уласціва жанчынам, – адказаў Анквіч, – ды і Сіверс няправільна зрабіў. Сам жа шкадаваў потым. Згарача, не падумаўшы.

– А я лічу, што правільна, добра і справядліва, – запярэчыла пані шамбялянава… Трэба іх вучыць розуму, калі ўжо свайго няма. Яны тут нам і сейм сарвуць, і забавы

спыняць, і пасла ўгавораць…
– Анквіч змаўчаў.
– Надзеі на забавы супакоілі Мілюсю, і тут якраз увайшоў яе муж, якога Анквіч чакаў, хацеў з ім перагаварыць, і размова спынілася.

Гаспадыня далучыла да іншых непрыемнасцей і неабходнасць асцерагаць ротмістра. Хоць ён даў слова гонару, пры сведках, што не будзе браць гарэлкі ў рот, але адразу ж у першы вечар парушыў абяцанне, абпіўся ковенскай медавухай дазвання, з лютасцю лаяў сястру ... і камергера хацеў узяць за горла... і той напалохаўся так, што аж атрымаў нервовы цік, і яму давялося выпіць кроплі для супакаення, настоеныя на рагах аленя...

– Шамбялян хацеў прадставіцца ў замку, але яго намер таксама быў няўдалым, кароль не прымаў яго зноў і зноў – адгаворваючыся тым, што няма часу. На трэці ці чацвёрты дзень ротмістра пасадзіў на гаўптвахту падпалкоўнік Касталінскі[47]… сястра папрасіла ўтрымліваць яго там некалькі дзён, каб яна магла дыхаць крыху вальней...
– Шамбялян не мог удзельнічаць у баляваннях, і гэта псавала яму настрой… ён не знаходзіў сабе месца. Але на ягоным гарызонце пачало святлець: яго неспадзявана апанаваў новы клопат. Неяк раніцой нейкі незнаёмы сярэдняга веку паявіўся ў шамбяляна, распытваў пра панну Юстыну. Распавёў, што ён даводзіцца ёй родным братам, што яна не бачыла яго дзесяць год, бо ён, паводле яго слоў, быў на вайсковай службе за мяжой, меў званне паручніка. І сапраўды, хаця ён быў у цывільным, але была ў яго вайсковая пастава. Чалавек ён быў як быццам прыстойны, але ж “не нашага кола”, як сказала пані шамбялянава. Штосьці суровае, змрочнае было ў ягоным твары... ён мала што расказваў пра сябе, не выхваляўся – быў поўны нейкіх сакрэтаў. На пытанне, чаму ён прыйшоў, ён адказаў, што хацеў бы ўбачыцца з сястрой... а гэта не было (па словах пані шамбялянавай), падобна на праўду . Ён і ёй не спадабаўся.
— Ён такі самы шэры, як і сястра..... Хоць бы не застаўся ў нас і не стаў прыжывалам, як яна. Цяжка трымаць на карку цэлае сямейства.. Шамбялян, які ва ўсім слухаўся сваёй жонкі, і тут быў згодны з ёй. Але ж і нельга было забараніць яму прыходзіць… Ён гадзінамі сядзеў у сястры, але вячэраць на заставаўся.

— Цікава, пра што яны падоўгу размаўляюць – думала “боская Мілюся”. Яна нават спрабавала падслухоўваць пад дзвярыма, але нічога не пачула: гаварылі ціха. Гэта здалося ёй падазроным. Напэўна ж той, каму няма чаго хаваць і ўтойваць, не будзе гаварыць шэптам. Так што невядома, што ён за чалавек. Можа і небяспечны нават… Яна таксама не хацела наблізіць яго да дому. Была з ім

[47] Іван Касталінскі - расійскі падпалкоўнік, камандзір батальёна, які стаяў у Гародні.

надзвычай халоднай, і шамбялян трымаўся з ім холадна, нават напышліва, стараўся радзей сустракацца з ім, не загаворваў… Ён баяўся якіх-небудзь напрыемнасцей, і так ужо хапіла арышту ротмістра, а тут яшчэ гэты брат. Шамбялян яго пабойваўся. Ні ён, ні жонка не маглі ўведаць, як доўга госць затрымаецца ў іх. А яшчэ якраз на другі дзень яны ўбачылі , што ён сядзіць у дварышчы таго дома, дзе жылі бунтаўшчыкі Мікорскі і Краснадэбскі, і было бачна, што добра знаёмы з імі. Адкуль ён іх ведае? Гэта вельмі падазрона. Пані Еліна не магла ўтрываць і спытала пра гэта.

– Чаму твой брат знаецца з бунаўшчыкамі?
– Ён казаў мне, што даўно ведае іх.
– Паслухай, ён жа нам не чужы, – павучала яе пані, – табе трэба яго папярэдзтць, каб не знаўся з такімі людзьмі, бо можа кінуць цень і на нас… І на наш дом падзе падазрэнне, бо ён і там, і тут…
– О, хай пані не бярэ гэта ў голаў, – з усмешкай адказала Юстына. – нашаму дому нішто не пагражае. У яго няма намераў бунтаваць. Брат кажа, што доўга тут не затрымаецца.
— І куды ён падасца?

– Яшчэ і сам не ведае. І мне не казаў.
– Дзіўна", – умяшаўся шамбялян, – вы так часта размаўляеце паміж сабой...

– Мы ж не бачыліся столькі гадоў ...

Нягледзячы на агіду да гэтага няпрошанага госця – як яна называла яго – на наступны дзень яна мімаходзь папрасіла яго прыйсці на вячэру.

– Хай ён лепш пазнаёміцца з намі ...

Брат і сапраўды прыйшоў. Яго адзенне і аблічча выдавалі ў ім чалавека, свайго ў свецкіх салонах. Трымаўся ён свабодна, як сярод роўных сабе. Пані прыкмеціла гэта.

Завязалася размова. Пані была надзвычай уражана. Яна пачула ад паручніка, што ён пабываў многа дзе на свеце, аб’ездзіў Еўропу, бываў нават пры саксонскім двары. Гэта ёй спадабалася. З польскай мовы перайшлі на французскую, аказалася, што ён мог размаўляць і на ёй.

— Дзе гэта ён так адукаваўся? – задумалася пані. Ды і шамбялян быў у недаўменні. Але спытаць не наважыўся. Толькі ўсміхаўся і ківаў галавой. Пані старалася разгаварыць яго і так, і гэтак, і тут аказалася, што ён вельмі асцярожны ў выказваннях, гаварыў як бы і пра многае, але нічога карыснага з яго слоў яна для сябе не здабыла. І гэта падалося ёй падазроным. Акрамя таго, непрыемнае

ўражанне пакінула яго абыякавасць да шамбяляна, было падобна на тое, што яго ён не зацікавіў. Чаго не было, таго не было.

Мілюся была ў недаўмені. Калі паручнік пайшоў, яна не магла стрымацца і абазвала яго якабінцам.

Шамбяляну не спадабалася гэтая мянушка. Ён быў уражаны. Дакладна не ведаючы, хто яны такія, гэтыя якабінцы, ён звязваў з імі тое, што несла мірным людзям смерць, пажарышчы, вынішчэнне. Упамінанне пра якабінцаў пасяліла ў ім трывогу. Яму хацелася хутчэй пазбыцца яе.

Увечары пані не вытрымала і расказала пра паручніка Анквічу. Той занатаваў гэтыя звесткі алоўкам на паперы, каб аддаць загад паназіраць за падазроным. Паліцыя ў Гародні была ўзорнай. Пані не забылася нагадаць і пра Мікорскага з Краснадэбскім. Анквіч насцярожыўся. Але назаўтра пан міністр з усмешкай расказаў, што паручніка баяцца не трэба. Яго выдатна ведаў Баскамп, лічыў яго добрым ваяром, ведаў, што той хацеў служыць у расійскім войску, пра што камусьці паспеў расказаць.

Пані шамбялянава супакоілася.

Сястра, панна Юстына, таксама цікавілася, як жыў без яе брат у тыя гады, калі ён прапаў без вестак. Іх было толькі двое родных ва ўсім свеце, лвое сірот. Праз дваццаць год яны сталі зусім іншымі, ім трэба было зноў пазнаёміцца, зблізіцца, адкрыцца. Яны ледзь не са страхам пачалі расказывць пра сваё жыццё, у якім магло адкрыцца і нешта страшнае, неспадзяванае.

Юстына расказала брату ра сваё жыццё ў доме шамбяляна… але не скардзілася на свой лёс, нічога благога не сказала пра тых, хто даў ёй прытулак.

— Наколькі я бачу, сказаў брат, – гэта не вялікая ўдача, апека над табой, і калі б што якое здарылася, то я б не ўгаворваў цябе застацца тут. Мне хапіла часу, каб разабрацца. Старая пані – шляхцянка, а ён сам нейкі як бы непрытомны, вельмі ганарысты, але бессардэчны.

Панна Юстына нічога не адказала.

— Быць пад апякунствам – рэч непрыемная… А дом маіх маскоўскіх сяброў адкрыты, я гэта бачу, маё сэрца з імі.

Панна Юстына кіўнула галавой, пацвярджаючы словы брата.

Брат устаў, ён быў моцна ўсхваляваны.

–Я спадзяюся, – дадаў ён,– што ты прынамсі захавала і іншыя лобрыя пачуцці, што

на цябе не паўплывала тое… што вакол цябе цяпер…
Сястра зачырванелася і жвава запярэчыла.

– Успомні лёс нашага бацькі, сказаў брат, – Ці можаш ты абвінаваціць мяне, дазволіць мне ... сцерці гэтае адчуванне, што ён стаў ахвярай?"
Паручнік абняў яе.

– Прабач,– сказаў ён, – дзякуй Богу, мы разумеем адно аднаго ...
Нейкі час ён, здавалася, думаў пра гэта, потым пачаў распытваць пра шмат якія рэчы, звязаныя з сеймам, пра якія Юстына чула за сталом з вуснаў шамбяляна. Ён цікавіўся самымі дробнымі дэталямі...

– Прызнайся, – папрасіла яго ўвечары сястра, – ты не прыйшоў сюды вярэдзіць мае раны ... і не ... дзеля забавы.

Яна паглядзела яму ў вочы.

– А як ты думаеш? – брат усміхнуўся. – Думай сабе што хочаш… а я не магу табе сказаць усяго... я маю справу з многімі людзьмі...
У той дзень ён распытваў пра дамініканскі манастыр і не вярнуўся да самага пазна ... На жаль, ротмістра вызвалілі, і ўвечары ён быў нібы нябачным шпіёнам за паручнікам. Сястра папярэдзіла яго пра гэта, таму на наступны дзень небяспека была знята з дапамогай мёду, і ротмістр не клапаціўся пра яго, калі брат знік з поля зроку і не пацікавіўся, дзе ён знаходзіцца ... Ён вярнуўся дадому п’яны , спяваючы ва ўсё горла ... ляснуў дзвярыма, а шамбяляну, які зайшоў у пакой, прыгразіў, што надае яму па карку.. шамбялян замкнуўся ў сваім пакоі... І зноў усчалася тая самая гісторыя, якая столькі разоў паўтаралася: пагрозы сястры, лаянка, а на наступны дзень кляцьба і зарок больш не піць, а вечарам зноў медавуха і песні ...

Шамбялян прыйшоў да думкі, ці не адаслаць дарагога швагра дадому. Гэта была смелая, незалежная думка, але ўсё ж камергер хаця і пераказаў яе любай Мілюсі, у канцы дадаў: “Хаця – рабі як сабе хочаш”.

Пані шамбялянава задумалася. Яна як заўсёды, спачатку не прыслухалася да парады мужа, бо не дазваляла яму кіраваць сабой, але ўрэшце напісала ў той жа дзень эканому ў маёнтак, каб назіраў за капітанам, а пасля абеду адправіла яго ў вёску, каб ён назіраў за гаспадараннем эканома. Гэтак яна пазбавілася ад родзіча, спадзеючыся, што ротмістр, які даўно хацеў узяць на сябе вядзенне спраў у маёнтку, будзе старацца кіраваць гаспадаркай у цвярозым стане ў надзеях на будучае.

Ротмістр пачаў пакаваць рэчы. Шамбялян ніяк не выказаў радасці ад таго, што той з’язджае. Але быў задаволены, што жонка паслухалася ягонай парады, і пасля

таго, як ротмістр паехаў, зайшоў у пакой да “боскай Мілюсі”, стаў перад ёй , усміхнуўся і спытаў:

– Ну як, рыбанька?
– Што значыць як?
– Як табе мая парада?
– А, наконт твайго брата? Жонка паціснула плячыма. – Па праўдзе, я сама пра гэта ужо даўно думала.
– А, ну то і добра. – прамовіў шамбялян, цалуючы ёй руку. – Ты толькі не злуйся.
На тым і скончылася.

* * *

Нягледзячы на ўсе намаганні Сіверса, справы ў сейме ішлі марудна, час сплываў. Яму ледзве ўдалося, праяўляючы найвялікшую цярплівасць, схіліць дэлегатаў да дамовы з Расіяй. У парламенце, аднак, кожны дзень гучалі палкія, горкія, часам жудасныя пратэсты і пагрозы. Твары ўсіх прыхільнікаў Сіверса былі прысаромленыя, прыніжаныя, роспачныя. Ім штодня, лічы, плявалі ў вочы. Не дапамагала нават тое, што яны зрабілі абыякавы выгляд. Яны стараліся выглядаць вясёлымі, але за гэтай прытворнай весялосцю хаваліся трывога і смутак.

У замку, дзе пражываў кароль, было не лепш, чым у Гародні, дзе валадарыў Сіверс. Часам пасол пераставаў наносіць візіты каралю, па некалькі дзён не бачыў яго, потым зноў прыходзіў, зноў пагражаў яму. Прасіў, каб пайшоў на добраахвотныя саступкі, пані Кракоўскую, сястру караля. Кароль, як ніколі раней, быў сур'ёзны і маўчаў. Ён трымаўся ранейшай думкі, якую выказваў публічна і прыватна:

— Імператрыца ва ўласнаручным лісце пажадала, каб я падтрымаў таргавіцкую канфедэрацыю дзеля цэласці Рэчы Паспалітай. Яна ад свайго не адступае. Каля караля вярцеўся Літлепаж, англійскі пасол, шустры, падазроны чалавек, фаварыт двара і пастаянны ўдзельнік нарад пры двары. Сіверса ён запэўніваў, што кароль падпіша трактат, хаця і не адразу. "Я вазьму яго за пазыкі і голад!" - сказаў Сіверс. Але часам ён быў неспакойны.

Не ведама было, адкуль узяліся грошы ў замку. Каля караля круціўся аўстрыйскі пасол… таму была на падазрэнні Аўстрыя. Шляхта ўголас абмяркоўвала думку, што яна з пазычыць грошы каралю, толькі хай ён не падпісвае падзелу.

Сіверс хадзіў пахмурны. У яго былі зброя і салдаты, а але насілля ён не хацеў, ён лічыў яго непрыстойным. Ён палічыў бы за лепшае б сысці ў цень, чым адважыцца на адкрытае насілле.

Сейм мог так цягнуцца да бясконцасці, дні праходзілі дарэмна, некаторыя з пасяджэнняў, часам не эфектыўныя, доўжыліся да позняй ночы. Дачакаўшыся канца, Сіверс часам праводзіў час у замку разам з спадарыняй Кракоўскай, побач з залай сойма. Раз-пораз да яго даносіліся паведамленні ... і пасля кожнага з іх твар станавіўся ўсё больш затуманеным.

Ён вінаваціў караля больш за ўсё, бо аддаў яму свае прыбыткі, і за Тышкевіча, на якога ён наклаў секвестр.

Ва ўсякім выпадку, ён нікому з іх не мог давяраць. Часам у Гародні, да якой ад замка ішла шырокая дарога, ён сядзеў, чакаючы навін пра сейм, а калі іх прыносілі, ён лаяўся і кіпяціўся.

Аднойчы ўвечары кароль пакінуў сесію, бледны і дрыжачы, сцёр халодны пот з ілба. Хістаючыся на нагах, ён перайшоў да сястры, там убачыў і Мнішчаву. Дзве жанчыны сядзелі адны, маўчалі. Пані Кракоўская раскладвала пасьянс, Мнішчова нібы скамянела, у абодвух былі сумныя твары.

Да кватэры спадарыні Кракоўскай часам даносіліся мітусня і выбухі галасоў. Бегалі па калідорах і па лесвіцы, перапынялі адзін аднаго воклічамі.. Жанчыны маглі толькі здагадвацца, што адбывалася ў зале.

Кароль збялеў, паперы выпалі з яго рук, Мнішчава кінулася да яго, падала яму руку і правяла да крэсла. Слабым голасам кароль папрасіў кубак булёну.

Яны не адважваліся нічога спытаць у караля. Ён сядзеў глыбока ў думках і маўчаў, не ў настроі з самай раніцы... Пані Кракоўская лепш ведала, што ў гэтым выпадку найбольш эфектыўным лякарствам быў царскі розум, Кароль лёгка пераходзіў у думках з аднаго ў другое, нават самае далёкае – каб мець справу з чымсьці зусім чужым.

Пані Кракоўская думала: навошта адрываць караля ад сумных парламенцкіх успамінаў. І тут кароль якраз спытаў слабым голасам:

– Ці быў Сіверс? ..

– Некалькі гадзін таму ...

– Напэўна, у дрэнным настроі?

– Не, у самым найлепшым...

– Гэта для мяне надзвычай цяжка, - дадаў кароль, - Я перажыў іх шмат, Рэпнін ... Салдэрн, Штакельберг, Булгакаў ... ні адзін з іх не быў такім для мяне настолькі нязручным для справы і невыносным.

Ён уздыхнуў.

– У тых-то хоць нешта тварылася ў душах ... гэты ж – як машына ... Рэпнін быў жорсткі, але часам у яго была сардэчнасць ... Хтосьці мог паўплываць і на Стакельберга.

Потым прыйшла пані Мнішчава, якая сама ўзяла кубак у дварэцкага і аддала яго каралю.

– Вы кажаце пра Сіверса .... – прашаптала яна, – але - але мне здаецца, што вы можаце крыху паўплываць на яго ...

– Якім чынам? – спытаў кароль, – Я хацеў адправіць падарунак сваім дачкам ... Я выбраў самы прыгожы камень, а мне яго вярнулі, таму што ахвяра за кошт Рэчы Паспалітай не дазваляецца. ... Ведаеш, што мне сказаў Фрыз? Ён раззлаваўся і зрабіў такую заўвагу, што я не павінен рабіць падарункі, калі ў мяне ёсць даўгі.
– Грубіян! – адрэзаў Фатман.
Кароль падняў галаву, аддаў кубак і папрасіў:

– Дзеля ўсяго святога, раскрыйце мне гэты сакрэт .... Хто? Што?
Мнішчава гарэзна ўсміхнулася.

– Ён вельмі любіць музыку і спевы з прыгожых вуснаў...

Кароль на імгненне быў ашаломлены.

– Ды не! Ён цалкам абыякавы да жанчын.
Мнішчава ўсміхалася.

– Вы ў гэтым упэўненыя?

– Ну, калі ласка, скажыце, не цягніце...

– Ён можа растаяць, калі пачуе анёльскі голас графіні Камелі ...

Твар караля на імгненне загарэўся ...

– Я ведаю, што ён хваліў яе, – але не за гэта ... ён застанецца для яе такім жа цвёрдым і непахісным, як і ....

– Хто гэта ведае? жанчыны могуць зрабіць шмат!

– Калі яны хочуць, і могуць, – ціха дадаў кароль. – На жаль, Камелі адышла ад двара, і шамбялян раззлаваўся на мяне за тое, што ён не даў ёй столькі, колькі яна хацела, падарожнічаць, каб злучыцца з ім... Па праўдзе, яна мне не па душы…

– Хто б мог здагадацца, што нам спатрэбіцца грацыя графіні Камелі?!

– І яшчэ палічыце графа Martini, яе брата, – дадала Мнішчава, з крывой усмешкай...

Кароль глыбока задумаўся ...

–Так,– сказаў ён неяк няўпўнена, – так ... Я мог бы запрасіць яе, калі яна хоча ... Я падумаю, бо я хачу тысячу дукатаў! Раней было так, што гэта для мяне нічога не значыла, але сёння!
Ён паціснуў плячыма.

– У каго сёння ёсць хоць адна тысяча дукатаў! – дадаў ён смехам...

Абедзве дамы моўчкі развялі рукамі ...

– І тысячы дукатаў, –дадаў кароль, – маглі быць страчаны, таму што Камелі такая ж хітрая, як і ўсе італьянцы, і я, хаця мая любімая пляменніца ў мяне ў руках, я не магу паверыць, што Сіверс дазволіў сабе зламацца. Стараваты ён....

– Гэта не так, – нявесела прамовіў кароль, – мне з самымі старымі прасцей за ўсё, іх лягчэй зламаць ... але Сіверс халодны ... як лёд. У яго ніколі не было сэрца – пачуцці цьмяныя, навошта ён каму?

– І ўсё ж дзеля графіні Камелі Сіверс усё кідае, слухае яе гадзінамі, для яе ўся кампанія «не існуе», размаўляе толькі з ёй, глядзіць ёй у вочы, а мы, жанчыны, мала ведаем ... пра гэта.
Кароль, здавалася, быў канчаткова пераканаaны.

Ён зірнуў на гадзіннік – нпбліжалася поўнач. Устаў з крэсла.

– Chère soeur ( дарагая сястра. франц.), – пажадаў спакойнай ночы Кракоўскай. Мнішчава праводзіла караля да дзвярэй. Там стаялі двое слуг і двое лёкаяў, яны і правялі караля да ягоных пакояў. Яны выглядалі дужа ўбога пасля пакояў у Варшаўскім замку, хаця і былі нядаўна падноўленыя, але голыя, стаяла там толькі самае неабходнае, было пуста і сумна. Кароль моўчкі прайшоў міма некалькіх гэтых пакояў, у якіх стаялі шэрагі крэслаў, быццам прыбітыя да сцен.

На парозе спальні стары Рыкс, Пясечанскі стараста, сустрэў яго з пытаннем у вачах. То быў самы адданы слуга, ад якога ў караля не было ніякіх таямніц, чалавек, які прысвяціў сябе любімаму пакутніку целам і душой. Слабы кароль быў

найдабрэйшым чалавекам у прыватным жыцці, і Рыкс аддаў бы за яго жыццё. Яго часта спрабавалі падкупіць, ён не разумеў нічога ў палітыцы, у яе таямніцы не ўваходзіў, але там, дзе закраналіся інтарэсы караля, у яго быў нейкі чыста мацярынскі інстынкт. Ён жыў ім. Цяпер, нядаўна страціўшы жонку, ён стаў яшчэ больш чулым для гаспадара – чые пакуты ён балюча ўспрымаў. Рыкс быў не малады, удумлівы, з сур'ёзным тварам, пакрытым маршчынамі. Як толькі кароль з'явіўся, ён узяў яго за руку і павёў да крэсла перад сталом, на якім гарэлі дзве свечкі. Вобмегам зняў з караля верхняе адзенне і даў яму халат. Станіслаў Аўгуст упаў у крэсла і падпёр рукой галаву . Ён не ўбачыў фігуры, якая стаяла крыху воддаль,у куце з паперамі ў руцэ, і здавалася, чакала.

Рыкс прашаптаў:

–Да вас пан Фрыз.
Кароль павярнуўся і ўбачыў Фрыза.

З той лёгкасцю, якая прыйшла за гады жыцця на троне, кароль імгненна змяніў змрочны выраз твару на мяккі і ўсмешлівы, бо ён ведаў, што Фрыз дасць справаздачу паслу нават і пра выраз твару караля.

Фрыз быў своеасаблівым ахоўнікам, шпіёнам, афіцыйным дарадцам, прыстаўленым да яго ад расійскага пасольства. Звычайна перапіска ішла праз яго рукі, адтуль Сіверс атрымліваў выпіскі першым, раней, чым сам кароль. Ён быў немцам у поўным сэнсе гэтага слова, лічыўся пецярбургскім консулам, бо ў яго ўжо былі тытул і грошы, і абяцанне атрымаць дваранства ў Расіі. Ён выказваў вялікую прыхільнасць да караля, кароль плаціў тым жа.

– Дарагі мой Фрызі! Што ў цябе зноў? Ты не дазволіш мне адпачыць?

– Крэсі прынёс лісты.

– Вы іх чыталі?

– Так, ваша вялікасць.

– Нічога суцяшальнага, напэўна.

– І адкуль жа яму ўзяцца! – усклікнуў Фрыз.

–Вы бачылі пасла сёння?
Фрыз я крыху прамарудзіў з адказам.

– Так, ён пасылаў па мяне. Ён вельмі, вельмі змрочны.

– А як жа! – кароль уздыхнуў.

– У яго таксама складанасці з Сеймам, – смела дадаў Фрыз. – Чыстая камедыя! Толькі дарэмна мучыць сябе. Было б чаго смуткаваць!
Ён паціснуў плячыма.

– Дарагі госць, – прамовіў кароль, – поўнач мінула, прашу цябе, дай мне адпачыць.
Фрыз глянуў на Рыкса, які стаяў воддаль, нагнуўся і прашаптаў Станіславу на вуха:

– Ваша вялікасць – трэба стрымаць яго напор! Рабіце, што можаце. Сіверс мяне раздражняе. Я апасаюся… наступстваў…
– Але што я магу? – прашаптаў кароль.
– Сіверс занадта многа сабе дазваляе.
– Дабранач… – Станіслаў працягнуў руку для развітання. – Дабранач.
Фрыз цырыманіяльна пакланіўся, і выйшаў, бачна было, што ён вельмі незадаволены.

Рыкс праводзіў яго поглядам, паціснуў поячыма. Кароль адвярнуўся ад дзвярэй і зрабіў знак:

– Падай мне шкатулку з каштоўнасцямі, прашу цябе.
– Як гэта? Зараз?
– Так, зараз, прашу цябе. Ты ж ведаеш, тую, што прыслалі з Варшавы.

Пясечынскі стараста хуценька выйшаў у другі пакой і вярнуўся з дубовай скрыначкай з двума замкамі. Паставіў яе перад каралём. Перабраў звязак ключоў, знайшоў патрэбныя, адамкнуў шкатулку і стаў збоку. Станіслаў Аўгуст зазірнуў унутр. Там былі каштоўнасці, якія на Чатырохгадовым сейме былі прызначаны для войска. Таргавіца іх сабрала, а Сіверс аддаў каралю. З іх кароль ужо аднойчы хацеў ўзяць некалькі пярлін для дачок пасла, яле яму было адмоўлена. Там ляжалі загорнутыя ў кавалачкі паперы, неапрацаваныя каштоўныя камяні, старамодныя каралі, пярсцёнкі, завушніцы ... З якім смуткам кароль глядзеў на гэтыя парэшткі, якія нагадвалі яму пра лепшыя часы. Рыкс таксама выглядаў смутным, стаяў, склаўшы рукі.

– Дрэнна, сэр, гэта усё, што засталося.
Кароль пачаў ліхаманкава шукаць і перабіраачь каштоўнасці. Некалькі камянёў упалі на зямлю,. Рыкс падняў іх ...

Кароль узяў у рукі пярсцёнак з вялікім смарагдам, надзеў яго на палец, палюбаваўся, як ён прыгожа пераліваецца пры святле свечак, нешта ўспамінаў. Зняў, паклаў у шкатулку, пачаў перабіраць далей. Знайшоў аметыставыя каралі, паклаў іх на стол. Зачыніў шкатулку і адсунуў яе ўбок.

– Мой дарагі Рыкс, – прамовіў кароль, – я зноў мушу прасіць тваёй дапамогі.
– Але ж вы ведаеце, ваша вялікасць…
Вось што я табе скажу… Хто ж мог чакаць ( ён панізіў голас), а мне кажуць, я ведаю, з найлепшай крыніцы, што Сіверс клапаціўся пра графіню Камелі. Мне трэба, каб яна падтрымала мяне перад Сіверсам. Што хоча гэты чалавек ад мяне? Ён усю віну на мяне ўскладае. А я – вы ж ведаеце – што я магу зрабіць?

У роспачы кароль ламаў рукі.

– Знайдзіце місіс Камелі, пагаварыце з ёй. Вы можаце зрабіць так шмат ... Дайце ёй гэты маленькі падарунак ...

Рыкс паківаў галавой.

– Я паспрабую, але гэта цяжка будзе зрабіць… Трэба, каб я ўбачыў графіню сам-насам. Ніякіх пасрэднікаў, інакш яна адмовіцца.. або наробіць розгаласу.
– Дзе яе можна сустрэць?
– Калі яна папросіць аўдыенцыі… я магу гэта зладзіць.
– А час ідзе! Яны хочуць узяць мяне зморам. Змовіліся між сабой, не даюць мне жыцця…
– Усе яны… Сіверс, патрыёты… Таргавіцкія… Кассакоўскія… рускія… і мае землякі – я ў іх усяму віной… на мяне ўсё ўскладаюць. Хай бы хоць Сіверс палагоднеў...

– Калі графіня Камелі можа паўплываць на яго, у чым я сумняваюся, то трэба паспрабаваць. – прамовіў Рыкс – ёй можна даць не адну, а дзве нізкі караляў, абы толькі гэта дапамагло.
– Паспрабуем…
Яны яшчэ крыху пагаварылі. Кароль задумаўся. Была ўжо гадзіна начы. Рыкс завесіў полаг каралеўскай пасцелі.

Невядома, як тое сталася, але назаўтра раніцой графіня Камелі папрасіла аўдыенцыі ў караля. Яна была запрошана ў кабінет манарха. Яна была прыгожая, зграбная, бледная, энергічная, упэўненая ў сабе італьянка. Прырода падаравала ёй салаўіны прыгожы голас, і не менш прыгожы твар. Праўда, гэтыя рысы мала што самі па сабе гаварылі ... але яны былі такімі вытанчана свежымі, такімі захапляльна заружавелымі ад бурнага маладога жыцця ... Маладосць свяцілася ў іх. У яе вачах – палкае жаданне чараваць свет, смяяцца ... гэта рабіла ўражанне. Лёгка было зразумець, што калі гучаў яе спагадлівы голас, то нават у грудзях старога чалавека вібравалі даўно маўклівыя струны.

Кароль прыняў яе з добрай усмешкай ...

– Шчаслівы, што пані шамбялянава захацела мяне праведаць…

– Ваша вялікасць! – тут жа перапыніла яго Камелі, – Я не госця, а бедная просьбітка.

– Пані! Я не ўпэўнены, – сказаў кароль, – але думаю, што нашы ролі памяняюцца. Ён паглядзеў у яе чорныя вочы ... Яны смяяліся крыху насмешліва ...

– Дарагая графіня, – ціха праказаў кароль, - я запэўніваю вас загадзя, што калі вы папрасіце што-небудзь ... усё будзе споўнена... Але ж вы ведаеце, які я тут кароль, і што я магу ...

Італьянка маўчала.

– Зрабіце спачатку вы што-небудзь для мяне ... – Ён нахіліўся да яе вуха – Сіверс любіць слухаць як вы спяваеце, ён проста звар'яцеў і ад спеваў і ад спявачкі.

Смяючыся, графіня паківала галавой.

– Але, гэта так, гэта так, – дадаў кароль, - калі ласка, не адмаўляйце нічога... Я паважаю гэтага шаноўнага старога ... але, мая графіня, паспрабуйце паўплываць на яго ... Ён вінаваціць мяне ва ўсім, ва ўсім ... Хай ён не будзе да мяне такі суровы, такі бязлітасны ...
Сказаўшы гэта, кароль падыйшоў да століка, дзе стаяла невялікая скрыначка, узяў яе і перадаў графіні. Яна густа пачырванела.

Яе ўбранне, абвешанае ўпрыгожаннямі, яскрава паказала, што італьянцы падабаюцца каштоўныя камяні... кольцы блішчалі на ўсіх пальцах... Кароль не мог выбраць падарунак больш дакладна.

Яна крыху ўздрыгнула...

– Але, калі ласка, прыміце гэта як знак памяці пра мяне. Я маю на гэта права... Не забудзьцеся пра маю просьбу, пані! І ён пацiснуў яе пульхныя, белыя рукі.
– Я даю вам сваё слова ... я выканаю ... што заўгодна, будзьце ўпэўнены...
Раптам Кіцкі пагрукаў у дзверы, абвясціўшы прыход генерала Раўтэнфельда ад Сіверса... Кароль даў графіні знак, што ён схавае свой дар, і гэта таксама было зроблена надзвычай добра...

Італьянка была настолькі ўмелай, што, калі генерал ужо ўваходзіў, яна паўтарыла, вяртаючы памяць караля, пра сваю просьбу...

Станіслаў Аўгуст паабяцаў, хаця і не ведаў, пра што ідзе гаворка ...

Генерал сустрэў караля з вытанчанай ветлівасцю, а той пасляшаўся падыйсці да яго, імкнучыся не застацца ў даўгу ...

Кіцкі мусіў выйсці, яны засталіся адны. Графіня Камелі незаўважана выслізнула з замка, але ў калідоры нібы выпадкова сустрэла маршалкоўну Мнішчаву. Ганарлівая каралеўская пляменніца ніколі раней не была у добрых стасунках з графіняй. Камелі, сястра графа Марціні, успрымалп гэтае кола прыдворных як вельмі падазронае і ставілася да іх як да авантурыстаў, але сёння яна прывітала яе вельмі ласкава.

– Chere comtesse! (Дарагая графіня! франц.)! – усклікнула яна. – Пані Кракоўская сярдуе на вас ...

– На мяне?...

– Mais, si ( Так. франц.) – пані даўно ўжо не была ў яе.

– Ах! праўда! Я вінаватая перад ёй, але ў Гародні ніхто не гаспадар свайму часу. Вы гэта лепш за ўсё ведаеце.
– Правільна! але патрапіўшы ў замак, зазірніце дя яе на імгненне ...
Яна ўжо стаяла каля дзвярэй... Куды пайсці? Графіня Камелі павагалася і павярнула налева.

У той час як кароль быў ветлівы і добразычлівы з усімі, ксёндз і пані Кракоўская выказвалі гонар і холад. Дакладней, апошняя паказвала свой гонар з нейкай перабольшанай урачыстасцю. Паходжаннем з роду Чартарыйскіх, сястра караля. жонка гетмана, пані Кракоўская, лічылася самай прыгожай жанчынай у Польшчы. Прымас пасля караля стаяў найбольш высока, – а яна (калі не лічыць каралевы) лічыла сябе ў чымсьці прынамсі роўным яму. У рухах, у гаворцы, абыходжанні яна як бы выказвала упэўненасць, што ўсе павінны адчуваць сябе шчаслівымі, каму яна кідала слаўцо з вышыні аблокаў, у якіх, здавалася, вечна валадарыла.

Любоў і павага да яе брата трымалі яе на гэтых высокіх месцах. Гэта быў часовы поспех, а яна ўявіла яго нязменным. Былі выпадкі, калі яна заклікала сакратароў да сябе і дазваляла сабе чытаць паведамленні раней часу, перш чым яны былі перададзены каралю. Жанчыны пазбягалі яе. Але сёння, сёння, калі кароль быў таксама зоркай над воблакамі, – толькі сум і маўклівае сумненне засталіся з усяго гонару пані Кракоўскай.

Калі дамы ўвайшлі ў салон, там не было пані Кракоўскай, Мнішчава пабегла за ёй, і якраз згледзела графаіню Камелі. Саноўная пані прайшла каля яе з абыякавым тварам.

Іх вітанне было знешне сардэчнае, сястра караля змірылася з тым, што яе募раўзыйшла больш прыгожая дама, што нават яе так любімага голасу зараз не будуць слухаць.

І яна помсціла Камелі як магла і ўмела.

– Таму што вы адна, дарагая графіня, - прамаўляла матрона, лежачы на канапе, – вы адна дорыце няшчасным гарадзенцам забыццё і ўтульнасць. Так, адна. Улагоджвайце сэрцы, дарагая мая, калі Бог даў вам такую сілу ...
Тут Мнішчава ўключылася ў размову. Яна зразумела, што Камелі пакутуе і сядзіць, нібы на іголках. Беднай італьяцы кроў прылівала да шчок, калі ёй згадвалася, што ўжо ведае ўвесь горад пра тое, што Сіверс глядзіць на яе так ласкава. Ён цешыў яе гонар і разам з тым бянтэжыў.

Пані Кракоўская не пасаромелася замовіць слова за караля шамбялянавай і папрасіць скарыстаць свой уплыў на Сіверса. Прыгожая Камелі адказвала няпэўна.

– Але, дарагая графіня, – дадала гаспадыня, – вы павінны гэтым ганарыцца, – вы можаце зрабіць шмат добрага. Мы ўсім зайздросцім...

Праз чвэрць гадзіны італьянка выйшла з палаючым тварам, і ў сэрцы, магчыма, у яе было зусім іншае пачуццё ад замка, які так вабіў яе.

Яна выйшла, ні на каго не глянуўшы, злуючыся на сябе і на ўсіх ...

**Michas Kenka: Translation of "Scenes in the Diet. Harodnja. 1793." by Yuseph Kraszewski**
***(magazine "CULTURE. NATION", April 2020, issue 25, pp.128-205, www.sakavik.net)***

Mikhas Kenka provided the translation of "Scenes in the Diet" written by Polish author Yuseph Kraszewski into Belarusian. *The second part of translation will be presented in the next 26th issue of magazine "Culture. Nation".*

**Михась Кенька: перевод повести Ю.И.Крашевского "Сцены на сейме. Гародня. 1793." на беларусский язык**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», апрель 2020 , выпуск 25, с.128-205, www.sakavik.net)***

Михась Кенька представляет перевод повести «Сцены на сейме» польского писателя Юзэфа Крашевского на беларусский язык. *Вторая часть перевода будет представлена в следующем 26-м номере журнала «Культура. Нация»*.

*Наступны 26-ты нумар часопіса «КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ» выйдзе ў лістападзе 2020 года*